# BELARUSIAN MEMOIRS IN DIASPORA

Compiled and edited by Lavon Yurevich

BELARUSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, INC.

New York — 1999

# БЕЛАРУСКАЯ МЭМУАРЫСТЫКА НА ЭМІГРАЦЫІ

**Укладальнік Лявон Юрэвіч**

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

---

Нью - Ёрк — 1999

*Шчырая ўдзячнасьць спадарыні Зоры Кіпель і дырэктару Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку доктару Вітаўту Кіпелю за дапамогу ў пошуках мэмуарнай літаратуры, каштоўныя парады й нязьменную ўвагу да падрыхтоўкі й публікацыі гэтай кнігі.*

*Вялікі дзякуй дырэктару Беларускай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане айцу Аляксандру Надсону, які даў магчымасьць азнаёміцца з багатымі архівамі бібліятэкі й выкарыстаць яе матар'ялы.*

*Сардэчная падзяка ўсім, хто спрычыніўся да гэтага выданьня.*

# VITA MEMORIAE

*Думаньне адрозьніваецца ад думкі, як жыцьцё адрозьніваецца ад жыцьцяпісу; неразгад жыцьця можа спасьцігацца толькі самім жыцьцём, ці то – не разумнай думкаю, а жывым думаньнем...*

*Мужнасьць тае далёкае перароды высяленцаў ня гэтак у іхнае нязломнае стойкасьці проці бальшавізму й звышпрусізму, чым яны праўна ганарацца, – тут рэч не ў палітыцы, а ў самой беларускай творчасьці; нягледзячы на ўсе тагачасныя трагічныя падзеі, беларушчына ня толькі не загінула, але яна пашырыла свае геаграфічныя межы й паглыбіла нашую ідэю. І гэта – найвялікшы подзьвіг тых людзей, якія ў самых неспрыяльных умовах духавытварылі нашую Беларусь.*

*Лявон Вашко*[1]

Мэмуары – memoria – памяць...

Vita memoriae – жыцьцё памяці – успаміны...

Успаміны спадарожнічаюць чалавеку ўсё жыцьцё, на чужыне – тым больш.

Успамінамі пранізана беларуская эміграцыйная літаратура. Яны ўзбагачаюць жывымі фактамі палітычныя й крытычныя артыкулы. Яны натуральныя ў гісторыка-этнаграфічных нарысах. Яны – неад'емны элемэнт

---

[1]Зь ліста да аўтара ад 28 сьнежня 1998 году. Захоўваецца ў архіве Л. Юрэвіча.

палемічных зацемак і фэльетонаў. Яны ўплятаюцца ў тканку навуковых дасьледаваньняў. На іх грунтуюцца мастацкія творы. Успамінамі пра адышоўшых поўняцца нэкралёгі.

Бясспрэчна важныя працы для кожнага дасьледчыка эміграцыі «Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гадах»[2] і «Матар'ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу»[3] Алеся Вініцкага ў значнай ступені сталіся магчымымі дзякуючы людзям, якія адгукнуліся на просьбу аўтара й даслалі свае ўспаміны.

Мэмуарныя сьведчаньні аўтара і ягоных карэспандэнтаў складаюць галоўную каштоўнасьць дасьледаваньня Юркі Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі»[4] – пры ўсёй значнасьці й вартасьці выкарыстаных у кнізе іншых гісторыка-літаратурных крыніц. Менавіта ўспаміны ўдзельнікаў барацьбы за незалежнасьць сталіся бясспрэчнымі дакумэнтамі эпохі замест зьнішчаных ці пахаваных ў сутарэньнях КГБ архіваў.

Ліставаньне, у прыватнасьці, Юркі Віцьбіча з айцом Львом Гарошкам, Ізыдарам Гуткоўскім, Антонам Адамовічам[5], багатае на цікавыя, каларытныя факты, малаведамыя на Беларусі, – ці не павінна яно стаць ў шэрагу ўспамінаў пра літаратурнае жыцьцё 20-30х гг.

---

[2]А. Вініцкі. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 г.г. У трох частках. Лос Анжэлес, 1986. Чамусьці толькі першая частка была перавыдадзена на Беларусі ў сэрыі «Бібліятэка беларускай дыяспары»: А. Вініцкі. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гадах. Менск, 1994.

[3]А. Вініцкі. Матар'ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу. Лос Анжэлес, 1972.

[4]Юрка Віцьбіч (Юры Стукаліч). Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Нью-Ёрк, 1996.

[5]Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997, с.355-391.

побач з падцэнзурнымі ўспамінамі Янкі Скрыгана, Максіма Лужаніна, Сяргея Грахоўскага?

Самыя цікавыя й каштоўныя старонкі кнігі Яна Пятроўскага з амаль барочным назовам «Тарас Сайка, ініцыятар і галоўны фінансавы ахвярадаўца на рэч перакладу й друку Біблії на літоўскай мове»[6] менавіта мэмуарныя, а не дасьледніцкія.

Яскрава выражаны аўтабіяграфізм уласьцівы раманам Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі», Масея Сяднёва «Раман Карзюк», Алеся Змагара «Случчына ў вагні», Міхася Кавыля «Із агню ды ў полымя», аповесьцям і апавяданьням Аляксандры Саковіч, паэме Ўладзімера Клішэвіча «Васіль Каліна».

Цяжка правесьці мяжу паміж героем і аўтарам у рамане Уладзімера Глыбіннага «Вялікія дарогі», і, верагодна, мае слушнасьць Ч.Будзька, сьцьвярджаючы, што калі-б аўтар не імкнуўся ўціснуць перажытае ў рамкі рамана, атрымаліся-б успаміны, значна больш каштоўныя за раман.

У аўтабіяграфічнай мастацкай прозе замена імя аўтара на імя героя аўтаматычна пераводзіць твор у іншую катэгорыю й пазбаўляе права разглядаць твор як мэмуарны, хоць у прынцыпе нельга не пагадзіцца зь назіраньнем Яна Чыквіна, што «амаль усе, зь невялікімі выняткамі, празаічныя творы беларускіх эміграцыйных пісьменьнікаў зводзяцца да ўспамінаў і дзёньнікаў, словам, да жанру аўтабіяграфічнага або парадакумэнтальнага»[7].

---

[6]Ян Пятроўскі. Тарас Сайка, ініцыятар і галоўны фінансавы ахвярадаўца на рэч перакладу й друку Біблії на літоўскай мове. Флярыда, 1995.

[7]Ян Чыквін. Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа. Беласток, 1997, с.90-91.

Дэталі асабістых успамінаў пісьменьнікаў, уплеценыя ў мастацка-публіцыстычныя нарысы[8], набліжаюць чытача да падзеяў гістарычнай важнасьці, робяць яго саўдзельнікам аўтаравых адкрыцьцяў.

Шматлікія экскурсы ў «скарбонку памяці» пашыраюць межы літаратуразнаўчых дасьледаваньняў Антона Адамовіча, узбагачаюць іх. Так, менавіта ўспаміны дазваляюць Антону Адамовічу ня толькі паказаць разьвіцьцё творчасьці Алеся Салаўя, вызначыць асаблівасьці ягонага майстэрства, але і акрэсьліць жыцьцёвыя вытокі паэтавай сілы й слабасьці[9].

Ужо з пералічанага бачна, што ўспаміны ва ўсіх названых тэкстах – ня другаснае, не мэханічна прыўнесенае, а, наадварот, часам вызначальнае.

Такім чынам, можна сказаць, што «мэмуарнасьць» уласьцівая практычна кожнаму жанру беларускай эміграцыйнай літаратуры. Таму, прыступаючы да агляду эміграцыйных мэмуараў, неабходна ў першую чаргу асэнсаваць і акрэсьліць само паняцьце (тэрмін) «мэмуарная літаратура».

Мэмуарнымі будзем уважаць тэксты, якія маюць на мэце ўзнавіць, удакладніць на аснове ўспамінаў падзеі, зьявы, учынкі й характары пэўных асоб; тэксты (да іх залічым ліставаньне, прамовы, успаміны й г.д.), у якіх «мэмуарнасьць» – не дадатковы, а галоўны элемэнт зьместу.

Пры такім разуменьні «мэмуарнасьці» зь ліку мэмуарных тэкстаў выпадаюць дзёньнікі. І гэта зразумела, бо дзёньнікі фіксуюць, як правіла, дзень сёньняшні і ў часе напісаньня ня маюць мэмуарнага характару. Але з

---

[8]Гл., напрыклад, Юрка Віцьбіч. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мастацкі нарыс. Мюнхэн, 1956.

[9]Ант. Адамовіч. Жыцьцё й паэтычная спадчына Алеся Салаўя. У кнізе: Алесь Салавей. Нятуская краса. Збор твораў. Нью-Ёрк – Мэльбурн, 1982, с.283-329.

дыстанцыяй часу, праз гады, дзёньнік усё больш набліжаецца да ўспамінаў і нарэшце зьліваецца зь імі: храналягічныя запісы падзеяў мінулага, зробленыя навочным сьведкам у той час, калі яны адбываліся, практычна не адрозьніваюцца ад аналягічных запісаў, узноўленых у памяці відавочніка праз гады.

Мэта гэтай працы, якая, можна спадзявацца, зьявіцца прыступкаю да наступных дасьледаваньняў, сьціплая – даць агляд мэмуараў беларускіх эмігрантаў, увесьці ў навуковы ўжытак тыя зь іх, што да гэтага часу заставаліся невядомымі, закласьці асновы бібліяграфіі й біябібліяграфіі беларускай эміграцыйнай мэмуарыстыкі.

Праца складаецца зь дзьвюх частак. У першай частцы кнігі мэмуарныя матар'ялы ўключаны ў тэкст дасьледаваньня. Гэта абумоўлена тым, што большасьць беларускіх эміграцыйных мэмуараў яшчэ ня стала здабыткам грамадзкасьці, а гэта, у сваю чаргу, выклікае неабходнасьць іх разгорнутага цытаваньня пры аналізе, хаця ў пэўнай ступені і ўскладняе часам кампазыцыю дасьледаваньня.

У другой частцы гэтай кнігі друкуюцца манускрыпты ўспамінаў і жыцьцяпісаў ведамых беларусаў-эмігрантаў, сьведчаньні якіх маюць бясспрэчную дасьледча-навуковую вартасьць і значную цікавасьць як для дасьледчыкаў, так і для шырокага кола чытачоў. Акрамя таго, тут зьмешчаны ўспаміны ўкраінскага гісторыка й грамадзкага дзеяча Сямёна Підгайнага «Беларусы на Салаўках» – аповяд аб трагічным лёсе былых кіраўнікоў «Грамады».

Успаміны друкуюцца зь мінімальным рэдагаваньнем з мэтаю захаваньня асаблівасьцей мовы й стылю аўтараў.

Складанасьць у вывучэньні беларускіх эміграцыйных мэмуараў тая, што асноўная частка іх маладаступная, бо выдадзены былі яны вельмі нязначнымі накладамі, акрамя таго, друкаваныя выданьні на эміграцыі раскіданыя й сабраць іх цяжка.

Толькі колькасна невялікая частка эміграцыйных мэмуараў перавыдадзена на Беларусі ў зборніках[10], часапісах[11], выйшла асобнымі выданьнямі[12] і ўжо нават сталася тэмаю й зьместам навуковых даследаваньняў[13], трывала ўвайшла ў агульнабеларускі культурніцкі набытак[14]. Асобныя ўспаміны, напісаныя па-за межамі Беларусі, упершыню сталі даступнымі чытачу, дзякуючы віленскім выданьням[15]. Ёсьць і яшчэ адна, вельмі значная, частка беларускіх эміграцыйных мэмуараў, гэта – рукапісы, вядомыя нават спэцыялістам толькі ў вынятках або адно назовамі.

Мэмуары – самы суб'ектыўны род літаратуры. Адна й тая-ж падзея, адны й тыя-ж асобы, іхныя ўчынкі, іхная роля ў грамадзкім жыцьці па-рознаму насьвятляюцца і ацэньваюцца сьведкамі. На гэта ўплывае і асабістая пазыцыя аўтара, і групавыя інтарэсы, і асаблівасьці

---

[10]На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі. Мінск, 1994; З гісторыяй на «Вы». Артыкулы. Дакументы. Успаміны. Выпуск трэці. Укладанне Янкі Запрудніка. Мінск, 1994.

[11]Гл., напрыклад, публікацыі ў часапісах «Спадчына», «Крыніца».

[12]В. Рагуля. Успаміны. Менск, 1993; А. Калубовіч. На крыжовай дарозе. Менск, 1994; К. Мерляк. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Менск, 1994 ды іншыя.

[13]Зора Кіпель. Успамін на ўсё жыцьцё. У зборніку: Янка Купала – публіцыст. III Міжнародныя Купалаўскія чытанні 20-21 кастрычніка 1997 г., Мінск. Мінск, 1998, с.140.

[14]Напрыклад, успаміны Яўхіма Кіпеля пра Уладзімера Жылку ў часапісе «Беларуская моладзь», № 18, 1962; потым яны былі выдрукаваныя ў зборніку «На суд гісторыі» і ў кнізе: Уладзімер Жылка. Выбраныя творы. Мінск, Беларускі кнігазбор, 1998.

[15]Ю. Вітан-Дубейкаўская. Мае ўспаміны. Вільня, 1994; М. Пецюкевіч. У пошуках зачараваных скарбаў. Вільня, 1998. (Нясконченая публікацыя ўспамінаў М. Пецюкевіча: «Беларускі сьвет», № 20 (49), 1988, с.50-62; № 21 (50), 1989, с.66-71; № 22 (51), 1991, с.57-67); Алесь Алехнік. Пад бел-чырвона-белым. Вільня, 1999.

людзкой памяці. Але, магчыма, галоўным тут зьяўляецца актыўнасьць памяці, яе здольнасьць творча пераўтвараць, рабіць адбор, ссоўваць пэрспэктывы. Мінулае ва ўспамінах азорана сьвятлом сёньняшняга, гэта значыць, таго часу, калі мэмуарыст узяў у рукі асадку й стаў запісваць свае ўспаміны. Мы можам убачыць мінулае й спасьцігнуць яго толькі вачыма сёньняшняга. Меў рацыю амэрыканскі дасьледчык Рой Паскаль, калі пісаў: «Аўтабіяграфія – заўсёды ўзаемадзеяньне, пагадненьне паміж мінулым і сёньняшнім; яна, безумоўна, мае большае значаньне для разуменьня сёньняшняга, чым для адраджэньня мінулага»[16].

Часта мэмуарыст згадвае, што штуршком да напісаньня ўспамінаў зьявіліся падказкі, просьбы сяброў, родных, аднадумцаў. Мінулае ва ўспамінах – гэта не памерлае мінулае, яно ў пэўным сэнсе жыве й сёньня. Толькі дзякуючы мэмуарам праступае праз смугу часу канкрэтная карціна мінулага, застаюцца ў гістарычнай памяці постаці людзей зь іхнай непаўторнай адметнасьцю. Больш таго, часта толькі ў мэмуарах знаходзім зьвесткі пра невядомыя ці малавядомыя падзеі, пра забытых дзеячаў і зробленае імі для Бацькаўшчыны.

Менавіта таму, чым больш успамінаў пра той ці іншы факт, тым больш рознабакова, дакладна, аб'ёмна й разнастайна паўстане мінулае, тым больш аб'ектыўна можна будзе рэканструяваць праўдзівую карціну.

Стваральнікі мэмуараў бачылі сваю задачу ў тым, каб перадаць нашчадкам навочныя сьведчаньні ўдзельнікаў тых падзей, пра якія наступныя пакаленьні могуць і ня зьведаць, захаваць тое, што, на іхную думку, сталася вызначальным у гісторыі Беларусі, зафіксаваць моманты хуткаімклівага жыцьця.

---

[16]Pascal R. Design and Truth in Autobiography. Cambridge, Mass: Harvard University Press, 1960, p. 11.

Васіль Рагуля: «Шмат хто зь беларусаў другога пакаленьня, асабліва з савецкай часткі Беларусі, мала абзнаёмлены з гэным пэрыядам жыцьця беларусаў пад Польшчай. Уступаючы іх настойлівым просьбам, пасьля доўгіх ваганьняў, я наважыў пасьвяціць вольны цяпер у мяне час на тое, каб аб'ектыўна й добрасумленна асьвятліць перад сучасным пакаленьнем працу Беларускага Пасольскага Клюбу й тагачасных палітычных дзеячаў, а таксама й настроі нашага народу»[17].

Яўхім Кіпель: «Этапы, сьледзтва... І сам у сябе пытаесься: ці варта пра тое ўспамінаць, ці варта цьвяліць незагойнае? І тут-жа сам сабе адказваеш: і варта, і патрэбна, і гэта твой абавязак перадаць нашчадкам пра тое нарадагубства, якое адбылося на аднэй шостай зямное кулі на нашых вачах, і пра зьдзекі, якія давялося нам, беларусам, у гэтым стагодзьдзі перажываць»[18].

Баляслаў Грабінскі: «Адна з мэтаў маіх успамінаў – гэта апісаньне жыцьця паўночнае Сакольшчыны з часоў, калі я жыў там у маіх маладых гадох. Хачу аставіць сьведчаньне аб беларускасьці гэтае прасторы, каторая цяпер, падпаўшы пад польскую акупацыю, шпаркім ходам палянізуецца, асабліва тыя аколіцы, дзе выключна каталіцкае насельніцтва. Зьмяняюцца ня толькі мова й пераконаньні, але і ўсе аспэкты жыцьця, як у духовай, так і ў матар'яльнай культуры»[19].

Ян Пятроўскі: «Якое ўсё тут дзіўнае, зусім не падобнае да таго, што пакінуў я там, на Бычковай вуліцы. А ўсё, знойдзенае тутака, неабходным ёсьць для майго духовага й народнага жыцьця. І ня толькі для мяне – для ўсіх, калі мы маем ацалець, як усе. Я ня бачу нічога

---

[17]Васіль Рагуля. Успаміны. Нью-Ёрк, 1957, с.8
[18]Я.К. БАМ. «Беларус», № 246, 1977.
[19]Баляслаў Грабінскі. Успаміны. Рукапіс. Перахоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк).

іншага, што можна было-б супрацьставіць, пераконваючы падобнаму пагляду»[20].

У аўтараў успамінаў звычайна адсутнічае пачуцьцё мэсыянства, сваёй выключнасьці ў беларускім руху. Як сказаў Барыс Рагуля, «я хачу пазьбегнуць памылак іншых, што ў сваіх успамінах расказваюць пра мінулае так, быццам-бы яны, аўтары ўспамінаў, вызначалі ход падзеяў. Я перакананы, што калі-б не было мяне, нехта іншы выканаў-бы маю ролю. Магчыма, у іншай форме, але канчатковы вынік быў-бы той самы»[21].

Трэба зазначыць, што часамі нададзеная нам звонку й прызнаная намі самімі беларуская сьціпласьць, якая сталася ўжо традыцыйнай у характарыстыцы беларуса, адыгрывае далёка ня лепшую ролю: шмат хто зь дзеячаў эміграцыі й сёньня лічыць нявартым шырокай увагі грамадзкасьці свой уласны досьвед, свой жыцьцяпіс, а праз гэта й не бярэцца за напісаньне мэмуараў. Адзін з выпадкаў, калі ўсё-ж настойлівасьць, упартасьць сваякоў і блізкіх дасягнулі мэты і ўспаміны былі напісаныя, – выпадак зь Львом Акіншэвічам. Але й тут ён, нават пачаўшы пісаць, не перастае сумнявацца ў вартаснасьці сваёй працы: «Мушу сказаць, што навагу напісаць успаміны я прыняў не безь некаторых хістаньняў ды крыху пад націскам. Я й цяпер ня пэўны, ці мае ўспаміны маюць вартасьць, бо-ж я не належу да людзей, якія «робяць» гісторыю, да правадыроў і дзеячаў, што прысьвяцілі сваё жыцьцё, каб дасягнуць пэўную мэту, ды апісваюць свой шлях да гэтае мэты»[22].

---

[20]Ян Пятроўскі. Мэмуары. Кніга першая. Гэйнсвільл, 1988, с.12.
[21]Барыс Рагуля. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) – Нью-Ёрк, 1996, с.6-7.
[22]Леў Акіншэвіч. Балонкі з Успамінаў. «Запісы БІНІМа», № 19. Нью-Ёрк, 1989, с.128.

Мэмуары, створаныя на эміграцыі, – гэта вялікі й пакуль што амаль не кранутыя дасьледчыкамі цалік у беларускай гісторыі, літаратуры, этнаграфіі, культуры. Цалік, які захоўвае зьвесткі пра невядомыя альбо малавядомыя на Бацькаўшчыне падзеі, рухі, арганізацыі, дзейнасьць пэўных асоб і вымагае новага пагляду на гісторыю. Як слушна заўважыў Вітаўт Кіпель, гаворачы пра спэцыфіку літаратуры на выгнаньні, «эміграцкі пэрыядычны друк выдрукаваў вельмі шмат матар'ялаў і для Мартыралёгу Беларусі: дзясяткі прозьвішчаў і мясцовасьцяў, пацярпеўшых ад раскулачаньня, сотні ўспамінаў аб розных канцлягерах, малаведамыя здарэньні на вёсках – супраціў русыфікацыі, саветызацыі – адлюстраваны, пры гэтым найчасьцей вачавіднымі сьведкамі тых падзеяў і здарэньняў. На мой пагляд, эміграцкі друк – выдатная крыніца рэгістрацыі Мартыралёгу Беларусі. Таксама варта адзначыць, што падзеі Другой сусьветнай вайны, як на Беларусі, гэтак і на баку аліянтаў, засьведчаныя на эміграцыі. Прыкладам такі факт: у бітве пры горадзе Арнгайме ў Галяндыі ў 1944 годзе першыя парашутысты з брытанскага боку былі беларусы. Удзельнік тых баёў пры Арнгайме Васіль Дурэйка падзеі апісаў. Альбо апісаньне баёў пры Монтэ-Касына, дэтальна выкладзенае Пётрам Сычом»[23].

Сапраўды, калі ўзяць толькі падзеі Другой сусьветнай вайны, то бачна, што яны дастаткова шырака асьветлены ў беларускіх савецкіх мэмуарах, але ёсьць яшчэ іншыя погляды на гэтыя-ж падзеі, таксама пісьмова засьведчаныя, – погляды й тых, каго называюць

[23]Вітаўт Кіпель. Інфармацыя пра Беларусь у эміграцкім друку: раней і цяпер. У кн.: Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры «Незалежная прэса: свабода і адказнасьць». Менск, 1996, с.40.

калябарацыяністамі, і тых, хто змагаўся ў арміях аліянтаў, у атрадах французкіх макі, і тых беларускіх нацыяналістаў, што проста рабілі беларускую справу й не далучаліся ні да аднаго зь лягераў.

Менавіта пра гэта ўжо ў першым нумары свайго часапісу «Зважай» пісаў Кастусь Акула: «Што цікавага памятаецца з апошняе вайны? Дзе-б вы ні былі – на акупаванай двума ворагамі бацькаўшчыне ў вайсковым мундзіры ці ў цывільным, змагаліся ў каторай хаўрусьніцкай арміі, – напэўна, былі сьведкамі выпадкаў, пра якія варта напісаць, а можа й напісанае выдаць. А калі-ж вам здаецца, што вартаснага ня маеце, дык, пэўна, ёсьць у вас сябры ці знаёмыя, якія штосьці могуць прыгадаць.

У беларускай паваеннай нацыянальнай літаратуры, за малымі выняткамі, дарэмна шукаць будзеце дакумэнтальнай літаратуры, якая-б дала чытачу вобраз беларускага збройнага змаганьня супраць акупантаў на бацькаўшчыне, зьдзекаў і зьверства бальшавіцкіх партызанаў і немцаў у адносінах да нашага цывільнага насельніцтва, дзейнасьці гэтак званай польскай арміі краёвай (асабліва Лідчына і іншыя сумежныя раёны) або ўдзелу Беларусаў у хаўрусьніцкіх арміях. Трэба згадзіцца, што гэта недапушчальны прабел.

Ёсьць-жа між нас вялікая колькасьць жывых сьведкаў важных гістарычных падзеяў, што чулі й бачылі ды самі бралі ўдзел у змаганьні на шматлікіх франтах. Шматлікія зь іх носяць у памяці скарбы-ўспаміны, што могуць быць вельмі карыснымі для гісторыкаў гэнага трагічнага для Беларусі пэрыяду.

Каб уявіць вартасьць запісаных, апрацаваных і выданых успамінаў з часоў вайны, глянем ў іншы бок.

Каляніяльныя маскоўскія акупацыйныя дзейнікі на нашай бацькаўшчыне прысьвяцілі шмат сілаў і матар'яльных сродкаў пераважна на гэтак званую дакумэнтальную («роднапартыйную») літаратуру, каб паказаць нашу

Беларусь як краіну бальшавіцкіх партызанаў, на сто працэнтаў ляяльную Маскве, што пралівала рэкі крыві, каб вярнуць зьненавіджаны савецкі лад, уключна з ваяўнічымі бязбожнікамі, канцлягерамі сьмерці, праклятымі кагэбэшнікамі й сталінскімі прыгоннымі калгасамі, русыфікацыяй, духовай галечай і шматлікімі іншымі маскоўскімі «благамі».

Трэба прызнаць, што маскоўскія «роднапартыйцы» пры помачы бэсэсэраўскіх паўзуноў змаглі паказаць ваенную Беларусь у такім агідна-крывым сьвятле, што непаінфармаванаму чужынцу або нават і нашай моладзі, што на эміграцыі вырасла, і ў галаву нават ня прыйдзе думка, што Беларусь не была абсалютна паслушная маскоўска-бальшавіцкай пачвары.

А дзе праўдзівае адлюстраваньне падзей? Яго няма. І ў гэтым наша вялікая й непрабачальная віна. Ці мы й далей можам пакінуць гэтую дзялянку без увагі? Безумоўна, што не. Мусім выканаць свой абавязак перад нашчадкамі й неадкладна ўзяцца за працу»[24].

Кастусь Акула меў рацыю. У 1957 годзе ў Лёндане выйшла кніга ведамага ангельскага пісьменьніка Антонія Рычардсона «Няма дзе пакласьці сваю галаву»[25], у прадмове да якой доктар Отта Гейлбрунн адзначаў, што пра беларускіх партызанаў напісана багата працаў, а вось антыпартызанскае змаганьне амаль што не знайшло свайго адлюстраваньня ў літаратуры, і кніга Рычардсона запаўняе гэты прабел[26]. Пра што кніга і якое яна мае дачыненьне да беларускіх мэмуараў, тлумачыць ва ўступным слове аўтар.

Гісторыя, што лягла ў аснову кнігі, адбылася насамрэч. А. Рычардсон сустрэў яе героя, Сашу Нёмана

---

[24]«Зважай», №1, 1974, с.7-8.

[25]Anthony Richardson. No Place to Lay My Head. Long Acre, London. 1957.

[26]Тамсама, с.11.

(Sasha Nioman), які жыў на той час у Брайтане зь сям'ёй і працаваў на заводзе, дзякуючы свайму сябру-драматургу, што палічыў гісторыю вартай быць пакладзенай на паперу з тым, каб пазьней яна сталася сцэнарыем фільма.

Сашу было шаснаццаць гадоў, калі ягонага брата Міколу партызаны прымусілі пайсьці ў лясы. Сам ён, ратуючы сваю сям'ю, запісаўся ў 34-ы батальён мясцовай паліцыі, які ўзначальвалі афіцэры вэрмахту. А. Рычардсон апісвае барацьбу з партызанамі, калі кожны рэйд у лясы мог паставіць перад выбарам – забіць брата ці загінуць самому, вынішчэньне вёсак савецкімі войскамі, сьмерць шасьцісот бяззбройных жыхароў – толькі адзінкам пашчасьціла выратавацца. Саша бяжыць у Францыю, дзе паступае ў антытэрарыстычны атрад. Яго вяртаюць на фронт, але там ён затрымліваецца нядоўга: неўзабаве афіцэры атраду дызэртуюць, і Саша йдзе да амэрыканцаў, каб скласьці зброю. Называючы сябе палякам, атрымлівае дазвол стаць жаўнерам польскай арміі, трапляе ў Італію, дзе змагаецца ў шэрагах брытанскіх войскаў.

А. Рычардсон сьцьвярджае, што ў кнізе зьменена адно імя Сашы ды назва ягонай роднай вёскі, усё-ж астатняе – толькі запіс успамінаў беларускага героя.

Посьпех кнігі, шокавае ўражаньне ад бэлетрызаваных успамінаў, безумоўна, сьведчылі ня толькі пра няведаньне на Захадзе сапраўднага стану рэчаў на Беларусі, негазэтнай гісторыі монстра – Савецкага Саюзу, але й пра магутны, нерэалізаваны патэнцыял беларускай мэмуарыстыкі.

Храналягічна мэмуары беларускіх эмігрантаў ахопліваюць прамежак часу ад пачатку й да 90-х гадоў XX стагодзьдзя.

Сярод эмігрантаў, што пакінулі бацькаўшчыну пасьля Другой сусьветнай вайны, было мала тых, якія бралі ўдзел у беларускім руху да Першай сусьветнай вайны. З гэткіх на эміграцыі апынуліся Васіль Шчорс, Мікола

Шыла, Эдвард Будзька, Радаслаў Астроўскі, Васіль Рагуля Янка Станкевіч. І паколькі сярэдні ўзрост паваеннай эміграцыі быў адносна малады, успаміны, прысьвечаныя дарэвалюцыйным падзеям, беларускаму жыцьцю таго часу адзінкавыя[27].

Аўтары большасьці мэмуараў імкнуліся апісаць увесь свой жыцьцёвы шлях, а таму многія ўспаміны бяруць свой пачатак на Беларусі, а заканчваюцца ў краінах Амэрыкі, Аўстраліі, Эўропы, узнаўляючы, такім чынам, значны пэрыяд беларускай гісторыі. Да такіх належаць мэмуары Леаніда Галяка, Яна Пятроўскага, Кастуся Мерляка, Яўхіма Кіпеля, Юры Весялкоўскага.

Іншыя аўтары абмяжоўваюць свае ўспаміны пэўным акрэсам часу. Так, Уладзімер Дудзіцкі[28] стварае дакумэнтальны аповяд пра зьнішчэньне беларускай інтэлігенцыі, пра зьнечалавечаньне асобы ў савецкіх турмах і канцлягерах. Вінцэнт Жук-Грышкевіч[29] занатоўвае, як ён сам гаворыць, «пяць абразкоў успамінаў – адзін зь Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й чатыры зь сьвяткаваньня 25-га Сакавіка ў розных часох, розных мясцох і абставінах». Масей Сяднёў[30] апісвае Беласток у часе вайны. Успаміны Пётры Сыча[31] – пра адзін з эпізодаў Другой сусьветнай

---

[27]М. На зары беларускага адраджэньня. Успаміны са студэнцкіх часоў у Пецярбургу. «Крывіцкі сьветач», №11, 1946, с.15-17.

[28]Уладзімер Дудзіцкі. Напярэймы жаданьням. Нью-Ёрк, 1994, с.216-236.

[29]Вінцэнт Жук-Грышкевіч. 25-га Сакавіка. Успаміны зь Менску, Будслава, Вільні, Прагі, Савецкай турмы. Выдавецкі Фонд успамінаў зь Беларускага жыцьця. Торонто, Канада, 1978.

[30] Масей Сяднёў. Беластоцкі сшытак. У кн.: Масеева кніга. Мінск, 1994, с.263-290.

[31]Пётра Сыч. Сьмерць і салаўі. Успаміны афіцэра-Беларуса спад Монтэ-Касыно. Мюнхэн, 1965.

вайны[32]. Барыс Рагуля[33] расказвае пра шляхі беларускай моладзі на эміграцыі, пра беларускае студэнцтва на чужыне.

Ёсьць і мэмуары эмігрантаў, якія пакінулі бацькаўшчыну ў раньнім узросьце і якім давялося ўбачыць яе зноў у сталым веку. Гэта, напрыклад, кніга «Што я бачыў у Савецкай Расіі» Менскага Мужыка[34], аўтар якой, даўні жыхар Амэрыкі, выбраўся турыстам на бацькаўшчыну і апісаў пазьней свой побыт там: «Летась я здолеў зьдзейсьніць сваё даўняе жаданьне – адведаць радзіму, якую я пакінуў у 1913 годзе, калі мне было толькі 18 год»[35].

Усьведамленьне эмігрантамі важнасьці архіваў і мэмуараў выявілася даволі рана. Яшчэ ў перадваенным часе ў Празе Васіль Русак, апрацоўваючы зборнік песьняў, пісаў: «Зборнік гэны ўложаны выпадкова. Паміма песень і народных танцаў, агульнадаступных і аўтараў вядомых, увайшлі матар'ялы зусім малавядомых аўтараў. Матар'ялы

---

[32]Пра ўдзел беларусаў у баёх пад Монтэ-Касыно гл.: М. Швэдзюк. Удзел беларусаў у бітве пад Монтэ-Касыно. «Беларус», № 410, люты 1994; В. Сянькевіч. Аглядны артыкул аб беларусах на Монтэ-Касыно. «Беларус», №268, жнівень 1979; Сьпіс беларусаў, палеглых пад Монтэ-Касыно. «За Волю», Парыж, №4,5,6, 1951.

[33]Барыс Рагуля. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) – Нью-Ёрк, 1996.

[34]Минский Мужик. Что я видел в Советской России. Из моих личных наблюдений. Чикаго, 1935.

Можна таксама назваць кнігу Д. Гарбацэвіча «Два месяца в гостях у колхозников. Заметки американского туриста», выдадзеную ў 1967 годзе ў Нью-Ёрку.

[35]Минский Мужик. Что я видел в Советской России, с.3.

рукапісныя назьбіраліся ў Беларускіх заграпічных архівах, за якімі й пакідаюцца правы аўтарскія»[36].

Ужо ў 1943-44 гадох бэрлінскія газэты «Раніца», «Беларускі Работнік» друкавалі ўспаміны Ўладзімера Клішэвіча, Канстанціна Езавітава, Уладзімера Дудзіцкага[37]. У 1960-м годзе ў артыкуле «Захоўвайма памяць аб мінуўшчыне» Станіслаў Станкевіч зазначаў: «Падзеі й людзі нашага нацыянальнага руху недалёкай нават мінуўшчыны хутка адыходзяць у небыцьцё, і весткі аб іх бываюць страчанымі для наступных пакаленьняў. Пісаныя дакумэнты й матар'ялы, якія звычайна зьяўляюцца найлепшымі жароламі зьвестак аб мінуўшчыне або загінулі ў часы ваеннае завірухі, або зьнішчаныя ў працэсе савецкага тэрору, а жывыя сьведкі падзеяў, якія шмат што захавалі ў сваёй памяці, адзін за адным пакідаюць нашыя рады. Таму ў інтарэсе нашай агульнай справы ляжыць на кожным з нас абавязак замацаваць на пісьме й пажадана ў друку ўсё тое, што яму ведама із собскага ўдзелу або назіраньня аб людзях, выпадках і абставінах, якія могуць мець незвычайна вялікую цану для будучае гісторыі»[38]. Ён-жа зьвяртаў увагу й на разнастайнасьць мэмуарных формаў: «Ведаем, што галоўным жаролам гісторыі зьяўляюцца дакумэнты й

---

[36]Biełaruskija (Kryvickija) pieśni dla sola, duetu, kvartetu z akampanimentam fortepiana i 4 narodnyja tancy. Suchdol u Prahy, na Budovce 456. Čechy. [Бяз даты].

[37]Ул. Клішэвіч. Успаміны прафэсара Адамава аб М. Багдановічу. «Раніца», № 4 (116), 24 студзеня 1943; К. Езавітаў. Васіль Захарка – змагар за беларускую дзяржаўнасьць. Успаміны. «Раніца», № 38 (150), 1943; Ул. Клішэвіч. На Калыме. Успаміны выгнанца. «Беларускі работнік», № 20, 1944; Кампазытар Мікола Равенскі аб сабе. «Беларускі работнік», № 33, 1944; Ул. Дудзіцкі. «Даруй, што я плачу...». Замест успамінаў. «Беларускі работнік», № 39, 1944 ды іншыя.

[38]Ст. Крушыніч. Захоўвайма памяць аб мінуўшчыне. «Бацькаўшчына», № 5, 1960, с.1.

матар'ялы тагачаснасьці, што перахоўваюцца ў архівах, музэях ды бібліятэках. Але, апрача іх, вельмі важным дапаўняльным жаролам зьяўляюцца справаздачы, запіскі, дзёньнікі і ўспаміны сучасьнікаў»[39].

Багацьце мэмуарных формаў надзвычай разнастайнае, адметны аўтарскі падыход да распрацоўкі тэмы яшчэ больш пашырае іхную разнастайнасьць. Менавіта таму «і тэарэтычна, і эмпірычна аўтабіяграфія [г.зн. мэмуары[40] – Л.Ю] цяжка паддаецца агульнаму азначэньню; кожны канкрэтны выпадак зьяўляецца выключэньнем з агульнага правіла»[41]. Такая асаблівасьць мэмуараў тлумачыцца тым, што ўнутраная форма іх практычна поўнасьцю свабодная, яна ня мае ўстойлівых канонаў, залежыць ад волі аўтара й звычайна падпарадкуецца толькі капрызам памяці. У мэмуарах аповяд можа ісьці павольна, са шматлікімі зігзагамі адступленьняў, праваламі замоўчваньня.

Калі Мікола Вольны (Панькоў) наважыўся пісаць кнігу ўспамінаў пра Кастуся Езавітава, ён зьвярнуўся па дапамогу й парады да Часлава Будзькі, які адпісаў яму вялікі ліст[42]. Ліст, сапраўды, даволі доўгі, але варта прывесьці яго поўнасьцю: «Пачнем ад кніжкі. На маю думку, у нас замала пішацца кніжак, галоўна з увагі на тое, што кніжку мы ўяўляем у клясычных формах. Калі аповесьць, напрыклад, дык гэта мае быць такая аповесьць, як іншыя пішуць. А дзеля таго, што мы сабе не даввяраем, баімося правалу, дык і не турбуемся пісаць повесьцяў. (А калі нехта й прабуе, дык слаба выходзіць). Магчыма, што

---

[39]А. Крыга. Занядбаная справа. «Бацькаўшчына», № 30, 1952, с.3.

[40]Тэрмін «аўтабіяграфія» ў амэрыканскім літаратуразнаўстве адпавядае прынятым у беларускім літаратуразнаўстве тэрмінам «мэмуары», «успаміны».

[41]De Man P. Autobiography as Defacement.// The Rhetoric of Romantism. New York: Columbia University Press, 1984, p.67-81.

[42]Ліст ад 16.04.1956 перахоўваецца ў архіве Л. Юрэвіча.

тут віной сацыяльнае паходжаньне нашай інтэлігенцыі. Мужыцкая інтэлігенцыя, як ведама, хварэе на «ўнтэрмэнства» й баіцца, каб нехта зь яе не сьмяяўся. А калі нехта нечага баіцца, дык найлепшым выхадам зьяўляецца – сядзець ціха й ня рыпацца.

Возьмем такога М. Ваньковіча[43]. Клясычных повесьцяў ён пісаць ня ўмее, і калі-б ён быў мужыцкім сынам, ён, можа, і не адважыўся-б лезьці ў літаратуру. Але дзеля таго, што ён шляхціч, ён плюе на крытыку й піша так, як хоча і як умее. І сягоньня ён ужо такі слаўны, што й крытыкі ўжо не адважваюцца на яго нападаць, а толькі ківаюць галовамі й дзівяцца, якім чынам ён у пісьменьнікі выбіўся.

Або возьмем другога нашага шляхціча М. Паўлікоўскага[44] (кузына Мацкевіча). Сёлета ў Лёндане выйдзе ягоная кніжка – повесьць тым арыгінальная, што зусім безь сюжэту. Няма ніякай завязкі, акцыі й таму падобнага. А чытаецца яна вельмі добра, бо ён апісаў толькі тое, што бачыў у маладосьці (пад Менскам), і, пішучы, дбаў толькі аб праўдзе, а не аб літаратурных канонах.

І калі мы так прастудыюем творчасьць нашай шляхты ня толькі ў XX стагодзьдзі, але і ў XIX, дык мы пабачым, што яны ўсе маюць паміж сабой нешта супольнае, а гэта будзе якраз агульнае пляваცельнае адносіаньне да літаратурных канонаў. Яны стварылі свой літаратурны канон – пішы так, як пішацца. Літаратурная

---

[43]Мельхіёр Ваньковіч (1891-1974). Польскамоўны пісьменьнік, народжаны на Беларусі. Аўтар шэрагу кніг, тэматычна зьвязаных зь Беларусьсю. Сярод іншага – успаміны пра маленства на Ковеншчыне й Меншчыне «Шчанюковы гады».

[44]Michał K. Pawlikowski. Аўтар кнігаў: Sumienie Polski; rzeczo Wilne i kraju Wilenskim. Londyn, 1946; Dwa światy. Londyn, 1952; Dzeciństwo i młodość Tadeusza Irteńskiego. Londyn, 1959.

крытыка гэты літаратурны жанр назвала з польскага боку «гавэнда», а з расейскага, здаецца, сказ.

На маю думку (мусіць, іншага выхаду пакуль няма), нам трэба было-б ня столькі аглядацца на заходнеэўрапэйскія ўзоры, колькі на нашыя радзімыя – шляхоцкія. Пісаць так, як яны пісалі й пішуць, а гэта значыць – не ўціскаць думак у нейкія шаблённыя формы, а забыцца аб форме й думаць толькі, каб думка свабодна шыбала, выкінуць усякія жанры на сьметнік, бо гэтыя жанры дэфармуюць думкі й не дазваляюць забурлець нашай маладой літаратуры. (Вы чыталі раман Сядуры[45]? – друкаваўся кускамі – гэта-ж нуда. А калі-б ён не трымаўся клясычных рамак, можа, нешта й выйшла-б цікавага...).

Ваньковічава галава, напэўна, ня менш умэблёвана за Вашу, але калі-б Ваньковіч ведаў тое, што Вы ведаеце, ён ужо напісаў-бы з гэтага дзесяць кніжак. А Вы зусім магчыма (і ці толькі Вы?) можаце з усімі сваімі ведамі затануць у Пінскіх балотах, як прарочыў латыскі Ваш прыяцель, бо вы й мы ўсе загіпнатызаваныя літаратурнымі канонамі.

У Канадзе ёсьць пісьменьнік Сівая Сава[46], мне ён спадабаўся тым, што ён на літаратурныя каноны пляваў з вышэйшага паверху, як нашыя шляхцюкі. Яго цікавіла толькі адно – Канадыйская пушча, хараство яе й таямнічасьць, і пісаў ён свае кніжкі на экспарт, каб прыцягнуць турыстаў у Канаду. Кніжкі ягоныя перакладаліся на розныя мовы, я чытаў яго зь вялікім зацікаўленьнем у польскай мове. Чытаў і думаў: такая дрэнь дзясяткі кніжак піша, а мае ў руцэ толькі дзьве карты – бабры й ляся якога. А мы паходзім з краіны

---

[45] Поўнае выданьне твора: Ул. Глыбінны. Вялікія дарогі. Пра мінулае. Grand Rapids, 1997.
[46] Grey Owl (1888-1938).

(ёсьць на сьвеце краіна адна), дзе кожная рэч надаецца для літаратурнай апрацоўкі, толькі трэба ўмець глянуць літаратурнымі вачыма, а хто ня ўмее глянуць, мог-бы ў нашых шляхцюкоў павучыцца. (Перадваенная кніжка Язэпа Мацкевіча[47] аб беларускай экзотыцы «Бунт ройстаў» ужо давала пасмакаваць, што можна было-б зрабіць у гэтай галіне, каб упорыста за гэта ўзяцца. Ужо сам назоў «ройсты» геніяльна прыдуманы для тытулу, як сымбаль Беларусі – трава, якая гнецца, а ня ломіцца, як і Беларусь, праз якую праходзілі розныя навалы з усходу й захаду, а яна й далей зелянее, як і зелянела). (Гэтыя «ройсты» Мацкевіча нагадваюць, між іншым, «шыпшыну» Дубоўкі).

Калі ідзе аб літаратурных формах, мне ўспомніўся яшчэ прыклад з М. Горкім[48]. Калі памёр ягоны прыяцель Л. Андрэеў[49], Горкі, не чакаючы, аж сюжэт выльецца ў нейкія формы, напісаў успаміны пра Андрэева бяз формы. Пісаў так, як пісалася, як набягалі думкі, без увагі на храналёгію ці іншую філязофію. Помню, мне якраз спадабалася гэтая хаатычнасьць у пісаньні, але за гэтым хаосам думак і фактаў дамінавала праўда аб ягоным прыяцелі. І гэта найбольш цанілася, бо вылізаная й прычасаная праўда ня мае подыху аўтэнтычнасьці. Падстрыжаны ангельскі парк – рэч прыгожая й кур'ёзная, але мы – людзі дзікай прыроды – любім больш прыроду ў натуральным выглядзе.

Вось-жа, каб нам удалося ў літаратуры пазбыцца снабізму й каб мы не захапляліся літаратурнымі стрыжанымі сабакамі, наша літаратура зацьвіла-б, як толькі на Беларусі цьвітуць аселіцы.

---

[47]Пра Юзэфа Мацкевіча глядзі эсэ Чэслава Мілаша «Канец Вялікага Княства Літоўскага». «Спадчына», № 3, 1998, с.3-30.
[48]Расейскі пісьменьнік Максим Горький (1868-1936).
[49]Расейскі пісьменьнік Леонид Андреев (1871-1919).

Але вернемся да тэмы.

Вы хочаце напісаць кніжку аб беларусах у Латвіі.

Аб Езавітаве таксама.

І аб сабе.

Мая прапанова: не пішэце навуковай кніжкі. Напішэце штось (замест вянка – пару дзікіх кветак на магілу Езавітава), штось ад сэрца, як «Споведзь» Русо, перасыпаючы выразкамі з газэт...

Мажа найлепш было-б не дзяліць кніжку на разьдзелы, а на гады – што ў такім-та годзе Вы рабілі, што думалі, што Езавітаў рабіў, што іншыя рабілі, якія вынікі (статыстычная ілюстрацыя).

Пачаць хіба-ж варта было-б ад Усяслава, значаньня Дзьвіны, з анэкдотамі, з адступленьнямі, з рэфлексіямі, каб гэта не сьмярдзела навуковасьцю.

На маю думку, Вам трэба было-б прачытаць хоць адну кнігу Ваньковіча не на тое, каб навучыцца, як пісаць, а на тое, каб ён Вам памог вызваліцца зь літаратурных путаў, бо, каб напісаць такую кніжку, Вы мусілі-б самі ў нутры сваім быць вольным чалавекам (Мікола Вольны), бо-ж адзіная рэч, якая не дазваляе нам пісаць, – гэта намацвальны хаця, але падсьвядомы гнёт літаратурных канонаў і ўзораў.

Такой кніжкай, якая-б памагла Вам вызваліцца духова ад літаратурных штампаў, была-б, можа, кніжка Ваньковіча «Ziele na Kraterze». Вы зьвярніце ўвагу на тытул – гэта тыя самыя «ройсты», толькі больш пэсымістычныя, але як тытул – вельмі ўдала выдуманы.

Адным словам, ня столькі як пісаць, колькі як не пісаць: не пішэце навукова, не пішэце вялізнымі сказамі, ня мучце пяра.

Папросту сядзьце – і пішэце. Вызначце на дзень якіх паўгадзіны й пішэце гэтых паўгадзіны тое, што Вам у галаву прыйдзе ў часе гэтых паўгадзін. Пасьля, як

уцягнецеся, Вы ўжо зусім думаць ня будзеце, думка будзе падсьведама круціцца ў галаве ў часе працы, а як Вы сядзеце за стол, пяро будзе само пісаць».

(Тут дарэчы будзе заўважыць, што ўспаміны Паўлікоўскага былі ня толькі заўважаны беларускай эміграцыяй, але й неадназначна ацэненыя. Так, Вітаўт Тумаш у лісьце да Юркі Віцьбіча пісаў: «Паўлікоўскі ў міжваенную пару быў супрацоўнікам віленскага манархістычнага «Слова». Чатыры гады таму ён апублікаваў кніжку ўспамінаў з свае маладосьці, праведзенай па дварох Меншчыны. Характэрна для яе тое, што там народу беларускага, сялянства наагул няма, ён яго быццам і ня бачыў. Апісвае толькі польскія маёнткі ды менскія публічныя дамы»[50]. Да постаці аўтара В. Тумаш зьвярнуўся яшчэ раз у ліставаньні зь Віцьбічам: «Пісаніну ягоную знаю яшчэ зь Вільні, калі ён быў сталым рэдакцыйным супрацоўнікам віленскага штодзённіка «Слова», праграма якога для беларусаў была – безаглядная асыміляцыя.

На паліцах мае прыватнае кніжніцы стаіць недзе і ягоная аўтабіяграфічная кніга «Маленства й маладосьць Тадэвуша Іртэнскага» (хтосьці калісьці мне яе падкінуў). Аб беларускім народзе ў ёй бадай нічога абсалютна – з панскага двара, дзе ён нарадзіўся й гадаваўся, ён народу наагул ня бачыў. Нават зь некаторай гіроніяй абмалёўвае, як нейкага «юродзівага», аднаго дацэнта ўнівэрсытэту ў Капэнгазе, які, ужаніўшыся ў сям'ю аднаго дробнага абшарніка на Беларусі, зжыўся з народам, пазнаваў яго мову ды нават публікаваў нейкія моваведныя дысэртацыі. Для Паўлікоўскага ягоная родная Беларусь «уздыхала па-беларуску, але пяяла па-польску», хоць, маючы на ўвеце, што ў фразе гэтай намёк на беларускае сялянства ды спалянізаваную сацыяльную вярхушку, што займалася

---

[50]Ліст ад 24.03.1963 перахоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк).

літаратурнай польскай дзейнасьцю, правільней гэтую фразу фармуляваць, што народ і край «стагнаў па-беларуску, а пяяў па-польску», пяяў, пэўна-ж, розныя польскія сэнтымэнтальна-патрыятычныя баляды й рамансы. А што да падрабязнага апісваньня Менску, дык найяскравейшы там вопіс, як аўтар, будучы яшчэ гімназістам, з сваімі сябрамі наведваў менскі публічны дом.

Гэта мэмуары таленту невялікага. Лепшыя зь літаратурнага гледзішча ягоныя нарысы ў другой кнізе «Вайна й сэзон», знаю зь іх толькі некаторыя, што друкаваліся ў «Wiadomościach». Ягоныя кнігі цікавыя хутчэй гісторыку Беларусі для вывучэньня жыцьця й быту й паглядаў спалячэлых сацыяльна слаёў беларускага народу, слаёў камплетна ізаляваных ад яго жыцьця, справаў, патрэбаў, мовы й традыцыяў»[51]).

Аўтабіяграфіі, успаміны, дзёньнікі могуць быць аб'яднаныя як літаратура спавядальная і як літаратура факту. Аўтабіяграфіі і ўспаміны, хаця часам памылкова атаясамліваюцца, адрозьніваюцца канцэнтрацыяй увагі на абставінах прыватнага жыцьця мэмуарыста ці на зьнешніх акалічнасьцях. Ва ўспамінах звычайна асоба мэмуарыста адсунута на другі плян, галоўнае месца адводзіцца людзям, зь якімі сутыкаецца аўтар успамінаў, і найбольш важным, на ягоную думку, падзеям. Аўтабіяграфія – гэта гісторыя жыцьця мэмуарыста, з элемэнтамі самарэфлексіі, самааналізу, усьведамленьня значнасьці (ці нязначнасьці) свайго жыцьця, сваёй уплывовасьці на падзеі часу.

Дзёньнікі й занатоўкі, якія фіксуюць канкрэтныя жыцьцёвыя зьявы, па сваёй сутнасьці менш падуладныя зьменам ў паглядах аўтара на характар мінулых падзей. Яны даюць карціну непасрэдных уражаньняў відавочніка. Аднак часам здараецца, што дзёньнікі падпраўляюцца,

---

[51]Ліст ад 9.04.1969 перахоўваецца ў архіве БІНІМа.

карэктуюцца з улікам новага аўтаравага бачаньня падзей, калі рыхтуюцца да друку або калі на іх грунце ствараюцца ўспаміны. У такім выглядзе яны выйграюць у мастацкай форме, набываюць большую пасьлядоўнасьць, лягічнасьць, завершанасьць, але губляюць непасрэднасьць успрыманьня.

Літаратура факту, як можна абагульнена назваць мэмуарную літаратуру, дазваляе аўтару сьцьвердзіць сябе адначасна і як пісьменьніка, і як грамадзкага дзеяча – гістарычную асобу.

Чым прываблiваюць аўтараў мэмуары?

Назавем, як падаецца, найбольш істотныя й характэрныя прычыны.

Нават адно толькі дачыненьне да гістарычных падзеяў можа даваць спадзяваньне аўтару, што ягоная праца будзе патрэбная нашчадкам. У ягоных паглядах, бачаньні гісторыі можа быць штосьці адметнае, незвычайны ракурс успрыняцьця падзеяў, дзейных асобаў. У такім выпадку нават самыя суб'ектыўныя погляды, уражаньні могуць быць успрынятыя як падсьвядомыя асацыяцыі з часам, пра які ідзе гаворка. Інакш кажучы, суб'ектыўнае ўспрыняцьце падзей аб'ектывізуецца.

Калі аўтар адыгрываў пэўную ролю ў гістарычным працэсе як палітык, грамадзкі дзеяч, ён мог спадзявацца, што наступныя пакаленьні зацікавяцца ягонымі паглядамі, ягоным бачаньнем эпохі і ацэнкамі сучасьнікаў.

Калі мэмуарыст разыходзіцца ў паглядах на гістарычныя падзеі й гістарычных дзеячаў з сучасьнікамі, ён можа спадзявацца толькі на адэкватны водгук і ўзаемаразуменьне нашчадкаў.

Безумоўна, мэмуары даюць магчымасьць аўтару й «палічыцца» са сваімі ворагамі «перад тварам вечнасьці», асабліва калі гэта не ўдалося яму зрабіць пры іхным жыцьці.

Таму зразумела, што зьяўленьне мэмуарных твораў сустракалася зь вялікай цікавасьцю й выклікала часам

вострую рэакцыю, дыскусіі ў друку ды асяродзьдзі эмігрантаў. Беларуская грамада, як і ўсякая іншая, вельмі часта крытычна ставілася да адлюстраваньня часу, «на свой капыл» мерала аўтаравы ацэнкі падзеяў, асобаў, учынкаў.

Кожны з мэмуарных твораў вымагае асобнай гаворкі, асобнага разгляду, а таксама гістарычнага й культуралягічнага камэнтару, бо гэта менавіта той літаратурны жанр, што заўсёды застаецца сацыялягічным, прывязаным да пэўнай рэчаіснасьці, да пэўных гістарычных падзеяў, у зьвязку зь якімі й павінен разглядацца. Такі падыход магчымы й неабходны, калі ў цэнтры ўвагі дасьледчыка знаходзіцца адзін твор ці група твораў, прысьвечаных адной праблеме, аднаму часу й г.д.

Мэта прапанаванага чытачу дасьледаваньня больш інтэгральная.

Пры ўсёй хісткасьці падзелу мэмуарыстыкі на формы можна вылучыць **аўтабіяграфіі, нэкралёгі, інтэрвію, ліставаньне, запіскі й занатоўкі, выступленьні, прамовы, дзёньнікі, уласна ўспаміны.**

Гістарычную вартасьць **аўтабіяграфій** разумелі многія. Ужо ў 1944 годзе ў часапісе «Новы Шлях», рэдагаваным Уладзімерам Сядурам-Глыбінным, пад загалоўкам «Ад рэдакцыі» было надрукавана: «Часта выдатныя людзі, адыходзячы з гэтага сьвету, не пакідаюць па сабе ніякіх выказваньняў аб сваім жыцьці й дзейнасьці. Гэта страшэнна абцяжарвае беларускіх бібліёграфаў і гісторыкаў у ваднове ўсіх вехаў жыцьця выдатных людзей. Адылі гісторыя нашага адраджэньня мае выключнае значаньне для ўзгадаваньня новага пакаленьня беларускіх культурных і грамадзкіх дзеячаў. Прыклады ахвярнае працы найвыдатнейшых беларускіх адраджэнцаў маюць у сабе шмат узгадавальнага й павучальнага. Таму рэдакцыя «Новага Шляху» стараецца выкарыстаць усе магчымасьці, каб аднавіць веданьне жыцьця й дзейнасьці многіх загінуўшых беларускіх дзеячаў. Але ніколі ніхто лепш не

раскажа пра іншых, як сам чалавек пра сябе. Няма лепшых сьведчаньняў і дакумэнтаў жыцьця й дзейнасьці чалавека, як уласныя выказваньні пра жыцьцё»[52].

І ўсё-ж, нягледзячы на агульнае ўсьведамленьне важнасьці жыцьцяпісаў, у беларускай прэсе апублікавана ня так шмат аўтабіяграфіяў: Льва Акіншэвіча «Балюнкі з успамінаў»[53], Д. Аніські «Аўтабіяграфія»[54], а. Віталіса Хамёнка «Мой жыцьцяпіс»[55], Канстанціна Езавітава «Аўтабіяграфія»[56] ды іншыя.

Мала пісалі пра сябе, а друкавалі яшчэ менш на эміграцыі й пісьменьнікі[57]. Каштоўныя біяграфічныя зьвесткі, аповяд пра няпроста пражытыя гады, пра шляхі да творчасьці, сяброўства й варожасьць, вернасьць і здраду пакінулі Натальля Арсеньнева – «Кузьня духу. Крыху ўспамінаў» [58], «Майму жыцьцю. Гутарка на літаратурным

---

[52]«Новы Шлях», № 10(46), травень 1944. Нумар быў гатовы да друку, але ня выйшаў у сьвет. Матар'ялы нумару захоўваюцца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк).

[53]«Запісы БІНІМ», № 19, 1989, с.128-150.

[54]«Божым Шляхам», № 1(129), студзень-люты, 1972, с.5-7.

[55]«Божым Шляхам», № 2(113), сакавік-красавік, 1969, с.8-11.

[56]«Полацак», 5 (15), 1992, с.16-23.

[57]Хоць трэба сказаць, што каштоўнасьць мэмуараў пісьменьнікі ўсьведамлялі добра. Прыкладам, у гутарцы з Барысам Сачанкам, укладальнікам кнігі «На суд гісторыі», Масей Сяднёў кажа: «Я стаў беластоцкім паэтам, мае вершы вучылі напамяць, яны друкаваліся ў кожным нумары. А артыкулы зьявіліся толькі дзякуючы Ільляшэвічу. Ён у мяне іх проста выціскаў. Я не любіў іх пісаць, бо гэта не маё. Сёньня я лічу тыя артыкулы наіўнымі, інфантыльнымі. Але Ільляшэвіч пасьля нават аб'яднаў гэтыя артыкульчыкі пад назвай «Ахвяры бальшавізму» (с.236). Праз чатыры гады па гэтым інтэрвію, у 1994 годзе, у «Масеевай кнізе», заяўленай самім аўтарам як этапнай, ці не найбольш цікавым і каштоўным стаўся менавіта разьдзел «Сполахі даўніх зарніц» – фактычна перадрук той старой кнігі «Ахвяры бальшавізму».

[58]«Бацькаўшчына», № 16(500), Вялікдзень 1960, с.5.

вечары ў Таронта»[59], «У казахстанскай ссылцы»[60], «Як я сталася паэтам»[61]; Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль) – «Казённы дом і казённая дарога»[62] і «Мой шлях»[63]; Масей Сяднёў – «Заміж жыцьцяпісу»[64].

Найбольш пра сябе, акрамя ненадрукаванай аўтабіяграфіі[65], расказаў Сяргей Хмара: «Картуз-Бярозаўскі Парнас»[66], «Сялянскі літаратурны фонд»[67], «Польская літаратурная лявіца й «Маладая Ўскалось»[68], «Літаратурныя серады за кратай. Агент. Наша літаратурная камуна ў Менскай турме»[69], «Пад гітляроўцамі»[70], «У гітляроўскім гнязьдзе»[71].

Магчыма, што ў прыватных архівах ляжаць жыцьцяпісы многіх беларускіх дзеячаў. У архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) перахоўваюцца рукапісы аўтабіяграфій Натальлі Арсеньневай[72], Францішка

---

[59]«Беларус», № 143, сакавік 1969, с.4-5.
[60]«Бацькаўшчына», №15-16(94-95), Вялікдзень 1952, с.4; №17(96), 27 красавіка 1952, с.4.
[61]«Бацькаўшчына», № 16(500), Вялікдзень 1960, с.4-5.
[62]«Запісы БІНІМ», № 20, 1992, с.65-101.
[63]«Беларускі сьвет», № 22 (51), 1991, с.4-13.
[64]«Беларуская моладзь», № 18, 1963, с.10-13.
[65]Перахоўваецца ў архіве Л. Юрэвіча.
[66]«Баявая Ўскалось», № 4, 1954, с.32-34.
[67]«Баявая Ўскалось», № 8, 1969, с.28-29.
[68]«Баявая Ўскалось», № 12, 1972 , с.22-26.
[69]«Баявая Ўскалось», № 14, 1974, с.26-32.
[70]«Беларускі Голас», №172, травень 1969, №178, лістапад 1969.
[71]«Беларускі Голас», №184, чэрвень 1970.
[72]«Аўтабіяграфічны нарыс» Натальлі Арсеньневай друкуецца ў другой частцы гэтай кнігі.

Кушаля, Антона Адамовіча, Міколы Равенскага[73], Вечаслава Сэлях-Качанскага[74] ды іншых.

Большай часткай аўтабіяграфіі падпарадкуюцца «дыктату даты», але нават і ў такім выпадку даты – толькі вехі, якія дапамагаюць групаваць матар'ял, сам-жа адбор і асэнсаваньне матар'ялу вельмі разнастайныя.

Так, «Мой жыцьцяпіс» Алеся Змагара інтрыгуе пэрыпэтыямі ягонага супрацьстаяньня савецкай уладзе, амаль дэтэктыўнымі калізіямі ўцёкаў ад перасьледу карных органаў, паказвае дзейнасьць аўтара ў беларускай справе, знаёміць зь ягоным інтымным жыцьцём[75].

«Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы» Канстанціна Езавітава – пералік, па-вайсковаму лякапічны й дакладны, зьнешніх абставін жыцьця[76].

«Аўтабіяграфія» Ўладзімера Брылеўскага – своеасаблівы духовы тастамант, надыктаваны невылечна хворым чалавекам. Сааўтарам тэксту была ягоная жонка Лёнгіна[77].

У лягеры ДП[78] склаў свой «Жыцьцяпіс» Янка Станкевіч. Ягоная аўтабіяграфія напісана, праўдападобна, для патрэбаў працы ці выезду на эміграцыю: «Я нарадзіўся 26 лістапада 1891 году ў Арлянятах на Віленшчыне, у той частцы Беларусі, што ад 1921 году належала да Польшчы. Першая сьветная вайна перарвала маю навуку; дзеля таго я

---

[73]«Жыцьцяпіс» Міколы Равенскага друкуецца ў другой частцы гэтай кнігі.

[74]«Уласны жыцьцяпіс» Вечаслава Сэлях-Качанскага друкуецца ў другой частцы гэтай кнігі.

[75]«Мой жыцьцяпіс» Алеся Змагара друкуецца ў другой частцы гэтай кнігі.

[76]«Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы» Канстанціна Езавітава друкуецца ў другой частцы гэтай кнігі.

[77]«Аўтабіяграфія» Ўладзімера Брылеўскага друкуецца ў другой частцы гэтай кнігі.

[78]Аўтабіяграфія напісана 30.4.1949.

паступіў на ўнівэрсытэт – Унівэрсытэт Кароля ў Празе (Чэхаславаччына) у 1921-1922 акадэмічным годзе й закончыў яго ў 1926 г. з тытулам доктара філязофіі, маючы спэцыяльнасьцю славістыку (славянскія мовы й гісторыя славян). Галоўнымі маімі настаўнікамі былі праф. О. Гуер і праф. Я. Бідло.

Вярнуўшыся ў 1926 г. на бацькаўшчыну, я пацьвердзіў на Ўнівэрсытэце Стэфана Батуры ў Вільні свой доктарскі дыплём і здаў дзяржаўны экзамен зь беларускае й польскае мовы на настаўніка сярэдніх школаў. У 1926-1927 гадох я вучыў у сярэдняй школе ў Вільні. У 1928-1930 гг. быў паслом на польскі сойм у Варшаве. З 1929 г. я выкладаў беларускую мову й літаратуру на Ўнівэрсытэце Стэфана Батуры ў Вільні, застаючыся на гэтым становішчы да 15.6.1940 г. – да займу Вільні бальшавікамі (ад кастрычніка 1939 г. Вільня належала да Літвы, і тут быў унівэрсытэт літоўскі). Увесь гэты час і далей, да 1944 г., я быў сапраўдным сябрам Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні, а з 1929 г. да пачатку другое сьветнае вайны ў 1939 годзе быў таксама сапраўдным сябрам Польскага Інстытуту Вывучэньня Спраў Народных Меншасьцяў у Варшаве.

Увесь гэты час я пісаў навуковыя артыкулы й працы на лінгвістычныя, літаратурныя й гістарычныя тэмы; між іншага, рэдагаваў лінгвістычны часапіс беларускі «Родная Мова».

Ад 1940 да 1944 году стаяў на чале Ўсекрывіцкага (Усебеларускага) Дэмакратычнага Незалежніцкага Задзіночаньня, якое ажыцьцяўляла акцыі супраць нямецкіх акупантаў. У чэрвені 1944 г. я быў арыштаваны немцамі й вывезены ў Нямеччыну. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ў 1945 годзе жыву як ДП, прадаўжаючы свае навуковыя працы, спыненыя ў 1944 г. арыштам.

Ад палове 1946 г. я стаю на чале Крывіцкага (Беларускага) Навуковага Таварыства Францішка Скарыны,

якое лучыць беларускіх навукоўцаў, што як ДП апынуліся ў трох заходніх зонах Нямеччыны.

З 1946-1947 акадэмічнага году я – надзвычайны прафэсар славянскай філялёгіі Украінскага Вольнага Ўнівэрсытэту ў Мюнхэне»[79].

«Кароткі жыцьцяпіс» кампазытара Міколы Куліковіча-Шчаглова – пералік найбольш важных этапаў творчай дзейнасьці: «Нарадзіўся ў Ломжы ў 1887 годзе, 11 чэрвеня. Адукацыю атрымаў у Маскве ў Музычнай Акадэміі, якую скончыў у 1915 годзе як кампазытар і тэарэтык. Працаваць па спэцыяльнасьці пачаў з 1918 г. як выкладчык тэорыі, гармоніі, кантрапункту й музычных формаў. Працаваў таксама і як дырыгент опэры й сымфанічнае аркестры. З 1921 г. пачаў займацца творчаю працаю. У 1922 г. была напісаная першая опэра «Марсель Блан» (пастаўлена ў Кіеве), у 1923 г. – першая сымфонія, у 1925 г. – 2-я сымфонія й 2 сюіты, зь якіх адна на беларускую тэму. З 1926 па 1937 пішуцца творы для аркестры, хору, камэрная музыка: інструмэнтальныя рэчы, рамансы. (У 1938 г. 2-я сымфонія ідзе на Беларускай дэкадзе ў Маскве). У 1939 г. напісаны канцэрт для фортэпіяна з аркестраю на беларускія тэмы. У тым-жа годзе – опэра «Кацярына» (пастаўлена ва ўрыўках у 1940 годзе ў тэатральным клюбе ў Маскве). У 1942 г. выйшла опэра «Лясное Возера» (пастаўлена ў Менску ў 1943 г.), а ў 1943 годзе – опэра «Ўсяслаў Чарадзей» (ішла на радыё ў Менску ў 1943 г.). З 1939 г. па 1949 г. ідзе дасьледчая праца ў галіне беларускага фальклёру. За гэты час напісаныя дзьве буйныя рэчы: «Беларуская народная песьня» (у 4-х частках) і «Гісторыя беларускай музыкі» (11 кніг ад пачатку да 1914 году). Апрача таго, шмат больш кароткіх рэчаў, як, напрыклад, «Сьветапагляды й вераваньні беларускага народу паводле вуснае народнае творчасьці»,

[79]Архіў БІНІМа (Нью-Ёрк).

«Характар і натура беларуса ў мастацтве», «Беларуская опэра» й г.д. Сюды-ж належаць і дробныя творы для хору, аркестры, салістаў і інструмэнталістаў, музыка й песьні для вайскоўцаў і юнацтва й г.д. З 1925 г. ішла праца па стварэньню тэатральнай музыкі да п'есаў клясычных (Мальер, Сэрвантэс, Гаўптман, Ібсэн, Сафокл, Гальдоні і інш.) і беларускіх нацыянальных («Кастусь Каліноўскі», «Цудоўная дудка», «Салавей» і г.д.). За гэты час шмат рэчаў было запісана на грамафонныя пліткі й на тон-фільмы»[80].

Не заўсёды жыцьцяпісы сваіх суайчыньнікаў выклікалі зацікаўленасьць сярод беларускай эміграцыйнай грамады. Адна з прычын, верагодна, і ў адсутнасьці дыстанцыі часу, якая звычайна дазваляе зразумець і рэальна ацаніць чалавека. Такая сытуацыя часам тлумачылася й выключна асабістымі, прыватнымі стасункамі. Нярэдка яна прыводзіла да таго, што аўтар, імкнучыся кампэнсаваць недахоп увагі грамадзкасьці да сваёй асобы, выдаваў пад псэўданімам кнігу ці брашуру, прысьвечаную ўласнаму жыцьцю, грамадзкай і літаратурнай працы[81].

**Нэкралёгі** – ці не найбольш значная крыніца біяграфічных зьвестак, асабліва калі гаворка ідзе пра людзей, якія пры жыцьці былі менш вядомымі, менш навідавоку.

Нэкралёгі, набліжаныя да ўспамінаў, звычайна падпісвалі не арганізацыі, а прыватныя асобы, якія добра зналі памерлага яшчэ з даваеннага, даэміграцыйнага жыцьця. Яны ўтрымлівалі жывыя дэталі, малавядомыя факты з жыцьця адышоўшага, як, прыкладам, у нэкралёгу памяці Мечыслава Рачыцкага, напісаным Кастусём Акулам:

---

[80] Архіў БІНІМа (Нью-Ёрк).

[81] Гл., напрыклад: Кастусь Старажоўскі [Ул. Сядура-Глыбінны]. 30 гадоў на службе роднай культуры. Беларускае выдавецтва «Сьвет». Друкавана ў 1961 г. у Дэтройце, ЗША. 14 с.

«Сьвятой памяці Мечыслава Рачыцкага давялося мне пазнаць шмат раней, чымся даведаўся ягонае імя й прозьвішча... І вось прыгадваецца станцыя Пархвенава ля Докшыц. На плятформе – высокі, стройны юнак у форме кіраўніка СБМ, ля яго, бы кураняткі, юнакі і юначкі. Як сяньня, стаіць ён у вачох і, як на дзіва, ніводнага разу, здавалася, не праехаў я Пархвенава, каб яго ня бачыў. То садзіў моладзь у цягнік і гукаў на разьвітаньне, а то й сам ехаў разам. Вагон поўніўся маладым бурлівым сьмехам, цудоўнымі й жыцьцядайнымі патрыятычнымі песьнямі... І паўстае Мечык зь ягоных апавяданьняў. Бедная вясковая каталіцкая сям'я, у хаце посьніца й нішчымніца. І яшчэ бязьмежная прага да навукі, каб неяк выйсьці ў людзі...»[82].

Нэкралёгі зьмяшчаліся ва ўсіх пэрыядычных выданьнях беларускага эміграцыйнага друку. Іх шмат... Гэтая жалобная хроніка – неасвоеная яшчэ крыніца зьвестак пра жыцьцёвы шлях беларусаў-выгнанцаў.

**Інтэрвію**, як яшчэ адна мэмуарная форма, атрымала даволі шырокае распаўсюджаньне на эміграцыі, пачынаючы зь 50-х гадоў. Натуральна, што, перш за ўсё, інтэрвію праводзіліся з палітычнымі, грамадзкімі й культурнымі дзеячамі, пазыцыі якіх, пагляды на актуальныя праблемы жыцьця беларускай эміграцыі, узаемадачыненьні з бацькаўшчынай, творчыя дасягненьні ў літаратуры й мастацтве цікавілі чытачоў. Звычайна кожнае інтэрвію закранала ня толькі агульныя пытаньні, але й канкрэтную дзейнасьць і біяграфічныя факты. Можна назваць інтэрвію са старшынёй БНР Міколам Абрамчыкам[83], са старшынёй БАЗА Станіславам Станкевічам[84], са старшынёй ЗБК

---

[82]«Беларус», № 183, ліпень 1972, с. 5.
[83]«Бацькаўшчына», № 1(61), 1 студзеня 1950; «Беларускі Эмігрант», № 29, 26 жніўня 1950.
[84]«Беларус», №80, лістапад 1963.

Барысам Рагулем[85], са старшынёй карпарацыі Бэлер-Менск Васілём Юрцэвічам[86], са старшынёй Этнічнай рады штату Нью-Джэрзі Вітаўтам Кіпелем[87], з куратарам Беларускай калекцыі, супрацоўніцай Славянскага аддзелу Ньюёркскай публічнай бібліятэкі Зорай Кіпель[88], зь пісьменьнікам Кастусём Акулам[89], з мастакамі – Віктарам Жаўняровічам[90], Міхасём Наўмовічам[91], Тамарай Стагановіч[92].

Актывізацыя гэтай формы ўспамінаў асабліва заўважаецца ў апошні час[93]. Упершыню створана кніга, цалкам пабудаваная на інтэрвію-ўспамінах дзеячаў эміграцыі[94], голас аўтара тут амаль не чуцён.

Зацікаўлены дасьледчык мае магчымасьць зьвярнуцца й да шматлікіх скрыптаў інтэрвію-ўспамінаў, назапашаных у архівах радыёстанцыі «Свабода».

**Ліставаньне** – адна з актыўных формаў кантактаваньня суайчыньнікаў на чужыне ў 50-60-я гады.

---

[85]«Беларус», №87, чэрвень 1964.
[86]«Беларус», №82, студзень 1964.
[87]«Беларус», №259-260, лістапад-сьнежань 1978.
[88]«Беларус», №308-309, люты 1983.
[89]«Беларус», №253, травень 1978.
[90]«Беларус», №226-227, люты-сакавік 1976.
[91]«Беларус», №236, сьнежань 1976; №250, люты 1978; №251, сакавік 1978.
[92]«Беларус», №242, чэрвень 1977.
[93]Л. Юрэвіч. Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва – 45. Гутарка з дырэктарам БІНІМа доктарам В. Кіпелем. «Беларус», №440, сьнежань 1996, с.4-5; І. Урбановіч, Зьм. Саўка. «Ёсьць дзе прыкласьці свае сілы». Гутарка з маладымі беларусамі. «Беларус», № 452, сакавік 1998, с.6-7; І. Урбановіч. «Я ўсё жыцьцё на Беларусі». Гутарка з Івонкай Сурвіллай. «Беларус», №454, травень 1998, с.3-5; Зьм. Саўка. Інтэрвію з айцом А.Надсонам. «Беларус», № 456, жнівень 1998, с.2-3.
[94]Л. Пранчак. Беларуская Амерыка. Мінск, 1994.

Раскіданыя па краінах сьвету, яны празь лісты навязвалі лучнасьць з роднымі й знаёмымі, пошукі якіх ускладняліся тым больш, што страх за сваіх блізкіх на тэрыторыі БССР і боязь перасьледу з боку КГБ вымушалі многіх жыць пад чужым імем. Лісты адлюстроўвалі варункі, у якіх апынуліся эмігранты, выяўлялі адносіны, што складваліся паміж імі на выгнаньні. У лістах дзяліліся паўсядзённымі клопатамі й трывогамі, абменьваліся вопытам выжываньня ў чужой краіне, шукалі й давалі параду, па-сяброўску падтрымлівалі адзін аднаго. Але ня толькі.

Лісты былі мастком да нядаўнага й далёкага мінулага. Прыгаданае імя, геаграфічны назоў, напамінак пра падзеі, ведамыя толькі былым землякам, – усё гэта было штуршком да ўспамінаў. Лісты поўніліся згадкамі пра родныя мясьціны, пра тых, каго любілі й ненавідзелі. У лістах ажывалі народныя звычаі, успаміналіся й нанова ацэньваліся беларускія сямейныя традыцыі. Лісты лучылі пакаленьні.

Лісты захоўваліся амаль пад кожным эмігранцкім дахам. Дзякуючы зьберажонаму ў сям'і Юзэфы й Часлава Найдзюкоў ліставаньню з Ларысай Геніюш праз гады ўдалося па-новаму асьвятліць некаторыя старонкі ейнага жыцьця й творчасьці[95].

Зь ліставаньня Юркі Віцьбіча й Рыгора Драчалуцкага паўстаюць Віцебшчына, яе непаўторныя краявіды, гістарычная Дзьвіна, шматлікія асяродкі актыўнай барацьбы з бальшавізмам, жывыя эпізоды гэтага супраціву й постаці саміх барацьбітоў[96].

Ліставаньню Юркі Віцьбіча з Антонам Адамовічам мы, спасярод іншага, абавязаны ўнікальнымі зьвесткамі пра «Узвышша», «Шыпшыну», МОНРП (Московское

---

[95]«Беларус», № 452, сакавік 1998, с. 9-11. Публікацыя Л. Ю.
[96]Юрка Віцьбіч (Юры Стукаліч). Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі, с.242-323.

Объединение Национальных Революционных Писателей), беларускую сэкцыю «Кузницы», пра асобу і арганізацыйныя здольнасьці экстравагантнага Паўлюка Шукайлы, пра беларускую багему – ТАВІЗ (Таварыства Аматараў Выпіць і Закусіць)[97].

Адсутнасьць патрэбных кніжак, даведнікаў, абмежаванасьць гістарычнай і надзённай інфармацыі пра Беларусь пабуджала эмігрантаў нярэдка шукаць неабходныя зьвесткі, карыстаючыся знанай высокай інтэлектуальнасьцю й шырокімі, разнастайнымі ведамі сваіх землякоў. Антон Адамовіч, Вітаўт Тумаш, Янка Станкевіч, Леў Гарошка, Станіслаў Станкевіч, Юрка Віцьбіч, Часлаў Будзька былі на той час і энцыкляпэдыямі, і захавальнікамі гістарычнай памяці.

«Дарагі айцец Леў. Вас цікавіць: дзе падзеўся колішні дырэктар Віцебскага музэю Язэп Васілевіч? Чым займаўся апошні час Шлюбскі й што зь ім сталася? Адказваю. Калі не памыляюся, дык у Віцебскім музэі не было гэткага дырэктара. Значны час у музэі працаваў як старэйшы навуковец Васілевіч, вучань Сапунова, на жаль, ня памятаю ягонае імя. Менавіта разам зь ім мне пашэньціла ўратаваць Віцебскі касьцёл сьв. Антона Падуанскага ад разбурэньня й ператварыць яго ў філіял музэю. Ведаю, што ў часе вайны Васілевіч зьявіўся да Міхася Рагулі (у той час разам з Усеваладам Родзькам меўся ў Віцебску) і запрапанаваў свае паслугі ў захаваньні старадаўніны. Аднак чамусьці яго адсунулі ўбок. Па тых зьвестках, якія ёсьць у мяне, Васілевіч памёр ад голаду ў Аліце (Летува), дзе ад тае-ж сьмерці загінула шмат добрых віцяблянаў.

Шлюбскага ведаю з маленства. Можа, ён найбольш тыповы для нашых нацдэмаў. Можа, ён адзін з тых, хто найбольш зрабіў для нашае Бацькаўшчыны як археалёг, этнограф, а самае галоўнае, як закаханы ў нашую

---

[97] Архіўная кніга, с.365-379.

старасьвеччыну. Ён быў рэпрэсаваны ў 1931 г., потым, калі адбыў тэрмін высылкі, яму не дазволілі вярнуцца ў БССР, і ён абраў Невельшчыну (Беларусь!), дзе настаўнічаў. Неаднойчы прыяжджаў у Віцебск і гасьцяваў у мяне, але больш нікога не наведваў»[98].

Юрка Віцьбіч узнаўляе рэальную фантасмагарычную карціну даваеннага жыцьця беларускіх пісьменьнікаў, малюнкі ўзьлётаў і падзеньняў, перапляценьне трагічнага з камічным. Ягоныя ацэнкі часам спагадлівыя, а часам непрымірыма бязьлітасныя.

«Нарыс пра Эдуарда Самуйлёнка я распачаў і, магчыма, неўзабаве скончу. На мой асабісты пагляд, гэты выдатны пісьменьнік стаўся ахвярай бальшавізму, які перакруціў яго як пісьменьніка й забіў як чалавека. З гэтым паглядам супадае загаловак – «Спадманулі русальчыны сьцежкі». Безумоўна, на пагляд таго артадокса, што, поркаючыся ў Ньюёркаўскай Публічнай бібліятэцы шукае ў пісьменьнікаў колішніх блохаў, – Эдуард Самуйлёнак на 120% савецкі пісьменьнік, аб чым сьведчыць ягоная афіцыйная творчасьць і ордэн. На жаль, такі артадокс не разумее, што простая лінія ў жыцьці – ад калыскі да труны – уласьцівая толькі сьвятым і недарэкам. Аднак, калі няма геамэтрычнае простае, затое існуе адзіны напрамак з тымі ці іншымі тымчасовымі зрывамі. Мне здаецца, што ні адзін добрасумленны крытык не пачне абагульніваць творчасьць ці жыцьцё таго ці іншага пісьменьніка на падставе вылучна ягоных зрываў. Хочацца прывесьці адзін прыклад, што сьведчыць аб тым, як калечыла савецкая рэчаіснасьць душы «інжынэраў чалавецкіх душаў».

Міхась Багун меў заўсёды напагатове 5-6 вершаў «На сьмерць правадыра». Калі хто-небудзь зь іх здыхаў,

---

[98]Зь ліста Юркі Віцьбіча да Льва Гарошкі ад 13.05.54. Арыгінал перахоўваецца ў архіве Фундацыі Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).

дык ён, падставіўшы адпаведнае імя, як хутчэй бег са свае Даўгабродзкае ў «Зьвязду» ці «Чырвоную зьмену». Аднойчы, калі памёр Дзяржынскі, пабег ён з прачулым вершам у «Зьвязду». Прыбег, аж засопся, а зь яе выходзіць Тодар Кляшторны і ўсьміхаецца: «Дарма, братка. І тут, і ў «Чырвонай зьмене», і ў «Работніцы і сялянцы», і ў «Піянэры Беларусі» ідзе маё». Хто ў стане кінуць камянём у гэтых двох, што сталіся ахвярамі бальшавізму?»[99]

«Заўчора я даведаўся пра сьмерць Андрэя Александровіча. Наразе спрабую прыгадаць яго чым-небудзь добрым і... ня ў стане. І справа тут палягае не ў асабістым, не ў ягоным сталым цкаваньні мяне. (Ягоны-ж подпіс першы пад артыкулам у «ЛіМе» – «Нашы абвінавачваньні Віцьбічу»). Між іншым, характэрна, што не пісьменьнікі-габраі, а жонка Александровіча заўважыла «герэтычнасьць» назову «Лшона Габоа Бійрушалайм». Перадусім згадваецца подлы вершаваны данос «Цені на сонцы», што цалкам супадаў з невершаванай жыцьцёвай практыкай – Александровіч добра ведаў, як адчыняюцца дзьверы ў ГПУ й не адзін пісьменьнік загінуў дзякуючы яму. «Эх, Андрюша, Вырвиглаз. Налетай, рабочий клас...» – гэтак трапна ахарактарызаваў яго незабытны Ўладзімер Хадыка.

Таму, калі дайшла чарга да Александровіча, дык, паколькі я вычуў, ніхто ў душы не спачуваў яму з гэтае прычыны. У часе допытаў яму зламалі два рабры, але й на Ігарцы ён заўсёды выхваляў «вялікага» й «мудрага» Сталіна (успамін Тодара Лебяды), чым узброіў супраць сябе большасьць з паняволеных...»[100].

---

[99] Зь ліста да Антона Адамовіча ад 21.11.54. Арыгінал ліста перахоўваецца ў архіве Фундацыі Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).
[100] Зь ліста да Антона Адамовіча ад 14.01.63. Арыгінал ліста перахоўваецца ў архіве Фундацыі Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).

Часта лісты дзеячаў эміграцыі зьяўляюцца вельмі важнай крыніцай інфармацыі пра іхнае жыцьцё, дзейнасьць, творчасьць. Ліставаньне раскрывае нам ня трапіўшыя ў аўтабіяграфіі й часам «закрытыя» старонкі жыцьця, сапраўдныя прычыны тагачасных падзеяў, вытокі адносін паміж асобнымі людзьмі, групамі, партыямі. Гэта выдатна ілюструе ліст Уладзімера Дудзіцкага, у біяграфіі якога па-ранейшаму нямала «белых плямаў». Ліст быў дасланы 30 чэрвеня 1955 году дырэктару БІНІМа Вітаўту Тумашу як адказ на прапанову заняць пасаду дырэктара беларускай сэкцыі радыё «Вызваленьне» («Свабода»). (Заўважым: пакуль што ані рукапісаў зборнікаў, ані навуковых працаў, ані газэтных артыкулаў, якія ўпамінае ў сваім лісьце Дудзіцкі, ня знойдзена).

«Дарагі доктар Тумаш!

Ліст Ваш з дня 12.06 атрыманы. Прыемна, што маленькае непаразуменьне, укліненае ў пачатак нашага супрацоўніцтва, не зрабіла жаднага ўплыву і адразу заламалася ў сваім няпосьпеху. І праўда тое, што няма добрага без благога.

Пра выданьне Альманаху[101] даведаўся нядаўна: спачатку напісаў мне сп. Юрка Віцьбіч, а пазьней і сам сп. др. С. Станкевіч. У лісьце паважанага доктара гаварылася пра вызначаныя вершы й пра час выхаду Альманаху з друку. Я не падаў ніякае думкі, што да адбору вершаў, бо ўважаў гэта правам самога выдаўца. Ваш ліст дапоўніў папярэднія спавешчаньні, і я поўнасьцю згодны з Вашымі заўвагамі, што да ўключэньня іншых вершаў у згаданае вышэй выданьне. Вашую прапанову рыхтаваць зборнік вершаў ня толькі помню, але й чытаю сёньня. У Вашым лісьце ад 7.04.1950 гаварылася наступнае: «У апошнім нумары «Божым Шляхам» кінууся мне ў вочы Ваш верш «Цьмяныя плямы». Ён, як і другі верш «Дымяцца хмары»,

[101]Маецца на ўвазе альманах «Ля чужых берагоў». Мюнхэн, 1955.

зрабіў на мяне моцнае ўражаньне. Трэба думаць пра зборнік».

Вельмі прыемнымі былі й Вашая думка й Вашая прапанова, аднак, беручы на ўвагу нават і тое, што першы зборнік быў ужо гатовы яшчэ ў 1943 г., нічога ня мог зрабіць: ня меў часу ні на карэкту, ні на канчальны адбор твораў. Па-першае, мусіў шмат працаваць, каб не загінуць ды, як кажуць, «выйсьці ў людзі» ў незнаёмым, эгаістычным і бяздушным сьвеце; па-другое, мусіў адбіваць брудныя наклёпы й мэтадычныя атакі камуністычных правакатараў, што выходзілі з тонка змайстраванай камбінацыі расейцаў-маскалёў, пуэртарыканцаў і вэнэцуэльцаў. Правакацыя набрала сілы й бессаромнасьці асабліва ў 1951 годзе, калі выйшла ў сьвет напісаная й перакладзеная мной у гішпанскую мову антыкамуністычная лятучка «Pueblo libre de Venezuela!» (У гэты час я належаў да АБН[102] у Вэнэцуэле й працаваў у якасьці заступніка старшыні).

Гэтымі днямі пачаў апошні перагляд зборнікаў і адзін зь іх - першы - перашлю ў набліжэйшым часе. Перапісваю начыста й зборнік прозы «Зоры зямныя». Пры першай магчымасьці пачну ладаваць асобныя выразкі й перадрукі з гішпанскае прэсы, бо бальшыня з надрукаванага захавалася ў адным экзэмпляры. Спачатку, аднак, перашлю весткі што да працы «Лясныя багацьці Вэнэцуэлы», выказваньні прэсы пра дзейнасьць у галіне батанікі, лесазнаўства, культываваньня сельска-гаспадарскіх культураў краю.

Коратка пра радыёперадачы «Вызваленьня». З гледзішча матар'яльнага ня маю ніякіх падставаў пакідаць Вэнэцуэлу. Забясьпечаны й маю ўсе магчымасьці, як кажуць, стаць нагамі на ўласны грунт, іншымі словамі - стацца гаспадаром вялікае фармы на новых землях (прапанавала дзяржава; нехаця сьмяюся ды прыгадваю

---

[102] Антыбальшавіцкі Блёк Народаў.

Коласавага дзядзьку ў Вільні). Прызнаньне й службовае становішча (дырэктар Экспэрымэнтальнага Цэнтру Аграрнага Інстытуту й Міністэрства Земляробства ў вобласьцях эўрапэйскіх каляністаў) паставілі мяне ў роўніцу з прывілеяванай інтэлігенцыяй краю (гэта, аднак, не выключае магчымасьці раптоўнага падзеньня: у краінах Паўдзённае Амэрыкі няма немагчымых рэчаў). Зрэшты, усе гэтыя плюсы й мінусы ня вельмі мяне цікавяць, галоўнае палягае ў іншым.

Я падыходжу да Вашае прапановы з гледзішча нацыянальнага, з гледзішча нацыянальнай карысьці маёй працы і, нарэшце, з гледзішча духоўнага самазахаваньня. Нацыянальны бок справы – ясны, як Божы дзень; нацыянальная карысьць працы палягае ў нязломнасьці й вытрываласьці духу й сэрца; трэба-ж зубамі вырываць чорную карту жыцьця із крывавых рук чырвонага акупанта-далакопа! Калі нацыянальная рэвалюцыйная інтэлігенцыя і Ўрад БНР уважае кандыдатуру маёй асобы карыснай і патрэбнай, я не магу не згадзіцца й не прыняць Вашую прапанову.

Шчырыя прывітаньні ўсім сябрам Інстытуту. Уладзімер Дудзіцкі»[103].

Лісты-ўспаміны генэрала Міколы Дзямідава[104] пра падзеі 1918-1921 гадоў дадаюць багата новага, у прыватнасьці, да разуменьня постаці Булак-Булаховіча й гісторыі стварэньня Беларускіх збройных сілаў[105].

Часамі для аўтара важным было ўзнавіць у памяці субяседніка, акрамя фактаў, падзеяў, імёнаў, – пахі,

---

[103]Ліст перахоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк).

[104]Біяграфічны матар'ял пра Міколу Дзямідава – ягоную вайсковую кар'еру, працу настаўнікам – гл. «Беларускі Голас», № 13, 1 чэрвеня 1955.

[105]Л. Юрэвіч. Да гісторыі Беларускіх збройных сілаў. «Беларус», студзень 1998, с.4-5.

колеры, гукі – сугестыўныя вобразы пакінутай Бацькаўшчыны. У такім выпадку ліст-успамін ставаўся імпрэсіяй, паэтычным творам:

«У Чыкага маім восень. На Беларусі, на маёй бацькаўшчыне, на маёй дзедаўшчыне і прадзедаўшчыне цяпер таксама час асеньні. На полі і ў лесе там цяпер лісьце на дрэвах і на кустах жаўцее, век свой дажывае, а на некаторых дрэвах і на кустох яно ўжо зусім пажаўцела і асыпаецца на дол, на зямлю: рэшткі лісьця жоўтага вецер зрывае з дрэў і кустоў і разьвейвае скрозь, кругом дрэва, далей - на палі, на лугі, на сьцежкі-дарожкі.

Прыгледзеўшыся да сьветла-жоўтага лісьця з дрэва-клёну, аж хочацца падняць яго, сабраць і занесьці дамоў да мамы, каб замест подсыпкі з адсеву мукі падлажыла кляновага лісьця. Які-ж гэты добры пах чуецца ад сподняй скарынкі хлеба, печанага на кляновым лісьцю! Гэтак было калісь перад вайной – там, на бацькаўшчыне... Тутака таго паху ані смаку ад жытняга хлеба з падсяванай мукі не дазнаеш, чалавеча. Так, мае даражэнькія, жоўты колер лісьця на дрэвах, на кустох – гэта знак восені.

Летам на беларускай зямельцы жаўцелі палі ад дзікай кветкі – сьвірэпкі, а вялікія абшары выглядалі жоўтымі ад сьпелага збожжа, у гародах жоўтым кветам цьвілі агуркі, гарбузы, сланечнікі. Ах, жоўтая кветка на Беларусі ёсьць скрозь і ўсюды знатнага роду!

А другі колер, сіні, радчэй на Беларусі спатыкаецца, але надта-ж ёсьць паважны. Сінім цьветам цьвіце лён. І як-жа міла, як прыгожа выглядае тады абсеяны лёнам палетак: сіні-сінюсенькі. Але сіні квет лёну маленькі ёсьць, дык да аздобы рэдка калі зрываецца. Затое большы квет, пахучы квет сіняга васілька. Як-жа часта здобіць, упрыгожвае ён вянком галоўкі дзяўчат, як-жа часта ў кубку з вадой цэлы пук васількоў сініх стаіць на вокнах у хатах вясковых і на стале!

Беларускі народ сваю спадобу да родных, добра знаных і мілых яму кветаў улажыў нават у песьню, якую прыйшлося мне пачуць і навучыцца ёй паўсотні год таму ад роднай маткі. Гэты мілы верш-песьню люблю я часамі ўспамінаць. Вось і зараз:

Няма квету пякнейшага,
Як сіні васілёчак.
Няма роду мілейшага,
Як мілы дружочак.
Няма квету знатнейшага,
Як жоўтая кветка.
Няма роду раднейшага,
Як родная матка»[106].

Як бачна, ліставаньне – надзвычай каштоўная, нават унікальная крыніца ўзбагачэньня ведаў пра беларускую гісторыю й культуру. Можна адно шкадаваць, што ўмовы жыцьця нашых суайчыньнікаў на эміграцыі – няпэўнасьць існаваньня ў лягерох ДП, трывожнае чаканьне наступнага дня, частыя пераезды – не спрыялі захаваньню архіваў. Але нават тое, што зьбераглося, – гэта неацэнны скарб, збор і публікацыя якога толькі распачынаецца.

Здаралася, што да ўспамінаў зьвярталіся падчас **выступленьняў, прамоваў** на ўрачыстых імпрэзах, акадэміях. Прыкладам такога выступленьня зьяўляецца «Прамова доктара Івана Ермачэнкі на ўрачыстасьці 40-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі»[107]. У невялікай прамове Іван Ермачэнка закрануў сваю дзейнасьць у якасьці консула на Балканах (а яна

[106]Ліст Эдварда Будзькі да Міколы Панькова надрукаваны ў газэце «Беларус», верасень-кастрычнік, 1996, с.9.
[107]У кнізе: 40-я Ўгодкі абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Нью-Ёрк, 1958, с.40-47.

доўжылася да 1925 году), існаваньне беларускага батальёну ў Вількавішках, на чале якога стаяў маёр Ружанцоў; кангрэс у Празе Чэскай, не апошнюю ролю ў правядзеньні якога адыграў прэзыдэнт Масарык; спрэчкі ва Ўрадзе БНР вакол запрашэньня бальшавікамі будаваць агульны «беларускі дом»:

«Я пастараюся сягоньня даць насьвятленьне гэтай галіны нашай гісторыі, паколькі мне дазваляе мая памяць з асабістага ўдзелу ў дзейнасьці тых часоў. Нашы дзяржаўныя архівы засталіся ў Беларускім Архіве ў Празе й сяньня недаступныя да карыстаньня, таму мне прыходзіцца абмежавацца собскімі ўспамінамі»[108].

У гэтай прамове Ермачэнка ўспамінае й цікавы, малавядомы факт – існаваньне прадстаўніцтва Беларускага Ўраду ў Канстантынопалі. Іван Ермачэнка ў 1920 г. апынуўся ў гэтым горадзе, што стаўся адным з цэнтраў сусьветнай эміграцыі. Уцекачы ў пошуках ратунку, спосабаў выжываньня стваралі арганізацыі, якія маглі-б заапекавацца імі й прадстаўляць іхныя інтарэсы ў сьвеце. Зарганізаваліся й беларусы – быў створаны Беларускі Камітэт на чале з Базарэвічам. Менавіта гэты камітэт выправіў Ермачэнку ў Коўна для навязаньня лучнасьці з Урадам БНР. Як расказвае пасланец, «прыбыўшы ў Коўню, я зрабіў шырокі даклад Прэзыдэнту Рады БНР Пётру Крэчэўскаму й на агульным паседжаньні Рады і Ўраду БНР зрабіў прапанову адчыніць Прадстаўніцтва БНР на Балканах, з галоўнай сядзібай у Канстантынопалі й консульствамі ў Баўгарыі і Югаславіі. Прэзыдэнт і ўвесь урад аднагалосна акцэптавалі маю прапанову, і ■ атрымаў намінацыю, падпісаную грам. В. Ластоўскім, Старшынёй Ураду БНР, на Дыпляматычнага Консуля Беларусі на Балканах»[109].

---

[108]Тамсама, с.40-41.
[109]Тамсама, с.41.

Для афіцыйнай працы прадстаўніцтва трэба было атрымаць прызнаньне ня толькі турэцкага ўраду, але й тых краін, што пасьля Першай сусьветнай вайны акупавалі й падзялілі горад на зоны – ад Амэрыкі, Англіі, Францыі, Італіі, Грэцыі. Былі разасланыя копіі дакумэнтаў прадстаўнікам гэтых дзяржаваў. Неўзабаве прыйшло прызнаньне з Парыжу, потым – зь Італіі й Грэцыі. Прадстаўнікі Англіі і Амэрыкі ўстрымаліся ад прызнаньня, але запэўнілі, што аніякіх перашкодаў працы консуляту рабіцца ня будзе. Такім чынам, у 1921 г. бюро пачало працаваць.

«Па адчыненьні консульскага аддзелу я паставіў на яго чале грам. Аўчыньнікава, сакратаром быў грам. Лазарэвіч, а другім сакратаром быў грам. Абрамовіч. Праца консульскага аддзелу была вельмі вялікая: шмат беларускіх афіцэраў і жаўнераў было рэпатрыявана ў беларускі батальён ці на пражыцьцё ў Літву, шмат эміґравала ў Амэрыку і іншыя дзяржавы, дзе яны атрымалі працу й засталіся на пастаянна. Усе гэтыя эміґранты выяжджалі зь беларускімі пашпартамі, якія ў тыя часы наагул афіцыйна прызнаваліся й візаваліся безь перашкодаў.

Па наладжаньні працы консуляту ў Канстантынопалі я зрабіў падарожжа ў Баўгарыю і Югаславію, дзе адчыніў консульскія аддзелы з мэтай дапамогі беларусам у рэпатрыяцыі і эміґрацыі. Па рэкамэндацыі Беларускага Камітэту ў Баўгарыі быў пастаўлены кіраўніком консульскага аддзелу генэрал Галубінцаў, а ў Югаславіі – капітан, прозьвішча якога ня памятаю. Я даў ім адпаведныя інструкцыі ў паразуменьні зь міністрамі замежных спраў Баўгарыі і Югаславіі, і праца разгарнулася. З рэгулярных справаздачаў я бачыў, што беларуская справа карыстаецца пашанай у адпаведных установах, а беларусы атрымліваюць апеку й падтрыманьне»[110].

---

[110]Тамсама, с.43-44.

Прамовы, віншаваньні, словы на ўрачыстасьцях, зьвязаных са сьвяткаваньнем угодкаў, юбілеяў дзеячаў, – гэта таксама нагода да ўспамінаў. Яны рэдка траплялі ў друк, а таму тая каштоўная інфармацыя, якая пракідаецца ў іх, звычайна заставалася недаступнай і невядомай, нават калі аўтары выступленьняў захоўвалі тэксты ў сваіх архівах, як гэта зрабіў, прыкладам, Васіль Плескач з тэкстам свайго выступленьня на сьвяткаваньні 70-цігодзьдзя Язэпа Сажыча ў 1987 годзе[111]:

«Юзік з Гарадэчні, так называлі яго жыхары Навагрaдка, што бачылі малога хлапца, які кожны школьны дзень ішоў пехатою ў школу з Гарадэчні, дзе ён нарадзіўся 5 верасьня 1917 году. Нарадзіўся ня ў бацькоўскай хаце, бо акупацыйныя нямецкія ўлады перасялілі сям'ю Сажычаў у дом блізкага суседа Смаля, так Юзік атрымаў яшчэ адну мянушку – Смалько.

Дзед Юзіка Тамаш жыў у Нягневічах і належаў да Храптовіцкіх Шчарсуноў (назва гэтая паходзіла ад імя графа Храптовіча, які меў велізарныя абшары зямлі з галоўным маёнткам у Шчорсах). Бацька Юзіка Сымон быў у Злучаных Штатах, але вярнуўся дадому перад выбухам Першай сусьветнай вайны, бо ягоная жонка нечакана памерла, пакінуўшы чатырох дзетак. Сымон ажаніўся другі раз з маладой дзяўчынаю Вераю з Дарашэвічаў, зь якой меў адну дачку й сына – Юзіка. На жаль, у 1919 годзе бацька памёр у час эпідэміі «гішпанкі», пакінуўшы маладую ўдаву з шасьцю дзецьмі»[112].

Але было-б памылкаю лічыць, што нават на такіх прынагодных выступах, дзе, здавалася, тэма канкрэтна

---

[111] В. Плескач. Віншавальнае слова на 70-годзьдзе Язэпа Сажыча. 1987. Рукапіс перахоўваецца ў прыватным архіве В. Плескача (Дэтройт, ЗША). Урыўкі друкуюцца з ласкавага дазволу аўтара віншавальнага слова.

[112] Тамсама.

акрэсьлена, пэрсаніфікавана, прамоўцы абмяжоўвалі свае ўспаміны-віншаваньні адно юбілянтамі. Часта такія віншавальныя словы ператвараліся ў міні-лекцыі па гісторыі краю, гісторыі беларусызацыі, гісторыі антыбальшавіцкага і антыпольскага змаганьня:

«У Наваградку апынуліся многія слуцкія паўстанцы – браты Аркадзь і Хведар Караткевічы, Віктар Шапялевіч, адвакат Савіч, судзьдзя Біруковіч, якія прывезьлі з сабою беларускую літаратуру, нацыянальныя песьні й лёзунгі паўстанцаў, ідэі 25 Сакавіка й пры кожнай нагодзе вучылі наваградзкую моладзь гісторыі сваёй Бацькаўшчыны»[113].

Прамоўца расказваў пра Наваградзкую гімназію, пералічваў прозьвішчы выкладчыкаў, вучняў, спрыяльных беларускай справе й школьніцтву, быццам імкнуўся аб'яднаць і тых людзей, што даўно адышлі, загінулі, і тых, хто сядзеў перад ім у залі, сьцьвердзіць гэтым еднасьць, непарушнасьць лучнасьці паміж даваеннымі змагарамі за беларушчыну й сёньняшнімі эмігрантамі.

Форма вусных успамінаў шырока выкарыстоўвалася на навуковых канфэрэнцыях, вечарах памяці, ладжаных Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) на працягу многіх гадоў[114].

---

[113]Тамсама.

[114]20.3.1954. Вечар памяці кампазытара Міколы Равенскага. Успаміны М. Абрамчыка, А. Орсы, Б. Вержбаловіч, А. Адамовіча («Запісы БІНіМа», № 1, 1954, весткі хронікі, с.64); 16.10.1954. Успаміны пра Алёізу Пашкевічанку Кайрыс-Цётку. Успаміны Стэпонаса Кайрыса і Ю. Вітан-Дубейкаўскай («Конадні», № 3, 1955, весткі хронікі, с.92; «Беларус», № 4, 1954, весткі хронікі, с.7); 21.1.1967. Вечар памяці сьпявачкі Барбары Вержбаловіч-Вербіч. Успаміны А. Адамовіча, Н. Чамярысавай-Майсеевай, М. Куліковіча («Беларус», № 118, 1967, весткі хронікі, с.3); 24.5.1969. Вечар памяці кампазытара Міколы Куліковіча-Шчаглова. Успаміны А. Адамовіча, Н. Кушаль («Беларус», № 146, 1969, весткі хронікі, с.3); 6.4.1974. Вечар памяці Лявона

З гэтага бачна, што і выступленьні, і прамовы, і віншаваньні таксама могуць утрымліваць важную інфармацыю аб мінулым, гэта значыць, лічыцца адной з формаў мэмуарыстыкі.

Традыцыйнай формай мэмуарнай літаратуры зьяўляюцца **дзёньнікі**. На жаль, у беларускай эміграцыйнай мэмуарыстыцы вядомыя сёньня толькі лічаныя запісы падзеяў штодзённага жыцьця. Думаецца, перш за ўсё, гэта тлумачыцца тым, што амаль усе беларускія эмігранты фармаваліся ў савецкі час: жыцьцё ў атмасфэры даносаў, перасьледу, пакараньня за жывое слова й вольную думку – даверанае паперы, сваё, сукрытае, магло абярнуцца абвінавачаньнем супраць самога аўтара[115]. Другой прычынай магло быць нежаданьне аўтараў выносіць сваё прыватнае жыцьцё на публічную арэну.

Але ўсё-ж мы маем дзёньнікі айца Язэпа Германовіча, біскупа Чэслава Сіповіча, Мікалая Мацукевіча (Мітрапаліта Мікалая), айца Т. Падзявы[116], Леніда Галяка (што не выключае існаваньня і іншых дзёньнікаў).

---

Савёнка (Крывічаніна). Успаміны А. Адамовіча ды іншых («Беларус», № 204, 1974, весткі хронікі, с.2); 15.2.1975. Вечар памяці Юркі Віцьбіча (Стукаліча). Успаміны С. Станкевіча, А. Адамовіча, Л. Гарошкі, А. Шукелойця, В. Кендыша ды іншых («Беларус», № 215, 1975, справаздача, с.4); 2.5.1976. Успаміны А. Адамовіча пра Ўладзімера Дубоўку («Беларус», № 230-231, 1976, весткі хронікі, с.8).

[115]Вось сьведчаньне былога савецкага пісьменьніка, цяпер эмігранта Б. Хазанава: «Як усё недазволенае, ён (дзёньнік) крамольны, хаця-б у ім не было ні аднаго слоўка крамолы. Знойдзены пры вобыску, ён абарочваецца доказам, служыць сродкам шантажу». (Борис Хазанов. Дневник сочинителя. «Октябрь», № 1, 1999).

[116]Захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны (Лёндан).

Імя айца марыяніна Язэпа Германовіча добра вядома, як і ягоныя літаратурныя працы, падпісаныя псэўданімам Вінцук Адважны, – «Байкі», «Князь і лапаць».

Айцец Германовіч вёў «Дзёньнік Адважнага Гультая»[117] з 1967 да 1970 году. У запісе ад 23.08.1967 году ён так тлумачыць назоў: «Наагул ня ўмею каардынаваць працу з адпачынкам і знайсьці «залатую сярэдзіну» ў сваіх занятках. Найтрудней з квэстыяй страты часу. Дзіўлюся, як умеў згарманізаваць свае абавязкі Папа Ян XXIII? Здаўна ■ меў клопаты з партыкулярным рахункам сумленьня й праз доўгі час яго, так сказаць, забыўся адпраўляць і проста адвык! Цяпер, прачытаўшы «Дзёньнік Душы» Папы Яна, мушу зь вялікім стыдом прызнацца перад Богам і перад сабою ў сваім нядбальстве і абавязкова паправіцца! І мушу перахрысьціць гэтыя свае дзеі: няхай называецца «Дзёньнік Адважнага Гультая» – гэта якраз адпавядае майму характару, чалавека запальчывага, які бярэцца энэргічна за новае, але ня мае вытрываласьці й запускае справы надта важныя дзеля, як яму здаецца, важнейшых, якія сапраўды ня бываюць важнейшыя».

Дзёньнік айца Германовіча – гэта дзёньнік сьвятара, напоўнены малітвамі, роздумам пра Беларусь і Бога. Але зрэдзьчасу ў ім занатоўваюцца і ўспаміны – з нагоды юбілеяў (80-цігодзьдзя зь дня нараджэньня й 60-цігодзьдзя сьвятарства), або, як у запісе ад 10.01.1972 году – як разьвітаньне зь сябрамі: «Чатыры сьмерці, зь якімі я быў зьвязаны й дружбай і іншым. Брат С. Даджанс. Францішак Савіцкі, мой дзядзька, памёр у Амэрыцы 19.11.1971 г. Пахаваны 23.11. Гэта наймалодшы брат маёй маткі і ён малодшы ад мяне на чатыры гады, бо мая матка была найстаршая дачка ў сям'і, а Франак быў наймалодшы з 14

[117]Захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны (Лёндан).

дзяцей. І Франак быў нежанаты. Я-ж наведваў яго ў Амэрыцы ў 1960-61 гг., і ён мяне вызваў, паслаўшы на дарогу 500 даляраў. 24.12 памёр у Польшчы ў кляштары Скужэц (ля Седлец) а. Віталіс Хамёнак, марыянін, 83 гады, чалавек саліднай цноты, ведамы спавяднік законьнікаў. Гэта адзін з вывезеных польскай паліцыяй законьнікаў-марыянаў, беларусаў з Друі. І Віталіс быў чалавекам тыпова беларускага характару: абавязковы й станоўкі, марудны, але чэсны да высокай ступені ахвярнасьці, разумна пабожны й глыбокай простай веры. Падчас вайны ў Варшаве, не зважаючы на франты, усюды йшоў спавядаць хворых, куды заклікалі; меў прастрэленую сутану, паліто й брэвіяр, які трымаў у руках, але сам ранены ня быў. Вялікі й грузны, дагодны да прыцэлу, на дзіва быў пад Божаю апекай і нікога не баяўся. Памёр 24.12, а пахаваны 28.12.1971. Спадар Дамінік Аніська, наш прыяцель і супрацоўнік у часапісе «Божым Шляхам», 83 гады, памёр у Лёндане нагла. Чалавек вялікай цноты. У арміі расейскай на І-ай вайне быў мабілізаваны – прапаршчык, а пасьля ў польскай на Украінскім фроньце ды ў ІІ-й вайне ў польскай – афіцэрам. Аднак ва ўсіх войнах і на франтох трапляў на пару замірэньня ды ня ўчасьнічаў у баёх. Нежанаты. Пабожны й хрысьціянскі пісьменьнік, які ўсьцяж заклікаў вернікаў да міласьці Божай і бліжняга. Выдаў некалькі брашураў у мове беларускай і польскай, але найбольш пісаў артыкулы па-беларуску. Памёр 28.12.1971г., пахаваны 7 студзеня 1972 г. на магільніку сьв. Панкрата ў Лёндане ў беларускім кутку.

Гэтыя чатыры сьмерці даюць мне добры прыклад, як жыць у старасьці з Богам і з Богам памерці. Стараюся прывыкнуць да гэтай думкі – памерці, хоць неяк яна мне ня ўкладваецца ў розум: не магу ясна зьмеркаваць, як праходзіць той марш з гэтага на той сьвет? Бярэ, праўда, цікавасьць – пабачыць «той сьвет», але пацягу да таго ня маю. Ведаю, што людзі найбольш неспадзявана, нават і

падчас цяжкіх хваробаў, пераходзяць туды, а мне вельмі хацелася-б (і малюся аб тым) памерці сьведама й пасьля належных Сакрамантаў дый прыгатаваны адысьці з гэтае «даліны плачу» ў тую рашучую вечнасьць. Ах, Божа, памажы! І Божая Маці, сьцеражы. І Сьвяты Язэпе, адвядзі, як мой верны Патрон, ад шчасьлівай сьмерці!».

Дзёньнік пісаўся спачатку на асобных аркушах паперы, а потым пераплятаўся ў агульныя сшыткі – аўтар хацеў, каб яны былі прачытаныя. Пра тое сьведчыць і адзін з апошніх запісаў (27.08.1972): «А наконт самога «Дзёньніка», дык няхай цярплівы Чытач хоць раз шчыра пасьмяецца зь мяне, дык мне ў магіле лягчэйшая будзе лёнданская гліна... Брр! Ня хочацца ў гэтую гліну (а можа яшчэ й мокрую?) мне класьціся. О, каб у беларускі пясочак!.. І аставайцеся, Чытачы, здаровыя й вясёлыя! Ваш Я. Г.».

Біскуп Чэслаў Сіповіч пісаў свой «Дыярыуш»[118], наадварот, без намеру калі-небудзь друкаваць яго; на такую думку наводзіць ужо тое, што пераважная большасьць старонак напісана італійскай мовай і лацінай, толькі асобныя запісы зробленыя на беларускай мове – лацінкаю.

«Дыярыуш» Сіповіча – гэта, у першую чаргу, дзёньнік рэлігійнага й грамадзкага дзеяча, у якім занатоўвалася зробленае й плянаванае. Але ягоны дзёньнік – і сьведчаньне цікавасьці да людзей, глыбокага разуменьня чалавечай натуры. Ягоныя назіраньні, часам поўныя болю й расчараваньня ў людзях, не перашкаджалі яму любіць іх з усімі іхнымі недахопамі.

Ён умеў радавацца зробленаму – ня толькі самім, але і іншымі, ня толькі на эміграцыі, але й на Беларусі: «Сёньняшні дзень радасны: мы атрымалі першы том Этымалягічнага Слоўніка Беларускай Мовы. Я, магчыма,

---

[118]Захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны (Лёндан).

першы маліўся з гэтае нагоды ў капліцы й дзякаваў Богу за гэтакі дар. Як-жа нам цяжка даганяць культурны сьвет! Аднак каб хтосьці зрабіў статыстыку, якія народы і ад якога часу маюць свае этымалягічныя слоўнікі, то думаю, што яшчэ шмат знайшлося-б бязь іх. У Эўропе, аднак, гэта ня толькі прызнак сьведамага культурнага жыцьця народу, але гэта ёсьць неабходнасьць да далейшых студыяў роднай мовы. Гэта – скарбніца найдаражэйшых дыямантаў, якія можна пераглядаць, цешыцца імі. Якую адвагу мелі першыя беларускія адраджэнцы, пісьменьнікі, паэты, палітыкі, нашыя сьвятары, што былі ў першых радох змагароў за мову! Творцамі Яе ўсе – прапрапрадзеды, бедныя й багатыя, вучоныя й няграматныя людзі. Колькі разоў я заглядаў у чужыя слоўнікі й шукаў пачатку слоў. Хацелася дайсьці да Адама і Эвы й даведацца, якою яны гаварылі моваю. Чаму такая прыгожая грэцкая, італійская мовы? І горка рабілася мне на душы, калі чуў пагарду да сваёй мовы. Не магу забыцца таго доктара Залускага, марыяніна, які бясстыдна, ня ведаючы сам ані прынцыпаў філялёгіі, ані больш славянскіх моваў, апрача польскае, гаварыў: «Có-ž to za białoruska mowa? To-ž dialekt». Я тады не пагаджаўся зь ім, але я ня ведаў, як яму даказаць! Я-ж ніколі ня меў шчасьця добра пазнаць сваю мову ў школах сваіх родных! Але я да сьлёз любіў сваю мову й не забыўся Яе, хаця гадамі, жывучы ў Рыме, я ня меў да каго загаварыць свайго роднага слова. Баяўся, што забуду Яе гукі, Яе выгавар, што разгублю свой скарб і, знаючы іншыя мовы, стануся жабраком найбяднейшым, згубіўшым сваё! Але Ты, Божа, не дапусьціў да гэтага. І я пасьля нават стаў пісаць і друкавацца ў сваёй мове. І сяньня трымаю ў руках этымалягічны слоўнік сваёй беларускай мовы! І як-жа я рады знайсьці там слова *Бог* на старонцы 366! Значыць, праўдзівая навука не фанатычная, не бязбожна-марксісцкая. Яна кажа, што славяне маюць слова *Бог* і што, магчыма,

гэтае слова праз стагодзьдзі пераклікаецца са стараіндыйскім *багацьце, шчасьце.* Так нашая навука сталася багацейшай, і мы - усе беларусы - шчасьлівейшыя. О, каб дачакацца мне яшчэ апошняга тому! Але ўжо й за гэты я дзякую Богу й тым нашым навуковым працаўнікам за гэтакі падарак».[119]

Дзёньнікі Мікалая Мацукевіча й Леаніда Галяка сталіся асновай іхных успамінаў, пра якія будзе гаворка далей.

Уласна **ўспаміны** займаюць галоўнае месца сярод публікацыяў беларускай эміграцыйнай мэмуарыстыкі. Найбольшая частка іх выдрукавана ў пэрыядычным друку. Яны зьяўляліся на старонках амаль усіх беларускіх эміграцыйных часапісаў і газэтаў, ахаплівалі шырокае кола тэмаў, у тым ліку й тых, што заставаліся па-за ўвагай аўтараў кніг.

Пачнем разгляд успамінаў з кніжных выданьняў[120].

Адно зь першых – «Успаміны» сэнатара Васіля Рагулі[121], выдадзеныя ў 1957 годзе пасьля сьмерці аўтара. Разам з тым, гэта першая кніга, якая апавядае пра падзеі дваццатых гадоў XX веку – Грамаду, Сойм. Як ніякая іншая, яна прыцягнула да сябе ўвагу эміграцыі, выклікала хвалю водгукаў, артыкулаў, узварушыла думку, узьняла шэраг пытаньняў.

Успаміны пра беларускае палітычнае змаганьне ў Сойме й Сэнаце, гісторыя Беларускага Пасольскага Клюбу й народзіны Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады[122]

---

[119]Ч. Сіповіч. «Дыярыуш», запіс ад 22.02.1979.

[120]Пералік манаграфічных выданьняў эміграцыйнай мэмуарыстыкі зьмешчаны ў канцы кнігі.

[121]В. Рагуля. Успаміны. Выданьне М. Рагулі. Нью-Ёрк, 1957.

[122]Шмат публікацыяў (часам не падпісаных) пра Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду было ў газэце «Беларускі Голас». Да прыкладу: Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. «Беларускі Голас», №81, травень 1961; 40-годзьдзе масавага руху

напісаны знутры – адным з тых, хто, разам з Браніславам Тарашкевічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім ды іншымі беларускімі дзеячамі браў чынны ўдзел у змаганьні за незалежнасьць Беларусі ад Польшчы.

З успамінаў паўстае постаць аўтара як чалавека, які здольны глядзець на сябе й навокал цьвяроза й ня мае жаданьня праз гады перапісваць гісторыю ці ўпрыгожваць самога сябе. Пра сябе, дарэчы, ён піша даволі жорстка (трэба ўлічваць, што «Ўспаміны» ствараліся на выгнаньні палітычным, а для беларусаў, можна сказаць, – на выгнаньні нацыянальным): «У той час я сапраўды стаяў на пункце гледжаньня фэдэрацыі з Расеяй, адхіляючы ідэю незалежнасьці, як падсунутую, паводле майго тагачаснага пераконаньня, палякамі»[123].

Сувора ацэньвае Васіль Рагуля й прычыны правалу выбараў у Сойм: «Дзе-ж прычына нашага ў сапраўднасьці выбарчага паражэньня? У народзе? Не! У кіраўніцтве выбарамі? Так! Сябры Цэнтральнага Выбарчага Камітэту ў Вільні не былі самі ўпэўнены ў посьпеху прадпрыемства, былі апантаныя польскім тэрорам і пагоняю за мандатамі»[124].

Галоўная ідэя ўспамінаў – палітычнае жыцьцё беларусаў у Заходняй Беларусі, змаганьне за беларускасьць. Няпросты шлях, відаць, прайшоў і сам аўтар, але ён не адлюстраваны ў кнізе. Затое паказана, як дэпутаты Сойму змагаліся з апалячваньнем і як большасьць зь іх – хто сьвядома, а хто не, – здрадзілі гэтай ідэі, зрабілі, як піша аўтар, «сальта-мартале да ўгоды», а гэта ня толькі саступка палякам, а ўдзел у стварэньні КПЗБ. Потым, на

---

Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. «Беларускі Голас», №148, красавік 1967; №149, травень 1967; №150, чэрвень 1967; №151, ліпень 1967.

[123]В. Рагуля. Успаміны, с.20.

[124]Тамсама, с.29.

Салаўках, тыя, што засталіся жыць, ня раз згадвалі ды й перадумвалі зробленае (пра тое сьведчаць успаміны Сямёна Підгайнага «Беларусы на Салаўках»).

Партрэты вядомых беларускіх дзеячаў ва ўспамінах Васіля Рагулі таксама пазбаўлены сьветлых фарбаў. Прыкладам, пра Антона Луцкевіча аўтар пісаў: «Гэта быў чалавек зь вялікай хваравітай амбіцыяй, добры крытык, глыбокі знаўца беларускай літаратуры й слабы палітык. Кожнага, хто не пагаджаўся зь ягонымі паглядамі, ён уважаў за асабістага ворага й пісаў аб ім усякія паклёпы, ня лічачыся з этыкаю сапраўднага журналіста»[125]. І далей, гаворачы пра суд над Грамадой: «Ён нават напалову адрокся ад свае нацыянальнасьці. Будучы арыштаваны ў справе Грамады, на допытах, на пытаньне аб ягонай нацыянальнасьці, адказаў: «białorusin - polak». Для ідэалёга й лідара Грамады – гэта непрабачальны грэх»[126] .

Калі такая характарыстыка была дадзеная Антону Луцкевічу, што карыстаўся нязьменным аўтарытэтам у значнай часткі передавой беларускай інтэлігенцыі на бацькаўшчыне й на эміграцыі, нічога дзіўнага, што вобразы больш блізкіх – па часе ды месцы знаходжаньня – дзеячаў (прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, былога сэнатара Юркі Сабалеўскага, Янкі Станкевіча) атрымаліся таксама далёка не панэгірычнымі. Прыкладам, пра Янку Станкевіча аўтар піша, што той «застаўся дзікім і не ўвайшоў ні ў адну беларускую групоўку; дый яго ніводная й не прыняла-б»[127].

Менавіта Янка Станкевіч і распачаў дыскусію ў газэце «Бацькаўшчына», прысьвечаную «Ўспамінам» Васіля Рагулі. Свой першы вялікі - з працягам на тры нумары – артыкул ён так і назваў – «На бакох «Успамінаў» Васіля

---

[125]Тамсама, с.61.
[126]Тамсама, с.64.
[127]Тамсама, с.89.

Рагулі»[128]. Потым у палеміку ўступілі Аляксандар Орса[129], А. Стагановіч [130], які пазьней таксама напіша надзвычай цікавыя ўспаміны пра Сойм (на жаль, гэтыя ўспаміны яшчэ не апублікаваныя[131]). Успаміны Юрыя Сабалеўскага прысьвечаны гэтай-жа тэме[132], як і новыя палемічныя артыкулы Янкі Станкевіча[133].

Што мэмуары ўспрымаліся неабыякава, абвострана, асабліва тымі, хто, як і аўтар, быў непасрэдна далучаны да апісаных падзей, сьведчыць і рэакцыя беларускай эміграцыі на ўспаміны Я. Малецкага «Пад знакам Пагоні»[134], часткова блізкія да кнігі В. Рагулі. Гэтай кнізе быў прысьвечаны адмысловы выпуск «Летапісу» (пазьней – «Летапіс Беларускай Эміграцыі»), № 11 за 1976 г. з артыкулам Л. Галяка «Аб кнізе Я. Малецкага, аб хадэках

---

[128] Я. Станкевіч. На бакох «Успамінаў» В. Рагулі. «Бацькаўшчына», № 804, 4 траўня 1958, с.2-3; № 19(405), 11 траўня 1958, с.2-3; № 20(406), 18 траўня 1958, с.3-4.

[129] А. Негнявіцкі. Да «бакоў» доктара Станкевіча аб «Успамінах» В. Рагулі. «Бацькаўшчына», № 26(412), 13 ліпеня 1958, с.4.

[130] А. Стагановіч. У абарону «Ўспамінаў» Васіля Рагулі. «Бацькаўшчына», № 29-30 (415-416), 10 жніўня 1958, с.3-4; А. Стагановіч. Мой адказ Я. Станкевічу. «Бацькаўшчына», № 47 (433), 7 лістапада 1958, с.3-4.

[131] Успаміны перахоўваюцца ў сям'і А. Стагановіча.

[132] Ю. Сабалеўскі. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. «Аб'еднаньне», № 4, 1962, с.11-14; № 5, 1963, с.11-14; № 6, 1964, с.12-15; № 7, 1965, с.8-14; № 8, 1966, с.16-22; № 1, 1967, с.14-16; № 2, 1968, 16-19; № 3, 1969, с.8-11; № 4, 1970, с.11-14; № 5, 1971, с.6-10; № 6, 1972, с.10-15; № 3, 1975, с.14-18; № 4, 1976, с.5-8; № 5, 1977, с.7-11; № 6, 1978, с.4-7; № 2, 1980, с.7-9; № 3, 1981, с.13-17.

[133] Я. Станкевіч. Чыя тэндэнцыя? «Бацькаўшчына», № 34(420), 7 верасьня 1958, с.3-4; Я. Станкевіч. Колькі зацемкаў да Стагановічавае абароны «Ўспамінаў» В. Рагулі. «Бацькаўшчына», № 5(421) 14 верасьня 1958, с.3-4.

[134] Я. Малецкі. Пад знакам Пагоні. Таронта, Канада, 1976.

і аб палянафілах», дзе крытык пісаў наступнае: «Трэба выказаць жаль, што кніга абымае толькі некалькігадовы пэрыяд нашага нацыянальнага руху і адно толькі папярэджана ўступам, папраўдзе, партыйным уступам, які апісвае часы польскай акупацыі Беларусі паміж дзьвюма войнамі, якія адбываліся на абшары нашай Бацькаўшчыны. У кожным выпадку, незалежна ад зьместу, трэба выказаць Я. Малецкаму падзяку за зробленае, бо лепш нат' незадобра напісаная кніга, як ніякай»[135].

Артыкул Леаніда Галяка, як і палеміка вакол успамінаў В. Рагулі, закранаў канкрэтныя падзеі мінулага, што ляглі ў аснову абедзьвюх працаў, ацэнкі людзей і самой сытуацыі на Беларусі. У пэўнай ступені гэтыя артыкулы зьяўляюцца камэнтарамі прадузятых чытачоў. Ісьціна, магчыма, была недзе пасярэдзіне. Але, як сказаў Гётэ, у такіх выпадках пасярэдзіне ляжыць праблема. Вырашэньне гэтай праблемы – справа гісторыкаў...

Дзёньнікі Л. Галяка сталіся асновай ягоных «Успамінаў»[136], пра што й гаворыцца ў «Паслоўі ад рэдакцыі»[137]. Леанід Галяк надаваў вялікае значаньне сьведчаньням відавочнікаў, кожнаму зьберажонаму факту.

Яшчэ ў артыкуле, прысьвечаным успамінам Малецкага, Галяк пісаў: «Многа ўжо гадоў я заўсёды пры спатканьні зь сябрамі ці знаёмымі раджу кожнаму, каб купіў сабе пачку паперы ці гукапісны апарат і апісваў сваё жыцьцё, што бачыў на жыцьцёвым шляху, што перажыў сам ці чуў ад верагодных асобаў, бо вельмі многа хто з нас мае ў памяці цікавыя дэталі адносна асабістага, грамадзкага

---

[135]«Летапіс» (Нью-Ёрк), № 11, 1976, с.1

[136]Леанід Галяк. Успаміны. Т. 1 і 2. Выдавецтва «Летапіс», ЗША, 1982-1983. Першая кніга ахоплівае падзеі ад 1928 да 1944 году, другая – да 1980 г.

[137]Тамсама, т.2, с.155.

й нацыянальнага жыцьця, але ўсё гэта загіне, калі ня будзе той ці іншай тэхнікай зафіксавана.

Для будучых гісторыкаў, для нашых нашчадкаў такія запісы будуць бясцэнным матар'ялам, і выкарыстаньне запісаў паасобных дэталяў дасьць магчымасьць стварыць шырокі абраз праўдзівых падзеяў пэўнага часу – шырокі мазаічны абраз, – дзе паасобныя дэталі будуць тымі кавалачкамі рознакаляровага шкла, зь якіх складаецца мазаіка гісторыі.

Можна, праўда, на гэта адказаць, што лягчэй радзіць іншым, – заўсёды знаходзяцца перашкоды да выкананьня, зь якіх галоўныя: неабходнасьць займацца больш актуальнымі справамі, адсутнасьць часу ды энэргіі пасьля заробкавай працы й г.д. Нягледзячы, аднак, на перашкоды, я асабіста маю таксама трохі запісаў, якія, калі ня ўдасца апублікаваць, дык будуць перададзеныя на перахаваньне ў адну зь беларускіх установаў»[138].

Так і сталася: «Успаміны» былі выдадзены пасьля сьмерці аўтара ўдавой Леаніда Галяка – Раісай пры дзейснай дапамозе Міколы Панькова, кіраўніка Беларускай Бібліяграфічнай Службы.

Сутнасьць працы Л. Галяка добра акрэсьлена ва «Угледзінах», напісаных, праўдападобна, М. Паньковым: «Шэрагі нашае эміграцыі штогод малеюць, адыходзяць на вечны адпачынак тыя, хто ведалі многае. Маладое пакаленьне неяк ня вельмі да нас далучаецца. Большасьць адышоўшых, за невялікім выняткам, не пакінула будучыні сваіх жыцьцёвых назіраньняў і практыкі жыцьця з пройдзенае дарогі змаганьня за Беларушчыну, за дзяржаўнасьць.

---

[138] Л. Галяк. Аб кнізе Я. Малецкага, аб хадэках і аб палянафілах. «Летапіс», №11, 1976.

[332] Леанід Галяк. Успаміны, т.1, с.3.

Гэта тым больш непакоіць, што нашыя ворагі спрытна падкідаюць нам розныя фальшыўкі, недамоўкі й нават выдумкі ды стараюцца дэзарыентаваць нашую эміграцыю рознымі спосабамі.

Цяпер мы выдаем тое нямногае, што напісана праўдзіва, без хлусьні, без цэнзуры, без запалохваньняў.

Першая кніга «Ўспамінаў» магістра права Леаніда Галяка, які адышоў ад нас нечакана й прадчасна, – гэта ўдакумэнтаваная праўда ягонага беларускага жыцьця ад 1928 году да ягоных апошніх дзён. Гэта найлепшае сьведчаньне ня толькі для нас, але, галоўнае, для гісторыі нашае эміграцыі. Успаміны закранаюць амаль усіх нашых дзеячаў, зь якімі прыходзілася яму мець дачыненьні»[139].

Успаміны М. Мацукевіча (Мітрапаліта Мікалая)[140], напісаныя напрыканцы 90-х гадоў зь сёньняшнім разуменьнем мінулага, уключаюць (як выглядае, бязь зьменаў, што адрозьнівае іх ад успамінаў Л. Галяка) дзёньнікі, якія вяліся аўтарам на працягу 40-50-х гадоў. Таму ва ўспамінах М. Мацукевіча мы ня знойдзем больш-менш зьвязнай падрабязнай гісторыі эміграцыі ці жыцьцяпісу самога аўтара; хутчэй за ўсё, гэта тыя самыя – няхай нават зробленыя ў пазьнейшыя часы – запісы прыватнага чалавека пра свой прыватны дзень, які выпадкам апынуўся на гістарычных скрыжаваньнях. Стварэньню такога ўражаньня дапамагаюць і мяккі аўтараў гумар, і самаіронія, а таксама той падыход у апісаньні мінулага, калі падзеі рознай гістарычнай важкасьці для самога аўтара значаць аднолькава. Там гаворыцца пра аднаго з продкаў аўтара імем Пампуля (увогуле першыя шэсьць старонак

[333]Рукапіс успамінаў захоўваецца ў прыватным архіве Мітрапаліта Мікалая (Таронта, Канада) і рыхтуецца да друку адначасна зь ягонымі-ж успамінамі пра Моталь.

успамінаў падрабязнасьцю ды распрацаванасьцю радаводу нагадваюць эвангельскае «Абрагам спарадзіў Ісаака, Ісаак спарадзіў Якава, Якаў спарадзіў Юду...»), пра першае знаёмства з дзяўчынаю, пра першае каханьне й пра прыняцьцё рашэньня служыць Богу й беларускаму народу ды нялёгкі – нават у побытавых дробязах, якія, трэба думаць, зьявяцца поўнай нечаканасьцю для шмат каго з чытачоў, – шлях першагерарха, самотны шлях: «Самотнасьць адчуваў з маленства. Любіў хадзіць па лесе. Зелень, жывучасьць дрэва захапляла мяне. Ня раз стаяў ды глядзеў на сасну, асіну, клён, ясень, вяз, дуб, бярозу – усе яны прыгожыя ў сваім... Так, і цяпер адчуваю самотнасьць. Адчуваю, недзе нешта я страціў у сваім жыцьці беспаваротна. Толькі не магу здагадацца – што»[141].

Значную мэмуарную вартасьць і найбольшую вядомасьць з усіх прац а. Язэпа Германовіча маюць, бясспрэчна, ягоныя ўспаміны «Кітай, Сібір, Масква»[142]. Яны атрымалі станоўчыя водгукі ў вольнай беларускай прэсе: «Можа найважнейшая рыса кніжкі айца Язэпа Германовіча – гэта глыбокая людзкасьць, пашана й любоў да чалавека і ўсяго людзтва. З аўтара зьдзекваліся, насьміхаліся, мучылі яго, а ён у кожным чалавеку, ці гэта быў сьледчы, ці, як іх называлі ў лягерох, «прыдурак-блатны», няважна – шукаў у ім перш за ўсё чалавека.

...Шмат што можна было-б зацытаваць з прыгаданае кнігі «Кітай-Сібір-Масква». Але, толькі прачытаўшы ўсю кнігу, можна будзе мець запраўды поўны вобраз аб зьдзеках, нялюдзкасьці й несправядлівасьці савецкага рэжыму»[143].

---

[141] М. Мацукевіч. Успаміны. Рукапіс, с. 60.

[142] Айцец Я. Германовіч. Кітай, Сібір, Масква. Мюнхэн, 1962.

[143] А. Г. «Кітай-Сібір-Масква». «Бацькаўшчына», № 14(598), 28 кастрычніка 1962, с.4.

У часапісе «Божым Шляхам», які шмат гадоў рэдагаваў а. Германовіч, таксама зьмешчана нямала ягоных цікавых матар'ялаў: «Успаміны аб а. Андрэю Цікоце»[144], «Добры пастар - Віктар Шутовіч»[145], «Мае прыяцелі» (пра К. Стэповіча, З. Якуця, А. Астрамовіча, Ф. Рамейку, А. Міхайлу, В. Аношку, а. К. Смульку)[146], урыўкі з другой, нясканчанай кнігі мэмуараў «Учора-сягодня-заўтра»[147].

Цікавым і каштоўным дапаўненьнем да надрукаваных успамінаў зьяўляюцца лісты а. Германовіча да Юркі Віцьбіча. Яны знаёмяць нас з новымі фактамі жыцьця аўтара, ягонай творчасьцю, зь ягонай зацікаўленасьцю праблемамі беларускай мовы[148].

У сваіх лістах а. Германовіч піша: «Мае «Ўспаміны» маюць неяк пайсьці ў пераклад на ангельскую. Спадарыня Бачалёр, ангелька, згадзілася тлумачыць з польскага перакладу, які быў аўтарызаваны й даволі добра прыняты ў польскім грамадзтве. Пры гэтым перасылаю копію маёй драмы-трагедыі «Беларусь у крыві і ў вагні» й прашу ласкава, але моцна яе скрытыкаваць, а нават паправіць мову. Мушу прызнацца, мяне добрыя людзі ўсьцяж папраўляюць, бо я сам моцна-нямоцны ў роднай мове.

---

[144]«Божым Шляхам», № 82, студзень-люты, 1964, с.4-6; № 83, сакавік-красавік, 1964, с.7-8.
[145]«Божым Шляхам», № 84, травень-чэрвень, 1964, с.12-14.
[146]«Божым Шляхам», № 87, лістапад-сьнежань, 1964, с.14-16; №1(88), студзень-люты, 1965, с.6-8; № 2 (89), сакавік-красавік, 1965, с.6-7; № 3 (90), травень-чэрвень, 1965, с.6-8; № 4 (91), ліпень-жнівень, 1965, с.9-11; № 2 (95), сакавік-красавік, 1966, с.10-11; № 5 (98), верасень-кастрычнік, 1966, с.13-15.
[147]«Божым Шляхам», № 3 (137), ліпень-верасень, 1973, с.24-28; № 4 (138), кастрычнік-сьнежань 1973, с.18-21; № 1 (139), студзень-сакавік, 1974, с.21-23.
[148]Лісты айца Германовіча перахоўваюцца ў архіве Л. Юрэвіча.

Нарадзіўся й гадаваўся ў мястэчку Гальшаны, у якім мова беларуская, на дзіва, ня згодная з навакольлем: у нас усё кіруецца на «і», напрыклад, *паліцеў, пасідзеў, біроза, сікера*. Цікава, што такую мову я спаткаў у Прыдруйску. Магчыма, што жыхары Гальшан і Прыдруйску зьнекуль былі Сапегамі прывезены. А Гальшанскі замак сьведчыць аб Сапегах, а Гарадзішча ў дзьвюх вёрстах ад мястэчка сьведчыць аб князёх Гольшах. А вучыўся я ў школах расейскіх і ў духоўнай спольшчанай сэмінарыі ў Вільні.

Працаваў сьвятаром спачатку ў мазурох у Беластоку й толькі ад 1919 г. у Ваўкавыскім, пасьля ў Слонімскім, далей у Дзісьненскім і нарэшце ў Браслаўскім павеце. Далей 14 гадоў у Кітаі (там у мове расейскай у школе-гімназіі), пасьля ў Сібіры – 6 з паловай год, і яшчэ ў Польшчы – 4 з паловай, далей Рым, Амэрыка, Лёндан. Як бачыце, паўстала такая мікстура розных моваў і ўплываў, што маю абавязак прасіць людзей практычных папраўляць маю граматыку. І пакорна прашу вашае ласкавасьці не цырымоніцца, а добра парадзіць і памагчы аўтару ў ягоных слабасьцях, зусім зразумелых. А пісаць па-беларуску я пачаў, маючы блізка 36 гадоў, пад націскам кс. Адама Станкевіча й сп. Гарэцкага, які мяне проста прымушаў да гэтага, кажучы: «Табе, айцец, грэх будзе, калі ня будзеш пісаць!». З таго я пачаў пісаць у 1919 годзе і ўжо далей «грашыў», пішучы розныя разнаякасьці, пакуль не перарваў мяне Харбін.

Драму пасылаю пакуль у брульёне[149]: калі яна пройдзе этап крытыкі і адляжыць крыху спакойна, тады вазьмуся яе перарабіць на чыстую да выданьня ў кніжцы, зразумела, калі крытыка яе не збракуе цалкам! І яшчэ прашу зьвярнуць увагу на зьмест гістарычны й лёкальны ў Росіцы, ці няма там аніякіх памылак? Нават можа штосьці патрабуе папраўкі ў адносінах немцаў да беларусаў і ў

[149]Чарнавік, першы накід (фр. brouillon).

ваенных нямецкіх формах, чынах, назовах. А мястэчка Росіца ёсьць тое самае, а ня іншая Расіца. І я рады, што Вы памаглі мне ўстанавіць тэрмін зьнішчэньня той Росіцы, бо якраз законьніцы гаварылі аб месяцы лютым і аб днях – аўторак, серада, чацьвер, гэта супадае з канцом лютага й з датамі, якія я ўжо прызнаў фактычнымі»[150].

«Адносна маіх «паветалізмаў Гальшанскіх» хачу зацеміць, што яны ня дужа сходзяцца з такімі-ж Францішка Багушэвіча, бо мае слаўныя Гальшаны, на дзіва, маюць зусім адменную мову ад ашмянскіх – да таго, што нават аб Ашмяне (гэта нашае паветавае – раённае места) у Гальшанах гавораць: «Там жывуць мужыкі, бо кажуць «ня трэба»! Бо тое ў Гальшанах пануе «ні», як дразьняць наўкол нашых: «Альшанец узяў сікеру й паліцеў па бірэзьнічку». Я-ж, праўда, ужо адвык ад таго ўпартага «і», але засталася ў мяне маса ўсякае мешаніны...

І вельмі крыўдна, калі кажуць аб слаўных гістарычна Гальшанах, што яны *село*. Я сам яшчэ помню, як у гальшанскім замку на Замкавай вуліцы (афіцыяльна называлася Вішнеўская, але ніхто ў нас яе так не называў) на загад памешчыка генэрала Гарбанёва зьбівалі чатыры вежы па рагох парку. А ўласьнікамі замку былі князі Гольшы, пасьля Сапегі, наступна Корсакі, пасьля паўстаньня 1863 году генэрал Гарбанёў і нарэшце новая «хвігура» расейская Ягмін, хоць прозьвішча ягонае летувіскае.

У Гальшанскім касьцёле быў маўзолеум-помнік Паўла Сапегі, фундатара касьцёла, – чатыры ляжачыя фігуры: князь і тры ягоныя жонкі (пэўна-ж, паступова іх меў) – вялікая, сярэдняя й найменшая. Цудоўная мастацкая разьба – у разьмеры больш нармальнага росту чалавека, у

---

[150] Ліст ад 22.09.1967.

шэрым мармуры. Перетрывала войны й рэвалюцыі, але што зь ёю цяпер, ня ведаю, бо касьцёл абернены на склад...»[151].

«Дзякую Вам за ліст і за Вашую, як кажаце, гутарку аб маёй не зусім здатнай, а таму й сапраўднай асабістай трагедыі. Найперш важна тое, што Вы дакладна акрэсьлілі месца тае дзеі, а таксама апісалі нямецкіх і савецкіх дзеячаў.

Тут хачу адразу зазначыць, што падзеі ў маёй драме ня выдуманыя, але ў аснове ўзятыя з пратаколу, які прывёз з Польшчы адзін з нашых айцоў (Ф. Журня). Ён дакладна апытаў адну сястру-законьніцу, якая сама перажывала ўсю трагедыю й сьпісаў зь яе словаў, і яна пасьля ўсё падпісала: там паказаны дні й гадзіны і іншыя факты. Між іншым, яна паказала, што ўласна афіцэры былі немцы, а пры іх перакладчыкам быў латыш. Яе справаздача заслугоўвае на поўны давер, бо а. Кашыра (быў зьнішчаны ў канцы), які адвёз сясьцёр у Друю, дасказаў ім, што дзеялася ў мястэчку падчас забойства людзей, бо ён сам належаў да групы возчыкаў, што перавозілі народ з касьцёла да назначаных пунктаў. І нарэшце па пары тыдняў гэтыя-ж законьніцы адведалі пажарышча й там пазналі руку а. Кашыры з ружанцам, а таксама й другія знакі злачынства тае экспэдыцыі. Значыць, усе падзеі, уціск народу, замкнёнага ў касьцёле, – гэта ўсё сапраўднае: народ там маліўся, плакаў, спавядаўся ды чакаў пэўнае свае згубы.

Айца Ляшэвіча я знаў асабіста ў Харбіне: ён часткова працаваў у нашай школе й быў маім прыяцелем; дык ён у мяне апісаны зусім натуральна і аўтэнтычна. Айцец Кашыра быў маім вучнем у Друйскай гімназіі й пасьля яшчэ я спатыкаўся зь ім у Друі ў гадох 1936-38, калі меў перапынак між першым ды другім сваім знаходжаньнем у Маньчжурыі. Тады Кашыра быў маладым

[151] Ліст ад 8.11.1967.

сьвятаром, і я таксама яго апісаў дакладна. Законьніцаў я даў сапраўды зашмат для трагедыі (10); яны працавалі ў Росіцы й другіх парахвіях, але пры аказіі яны ўсе былі сагнаныя ў самую Росіцу й там перажылі катастрофу. Не захацелі пакінуць пляцу сваёй духоўнай і самарытанскай місіі, хоць адклікáла іхная Генэральная Матка й выпраўлялі немцы ў Друю. Вядома, дэталі ў мяне выдуманыя, але надта асьцярожна, каб ня выйсьці задалёка ад ведамых фактаў. Думаю, што трэба будзе ва ўступе абгаварыць і абаснаваць гісторыю тых дзён.

П'еса зусім ня мае прэтэнзіі да тэатру, а больш мае надзею трапіць у рукі чытачоў, каб маглі даведацца аб такім выдатным фрагмэнце, які ілюструе агульны стан беларускага народу падчас Другой сусьветнай вайны»[152].

У 1970 годзе а. Германовіч пачаў пісаць новыя ўспаміны, якія, як выглядае, мусілі ахапіць той раньні пэрыяд жыцьця аўтара, што застаўся па-за часавымі рамкамі кнігі «Кітай-Сібір-Масква», але яны не былі скончаныя – напісана ўсяго крыху больш за трыццаць старонак[153].

Ва ўспамінах Адама Варлыгі «Чутае-Бачанае-Перажытае»[154] можна знайсьці падрабязнае апісаньне сялянскага побыту дарэвалюцыйнай Беларусі. Народныя показкі пра чарцей суседнічаюць з пэдагагічнымі назіраньнямі, гісторыяй школьніцтва на Лагойшчыне. Тут і рэвалюцыйны Віцебск і антыпольская партызанка, Краснаборская школа й настаўніцкія канфэрэнцыі, постаці прафэсараў і студэнтаў. Даваеннае жыцьцё паказана з

---

[152]Ліст датаваны 1967 годам.

[153]Рукапіс захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны (Лёндан).

[154]Урыўкі з успамінаў друкаваліся ў «Запісах БІНІМ», № 13, 1975.

такімі дэталямі, якія наўрад ці адшукаеш у іншай працы, – пададзены нават дакладныя каштарысы на тканіну й зброю.

Колькі слоў трэба сказаць пра самога аўтара, бо праз ягоную біяграфію чытач зможа атрымаць пэўнае ўяўленьне пра зьмест ненадрукаваных яшчэ ўспамінаў.

Нарадзіўся Язэп Гладкі – сапраўднае імя Адама Варлыгі – 4 кастрычніка 1890 г. у вёсцы Міхалкавічы на Лагойшчыне. Скончыў спачатку школку ў суседняй вёсцы Корані, потым – Хаценчыцкую двухклясавую (у 1911 г.). Праз год быў узяты на службу ў войска, дзе яго й засьпела Першая сусьветная вайна. Быў Язэп Гладкі фэльчарам-санітарам на Заходнім фронце, за мужнасьць быў узнагароджаны трыма Георгіеўскімі крыжамі.

Ужо ў войску Я. Гладкі быў арганізатарам беларускіх гурткоў у брыгадах, і калі адбываліся выбары дэлегатаў на Зьезд беларусаў-вайскоўцаў, ён стаўся адным зь іх. Менавіта на гэтым зьезьдзе Гладкі атрымаў мандат на Усебеларускі Кангрэс у Менску, дзе аказаўся сьведкам разгону Кангрэсу камісарам Крывашэіным[155].

У 1921 г. Язэп Гладкі засноўвае ў Корані беларускую школку – першую ва ўсім Барысаўскім павеце, у 1924 г. была адкрыта такая самая школка і ў родных Міхалкавічах. Але барацьба з беларушчынай набывала ўсё большы размах, і ў 1930 г. Гладкі быў звольнены як палітычна ненадзейны. У пошуках працы ён пераяжджае ў Менск, заканчвае курсы Вышэйшага Пэдагагічнага Інстытуту й нават уладкоўваецца на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка ў Інстытуце Школьнае Пэдагогікі, дзе яго й засьпела вайна.

---

[155]Язэп Гладкі. Успаміны пра Ўсебеларускі Кангрэс 1917 году ў Менску. «Беларус», № 55, 1956, с.4-6; № 56, 1956, с.4-6; «Бацькаўшчына», № 11-13, 1958, с.6-7; № 14-15, 1958, с.6; №16-17, 1958, с.7-8; «Запісы БІНІМа», № 3, 1964, с.137-154.

І ў час вайны, і ў лягерох ДП Язэп Гладкі пераважна займаўся тым, што было яму бліжэй за ўсё – настаўнічаў. Не было падручнікаў, чытанак, і ён сам бярэцца за іх складаньне й друкаваньне. Так нарадзілася выдавецтва «Заранка», дзе былі выдрукаваныя чытанкі й зборнічкі казак. Пазьней свае навуковыя працы, падпісаныя псэўданімам Адам Варлыга – «Краёвы слоўнік Лагойшчыны», «Прыказкі Лагойшчыны» ды іншыя, – ён друкаваў пад грыфам БІНіМа.

Язэп Гладкі памёр 28 ліпеня 1972 г., не пасьпеўшы апублікаваць свае ўласныя ўспаміны, якія Вітаўт Тумаш параўнаў з «Баркулабаўскай хронікай»[156].

«Я задумаў пісаць гэтую работу яшчэ ў Нямеччыне ў 1949 годзе. А гэта сталася выпадкова. Мне аднаго разу ўсплыло на думку, што добра было-б, каб дзе наўрэцца на такія запісы, як у нашым краі жылі людзі дваста-трыста гадоў таму назад: што яны елі, у што адзяваліся, што сеялі, як што радзіла, як яны праводзілі вольны час, колькі і якога мелі статку, якія мелі будынкі. Тыя людзі не пакінулі пасьля сябе запісаў, бо былі непісьменныя, і мы на іх за тое крыўдзіцца ня можам. А можа было-б цікава тым людзям, што будуць жыць пасьля нас за дваста-трыста год, як мы жылі? А калі мы гэтага не запішам, дык яны будуць мець падставу на нас наракаць за гэтую нашую нядбаласьць. Дык вось я тады й наважыў узяцца за гэту работу, каб дагадзіць людзям, што зьявяцца па нас»[157].

Спасярод іншага Адам Варлыга спрабаваў суаднесьці беларускія найменьні з пэўнымі колерамі задоўга да таго, як гэтым пачала займацца беларуская лінгвістыка: «Больш

---

[156] Р. Максімовіч. Верны сын Лагойскай зямлі. «Беларус», верасень 1972, с.4.

[157] Адам Варлыга (Язэп Гладкі). Чутае-Бачанае-Перажытае. Рукапіс перахоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк).

за ўсё мяне цяпер цікавіць фантазія колераў. Калі я спрымаў у галаву новы прадмет, дык ён павінен быў быць у маёй памяці наглядным: я ўяўляў ягоную і форму і колер. Але амаль адначасна ўспрымаліся рэчы далёкія, якіх я ня мог бачыць, а таксама прадметы разумовыя, якіх немажліва бачыць. Гэткія прадметы ў маім уяўленьні мелі туманную неакрэсьленую форму, але колер мелі. Некаторыя колеры я й цяпер вельмі добра памятаю. Лагойск – на цёмным фоне шмат сьветла-жоўтых крывуль, як палазоў. Менск – амаль гэткія самыя крывулі, але цёмна-жоўтага (залацістага) колеру сярод такога-ж цёмнага фону. Нядзелька – ружовага колеру, як той прамень, што ляжыць каля пярэклеці (па ім усходзілі на пярэклець, калі ў клець ішлі). Мысьлі – на цёмным фоне група белых плям адна ля аднэй. Думка – сярод цёмнага фону група з жаўтавым адценьнем на краёх сівых плямак адна ля аднэй, форма іх падобна воку, а асяродак плямкі цямнейшы. Вёска Лішчыцы – на цёмным фоне група сівых плямак з пунсовымі краямі. Вёска Прудкі – група стоцевых сівых, падобна да лясковых, кійкоў. Вёска Церахі – група сівых хваль. Вёска Чэрнева – група чорных хвалістых лініяў адна на аднэй, і адрожніваюцца вузенькімі сіваватымі. Вёска Грамніцы – група пунсовых хваляў».

Адам Варлыга памёр, не пасьпеўшы скончыць працу, якой сам быў ня вельмі задаволены, бо лічыў, што «не дасягнуў мэты: усё таптаўся каля свае асобы». Сёньня 300 старонак рукапісу – гэта ня толькі жыцьцяпіс аднаго чалавека, але й жыцьцяпіс часу, мовы, месца, падзей. З усяго вялікага рукапісу большая частка прысьвечана даваеннай Беларусі й толькі 60-70 старонак – Бэрліну, лягерам ДП, эміграцыі. Прычым, добра бачна, што гэтыя апошнія старонкі напісаныя сьпехам, без асаблівай апрацоўкі, адчуваецца, што пяром аўтара кіравалі, перш за ўсё, пэўныя асабістыя матывы, таму і побыт лягерны, і

постаці выгнанцаў (М. Шыла, С. Коўш, Хв. Ільляшэвіч, іншыя) намаляваныя рэзка, востра, зь непрыхаванаю крыўдаю.

Затое асноўная частка ўспамінаў адметная добрай мовай, староньнім – часам нават занадта – паглядам на падзеі, пільнай увагай да побытавых дробязей, імкненьнем засьведчыць іх найбольш дакладна. Пра гэта гавораць нават назвы разьдзелаў: «Наша хата», «Нашы будынкі», «Статак»... Але лічыць успаміны Варлыгі выключна этнаграфічнымі было-б памылкай; у іх багата гістарычных назіраньняў, апісаньняў падзей, сьведкам якіх быў аўтар: «Лютаўская рэвалюцыя», «Антыпольская партызанка», «Супрацьбальшавіцкая партызанка», «Байкот Чырвонай Арміі», «Краснаборская школа», «Настаўніцкая канфэрэнцыя» ды іншыя. Пералічыць усе падзеі, зьявы беларускага тагачаснага жыцьця, занатаваныя аўтарам, праілюстраваць іх аўтаравым тэкстам проста не ўяўляецца магчымым.

Але адзін з паваротных этапаў жыцьця Адама Варлыгі ўсё-ж такі не хацелася-б прамінуць – гэта далучэньне аўтара да беларускасьці: «Зь беларускім друкаваным словам я пазнаёміўся зь лістовак 1905 году, дзе гаварылася аб уціску сялян. Тут патрабавалася розных палёгкаў для сялян, беларускай мовы ў школах. Другую-ж тады давялося чытаць польскую лістоўку супраць беларускасьці. Пад гэтай лістоўкай было падпісана слова «Ксёндз». У гэтай лістоўцы перасьцерагалася каталікоў, каб не запісваліся беларусамі, а хто запішацца беларусам, дык патрапіць самахоць у папоўскія рукі, і ні ён, ні ягоныя ўнукі ня выракуцца праваслаўя. Крамнікаў сын М. Файн выпісваў «Нашу Ніву» і нават сам тое-сёе пісаў у гэту газэту пад псэўданімам М. Пекны. А калі быў настаўнікам у нашай школе А. Жалейка і ў пустым пакойчыку ў школе ляжала «Наша Ніва», дык вучні бралі й чыталі яе ды зноў клалі на месца. Ну і ксёндз Пацэвіч трохі паддаў ахвоты да

беларушчыны, а галоўнае – ён як-бы загарантаваў, што гэта ня шкодна для каталікоў, ня шкодна для каталіцкай веры.

Калі я вучыўся ў 2-х клясавай школе, дык у школу прыходзіла зь Вільні пэрыядычная літаратура Саланевічавага[158] кірунку, дзе былі напады на беларускіх дзеячаў і на ўвесь рух. Настаўнік Сапрык казаў, што гэта чарнасоценская рэакцыйная літаратура, ёй ня трэба верыць, а «Наша Ніва» – прагрэсыўная газэта. Сапрык часамі дазваляў пісьмовыя работы пісаць па-беларуску, але ня ў сшытках, а на асобных лісткох. Ён нават паведаміў, што беларуская мова ўрадам забаронена. Прытым ён дабавіў, што беларуская літаратурная мова не распрацаваная, на ёй няма навуковых кніг, дый граматыкі беларускай няма.

Калі я быў у войску, дык брат мне пісаў часта аб беларускім руху, аб літаратуры й пісьменьніках. Ён вучыўся разам зь Лявіцкай Вандай, дачкой Ядвігіна Ш., у Радашкавіцкім Гарадзкім. Там блізка Радашкавіч жыў абшарнік Сьнітка. Ён сваёй дачцы справіў беларускае ўбраньне, дык яна ў ім па кірмашы шпацыравала».

Блізкія зьместам да ўспамінаў Адама Варлыгі ўспаміны Васіля Стомы-Сініцы «Маё мястэчка»[159], надрукаваныя раней у часапісе «Беларускі сьвет»[160] у іншай рэдакцыі, а таксама рукапісныя ўспаміны Мітрапаліта

---

[158]Лука Саланевіч – чарнасоценец, расейскамоўны журналіст.

[159]Л. Юрэвіч, Зьм. Саўка. Кульгавы хлопчык з гарэзнымі вачыма. Васіль Стома-Сініца. Маё мястэчка. «Полымя», № 9-12, 1998.

[160]«Беларускі сьвет», № 8 (37), 1980, с.42-44; № 9 (38), 1981, с.16-22, 35-39; № 10 (39), 1981, с.15-22, 31-34; № 11 (40), 1982, с.19-28, 33-36; № 12 (41), 1982, с.21-28, 37-42; № 13 (42), 1983, с.19-29, 36; № 14 (43), 1983, с.26-32; № 15 (44), 1984, с.47-57; № 16 (45), 1984, с.30-36, 41-45; № 17 (46), 1985, с.20-31; № 18 (47), 1986, с.43-51; № 19 (48), 1987, с.20-27.

Мікалая «Моталь»[161]. Гэта вельмі пашыраная ў сьвеце форма, у тым ліку ў ЗША, «краязнаўчых» ўспамінаў, якім уласьціва камэрнасьць аповяду, канцэнтраваньне ўвагі на мясцовых, лякальных падзеях; у такіх успамінах важныя, сусьветнага значаньня падзеі могуць абмінацца ці згадвацца адным-двума сказамі. Да такіх належаць успаміны: А. Бостанскі «На поўначы Пастаўшчыны»[162], Б. Прытыцкі «Вільня»[163], Б. Прытыцкі[164] «Мая вёска»[165], В. Цярпіцкі «Вёска Доры»[166], Г. Сл. «Зь мінулага»[167], А. Слонімскі «Мая Слонімшчына»[168], Б. Еўтух «Менск у 1930-1931 гадох»[169] і іншыя.

Арыгінальным мэмуарным творам зьяўляецца кніга Янкі Юхнаўца[170]. Гэта ўспаміны зь мінулага, далёкага й ня вельмі, зьнітаваныя зь перакладамі, арыгінальнымі вершамі, цытатамі з прачытанага, філязафічнымі разважаньнямі: «Я палохаюся ўспамінаць, але ўспомню. Сіне-чыстае зімовае неба. Поўны месяц. Неглыбокім сьнегам пакрытая, марозам прыгладжаная, паверхня зямлі зіхаціць белізной ад сьвятла поўніка. Я жыву ў вёсцы. Скратна займаюся супраціўнымі

---

[161]Рукапіс захоўваецца ў Мітрапаліта Мікалая (Таронта, Канада). Першы варыянт друкаваўся ў часапісе «Зважай», № 1 (2), 1975; № 2 (3), 1975; № 1 (4), 1976; № 2 (5), 1976.
[162]«Божым Шляхам», № 2(140), красавік-чэрвень, 1974, с.18-19.
[163]«Божым Шляхам», № 5(128), кастрычнік-сьнежань, 1971, с.18-20.
[164]Прозьвішча ў публікацыі надрукавана з памылкаю – Птытыцкі.
[165]«Божым Шляхам», № 4(115), ліпень-жнівень, 1969, с.11-14.
[166]«Беларуская Думка», № 43, 1997, с.23-28.
[167]«Раніца», № 3 (165), 16 студзеня 1944.
[168]«Думкі й пагляды. Дадатак да «Беларускага сьвету», № 6, 1984, с.2-4; № 7, 1985, с.3; № 8, 1986, с.3-4.
[169]«Аб'еднаньне», № 4, 1948, с.7-9.
[170]Янка Юхнавец. Запіскі й зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 г. Машынапіс. Нью-Ёрк, 1996.

словамі супраць фашыстаў, агітую за беларускі нацыяналізм.

... я прыціснуты да высакаватага драўлянага замёту каля сялібы.

– Расстраляць!

...зьбілі маё аблічча. Свае рабілі, не фашысты.

...узвышаецца сіла, ня ведаю, ад чаго. Пакуль білі жорстка, у маёй галаве жызьнела: будзеш жыць... жыць! І глянуў на поўны сьвятлом месяц.

...правай рукой, яна й цяпер пакутна баліць, прад трыма злыднямі адным узмахам перамахнуў сваю постаць праз замёт. Яны страляюць. Апынуўся на волі. Бег, бы ад Гітлера ўцякаў. Гэта было ня першае ўцяканьне празь лес. У пачатку вайны адзіночны лёгкі танк нямецкі рухаўся па шашы ў кірунку Лепеля ці Віцебску. Я кінуў гранату пад яго із аховы валуна. Танк падбіты астаўся на абалоні дарогі на ўскрайку вёскі Маргавіцы. У гэтай вёсцы ўжо былі народжаныя паэты А. Ставер і Ю. Сьвірка.

Аднойчы з бацькам мы зірнулі на гэты танк. Бацька толькі потым сказаў: удалося табе. Але ў першую вайну мне гэткае не натрапілася.

...дзякуючы веданьню мясцовасьці, уратаваўся.

...злыдням, што жадалі расстраляць, я ніколі ня помсьціўся. Разумеў іхнюю нянавісьць – пакрыўджаныя саветамі.

Ім адпомсьцілі за мяне, што змагаліся супраць фашыстаў.

...інстынктыўнай помсты супраць сваіх ворагаў ніколі сабе не дазваляў. Але да пагарды, як кожны чалавек, схіляюся.

...безь яе, прабачце, немагчыма існаваць, таму, што яна дазваляе чалавеку паміраць ува славе абходных грахоў, маіх і іншых.

...пасьля другога, неспадзеўнага выпадку мяне агарнула благім. Блізу больш паўгоду ў гутарцы заікаўся.

Лячыў падпольны доктар. І яшчэ большае – належа ў мяне зьнікла мэханічная памяць, якую я сыціпла дэманстраваў у школе. Мне далі клічку: «Спытай у Леанарда да Вінчы, ён памятае»[171].

Савецкі таталітарны рэжым, ягоная нялюдзкасьць, антыбеларускасьць – асноўны праблемат мэмуараў Пётры Палягошкі «Ўспаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу»[172] і Аўгена Калубовіча «На крыжавой дарозе»[173].

Багаты й каштоўны матар'ял, зьвязаны з гісторыяй эміграцыі й нацыянальнай вызваленчай думкай, маюць кнігі Канстанціна Мерляка[174], Яна Пятроўскага[175], Раісы Жук-Грышкевіч[176], Алеся Змагара[177], Барыса Рагулі[178], Юрыя Весялкоўскага[179], Яўхіма Кіпеля[180].

У Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане захоўваюцца ўспаміны айца Т. Падзявы пра айца Я. Германовіча й вялікія, напісаныя ў польскай мове, – пра айца А. Цікоту; успаміны Бэрнарда Стэповіча пра К.

---

[171]Тамсама, с.58.

[172]Пётра Палягошка. Успаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу. Ныю Ёрк, ЗША, 1968.

[173]Аўген Калубовіч. На крыжавой дарозе. Кліўленд, 1986.

[174]Канстанцін Мерляк. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Ныю-Ёрк, 1992.

[175]Ян Пятроўскі. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце, т.1-3. Гэйнсвільл, 1988-1997.

[176]Раіса Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта-Канада, 1993.

[177]Алесь Змагар. Мае ўспаміны. ЗША, 1985.

[178]Барыс Рагуля. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан, Канада – Ныю-Ёрк, 1996.

[179]Юры Весялкоўскі. Няясна мроіліся новыя дарогі. Лёндан, 1997.

[180]Яўхім Кіпель. Эпізоды. Ныю-Ёрк, 1998.

Сваяка[181]; няскончаная, на жаль, праца айца Льва Гарошкі «Праз навальніцы й нягоды. Успаміны з гадоў 1930-1944»[182], што ствараліся ў Парыжы й Лёндане. Гэта ўнікальныя сьведчаньні няпростай гісторыі беларускага вуніяцтва, змаганьня з расейскім праваслаўем і польскім каталіцызмам. Нездарма, відаць, акупацыйныя рэжымы прыраўноўвалі беларускіх сьвятароў-вуніятаў да нацыянал-дэмакратаў. У гэтых успамінах таксама па-мастацку апісаны часы навучаньня Л. Гарошкі ў Навагрудзкай Беларускай Гімназіі, знаёмства ў Вільні з Антонам Луцкевічам, гады́ ў грэка-каталіцкай Багаслоўскай Акадэміі ў Львове, рэлігійнае жыцьцё, беларуская праца падчас Другой сусьветнай вайны ў Баранавічах - адкрыцьцё школ, стварэньне музэю.

Большая частка мэмуарных публікацыяў, як ужо адзначалася раней, зьмяшчалася ў пэрыядычным друку. Шматлікасьць ды разнастайнасьць мэмуарных публікацыяў у пэрыёдыцы робіць амаль немагчымым іхны поўны агляд. Спынімся, прынамсі, на тых, што, як нам здаецца, і сёньня захоўваюць актуальнасьць, застаюцца цікавымі і для дасьледчыкаў і для чытачоў.

У цэнтры ўвагі эміграцыі былі ўспаміны, што насьвятлялі якраз тыя моманты беларускай гісторыі, якія замоўчваліся ці скажаліся афіцыйнай гісторыяграфіяй на бацькаўшчыне.

Шэраг мэмуарных матар'ялаў прысьвечаны Першаму Усебеларускаму Кангрэсу, абвешчаньню незалежнасьці Беларусі. Сярод іх назавем «Першы Усебеларускі Кангрэс 18-31 сьнежня 1917г. Успаміны Дэлегата Кангрэсу»[183], М.

---

[181]Успаміны ў скарочаным варыянце друкаваліся ў часапісе «Полымя», 1990, № 2.

[182]Вынияткі з гэтай працы друкуюцца ў другой частцы гэтай кнігі.

[183]«Бацькаўшчына», № 11-13 (397-399), 25 сакавіка 1958, с.6-7; № 14-15 (400-401) Вялікдзень 1958, с.6; № 16-17 (402-403),

«Знаменная дата. Саракагодзьдзе Усебеларускага Кангрэсу. З успамінаў сучасьніка»[184], Яўхіма Кіпеля «Смаленск у 1919 годзе»[185], а таксама цікавыя ўспаміны Радаслава Астроўскага пра зацьверджаньне ў 1917 годзе герба й сьцяга, які шыла, дарэчы, дачка Ядвігіна Ш, пазьней жонка Язэпа Лёсіка – Ванда Лявіцкая[186].

Жыцьцё на Беларусі асьветлена ў публікацыях Алеся Беразьняка «Пад цэнзурным наглядам. Нататкі чытача да ўспамінаў Паўліны Мядзёлкі «Сьцежкамі жыцьця»[187], В. Будзімера «Беларусызацыя Гомельшчыны»[188], В.К. «Безнадзейнасьць. Праўдзівае здарэньне»[189], Алеся Вожыка «З кнігі «Вячоркі дзеда Самуйлы»[190], М. Журбана «Успамін мінулых выбараў»[191], Міколы Куліковіча «Хада. З падсавецкага мінулага»[192].

Жыцьцё беларусаў за межамі бацькаўшчыны адлюстравана ва ўспамінах Ул. Брылеўскага «Беларусы ў даваеннай Варшаве»[193], П. Мірановіча «Беларусы ў Латвіі. 1919-1944 гг.»[194], М. Швэдзюка «Беларусы ў Афрыцы ў

---

20 красавіка 1958, с.7-8; «Беларус», № 55, 20 сакавіка 1956, с.4-6; № 56, 5 ліпеня 1956, с.4-6.

[184]«Беларус», № 63, 1 студзеня 1958, с.1.

[185]«Беларуская Думка», № 12-13, 1969-1970, с.6-9.

[186]Р.Астроўскі. Аб дзяржаўным гербе й сьцягу Беларускай Народнай Рэспублікі. «Беларуская Думка», № 7, 1965, с.29-30.

[187]«Бацькаўшчына», № 15 (499) 10 красавіка 1960, с.2-3.

[188]«Бацькаўшчына», № 1-2 (80-81) 7 студзеня 1952, с.4, 6.

[189]«Беларус», № 13 (37), 1 ліпеня 1953, с.3.

[190]«Беларус», № 192, красавік 1973, б.6-7; № 193, травень 1973, с.5; № 194, чырвень 1973, с.5; № 195, ліпень 1973, с.5; № 196, жнівень 1973, с.5; № 197, верасень 1973, с.5-6; №198, кастрычнік 1973, с.5-6; № 200, сьнежань 1973, с.7-8.

[191]«Беларус», № 57, 15 кастрычніка 1956, с.4-6.

[192]«Беларус», № 15, 15 лістапада 1952, с.3

[193]«Беларус», № 250, люты 1978, с.5.

[194]«Запісы БІНІМ», № 16, 1978, с.92-97.

1942-1948 гадох»[195], Э. Цяўлоўскага «Пад пякучым сонцам. Беларусы ў Парагваі»[196], М. Белямука пра беларусаў у Кліўлендзе [197].

Пра канцэнтрацыйныя лягеры, перасьледы й рэпрэсіі на Беларусі апавядаецца ў «Хроніцы Грамадаўскага Руху»[198], «Па савецкіх канцлягерох»[199], ва ўспамінах Кастуся Птаха «Варкуцкая забастоўка 1937 году»[200] і «Па савецкіх канцлягерох»[201], Даната Баяна «Сын нацдэма»[202], Б. Калістрата «У падвалах НКВД»[203] і шмат іншых.

Рэлігійнаму жыцьцю ў падсавецкай Беларусі прысьвечаны ўспаміны Сьведкі «Ці ёсьць катакомбнае рэлігійнае жыцьцё на Беларусі»[204], А. Дарожына «Беларусь у бязбожным агні»[205], Л. В. «Перасьлед веры й царквы ў Савецкім Саюзе»[206]. Ва ўмовах татальнага змаганьня дзяржавы з рэлігіяй, калі нішчыліся і людзі, і дакумэнты, успаміны эмігрантаў набываюць неацэннае значаньне ў стварэньні энцыкляпэдыі беларускіх сьвятароў і рэлігійных дзеячаў, у пошуках нацыянальных каштоўнасьцей. Тут найперш трэба згадаць успаміны А. Шукелойця «Скарбы

---

[195]«Беларус», студзень 1998, с.4-5.
[196]«Беларус», сакавік 1998, с.6-7.
[197]«Полацак», №1, 1991, с.19-23; №2, 1991, с.30-35; №3, 1991, с.46-48; №4, 1991, с.39-41; №5, 1991, с.40-42; №6-7, 1991, с.54-58.
[198]«Народным Шляхам», №1, 1952, с.9-12.
[199]«Беларускае слова ў Амэрыцы», №2, люты 1950, с.7.
[200]«Аб'еднаньне», №8, 1949, с.8-13.
[201]«Апошнія весткі», №3, 1948, с.4; №4, 1948, с.6; №5, 1948, с.4; №6, 1948, с.4; №9, 1948, с.3; №10, 1948, с.4; №11, 1948, с.6; №12, 1948, с.4.
[202]«Моладзь», №24, 1951, с.9-11.
[203]«Беларус у Амэрыцы», №3, 1948, с.9-16; №4, 1949, с.13-17.
[204]«Божым Шляхам», №2 (41), 1951, с.8-9.
[205]«Божым Шляхам», №50, верасень-кастрычнік, 1952, с.6-9.
[206]«Божым Шляхам», № 83, сакавік-красавік, 1964, с.16-17.

Менскіх праваслаўных цэркваў»[207] і «Скарбы Менскіх каталіцкіх касьцёлаў»[208], «Успаміны» Н. Кіркевіча[209].

У беларускім каталіцкім часапісе «Зьніч», які выдаваў у Рыме Пётра Татарыновіч, нават была адмысловая рубрыка «Трэба іх памятаць». Тут друкаваліся «Ўспаміны аб Станіславе Глякоўскім» П. Дрыговіча й П. Дрыгвіча[210], В. Жылінскага «Кс. Фабіян Абрантовіч. Асабістыя ўспаміны» [211], С.Г. «Жменька ўспамінаў аб кс. Уладыславе Талочку»[212], Я.С. «Жменька ўспамінаў на адну дарагую юбілейную магілу. Кс. Лісоўскі»[213], З. «Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі ў маіх успамінах»[214], Я. С-ка «Пасьмертны ўспамін аб ведамым беларускім дзеячы. Фабіян Ярэміч» [215], В. Карасевіча «Кс. Віктар Шутовіч»[216], П.Т. «Адгалоскі мінуўшчыны»[217], Пятра Татарыновіча «Др. Станіслаў Грынкевіч»[218], «Ведамка да біяграфіі Андрэя Цікоты»[219], Віленчука «Інжынэр Адольф Клімовіч. Жменька ўспамінаў»[220].

Значны пласт успамінаў прысьвечаны жыцьцю ў Заходняй Беларусі, Вільні: Язэпа Сажыча «І паны гаварылі нашай мовай»[221], «Хацелі з нас зрабіць палякаў

---

207«Полацак», 5 (25), 1993, с.51-54.
208«Полацак», 6 (26), 1993, с.43-45.
209«Царкоўны сьветач», № 1 (8), 1957.
210«Źnič», № 6-7, 1951, с.3-5.
211«Źnič», № 19, 1952, с.3-4.
212«Źnič», № 24, 1953, с.7.
213«Źnič», № 29-30, 1954, с.11.
214«Źnič», № 34-35, 1955, с.3-5.
215«Źnič», № 48, 1958, с.4-5.
216«Źnič», № 76, 1964, с.2-7.
217«Źnič», № 82-83, 1965, с.3-5.
218«Źnič», № 88, 1966, с.3-4.
219«Źnič», № 113, 1972, с.3.
220«Źnič», № 113, 1972, с.5-6.
221«Полацак», № 4 (14), 1992, с.34-36.

праваслаўных»[222], Міколы Шчорса «Беларускі Студэнцкі Саюз»[223], Юзэфы Найдзюк «Мае ўспаміны»[224], Часлава Найдзюка «Ўспаміны аб Унівэрсытэце Стэфана Баторыя»[225], С. Шчэрбы «Незабытны верасень 1939 году»[226].

Асобнай увагі заслугоўваюць успаміны пра антыбальшавіцкае змаганьне, у прыватнасьці, партызанскі супраціў і Слуцкае паўстаньне: А.К. «Слуцкае паўстаньне. З успамінаў удзельніка»[227], Лявон Р. «Гэтак было. Галасы ўдзельнікаў Слуцкага паўстаньня»[228], К. Рамановіч «Бальшавікі помсьцяць»[229], К. Езавітаў «Славутае Слуцкае Народнае Змаганьне»[230], А. Саковіч «Лістападаўцы»[231], Ю.Х. «З успамінаў Слуцкага паўстанца»[232], Р. Драчалуцкі «Памяці героя антыкамуніста Зьмітра Воўкава»[233], «Да гісторыі антысавецкай партызанкі на Беларусі»[234].

Шэраг рукапісаў, прысьвечаных Слуцкаму паўстаньню, яшчэ чакае публікацыі. Так, у архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва захоўваюцца ўспаміны, напісаныя ў 1944 годзе ў Бэрліне для Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых спраў БЦР А. Сокал-Кутылоўскага

---

[222] «Полацак», № 5 (15), 1992, с.42-44.
[223] «Полацак», № 2 (32), 1994, с.27-28.
[224] «Полацак», № 6 (36), 1994, с.25-29.
[225] «Полацак», № 1 (41), 1996, с.44-46.
[226] «Голас часу», № 13 (4), 1991, с.11-14; № 14 (5), 1991, с.26-28; № 15 (6), 1991, с.37-39; № 16 (1), 1992, с.34-37; № 18(3), 1992, с.29-31.
[227] «Бацькаўшчына», № 1-2 (132-133), Каляды, 7 студзеня 1953, с.3-4.
[228] «Бацькаўшчына», № 47-48 (126-127), 30 лістапада 1952, с.3.
[229] «Бацькаўшчына», № 47-48(277-278), 27 лістапада 1955, с.8.
[230] «Беларус», № 408, сьнежань 1993.
[231] «Бацькаўшчына», № 29-30 (415-416), 10 жніўня 1958, с.5-6.
[232] «Бацькаўшчына», № 46-47(530-531), 27 лістапада 1960, с.6.
[233] «Зважай», № 2 (5), 1976, с.5-7; № 3 (6), 1976, с.3-4.
[234] «Беларус», травень 1998, с.4.

«Мае ўспаміны аб Слуцкім збройным змаганьні з бальшавікамі ў 1920 годзе», А. Бачко «Ўспаміны аб Слуцкім паўстаньні», Т. Данілюка «Мае ўспаміны аб службе ў беларускіх вайсковых фармацыях і ўдзеле ў беларускім збройным змаганьні ў 1917-1921 гадох».

Неадназначныя, але, бясспрэчна, вартыя ўвагі ўспаміны атамана Шарсьценя «Беларускія партызаны 1921-1925 гадоў у Заходняй Беларусі»[235], а таксама дзясяткі дробных нататак у газэце «Беларускі Голас».

Верагодна, што ў названых працах сустракаюцца недакладныя факты, пераблытаныя імёны й даты: аўтары ня мелі ні архіваў, ні спэцыяльных дасьледаваньняў, нават даведнікаў агульнага характару, і маглі абапірацца адно на сваю памяць. У шэрагу выпадкаў, дзякуючы пільнай увазе эміграцыі да мэмуарных публікацыяў, такія «агрэхі» суб'ектыўнай памяці станавіліся аб'ектамі вострай крытыкі ў водгуках, палемічных зацемках, прыватным ліставаньні й падвяргаліся перакрыжаванай праверцы і ўдакладненьню. Сабраныя разам зьберажоныя факты, якія не маглі захавацца ў дзяржаўных архівах, крытычна асэнсаваныя ўспаміны відавочцаў пры ўсіх выдатках чалавечай памяці, несумненна, будуць мець каштоўнасьць для аўтараў дасьледча-навуковых гістарычных працаў.

Тэма беларускага супраціву, як ніякая іншая, прыцягвала эмігрантаў, кожны, хто браў удзел у антыбальшавіцкай барацьбе ці блізка ведаў змагароў і зьберагаў у памяці іхныя сьведчаньні, імкнуўся перадаць гэтыя свае веды іншым. Так, прыкладам, Васанскі пакінуў усяго адну старонку такога сьведчаньня-ўспаміну:

«Супрацьбальшавіцкая арганізацыя моладзі існавала да 1931 г.; вясною ў Брагінскім і Хойніцкім раёнах былі арыштаваныя вучні (каля 30) з Брагінскай дзесяцігодкі й каля 25 з Бабчынскай дзесяцігодкі Хойніцкага раёну. Зь

[235]«Дакумэнты й Факты», № 3, 1952, с.1-3.

мястэчка Брагіна былі арыштаваныя, акрамя майго брата Уладзімера, 16 год, два сыны вэтэрынарнага фэльчара. Лантос Васіль і Сьцяпан (зь X клясы) дасталі па 5 год, Праневіч Сымон і Скараход Іван – таксама па 5 год, і другія, старэйшыя вучні 18 год, – Агароднік Алесь, Росьлік Пётра й другія. А малодшыя пасядзелі ў Гомельскім НКВД па 6 месяцаў і былі адпушчаныя. Сам Лантос, на кватэры якога былі зборкі, быў расстраляны, як і Праневіч Аляксандар, сьвятар, як і дырэктар школы Дэмэтар Максім, любімец усёй школы, крыштальнай душы чалавек. Таксама ў Бабчыне былі арыштаваныя настаўнікі школы – гэта ведае кожны паляшук.

Другі гістарычны факт адбыўся ў часы калектывізацыі, таксама на Палесьсі, у Брагінскім раёне, у вёсцы Петрыцкае, дзе былі антыдзяржаўныя выступы сялян, якія склалі песьню:

Гэй, жы́ва, жы́ва
Уцякай з калектыва,
Ратуй сваю душу,
Бяжы хутчэй пад грушу.

Гэтую песьню сьпявалі па ўсяму Палесьсю сяляне ўпотайкі. І там, у гэтым Петрыцкім, які больш за ўсіх супрацівіўся калгасам, амаль палова жыхароў была расстраляна й выслана»[236].

Ці не найбольш мэмуараў прысьвечана падзеям Другой сусьветнай вайны – найцяжэйшым выпрабаваньням, праз якія прайшлі беларусы ў часы франтавога, акупацыйнага, лягернага, бежанскага ліхалецьця. Гэта ўспаміны А. Галубіцкага «Шляхі беларускіх дзяцей у

---

[236]Успаміны датаваныя 18.05.1952. Захоўваюцца ў архіве Фундацыі Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).

вапошнюю вайну»[237], А. Калодкі «Беларусы ў нямецкіх лягерах сьмерці»[238], С. Шаўцова «Каму гарох?»[239], «Лідзкая акруга падчас нямецкае акупацыі 1941-1944 гадоў»[240], Ф. Кушаля «Героі збройнага змаганьня. Памяці Віталя Мікулы»[241] і «З успамінаў»[242], С.Г. «Мае ўспаміны»[243], «Дарога сьмерці. Успаміны вязьня нямецкіх канцэнтрацыйных лягероў»[244], Л. Куніцы «Мы баранілі Гарадок!»[245], П. Навары «Кароткія ўспаміны»[246].

Можна вылучыць асобна публікацыі пра Беларускую афіцэрскую школу ў Менску: Ф. Кушаля «Падрэзаныя крылы»[247], В.Д. «З успамінаў аб Беларускай ахвіцэрскай школе. Менск, 1944»[248], запісы былога курсанта афіцэрскай школы БКА «Менск 27 чэрвеня 1944 году»[249], дзёньнік былога курсанта афіцэрскай школы БКА «Зь мінулага»[250].

---

[237]«Бацькаўшчына», № 24 (254) 12 чэрвеня 1955, с.2, 4; № 25 (255), 19 чэрвеня 1955, с.2, 4; № 26 (256), 26 чэрвеня 1955, с.1, 4; № 28 (258), 10 ліпеня 1955, с.2-3; № 29 (259), 17 ліпеня 1955, с.1-2; № 30-31 (260-261), 21 ліпеня 1955, б.2; №34 (264), 21 жніўня 1955, с.2-3.
[238]«Беларус», № 241, травень 1977, с.2, 4.
[239]«Беларуская Думка», № 40, 1995, с.23-30.
[240]«Беларуская Думка», № 1, 1960, с.6-9.
[241]«Беларуская моладзь», № 24, 1965, с.6-8.
[242]«Беларуская моладзь», № 2, 1959, с.5-8.
[243]«Жыве Беларусь», 12, 1960, с.7, 9.
[244]«Адраджэньне», № 2-3, красавік-май 1947, с.8-10.
[245]«Аб'еднаньне», № 1, 1954.
[246]«Голас часу», № 25 (4), 1993, с.32-37; № 28 (1), 1994, с.33-36; № 29 (2), 1994, с.33-37; № 31 (4), 1994, с.35-38; №32 (5), 1994, с.26-30
[247]«Беларуская моладзь», № 22, 1964, с.2-5; № 23, 1965, с.13.
[248]«Беларуская моладзь», № 20, 1964, с.6-11, 14-17.
[249]«Голас часу», № 19 (4), 1992, с.25-28.
[250]«Аб'еднаньне», № 1, 1992, с.8-9; № 2, 1993, с.18-19.

Асабліва шмат увагі ваеннай тэматыцы аддавалася рэдакцыяй часапісу вэтэранаў «Зважай», на старонках якога рэгулярна зьяўляліся мэмуары пра мінулую вайну. Тут друкаваліся ўспаміны А. Калодкі «Пётра Родзевіч»[251], «Вялейская турма»[252], «Дарога сьмерці»[253], «Напад палякаў на Жодзішкі»[254], А. Пяруна «Курылавічы»[255], П.Вялейскага «Бессаромная ілжа»[256], А. Слонімскага «Варожыя правакацыі ў Слоніме ў 1943 годзе»[257], А. Асіповіча «З гісторыі вэтэранскіх сьцягоў»[258], В. Сяньkeвіча «З успамінаў пра СБМ»[259] і іншыя.

Нямала новага да гісторыі беларускага войска дадаюць успаміны Рагулеўца «Наваградзкі эскадрон. Успаміны ўдзельніка»[260], Л. Ігнацюка «Беларускае войска ў Італіі»[261], Самаахоўца «Слонімская брыгада самааховы»[262], Д. Касмовіча пра Беларускі Вызвольны Фронт (захоўваюцца ў рукапісе)[263], Ф. Кушаля пра беларускія вайсковыя адзінкі[264], упершыню надрукаваныя ў менскім часапісе «Беларускі гістарычны агляд» (публікацыя А. Літвіна)[265].

---

[251]«Зважай», №1 (13), 1979, с.4-6.
[252]«Зважай», №2 (14), 1979, с.2-3.
[253]«Зважай», №3 (15), 1979, с.5-6.
[254]«Зважай», №4 (16), 1979, с.4.
[255]«Зважай», №2 (8), 1977, с.2-4.
[256]«Зважай», №2 (14), 1979, с.3-4.
[257]«Зважай», №2 (14), 1979, с.5.
[258]«Зважай», №2 (30), 1983, с.6-7.
[259]«Зважай», №2 (70), 1993, с.2-3.
[260]«Наперад», №24, 1953, с.28-43; №25, 1953, с.25-38; №26, 1953, с.33-45.
[261]«Дакумэнты і Факты», №1, 1952, с.1-2.
[262]«Дакумэнты і Факты», №3, 1952, с.5-7.
[263]Архіў БІНІМа (Нью-Ёрк).
[264]Арыгінал перахоўваецца ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф.Скарыны (Лёндан).
[265]«Беларускі гістарычны агляд», 1994-1998. Менск.

Вельмі каштоўнымі – як з факталягічнага, так і зь ідэёвага, нацыянальнага боку – зьяўляюцца ўспаміны, прысьвечаныя яшчэ адной ненапісанай і маладасьледаванай старонцы нашай гісторыі – беларускаму школьніцтву й студэнцтву на Беларусі й за яе межамі ў даваенныя, ваенныя й паваенныя гады: А. Радкевіч «Пачаткі беларускага школьніцтва ў Менску»[266], Пласкавіцкага «Да праблемы беларускіх школаў у перадваеннай Польшчы»[267], Тэбэшоўца «Змаганьне за беларускую школу ў Слонімшчыне»[268], успамін Аляксандра Орсы пра беларускае студэнцтва ў Празе Чэскай[269], М. Тулейкі пра Нясьвіжскую настаўніцкую сэмінарыю[270], Я. Станкевіча «Саматужныя школы»[271], Г. Нямігі «Беларускае школьніцтва пад нямецкай акупацыяй у вайну 1941-1944 гадоў»[272], В.К. «Клецкая беларуская гімназія»[273] і «Зь мінулага» – пра сьвяткаваньне ўгодкаў незалежнасьці Беларусі ў Клецкай беларускай гімназіі»[274], А. Негнявіцкага «Беларуская гімназія ў Навагрудку»[275], Ф. Кушаля «Нязьдзейсьненыя спадзяваньні. Крыху аб беларускім вайсковым школьніцтве»[276], «Першая

---

[266]«Запісы БІНІМ», №16, 1978, с.84-90.
[267]«Бацькаўшчына», № 6-7(288-289), 11 лютага 1956, с.6.
[268]«Беларускі Голас», №105, травень 1963.
[269]«Бацькаўшчына», № 20-21(354-355), 26 травеня 1957, б.8.
[270]«Беларус», верасень 1997, б.7.
[271]«Беларуская моладзь», №17, 1963, с.12-15.
[272]«Запісы БІНІМ», №19, 1989, с.102-111.
[273]«Віці», №1 (10), 1957, с.13-14.
[274]«Беларус», № 84, сакавік 1964, с.5.
[275]«Бацькаўшчына», № 44(326), 28 кастрычніка 1956, с.3-4; №45(327), 4 лістапада 1956, с.3; № 46(328), 11 лістапада 1956, с. 3-4; № 49(331), 2 сьнежня 1956, с.3.
[276]«Беларуская моладзь», №21, 1964, с.8-11.

Беларуская гімназія на Чужыне»[277], успаміны навучэнцаў гімназіі імя Янкі Купалы ў Баварыі[278].

Асабліва добрым словам успамінаюць былыя вучні беларускіх школ сваіх настаўнікаў-выхавацеляў. «А зрабіла гэтая настаўніца, - піша Яўхім Кіпель пра Надзею Савіч, – нямала. Толькі з Глускае школы выпусьціла яна колькі сотняў хлапцоў, сярод якіх колькі дзясяткаў уключылася ў рух беларускага адраджэньня. Не зважаючы на суворую русыфікацыю, яна ўсё-ж патрапляла ня нішчыць дзіцяці духова, а наадварот – падтрымоўваць і разьвіваць у ім любоў да свайго краю.

Яшчэ тады, у тыя далёкія часы, яна дамагалася ўвядзеньня беларускае мовы ў школу, яна аналізавала, што навокал адбывалася. У беларускі нацыянальны рух мае землякі ўключыліся, дзякуючы ейнай любасьці да свайго краю, дзякуючы ейнаму падыходу да вучняў, ейнаму такту й глыбокай народнай мудрасьці.

Думаю, што такіх настаўнікаў у нас былі тысячы. У Беларусі ім некалі будзе пастаўлены помнік»[279].

Значную ролю ў выхаваньні не аднаго пакаленьня нацыянальна-сьведамых беларусаў адыграла Беларуская Віленская Гімназія, у якой працавалі Браніслаў Тарашкевіч, Максім Гарэцкі ды іншыя выдатныя пэдагогі. Гэтаму знакамітаму асяродку беларускага школьніцтва прысьвечаны ўспаміны Вітаўта Тумаша «Беларуская Віленская Гімназія»[280], Раісы Галяк «Настаўнікі Віленскай Беларускай

---

[277]«Беларускі сьвет», № 19 (48), 1987, с.34-37.

[278]І.Рытар-Кахано́ўская. «Зь беларускім сэрцам, думай». «Беларус», № 311, чэрвень-ліпень 1983, с. 4-5; № 312, жнівень-верасень 1983, с. 4-5; № 313, кастрычнік 1983, с.3-4.

[279]Яўхім Кіпель. Як нас вучылі. «Запісы. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва», № 15, Нью-Ёрк, 1977, с.67-68.

[280]«Полацак», № 3 (13), 1992, с.48-52; № 4 (14), 1992, с.55-57; № 5 (15), 1992, с.49-51; № 9 (19), 1992, с.37-40.

Гімназіі»[281], Л. Бяленіс, І. Пануцэвіч «Віленская Беларуская Гімназія»[282] і «Чвэрцьвечча Віленскае Беларускае Гімназіі»[283], Беларускага Скаўта «Ўспаміны з жыцьця беларускіх скаўтаў. Беларуская Гімназія ў Вільні. 1934-1939 гады»[284].

Пры параўнаньні стану беларускага школьніцтва ў даваенныя й паваенныя часы бачна, што менавіта беларуская школа на выгнаньні мае права лічыцца пераемніцай школы, якую стваралі Браніслаў Тарашкевіч, браты Лёсікі, Канстанцін Міцкевіч, Ванда Лявіцкая ды сотні адданых беларускіх настаўнікаў.

Успаміны, прысьвечаныя пісьменьнікам, мастакам, наагул культурнаму жыцьцю на Беларусі й на эміграцыі, зьмяшчаліся, як правіла, у пэрыядычных выданьнях. З асобных выданьняў можна назваць зборнік «Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў пра іх»[285], выдадзены ў ЗША.

Постаці Янкі Купалы і Якуба Коласа для ўсёй беларускай грамады былі заўсёды зьвязаныя з пакінутай бацькаўшчынай, нацыянальнай культурай, роднай мовай. І нічога дзіўнага, што бібліяграфія «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе»[286], складзеная Вітаўтам і Зорай Кіпелямі, зьмяшчае больш за дзьве тысячы публікацыяў.

Кожны, хто некалі сустракаўся з паэтамі, імкнуўся расказаць пра гэтыя сустрэчы, перадаць свае ўражаньні. І нават самыя нязначныя сьведчаньні зь цікавасьцю

---

[281]«Полацак», №1 (21), 1993, с.41-45; №5 (25), 1993, с.58-61.
[282]«Полацак», №3 (33), 1994, с.47-49.
[283]«Раніца», №4 (166), 23 студзеня 1944.
[284]«Крывіцкі сьветач», №9-10, 1946, с.21.
[285]Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў пра іх. ЗША, 1982.
[286]Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе. Бібліяграфія. Укладальнікі Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель. БІНіМ, Нью-Ёрк. 1985.

ўспрымаліся чытачамі. Вось некаторыя з такіх успамінаў: М.Ш. «Мае сустрэчы»[287], А.С. «На Лысай гары»[288], Апалінарыя Савёнак «Прыпамінаю»[289], Іна Рытар «На суд гісторыі»[290], А. Галубіцкі «Як Купала прыйшоў у нашу вёску»[291], Янка Золак «Мая сустрэча зь Якубам Коласам»[292], П. Масенка «Сустрэчы зь Янкам Купалам»[293], М. Менскі «Мае ўспаміны»[294], В. Т-і «Спатканьне з Купалам»[295], К. Рамановіч «Успаміны»[296], Юрка Віцьбіч «Завулак імя Янкі Купалы»[297], Зінаіда Станкевіч «Добрая была сустрэча»[298], Міхась Міцкевіч «Якуб Колас. Кароткі ўспамін»[299], Масей Сяднёў «Юбілейныя сустрэчы. Зблізку ад Коласа й Купалы»[300], Пётр Татарыновіч «На маргінэсе ўспамінаў аб Купале»[301].

Такія ўспаміны давалі й замежным дасьледчыкам, якія разумелі і аб'ектыўна ацэньвалі прадузятасьць савецкай афіцыйнай навукі, праўдзівыя факты жыцьця й творчасьці беларускіх пісьменьнікаў.

---

[287]«Шляхам Жыцьця», № 8(20), 31 жніўня 1947, с.13-15.
[288]«Беларуская моладзь», № 11, 1961, с.7-9.
[289]«Беларус», № 287, сакавік 1981, с.3.
[290]«Конадні», № 7, 1963, с.109-122.
[291]«Бацькаўшчына», № 25-26(307-308), 24 чэрвеня 1956, с.2.
[292]«Беларус», № 301-302, чэрвень-ліпень 1982, б.4.
[293]«Бацькаўшчына», № 5-6 (136-137), 8 лютага 1953, с.5-6; №7-8(138-139), 22 лютага 1953, с.2, 5.
[294]«Беларус», № 9(15), 23 жніўня 1952, с.3; № 10 (16), 6 верасьня 1952, с.2, 4.
[295]«Апошнія весткі», № 4, 1948, с.5.
[296]«Бацькаўшчына», № 25-26(307-308), 24 чэрвеня 1956, с.2.
[297]«Шыпшына», № 9, 1950, с.40-43.
[298]«Беларус», № 303-304, жнівень-верасень 1982, с.4.
[299]«Беларускі сьвет», № 22 (51), 1991, с.14-30.
[300]«Беларуская моладзь», № 19, 1963, с.4-6.
[301]«Źnič», № 19, 1952, с.5.

Так, у 1953 годзе ў рымскім часапісе «La Civilta Cattolica»[302] зьявілася рэцэнзія У. Флёрыдзі на манаграфію Джузэпэ Мессыны, прысьвечаную беларускай літаратуры[303]. Зьвяртаючы ўвагу на шэраг недакладнасьцяў, памылак, а таксама на прасавецкі – у пэўнай ступені – падыход да тэмы, У. Флёрыдзі, у прыватнасьці, піша: «Пакідаючы іншыя зацемкі, выкажам аснаўнейшую старонлівасьць інфармацыяў у аўтара, выпрастоўваючы й дапаўняючы коратка некаторыя ведамкі з жыцьця найбольшага беларускага паэта нашых дзён Янкі Купалы. <…> Адносна рэлігійнасьці паэта, на якую вельмі мала крытыкаў зьвяртае ўвагу, доктар Пётра Татарыновіч летась, з нагоды сямідзесяцігодзьдзя народзін і дзесяцігодзьдзя сьмерці паэта, напісаў у сваёй часопісі адзін цікавы артыкулік[304].

Сьцьвярдзіўшы, што на дне Купалавай душы жыла вера ў Бога, праяўляючыся праз прызму трагедыі свайго народу, што і абʼясьняе тыя радыкальныя выказы ягоныя, артыкуліст характарызуе веру штурмам Ізраэла да анёла: «Не пушчу цябе, пакуль не пабагаславіш мяне». І на доказ, што гэта ня ёсьць толькі яго аднаго ўражаньне, цытуе адну зацемку, знойдзеную на маргінэсе аднаго біблійнага верша Купалы: «Гэта бунт духа, поўнага болю. Гэта гордая малітва, каб Бог чымхутчэй вярнуў вольную бацькаўшчыну». Таму некаторыя выказы ягоныя, як канчатковыя, напрыклад, словы верша «Мая вера» – «У народ і край свой толькі веру» – ня можна браць у сэнсе паганскім, але, як відно з кантэксту, у сэнсе суцэльнай любові краю з усімі яго духовымі скарбамі, а знача й верай

---

[302] La Civilta Cattolica, № 4, 1953, p.444-452.
[303] Guiseppe L. Messina. La Letteratura Belorussa. Firenze. Val martina, 1952.
[304] «Źnič», № 19, 1952, c.5.

у Бога так глыбока ўкаранёнай у яго простым і дарагім народзе.

А хто хацеў-бы 'шчэ болей доказаў веры ў Купалы, дык той-жа а. Татарыновіч, які меў гонар з кс. Рамейкам, вялікім прыяцелем паэта, яго адведваць, выносячы ўражаньне аб веры як самога паэта, так і жонкі ягонай, расказвае ў сваім артыкуле, як у 1919 годзе Купала прысутнічаў кожны маёвы вечар на філязафічна-рэлігійных канфэрэнцыях вучонага духоўніка беларускага Ф. Абрантовіча (рэктара тагдышняй Менскай сэмінарыі) і пазьней прыняў сьв. сакрамэнты перад крыху рызыкоўнай апэрацыяй. <...> Калі-б Мессына меў на ўвеце гэтыя ведамкі, дык хіба не напісаў-бы, што Купала «ў 1917 годзе праняўся камуністычнымі ідэямі»[305].

Калярытныя ўспаміны з даваеннага літаратурнага жыцьця ў Менску пакінуў К. Рамановіч, пішучы пра Лукаша Калюгу[306], Валерыя Маракова[307], Барыса Мікуліча[308], Віктара Казлоўскага і Ізыдара Плаўніка[309], Паўлюка Шукайлу[310], Сяргея Дарожнага[311], Б. Скальскага[312], выкладчыкаў і студэнтаў Менскага пэдтэхнікуму[313].

Пра свае сустрэчы зь дзеячамі культуры ў Заходняй Беларусі пісаў Сяргей Хмара: «Памяці Гальляша

---

[305]«Źnič», № 22, 1953, с.8. У гэтым нумары быў зьмешчаны пераклад рэцэнзіі У. Флёрыдзі «Датычна аднае кнігі аб беларускай літаратуры», с.5-8.

[306]«Бацькаўшчына», № 46(581), 19 лістапада 1961, с.3.

[307]«Бацькаўшчына», № 16(551), 16 красавіка 1961, с.4.

[308]«Бацькаўшчына», № 1-2(585-586), Праваслаўныя Каляды 1962, с.6-7.

[309]«Бацькаўшчына», № 39(523), 9 кастрычніка 1960, с.3-4.

[310]«Бацькаўшчына», № 47(582), 10 сьнежня 1961, с.4.

[311]«Бацькаўшчына», № 6(590), 25 сакавіка 1962, с.3.

[312]«Бацькаўшчына», № 42(324), 14 кастрычніка 1956, с.4.

[313]«Бацькаўшчына», № 40-41(270-271), 9 кастрычніка 1955, с.6.

Леўчыка»[314], «Дзядзька Гальляш»[315], «Вяль і Музыка»[316], «Вастрожныя сустрэчы з Антонам Навіной»[317], «Дубоўка»[318], «Якуб Міска»[319].

У артыкуле Мікалая Бэліна-Падгаецкага «З даўніх успамінаў былога камуністага» значнае месца адведзена постаці Цішкі Гартнага[320].

Уладзімер Брылеўскі апісаў свае сустрэчы з ксяндзом В. Гадлеўскім[321], прафэсарам В. Іваноўскім[322], Хв. Ільляшэвічам[323], Р. Астроўскім[324], К. Езавітавым[325], Юркам Віцьбічам[326].

Станіслаў Бубень пакінуў успаміны пра Пётру Татарыновіча[327]; Н. Палонская – пра М. Доўнар-Запольскага[328]; Э. Будзька[329], Ганна Ластоўшчынка-

---

[314]«Баявая Ўскалось», № 2, 1949, с.42-43.
[315]«Баявая Ўскалось», № 13, 1973, с.26-31.
[316]«Баявая Ўскалось», № 12, 1972, с.29-33.
[317]«Баявая Ўскалось», № 9, 1970, с.19-21.
[318]«Баявая Ўскалось», № 16, 1977, с.25-28.
[319]«Баявая Ўскалось», № 18, 1981, с.22-24.
[320]«Бацькаўшчына», № 51-51(385-386), Каталіцкія Каляды 1957г., с.7; № 1-2(387-388), Праваслаўныя Каляды 1958г., с.7; №3(389), 19 студзеня 1958, с.3.
[321]«Беларус», № 273, студзень 1980, с.4
[322]«Беларус», № 286, люты 1981, с.2.
[323]«Беларус», № 271-272, лістапад-сьнежань 1979, с.3.
[324]«Беларус», № 270, кастрычнік 1979, с.2.
[325]«Полацак», № 6 (26), 1993, с.40-42.
[326]«Беларус», № 274, люты 1980, с.2.
[327]«Беларус», № 283-284, лістапад-сьнежань 1980, с.5.
[328]«Запісы БІНІМ», № 1, 1953, с.14-28.
[329]«Бацькаўшчына», № 51-52(385-386), Каталіцкія Каляды 1957. Эдвард Будзька яшчэ да эміграцыі шырока выкарыстоўваў жанр мэмуараў: Памяці Сяргея Палуяна (1890-8.04.1910). «Менская Газэта», № 22(42), 5 красавіка 1942; Алесь Бурбіс. «Беларуская Газэта», № 18(38), 22 сакавіка 1942; Пясьняр у жыцьці (да 85-годзьдзя Алеся Гаруна). «Беларуская Газэта», № 17(37), 16

Главацкая[330], Стася Ластоўшчынка-Матулене[331], Людас Гіра[332] – пра В. Ластоўскага; Кветка Вітан – пра Івана Луцкевіча[333]; О. Залізьняк[334], М. Шыла[335], С. Кайрыс[336], Ю. Вітан-Дубейкаўская[337] - пра Цётку; Ф. Кушаль[338], А. Эссон[339] - пра Алеся Гаруна; А. Саковіч - пра Язэпа Лёсіка[340]; Б. Грабінскі - пра Ф. Грынкевіча[341]; Ю. Сабалеўскі[342], Г. Самотны[343] - пра кс. В. Гадлеўскага; Вольга Таполя - пра Тодара Кляшторнага[344]; Л. Б. - пра сустрэчы з Кузьмой Чорным («У Менскім Доме Друку»[345]) і С. Фаміным («Разьвітаньне зь Менскам»[346]), Антон Шукелойць – пра А. Бярозку («Некалькі штрыхоў да партрэта Анатоля Бярозкі»)[347].

---

сакавіка 1942; Каганец. Успамін. «Беларуская Газэта», №8(156), 23 траўня 1943; 25 год таму (Успаміны аб 1-ым Усебеларускім Кангрэсе). «Голас Вёскі», №46(53), 24 сьнежня 1942.

330 «Запісы БІНІМ», №21, 1994, с.113-120.

331 «Запісы БІНІМ», №21, 1994, с.120-122.

332 «Запісы БІНІМ», №21, 1994, с.122-124.

333 «Конадні», №7, 1963, с.133-137; «Бацькаўшчына», №22(304), 1956, с.3-4, №23(305), 1956, с.2, 4.

334 «Беларуская моладзь», №15, 1962, с.2-4.

335 «Шляхам Жыцьця», №2(14), 2 лютага 1947, с.4.

336 «Конадні», №2, 1954, с.68-78.

337 «Конадні», №3, 1955, с.49-54.

338 «Конадні», №7, 1963, с.126-132.

339 «Конадні», №7, 1963, с.123-125.

340 «Беларуская Думка», №8, 1965, с.7-11.

341 «Мэдычная Думка», №3, сакавік 1950, с.31-34.

342 «Незалежная Беларусь», №1(7), 1953.

343 «Незалежная Беларусь», №2(8), 1953, с.2, 4.

344 «Апошнія весткі», №30, 1948, с.5.

345 «Апошнія весткі», №11, 1948, с.5.

346 «Апошнія весткі», №13, 1948, с.4.

347 «Полацак», №2 (22), 1993, с.34-36.

У многіх з гэтых артыкулаў-успамінаў прыводзяцца шматлікія біяграфічныя зьвесткі, важкасьць якіх тым большая, што яны грунтуюцца на асабістым знаёмстве аўтара з героем. Прыгадаем тут яшчэ артыкулы Васіля Захаркі «Памяти П.А.Кречевского»[348], Віталя Цярпіцкага «Сьвятой памяці а. пратапрасьвіцер Мікалай Лапіцкі»[349], напісаны да 10-х угодкаў зь дня сьмерці, А. Залескага «Дзядзька Хведар. Да 10-й гадавіны зь дня сьмерці Хведара Ільляшэвіча»[350], ананімныя ўспаміны «Кс. Вінцэнты Гадлеўскі – асновапаложнік беларускага рэзыстансу. Да 3-іх угодкаў Ягонае сьмерці»[351].

Кнігу пра Язэпа Пушчу «Паэта з Божай ласкі»[352] напісаў Ул. Сядура-Глыбінны. Пра Пушчу пакінулі таксама невялікія ўспаміны Алесь Змагар «На лекцыі беларускае літаратуры ў БДУ ў 1929 годзе»[353] і М. Рэпкаў-Смаршчок «Крыху пра Язэпа Пушчу ды ягоныя «Лісты да сабакі». Успаміны»[354].

Успаміны, багатыя на факты з культурнага жыцця даваеннай Беларусі, напісаў В. Сэлях-Качанскі: «Адносіны бальшавікоў да беларускага мастацтва»[355], «Трыумф Беларускага тэатру»[356], «Як быў здабыты беларускі народны танец «Крыжачок»[357].

---

[348]«Белорусская Трибуна», Чикаго, №2, 20 октября 1928.

[349]«Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады», South River, N.J., №12, 1986, с.9.

[350]«Бацькаўшчына», №43 (429), 9 лістапада 1958.

[351]«Беларускія Навіны», Парыж, №1, 1945.

[352] Ул. Глыбінны. Паэта з Божай ласкі. Успаміны й роздум. Нью-Ёрк, 1979.

[353]«Моладзь», № 27, 1952, с.3-5.

[354]«Полацак», № 2(22), 1993, с.37-42.

[355]«Беларускае слова», № 7 (28), ліпень-жнівень 1956.

[356]«Беларуская моладзь», № 21, 1964, с.4-7, 11.

[357]«Беларуская моладзь», № 23, 1965, с.10-11.

Гады йшлі, пакаленьне паваенных эмігрантаў старылася, многія набліжаліся да юбілейных датаў, многія адыходзілі. Гэты непазьбежны натуральны працэс выклікаў да жыцьця шэраг артыкулаў-успамінаў, дзе героямі сталіся ўжо самі эмігранты. Дз. Верасаў напісаў пра Вечаслава Сэляха-Качанскага[358], Юры Жывіца – пра Хведара Ільляшэвіча[359], Раіса Жук-Грышкевіч – пра Натальлю Арсеньневу[360]. Пра Міколу Равенскага напісалі Антон Адамовіч («Лірнік краіны ветлай»[361]), Ул. Бакуновіч («Як нараджалася песьня»[362]), Вітаўт Кіпель «Мамэнты з жыцьця Міколы Равенскага»[363], Зора Кіпель «Магутны Божа» – упершыню»[364], Янка Запруднік «Памяці Міколы Равенскага»[365], Янка Жучка «Над магілкай...»[366]. У гэтым шэрагу можна назваць таксама такія ўспаміны, як «Доктар Янка Станкевіч» А. Калодкі[367], «Доктар Аляксандр Орса» В. Плескача[368], «Жменька ўспамінаў пра Аляксандра Калодку» Б. Кіта, М. Скабея, М. Нікана[369], «Сын верны Маці-Беларусі. А. Каханоўскі» І. Каханоўскай[370], «Слова пра бацьку. Адвард Будзька» Л. Бяленіс і І. Пануцэвіч[371].

---

[358]«Беларус», № 233, верасень 1976, с.4-5.
[359]«Беларуская Думка», № 16-17, 1973-1974, с.12-15.
[360]«Беларус», верасень 1997, с.5-6.
[361]«Беларуская моладзь», № 12, 1961, с.5-6, 10-11; № 13, 1962, с.5-6, 13-14, 16-17; № 16, 1962, с.14-17; № 17, 1963, с.19-22.
[362]«Беларускі сьвет», № 13 (42), 1983, с.5-9.
[363]«Беларус», № 422, сакавік 1995.
[364]«Беларус», № 382, верасень 1991.
[365]«Беларус», № 399, сакавік 1993.
[366]«Беларус», № 419, сьнежань 1994.
[367]«Беларускі сьвет», № 17 (46), 1985, с.18-20.
[368]«Беларускі сьвет», № 18 (47), 1986, с.4-10.
[369]«Беларускі сьвет», № 19 (48), 1987, с.34-37.
[370]«Беларускі сьвет», № 20 (49), 1988, с.4-6.
[371]«Полацак», № 5 (15), 1992, с.6-9.

Да беларускай эміграцыйнай мэмуарыстыкі можна залічыць таксама тыя нешматлікія ўспаміны, што былі напісаныя грамадзянамі краін «сацыялістычнай садружнасьці», як, прыкладам, успаміны Анэлі Катковіч. Грамадзянка Польшчы, Анэля Катковіч адважылася запісаць свае ўспаміны, толькі трапіўшы ў 1977 годзе ў Лёндан. Два чырвоныя сшыткі, запоўненыя дробным почыркам аўтаркі, – гэта так званыя «гулагаўскія ўспаміны», дзе, разам з тым, знайшлося месца і аповяду пра Беларускі Студэнцкі Саюз, Саюз Беларускай Моладзі, а таму на старонках «Маіх успамінаў»[372], як назвала свой манускрыпт Анэля Катковіч, сустракаем прозьвішчы эміграцыйных дзеячаў В. Пануцэвіча, В. Тумаша, В. Войтанкі, В. Шчорса, Ч. Будзькі ды іншых.

«Мае ўспаміны» ня толькі дадаюць нейкія новыя рысы, дэталі да ўжо вядомых нам падзеяў, але – што самае галоўнае – знаёмяць нас з новым чалавекам, самім аўтарам, зь ягоным асабістым, унікальным жыцьцёвым вопытам: «Мама, якая гадавалася разам з Паўлінай Мядзёлкай, дачкой мамінага старэйшага брата, часта расказвала нам аб Паўлінцы як аб вялікай беларускай патрыётцы. Не заўважыла яна, напэўна, як зашчапіла і ў маім сэрцы гарачую любоў да беларускае мовы, песень і народу. Ад малых гадоў перажывала я, калі чула насьмешку зь беларускае мовы ці беларускіх звычаяў. Ад мамы навучылася я шмат беларускіх песень і баек. Ах, як любілі мы слухаць байкі нашай мамы! Расказвала яна іх так прыгожа. Прала кудзелю й расказвала або пела беларускія песьні»[373].

---

[372]Анэля Катковіч. Мае ўспаміны. Рукапіс перахоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны (Лёндан). Пачатак успамінаў друкаваўся ў часапісе «Беларуская Думка», №38, 1994, с.18-24. Працяг – у часапісе «Полацак», № 2 (32) - № 4 (34), 1994.
[373]Тамсама.

Беларускую мэмуарыстыку дапаўняюць ўспаміны, напісаныя небеларусамі й выдрукаваныя ў іншых мовах – ангельскай, італійскай, нямецкай, францускай, украінскай, летувіскай, расейскай, польскай. Часта зусім неспадзявана ў іх можна адшукаць зьвесткі, дэталі, якіх бракуе беларускамоўнай мэмуарнай літаратуры - як, напрыклад, ва ўспамінах расейскага палітычнага дзеяча П. Мілюкова, дзе ён згадвае III Канфэрэнцыю Нацыянальнасьцей ў Лазаньне 27-29 чэрвеня 1916 году й зварот беларусаў «for sympathy and support to bring about respect toward their national and cultural rights»[374], або дзёньнік амэрыканца Давіда Мільлера[375] і дзёньнік украінца Міколы Шапавала 1921-1927 гадоў, у якім ён згадвае сустрэчы з Тамашом Грыбам, Пётрам Крэчэўскім, Вацлавам Ластоўскім, Аляксандрам Цьвікевічам[376].

Расейскамоўны пісьменьнік Юлі (Іегуда) Марголін (пісаў пад псэўданімам Аляксандар Галін), родам зь Пінску, асуджаны ў 1939 годзе савецкім судом, напісаў успаміны «Путешествие в страну зэ-ка», па словах расейскага эмігранта й пісьменьніка Рамана Гуля, – «адну зь лепшых кніг пра камуністычную катаргу». Кніга была перакладзена ў нямецкую й францускую мовы.

У 1925 годзе ў кнігарнях Лёндана зьявілася кніга Аляксандра Скотта «Beyond the Baltic»[377], што сталася сапраўдным бэстсэлерам таго часу. Дваццаць восьмы разьдзел у ёй называецца «White Russia», у якім аўтар расказвае пра сустрэчу й знаёмства з Клаўдзіем Дуж-Душэўскім у Коўна. У гутарцы з паўнамоцным

[374]Struggling Russia. Vol. 2, Nos. 7-8. May 15, 1920. p.102.

[375]Miller, David Hunter. My Diary at the Conference of Paris. New York: D. H. Miller, Appeal Printing Co., Vol. XVIII, Bulletins, 1924.

[376]The New York Public Library. Slavic and Baltic Division. *QGA 73-3975.

[377]A. MacCallum Scott. Beyond the Baltic. London, T. Butterworth limited, 1925.

прадстаўніком Рады БНР пры ўрадах балтыйскіх дзяржаваў аўтар кнігі «з сорамам прызнаўся ў сваім поўным няведаньні адносна гэтага [беларускага – Л.Ю.] нацыянальнага руху», але ня мог «мірыцца з такім станам рэчаў і жадаў-бы ведаць больш»[378]. Таму значная частка разьдзела прысьвечана аповяду К. Дуж-Душэўскага пра гісторыю Беларусі, пра стаўленьне беларусаў да палякаў, якіх лічыў «нашымі найгоршымі ворагамі»[379], пра пытаньне прыналежнасьці імёнаў Адама Міцкевіча й Тадэвуша Касьцюшкі беларускай, летувіскай ды польскай культурам. Адным словам, – таму, пра што беларускі дзеяч расказваў ангельскаму пісьменьніку.

Аляксандар Скотт знаёміць чытачоў з постацьцю Клаўдзія Дуж-Душэўскага, ягонай навуковай і палітычнай дзейнасьцю, адзначае неспрыяльныя жыцьцёвыя ўмовы буйных палітычных беларускіх дзеячаў на эміграцыі і адцемлівае іхную нязломную веру ў прышласьць незалежнай Беларусі: «Спадар Дуж-Душэўскі – горны інжынэр, ён быў выкладчыкам у Горнай Школе Петраграду. У сучасны момант ён аддае сябе прапагандзе Беларусі. Ён не прымае рэвалюцыйных мэтадаў. Ён верыць у тое, што калі яны будуць настойліва працягваць культурнае разьвіцьцё, ствараць сваю інтэлігенцыю й пашыраць выкарыстаньне нацыянальнай мовы ва ўсіх сфэрах ужытку, новая нацыя паступова знойдзе сродак стымуляцыі самапазнаньня. Ён надрукаваў свой падручнік па батаніцы. Ён таксама падрыхтаваў апісаньне й манумэнтальную гісторыю Беларусі, якую яшчэ пакуль ня змог выдаць. Ён паказаў мне манускрыпт, які таксама насычаны зьвесткамі па этналёгіі.

---

[378]A. MacCallum Scott. Beyond the Baltic. New York, George H. Doran Company, 1926, p.237.
[379]Тамсама, с.241.

Пакуль мы сядзелі й размаўлялі, прыйшоў яшчэ адзін наведнік. Гэта быў спадар Ластоўскі, былы прэм'ер-міністар у былым кароткачасовым беларускім урадзе, цяпер-жа ён таксама эмігрант. Мы гутарылі да позьняй ночы і ўсё пра тое-ж. «Вы бачыце, як мы жывём», – сказаў Дуж-Душэўскі, лагодна дакрануўшыся да пляча сваёй храбрай маленькай жоначкі, якая сама не была палітыкам, але была зьняволеная з-за палітычнай дзейнасьці свайго мужа. «Мы жывём у горшых кватэрных умовах за ангельскага работніка, а Ластоўскі-жа – прэм'ер-міністар, а я – міністар унутраных спраў. Але мы шчасьлівыя мець гэты пакой. Запэўніваю вас, што гэта – добры пакой для Коўна. У мяне ёсьць дом і бібліятэка ў Вільні, але палякі не дазваляюць мне пераехаць туды. Гэта цяжкі час для нас, і мы пераносім вялікія цяжкасьці. Але мы працуем, і беларусы яшчэ стануць нацыяй»[380].

---

[380]Тамсама, с.243-244: "Mr. Dush-Dushkauskas is a mining engineer, and was lecturer on this subject at the Mining School at Petrograd. At present he devotes himself to propaganda for White Russia. He adopts no revolutionary methods. His belief is that, if they persevere with cultural development, with rearing an educated class and with extending the use of the language as a literary medium, the new Nation will gradually find means for forcing recognition of itself. He is having printed a textbook on Botany which he has himself written. He has also prepared a monumental history and description of White Russia, which he has not yet been able to put into type. He showed me the MSS. It is crammed with ethnological lore.

As we sat talking another visitor arrived. It was Mr. Laistovski, who had been Prime Minister of White Russia in its short-lived Government, and who was now also an émigré. We talked late into the evening, and our theme was still the same. "You see how we live", sad Mr. Dush-Dushkauskas, with a caressing touch upon the shoulder of his brave little wife who is no politician, but who has been in prison for her husband's politics. "We are worse housed than an English workman; and Mr. Laistovski has been a Prime Minister and I Minister for Home Affairs. But we are lucky to have this room. I assure you it is a very good room for Kovno. I have a house and a library in Vilna, but the Poles will not let

Нарыс В. Ункоўскага «Президент Белорусской Республики», надрукаваны ў часапісе «Возрождение»,[381] – успаміны з часоў супрацоўніцтва аўтара ў газэце «Столичные Вести». Менавіта тут ён і пазнаёміўся з будучым Прэзыдэнтам БНР Язэпам Варонкам[382]:

«Сакратаром рэдакцыі быў сымпатычны студэнт-юрыст Пецярбурскага ўнівэрсытэту Язэп Якаўлевіч Варонка – беларус зь Беластоку. Высокі прыгожы брунэт, ён хадзіў ня ў сьціплай тужурцы, а ў адмыслова сшытым студэнцкім сурдуце, зашпіленым на ўсе гузікі. Падкрэсьлена запаволены, заўсёды чыста паголены, валасы на прабор і нязьменная памада. Ужываў дарагую «мужчынскую» парфуму й добра знаўся на ёй.

Жыў ён у памяшканьні рэдакцыі (Неўскі прасьпект, нумар 3, насупраць Галоўнага Штабу), спаў на стосах непрададзеных газэтаў (а іх тут былі горы). Зробленае прагульваў за лічаныя дні, а пасьля любіў насьпеўваць нешта пра кішэню зь дзюркай.

У Пецярбургу выходзіў невялічкі часапіс «Театральное обозрение», які каштаваў 5 капеек, дзе штодня друкаваліся падрабязныя афішы ўсіх спэктакляў і канцэртаў, а таксама тэатральная хроніка. Варонка даваў інфармацыйныя зацемкі, а таму быў сталым наведнікам тэатральных грымёрных і, зразумела, заляцаўся да артыстак»[383].

---

me go there. These are very difficult times for us all, and we suffer great privations. But the work goes on, and White Russia will yet be a nation.”

[381]«Возрождение». Paris, август 1956. с. 86-92.

[382]Пра Я. Варонку гл. таксама: А. Асіпчык. Язэп Варонка ў Чыкага. «Беларус», №402, 1993.

[383]Тамсама, с.86: «Секретарем редакции состоял милый студент-юрист петербургского университета Иосиф Яковлевич Воронко – белорус, родившийся ■ Белостоке. Высокий красивый брюнет, ходил не в скромной тужурке, а ■ прекрасно сшитом студенческом сюртуке, застегнутом на все пуговицы. Томный, всегда гладко

Нарыс Ункоўскага мае падзагаловак «Очерк петербургской богемы», а таму аўтар адцемлівае рысы, дэталі багемнага побыту, на фоне якога знаёміць чытача з А. Купрыным, Я. Чырыкавым, А. Аверчанкам, Скітальцам, В. Хлебнікавым ды іншымі: «Рэдакцыйныя сталы паўзьверх рукапісаў, пошты й даведнікаў засьцілаліся непрададзенымі асобнікамі чарговага нумару газэты, а на іх ставілася закусь: нарэзаная скрылікамі каўбаса, кілька, салёныя гурочкі, бульбяны вінэгрэт з буракамі і яйкамі. I самае прыцягальнае – вёдры квашанай капусты. I, зразумела, бутлі гарэлкі й шэрагі піўных бутэлек. Віна не было».[384]

Ункоўскі, расказваючы пра вечар зь «імправізаванай творчай праграмаю», не прыхарошвае сваіх герояў: вось «Купрын, на добрым падпітку, пальцамі нанізваў кільку на відэлец, відэлец бездапаможна трымцеў, а на ім кілька – і

---

выбритый, прическа с пробором и неизменная помада. Душился хорошими «мужскими» духами и знал в них толк.

Жил он в помещении редакции (Невский, номер три, против Главного Штаба), спал на кипах непроданных газет (а их были горы). Жалованье прокучивал в несколько дней, а потом любил напевать что-то насчет кармана с дыркой.

В Петербурге выходил журнальчик «Театральное обозрение», стоивший 5 копеек, где печатались ежедневно подробныя афиши всех спектаклей и концертов и театральная хроника. Воронко давал информационные заметки, а потому был верным завсегдатаем театральных уборных и, конечно, ухаживал за артистками».

[384]Тамсама, с.87: «Редакционные столы поверх рукописей, почты и справочников были застланы свежими номерами непроданной газеты, и на них расставлена закуска: колбаса, нарезанная кусочками, килька, соленые огурчики, винегрет из картошки с бураками и яйцами. И главная достопримечательность – ведерныя кастрюли с квашеной капустой. И, конечно, графины с водкой и батареи пива. Вина не было».

ніяк у рот не трапляла»[385]; Аверчанка «быў сапраўдным дэндзі – у адмыслова пашытым гарнітуры, гладка паголены, нязьменнае пэнснэ ў залатой аправе на носе, бо ён быў да трагічнасьці й да камізму блізарукі. Прыяжджаў у карэце, але, каб адпавядаць стылю, рукамі браў са жбана квашаную капусту, запіхваў у рот і запіваў гарэлкай»[386]; «бледны, да жаху схуднелы, з шалёнымі вачыма, якія блішчэлі галодным бляскам, паэт-футурыст Хлебнікаў, апрануты ў падобнае да дзяругі ўбраньне, выў нешта незразумелае».[387]

На гэтым фоне лягчэй зразумець танальнасьць успамінаў пра Язэпа Варонку: «Пазнаёміўся я з Варонкам у 1913 годзе, а эпісталярна мы былі знаёмыя з 1911 году. Тады я быў рэдактарам другога «Всероссийского Студенческого Сборника». Першы зьявіўся за колькі год перад тым пад рэдакцыяй І. Буніна й М. Целяшова. Варонка даслаў мне для зборніка падпісаную ягоным прозьвішчам празаічную мініятуру «Осеннее» й два вершы пад псэўданімам Юры Вегаў. Усё гэта я надрукаваў. Чысты прыбытак ад продажу зборніка прызначаўся пяцігорскаму студэнцкаму санаторыю. Першае выданьне разышлося, а калі зімою, у 1913 годзе, я пазнаёміўся з Варонкам, мы задумалі выпусьціць «Всероссийский Студенческий Сборник»

---

[385]Тамсама, с.87: «Куприн, будучи на сильном взводе, пальцами нанизывал кильку на вилку, вилка безпомощно трепыхалась, а на ней килька – и никак в рот не попадала».

[386]Тамсама: «являлся настоящим денди – в прекрасном костюме, гладко выбритый, неизменное пенснэ в золотой оправе на носу, так как был до трагичности и до комизма близорук. Приезжал в карете, но чтобы соответствовать стилю, руками брал из жбана квашеную капусту, запихивал в рот и запивал водкой».

[387]Тамсама: «бледный, истошно худой, с безумными глазами, светившимися голодным блеском, поэт-футурист Хлебников, одетый в странное подобие одеяния из рогожи, выл нечто нечленораздельное».

другім выданьнем. Так і сталася: увесну 1914 году другое выданьне выйшла, дзякуючы незвычайнай энэргіі Я. Я. Варонкі, – кніга зьявілася ў вітрынах кнігарняў Пецярбургу, Масквы, Харкава, Кіева ды іншых гарадоў.

Мы з Варонкам сустракаліся не радзей як два-тры разы на тыдзень у рэдакцыі «Воскресной Вечерней Газеты» і ў мяне. Ён быў ня дурань кульнуць чарку, і, памятаю, мы добра гульнулі на маскарадзе «Ярылава ноч», дзе ўсё было дагары нагамі: Варламаў піў, а Давыдаў танцаваў, і ўсё было накшталт таго-ж... І самы танны білет бязь месца каштаваў 25 рублёў, што па тых часох было страшэнна дорага. Я заплаціў за свой «уваходны», а Варонка, як заўсёды, «злаўчыўся». Мы весела прабавілі час, скакалі з маскамі, пілі каньяк, цешылі дурня да самага ранку.

Вайна 1914 году. Мяне мабілізавалі як малодшага доктара ва ўласны санітарны цягнік Імпэратрыцы Аляксандры Фёдараўны, і з Варонкам мы больш не сустракаліся. Але ён часта пісаў мне і на адрас цягніка, і на маю харкаўскую кватэру. Мушу прызнацца, я адказваў не заўсёды. У ягоных лістах не было нічога актуальнага. Ён працягваў супрацоўнічаць з «Обозрением театров». Арганізоўваў штотыднёвыя часапісы – «Вереск», «Колосья», але яны спыняліся пасьля выхаду першага-ж нумару. Яму фатальна не шанцавала. Сябраваў зь ведамым таленавітым паэтам Мікалаем Агніўцавым. Той хваліў вершы Варонкі, падпісаныя псэўданімам Юры Вегаў»[388].

---

[388]Тамсама, с.91-92: «Познакомился я с Воронко в 1913 году, а эпистолярно знакомы с ним с 1911 года. Я тогда был редактором второго «Всероссийского Студенческого Сборника». Первый вышел несколько лет раньше, под редакцией И. Бунина и Н. Телешова. Воронко прислал мне для сборника подписанную его фамилией прозаическую миниатюру «Осеннее» и два стихотворения под псевдонимом Юрий Вегов. Всё это я напечатал. Чистая прибыль от продажи издания шла пятигорскому студенческому санаторию. Первое издание разошлось, а когда зимою, в 1913 году, я

У гэтых успамінах знаходзім ня толькі цікавыя зьвесткі пра маладыя гады будучага прэзыдэнта БНР, але й выдатную ілюстрацыю таго, як успрымаўся сам факт паўстаньня Беларускай Народнай Рэспублікі сярод расейскіх інтэлігентаў; нездарма той самы В. Ункоўскі называе інфармацыю пра фармаваньне кабінэту міністраў БНР «атамнай бомбай»[389].

---

познакомился с Воронко – мы замыслили выпустить «Всеросийский Студенческий Сборник» вторым изданием. Нашу затею осуществили, и весной 1914 года второе издание вышло благодаря исключительной энергии И. Я. Воронко – книга тотчас появилась на витринах книжных магазинов Петербурга, Москвы, Харькова, Киева и других.

Мы с Воронко встречались не реже, чем 2-3 раза ■ неделю ■ редакции «Воскресной Вечерней Газеты» и у меня. Он был не дурак выпить и, помню, знатно мы кутнули на маскараде «Ярилина ночь», где все было шиворот навыворот: Варламов пил, а Давыдов танцевал и в таком роде вся программа. И самый дешевый билет, без права сидеть, стоил 25 рублей, что по тогдашним временам было безумно дорого. Я заплатил за свой «входной», а Воронко, конечно, «словчился». Мы весело провели время, танцевали с масками, пили коньяк в буфете, беспардонничали до утра.

Война 1914 года!.. Я был призван по мобилизации младшим врачом в собственный санитарный поезд Императрицы Александры Федоровны и с Воронко больше не встречался. Но он мне часто писал и ■ поезд, и на адрес моей харьковской квартиры. Я отвечал неаккуратно, каюсь. Его письма не представляли животрепещущего материала. Продолжал сотрудничать в «Обозрении театров». Организовывал еженедельные журналы, но они прекращались после выхода первого номера: «Вереск», «Колосья». Злосчастный рок его преследовал. Дружил с известным талантливым поэтом Николаем Агнивцевым. Тот одобрял его стихи, которые Воронко подписывал псевдонимом – Юрий Вегов».

[389]Тамсама, с. 92.

У беларускіх газэтах зьмяшчаліся, хоць і рэдка, таксама пераклады ўспамінаў чужамоўных аўтараў: Пэттэры Ахола, рэдактара фінскамоўных газэтаў «Інгеры» й «Нева» пра падарожжа па Беларусі падчас Першай сусьветнай вайны[390], летувійца Баліса Сруога «Сабачыя справы»[391] – пра нямецкія канцэнтрацыйныя лягеры ў Штутгарце (Усходняя Прусія), дзе ён расказаў, у прыватнасьці, гісторыю двух вязьняў-беларусаў.

Своеасаблівай формай мэмуарнага жанру зьяўляюцца ўспаміны адной асобы, пашыраныя й паглыбленыя сьведчаньнямі іншых вачавідцаў. Такая форма мае вельмі істотнае значаньне ў выпадках, калі асьвятляюцца невядомыя або малавядомыя старонкі гісторыі.

Прыкладам, сёньня дасьледчык гісторыі беларускай эміграцыі ў Аўстраліі можа абаперціся бадай што толькі на мэмуарныя кнігі Ў. Клуніцкага «Першыя крокі»[392], Алеся Алехніка «Пад бел-чырвона-белым» ды на артыкул Вольгі Качан у аўстралійскай энцыкляпэдыі[393]. Таму бясспрэчную вартасьць набывае публікацыя ў другой частцы гэтай кнігі рэфэрату-ўспамінаў Аляксандра Калодкі «Беларусы ў Аўстраліі».

Ягоныя ўспаміны дарэчы дапоўніць тут дасланымі ў свой час з Аўстраліі й выдрукаванымі ў эміграцыйных выданьнях лістамі-ўспамінамі:

«Прыбыўшы ў Аўстралію, мы трапілі ў самую сьпякоту. Вось выйшлі з параплаву, упёрліся нагамі моцна ў цьвёрды грунт, а ўсё яшчэ здавалася, што зямля

---

[390]«Бацькаўшчына», № 24-25(508-509), 26 чэрвеня 1960, с.6-7.
[391]«Бацькаўшчына», № 12-13 (547-548), 26 сакавіка 1961, с.4.
[392]У.Клуніцкі. Першыя крокі. Агляд беларускага грамадзка-нацыянальнага жыцьця ў Аўстраліі. Выданьне Згуртаваньня Беларускіх Патрыётаў. Сыднэй, Аўстралія, 1953.
[393]O. Katchan. Byelorussians. In: The Australian People. An Encyclopedia of the Nation, Its People and Their Origins. General editor, James Jupp. North Ryde, NSW : Angus & Robertson, 1988.

хістаецца пад нагамі: мы хапаліся адзін за аднаго, каб супольнымі сіламі ўстаяць галовамі ўгору!

Тут зь нейкага дабрачыннага згуртаваньня, якіх у Аўстраліі процьма, частавалі кожнага з нас, даючы па два яблыкі. А выгрузілі нас са дзьве тысячы асобаў!

Частуючы, жанчыны кожнаму нешта важнае гаманілі, а мы ўважліва слухалі і... нічагусенькі не разумелі.

Пасадзілі нас у вагоны, якія – пасьля эўрапейскіх – паказаліся нам вельмі сьмешнымі, як дзяціныя цацачкі. Так пакалясілі ў лягер недалёка ад гарадка Нортгам.

Лягер быў пасьляваенны: тут падчас вайны 1941-1945 гадоў жаўнеры праходзілі падрыхтоўку. Увесь пляц быў падзелены на чатыры часткі – эрыі[394], а ў кожнай эрыі было па 100 даўжэзных бляшаных баракаў, што стаялі «на курыных ножках», значыць, на слупох мэтровай вышыні. У бараках пастаўлена па 50 ложкаў у радок на два бакі.

Кожны ложак жалезны, а на ім шарсьцяны матрац, накрыты белай посьцілкай з чатырма ваўнянымі пледамі, а зьверху ляжала маленькая падушачка – цьвёрдая, як камень, няведама, з чаго зроблена.

На кожным ложку ляжаў кавалак картону, на якім вялікімі знакамі надрукаваны нумар кожнага з нас. А прытым у кожнага вісеў на грудзях, як мэдаль, выпісаны нумар, каб мы не пагубляліся: так нас абазначалі ў порце Нэапаль у Італіі. Праз усю дарогу да порту Фрэмэнталь ў Аўстраліі нас выклікалі не па прозьвішчы, а па нумарох (гонар не вялікі!). Аж нарэшце вярнулі нам уласныя імёны-прозьвішчы, і я дастаў тытул «містэр» Чабатар, прозьвішча, якое страціў месяц таму назад, а нумар 613 застаўся ў маёй памяці.

---

[394]Зона (ад анг. Area).

Да ўсяго было дададзена: 2 талеркі, кубак, лыжка, нож, відэлец - усё трэба самому мыць! І яшчэ 2 ручнікі й піжама, мыла і абавязкова пачачка «аспро» – таблеткі ад болю галавы (з гэтым нельга разлучацца!).

За пару дзён нас паклікалі ў лягерную краму і адзелі па аўстралійскай модзе мужчын і жанчын. Я-ж дастаў пры гэтым капялюш (дасюль ніколі гэтакай фацэцыі не насіў), рубашку, марынарку, порткі, панчохі й чаравікі. Дык выйшаў стуль, як кажуць, франт з паліваным носам!

Кожны тыдзень даставалі мы па 10 шылінгаў – «кішанковых» – на дробныя выдаткі. І раз на тыдзень мелі бясплатнае кіно, дый глядзелі як «баран на маляваныя вароты»: нехта там балбоча, але ліха яго ведае што».[395]

Такія лісты дапаўняюць, узбагачаюць зьбедненыя на дэталі й жыцьцёвыя падрабязнасьці рэфэраты-ўспаміны зь іхным зразумелым імкненьнем да абагульненьня. Спалучаныя разам, яны даюць адначасна і маляўнічую і шырокую карціну жыцьця беларускіх эмігрантаў у Аўстраліі.

Адсюль няцяжка зрабіць вывад, што кожная з формаў мэмуарнага жанру вылучаецца сваім спэцыфічным падыходам да мінулага, мае сваю «жніўную дзялянку», але кожная па-свойму вартасная для гісторыкаў і нашчадкаў, бо яна адлюстроўвае зь мінулага нешта сваё, адметнае. А ўсе разам яны ствараюць багатыя магчымасьці для грунтоўнага аналізу розных бакоў мінуўшчыны й нават для ўдакладненьня многіх агульнапрынятых паглядаў.

Выключная роля мэмуарнай літаратуры ў стварэньні гісторыі самой беларускай эміграцыі. Мэмуары ахопліваюць усе больш-менш важныя падзеі, выяўляюць розныя зрэзы і ўзроўні жыцьця беларусаў на эміграцыі, паказваюць дзейнасьць беларускіх лідэраў ва ўсёй яе складанасьці й супярэчлівасьці. Таму для гісторыка ўспаміны – адна (а

---

[395] К.Чабатар. Мы – эмігранты. Аўстралія. «Божым шляхам», №3(108), травень-чэрвень, 1968, с.11.

часам і адзіная!) з найбольш важкіх крыніц усьведамленьня эміграцыйных працэсаў.

Тут, мабыць, неабходна адцеміць, што самі мэмуарныя матар'ялы не прэтэндуюць на ролю афіцыйнага дакумэнта. І толькі неспрыяльныя для Беларусі ўмовы XX стагодзьдзя (жыцьцё ў савецка-фашыстоўскім грамадзтве) у шэрагу выпадкаў вымушаюць мэмуары адыгрываць не ўласьцівую ім ролю.

На самой справе, суадносіны афіцыйных дакумэнтаў і мэмуараў зусім не адназначныя. Па-першае, нельга перабольшваць значэньне дакумэнта, бо ён таксама мае аўтара, і «ніводзін дакумэнт ня можа сказаць нам больш за тое, што думаў яго аўтар: што ён думаў пра тое, што адбылося; што ён думаў пра тое, што павінна адбыцца і адбудзецца; а можа толькі тое, што ён хацеў, каб іншыя думалі, што ён думае; ці нават толькі тое, што ён сам думаў, што думае»[396].

Па-другое, паміж афіцыйнымі дакумэнтамі і ўспамінамі існуе складаная дыялектычная сувязь: успаміны правяраюцца дакумэнтамі, але й дакумэнты, у сваю чаргу, правяраюцца ўспамінамі. Напрыклад, у афіцыйных паперах савецкіх службістаў сьцьвярджаецца, што Францішак Аляхновіч быў арыштаваны за недазволены пераход мяжы СССР[397]. Між тым, сам Аляхновіч у сваіх успамінах «У кіпцюрох Г.П.У.»[398] пераканаўча й доказна абвяргае гэтае сьцьверджаньне й паказвае, што ўся гісторыя ягонага

---

[396]Э. Г. Кар. Гісторык і яго факты. «Беларускі гістарычны агляд», том 4, сшыткі 1-2(6-7), сьнежань 1997, с.80.

[397]Расціслаў Платонаў. Лёсы. Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20 – 30-х гадоў. Мінск, 1998, с.59-61.

[398]Ф. Аляхновіч. У кіпцюрох Г.П.У. Менск, 1941-42.

прыезду ў Савецкі Саюз і наступнага арышту – ніштo як правакацыя бальшавіцкіх карных ворганаў.

«Канешне, факты й дакумэнты важныя для гісторыка. Але не рабіце зь іх фэтыша, – зазначае ангельскі гісторык Э. Г. Кар. – Яны не прадстаўляюць гісторыю самыя па сабе»[399]. Тым больш, што з пункту гледжаньня гісторыка, мэмуары – такія-ж дакумэнты, як і гандлёвыя пагадненьні, падатковыя рэестры, выбарчыя сьпісы й г.д.

Менавіта таму аўтары першых грунтоўных дасьледаваньняў па гісторыі нашай эміграцыі ў ЗША[400] – доктар Вітаўт Кіпель і ў Канадзе[401] – доктар Янка Садоўскі, якія самі былі непасрэднымі ўдзельнікамі, творцамі гэтай гісторыі, мелі багатыя архівы, выкарысталі разнастайныя дакумэнты, тым ня менш, у свае кнігі яны ўвялі шматлікія сьведчаньні прыватных асобаў. Таму сярод іхных бібліяграфічных спасылак знаходзім і такія, як «гутарка», «успамін», «інтэрвію» і іншыя.

У апошнія дзесяцігодзьдзі працэс й асваеньня беларускіх эміграцыйных мэмуараў становіцца ўсё больш інтэнсыўным.

На ўспамінах грунтуюцца кнігі Яна Максімюка аб Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне[402], Лідзіі Савік пра жыцьцё й дзейнасьць Барыса Кіта[403], Аляксандра Лукашука – пра Янку Філістовіча[404],

---

[399]Э.Г.Кар. Гісторык і яго факты, с.82.

[400]Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993.

[401]John Sadouski. A History of the Byelorussians in Canada. Belleville, Ontario, 1981.

[402]Ян Максімюк. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямечыне, 1945-1950. Нью-Ёрк – Беласток, 1994.

[403]Л. Савік. Космас беларуса. Жыцьцяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта. Мінск, 1996.

[404]А. Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. Менск, 1997.

Сяргея Ёрша – пра гісторыю Беларускай Незалежніцкай Партыі[405].

І ўсё-ж асваеньне беларускай эміграцыйнай мэмуарыстыкі яшчэ толькі пачынаецца. Ня раз, чытаючы дасьледаваньні рэлігійнага, палітычнага ці культурнага жыцьця эміграцыі, якія выдаюцца на Беларусі, бачыш, што аўтару не стае жывых фактаў, што ягоным меркаваньням й высновам не хапае разуменьня рэальных эміграцыйных працэсаў ва ўсёй іх складанасьці й супярэчлівасьці.

Галоўная задача гэтай кнігі якраз і заключаецца ў тым, каб увесьці ў навукова-дасьледчы зварот агромністае нявыкарыстанае багацьце беларускіх эміграцыйных мэмуараў, якое можа стацца і стымулам і асновай новых грунтоўных дасьледаваньняў.

Спадзяемся, што публікацыя «Беларускай мэмуарыстыкі на эміграцыі» актывізуе цікавасьць да самой эміграцыі, да тых, хто на працягу дзесяцігодзьдзяў годна нёс беларускую нацыянальную ідэю, зьберагаў гістарычную й культурную спадчыну беларусаў, у розных кутках зямлі нястомна й плённа працаваў на карысьць беларушчыны.

---

[405] С. Ёрш. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. Менск-Слонім, 1998.

## Апалёнія Радкевіч (Савёнак)[406]

### Беларуская хатка[407]

Менск. 1916 год. Вайна зь немцамі. На Захараўскай вуліцы, 24, супраць Новага Касьцёлу, у трохпавярховым будынку, апошнія дзьверы й вітрыннае акно. Над ім надпіс: «Саха й Лучынка». У вакне некалькі кніжак і брашурак з дзіўнымі загалоўкамі, непрывычнымі для школьніцы расейскай школы. Ды гэта мяне й ня дужа цікавіць наразе. Я прыйшла сюды атрымаць для шыцьця накроеныя салдацкія кашулі, бо тут – камітэт дапамогі ахвярам вайны.

– Чаму ты, дзяўчынка, не адказваеш мне па-беларуску, як я гавару? – зьвяртаецца да мяне, адлічваючы кавалкі мутна-жаўтавай бязі надзвычай ветлівая й прыемная маладая паненка ці жанчынка зь лёгкай касавочынкай. –

[406]Настаўніца й грамадзкі дзеяч. Пачынала працу настаўніцы ў Менску ў 20-х гадох разам з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч (жонкай Янкі Купалы). У тым-жа часе выдрукавала некалькі дапаможнікаў і апавяданьняў для дзяцей малодшага ўзросту. Памерла ў 1982 г. у ЗША.

[407]Друкуецца па рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк). Часапісны варыянт: А.С. Калісьці ў Менску. «Беларуская Моладзь», № 8, верасень-кастрычнік 1960, с.7-10.

Далікатнасьць вымагае адказваць у тэй мове, у якой да цябе зьвяртаюцца, ведама-ж, калі ўмееш .

– Я ня знаю, – зьмешана пралепятала я, прывыкшая, што ў афіцыйных установах трэба гаварыць па-руску.

– Што ня ведаеш? Ня ведаеш ці ня ўмееш? Пэўна-ж умееш! Па носе бачу, што ўмееш, – весела сьмяецца. – Глянь, тата, яна ня ведае, ці ўмее па-беларуску.

Старэйшы, але не стары чалавек у сівой даматканай марынарцы, што ўдала пасавала да ягонай стройнай фігуры й прадаўгаватага далікатнага твару з барадой клінком, глянуў вясёлымі шэрымі вачыма зь іскрынкай насьмешкі:

– Нічога, скора пазнае, што йнакш ня ўмее, а толькі па-беларуску. – І зноў схіліўся над паперамі свайго стала, што стаяў у далейшым спакойным куце пакою. Гэта быў Антон Лявіцкі, наш пісьменьнік Ядвігін Ш. (Ядвігін Швагер), і ягоная дачка Ванда Лявіцкая, пазьней жонка Язэпа Лёсіка.

Сталася, што я засталася памагаць, замяняючы Ванду, якая мела шмат працы больш для яе адпаведнай. Выдаючы бялізну, я бачыла, што сюды прыходзяць іншыя, гавораць, раяцца, чытаюць лісты, спрачаюцца, цешацца або маркоцяцца. Гэта былі Ўладыслаў Галубок, Зьмітрок Бядуля, Рамуальд Зямкевіч. Усе гавораць такой мовай, як у нас дома, але пра што? Мне, пятнаццацігадовай дзяўчыне з ускраіны тагачаснага Менску, было мала зразумела. Карэктуру прыслалі... Рукапіс захавай... Набраць пэтытам... Пішуць зь Вільні... Адкажы ў Пецярбург... Хворы... Верш прыслаў. Напішы. Адкажы... У суседнім пакою быў музэй тканінаў, вакол якіх заўсёды клапаціўся Рамуальд Зямкевіч.

Ванда вяла ўсю перапіску. Укладаючы свае літаратурныя здольнасьці, цеплыню свайго добрага сэрца й замілаваньне да кожнай праявы беларускага адраджэньня, яна адказвала на шматлікія лісты й допісы сваім прыгожым

почыркам; падобнага па хараству, выразнасьці й заўсёднай аднолькавасьці не даводзілася спатыкаць ніколі больш і нідзе.

У міжчасе Ванда падсоўвала мне тую ці іншую кніжку. Гэта былі асобныя нумары газэты «Наша Ніва», «Маладая Беларусь», Коласавы «Песьні жальбы», «Родныя зьявы», Гарэцкага «Рунь», Багушэвічава «Дудка Беларуская», Ядвігіна Ш. «Бярозка», Багдановічаў «Вянок», К. Буйлы «Курганная кветка», Цёткі «Скрыпка Беларуская», Бядулевы «Абразкі». Але найбольш помніцца «Шляхам жыцьця» Янкі Купалы. Гэтыя кніжкі я чытала й давала чытаць сваім школьным сяброўкам. Цяпер мне трудна ўспомніць усе. Шмат кніжак было, значыць, вялікая работа ўжо была разгорнута і ў Вільні, і ў Пецярбурзе, і гэтая групка дзеячаў была зь імі цесна зьвязана. Розумам усё прачытанае, бачанае тут і чутае я ўспрыняла з часам і паволі, але сэрцам вычула, што ўсе гэтыя людзі зь іхнымі ідэямі й справамі, хоць і недасягальна вышэйшыя, але зусім блізкія, простыя, родныя і, як магла, цягнулася да іх.

Скора гэтая групка дзеячаў займела драўляны будынак, тут-жа, на Захараўскай 18 (некалькі дамоў у напрамку чыгуначнай царквы), у якім панна Людміла, пасьлей жонка Фабіяна Шантыра, з маткаю мелі сталоўку дамашніх абедаў. Гэты будыначак і стаўся першай «Беларускай Хаткай». Гэта была сапраўдная хатка, «стол і дом» для ўсіх беларускіх дзеячаў, якія прыбывалі ў Менск. Сюды прыехаў пасьлей Алесь Гарун із ссылкі й жыў са сваёй маткай, наладзіўшы тут кнігарню, пра якую піша генэрал Францішак Кушаль у сваіх успамінах; сюды вярнуўся з высылкі Язэп Лёсік і заснаваў тут рэдакцыю газэты «Вольная Беларусь», якая пасьлей пераехала ў Юбілейны Дом. Гэта быў сапраўдны прыпынак для жыцьця й для працы групы сьведамых беларусаў, абагрэтых гаспадарнасьцяй і ахвярнасьцяй Ванды й Людвікі.

Я хачу затрымацца на тэй рабоце, якую вяла гэта невялікая група беларускіх дзеячаў у гэтай хатцы з намі - моладзьдзю.

Кожную суботу ладзіліся вечарніцы-суботнікі для моладзі, зь якой рознымі шляхамі давялося асабіста спатыкацца. Нас, школьнікаў, было нямнога ды некалькі юнакоў-чыгуначнікаў, якіх прыводзіў Уладыслаў Галубок. Старэйшыя прыходзілі ўсе, хто на гэту пару быў у Менску. Найбольш выразна помняцца Ядвігін Ш., Ванда, Галубок, Бядуля й дзьве ягоныя сястры, панна Людвіка. Скора зьявіўся Аркадзь Смоліч.

Цікавы мэтад уплыву на нас выбралі гэтыя людзі. Выглядала, што зьбіраюцца гэтыя дарослыя людзі, а мы так сабе, радыя, што запрошаныя й можам прысутнічаць. Ніхто нам не чытаў лекцыяў, не павучаў, не рабіў заўвагаў, не агітаваў, нават, здавалася, мала на нас зварачалі ўвагу, але мы шырака адчыненымі вачыма глядзелі, слухалі і адкрытым сэрцам упітвалі.

Ну вось. Сабраліся першы раз у сьпякотную восеньскую суботу. Цёпла, чыста, утульна ў сьвятліцы, дзе ўдзень была сталовая дамашніх абедаў, а цяпер сталы й крэслы, ссунутыя да сьценкі. Мы, як вераб'і на дроце, прымасьціліся на іх.

– Што-ж, можа, пасьпяваем, сабраўшыся? – прапануе Лявіцкі.

– Але-ж хто пакіруе? – цікавіцца Бядуля.

– Ну, хіба ўжо я, пакуль знойдзецца хто больш адпаведны. І выходзіў на сярэдзіну пакою Аркадзь Смоліч, малады, шыракаплечы, з буйнымі энэргічнымі рысамі твару, ільняной чупрынай. Дарослыя, усе да аднаго, хто мог ці ня мог сьпяваць, станавіліся, клікалі нас. Гэтак кожны суботнік мы вучылі па аднэй, па дзьве песьні: «Камар», «Ці ў полі», «Ой, не кукуй, зязюленька, рана», «Ці ня быстра рэчанька», «Ой, ляцелі гусі», калядныя, вясельныя, купальныя. Сьпяваць было найбольш любімым заняткам на

нашых суботніках, але гэта не былі сьпеўкі з муштрой і вывучэньнем партыяў – проста сьпявалі на чатыры галасы, а выходзіла добра.

Потым хто-небудзь із старэйшых прапаноўваў дэклямацыю. Дэклямаваў Галубок сваю «Будучыню», Купалавага «Мужыка», жартаўлівыя вершы Паўловіча; Смоліч дэклямаваў «Ты, мой брат, каго зваць беларусам» Гаруна, «Краю мой родны» Багдановіча; Ванда Лявіцкая чытала Цёткавы й Буйлянкавы вершы. Тут-жа гаварылі пра аўтара – дзе ён, як ён. Па-свойску, па-сямейнаму, як аб браце. Так мы даведаліся, што Максім Багдановіч мае прыехаць, што ён хворы. Пэўна-ж, ня трэба казаць, што на другім суботніку дэклямаваў ужо хто-небудзь і з нас, вучняў. Але ніяк не магу ўспомніць, каб хто даваў заданьне, каб вывучыў дэклямацыі: проста хацелася рабіць тое, што робяць дарослыя.

Нехта прапанаваў паскакаць. Усе старэйшыя бралі нас у пары. Той-жа самы Смоліч у першай пары, патрасаючы чупрынай, вучыў скакаць «Лявоніху», «Юрачку». Ведама-ж, пасьлей мы ўжо скакалі й самі, але што гэта за скокі, скажам, бязь дзядзькі Лявіцкага, без Галубка! Бядуля не скакаў ніколі з намі, не дэклямаваў, затое сьмяшыў нас жартамі ды трапнымі мянушкамі.

Часам нехта чытаў з прозы Гарэцкага ці Коласа. Нехта загадваў загадкі, тады зноў пелі, а то проста гулялі ў гульні: «вяровачку», «трэці лішні», «пярсьцёнак», «кот і мышы», хто што ўмеў – прапаноўваў, і ўсе весяліліся.

Разыходзіліся заўсёды шчасьлівыя, свае, блізкія, з багатымі ўражаньнямі, з новымі ведамі, а галоўнае – з пачуцьцём, што дакрануліся да нейкай своеасаблівай атмасфэры інтэлігентнасьці, ідэйнасьці, далікатнасьці, духовай вышыні, якой, можа, ніколі не знаходзілі перад гэтым, і якой, пэўна, вельмі прагнула й жадала маладая чулая душа.

У вадзін з такіх восеньскіх суботнікаў зьявіўся Максім Багдановіч. Высокая, худая, сутулая постаць, павольныя рухі, ціхі нізкі голас. Ён быў зусім не падобны да тых фота, што мы знаходзім тут у нашых эміграцыйных выданьнях. Пэргамэнтна бледны твар. Сур'ёзны, спакойна-выпытваючы позірк бліскучых вачэй. Па тэй пашане, якую яму ўдзялялі дарослыя, па той любові, якой яго акружалі Смоліч, Ядвігін Ш., мы разумелі, што гэта вялікі чалавек, і праніклiся глыбокай пашанай да яго.

Максім Багдановіч сядзеў на нашых вечарніцах ціха, бязмоўна, безудзельна. Толькі па ледзь значнай шчасьлівай усьмешцы, якая квола зацьвітала на ягоных тонкіх вуснах, мы бачылі, што ён цешыцца і з нашых сьпеваў і скокаў і асабліва з дэклямацыяў, але, калі ён прабаваў падысьці да каго з нас, загаварыць, пажартаваць, мы з глыбокай пашанай і страхам, як перад нечым непараўнальна вышэйшым, амаль надлюдзкім, змаўкалі, як спужаныя вераб'і, а ён, прачулена насьцярожаны, думаў, што гэта страх і асьцярожнасьць перад ягоным хворым станам. Аднойчы на нейкую заўвагу Смоліча ён адказаў: «Ды дзе мне, мяне моладзь баіцца».

Незабыўная сцэна аднэй прадкаляднай вечарніцы канца 1916 году. Смоліч запрасіў усіх сесьці. Усе разьмясьціліся ля сьцен пакою, слаба асьветленага з прычыны ваеннага часу.

– Я маю прачытаць вам верш, новы твор, – сказаў паважна. Тон голасу нізкі, прыцішана-значны. – Аўтар прасіў не называць ягонага імя.

Паўза. Усе прыціхлі. Смоліч урачыста-ціха прачытаў «Пагоню». Скончыў. У прыцемненым пакою панавала абсалютная ціша. Пасьля ўзрыў пытаньняў.

- Хто гэта? Хто? – Старэйшыя паўскаквалі зь месцаў. - Гэта небывалае ў нашай... ды што ў нашай – у сусьветнай літаратуры. Хто гэта? Хто напісаў?

Акружылі Смоліча.

– Я зьвязаны словам, я не магу сказаць, пастарайцеся адгадаць.

– Прачытайце яшчэ раз. Гэта... гэта... – не знаходзіць слоў Ядвігін Ш. Уселіся зноў, і цяпер ужо Смоліч не чытае, а праніклёна дэклямуе. Заканчвае амаль скандуючы:

– «Старадаўняй Літоўскай Пагоні ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць».

Зноў ціша.

– Гэта можа быць або Янка Купала, або... або наш Максім, – шырака расчыніўшы вочы, выпаліў нехта.

– Ён!

Усе ахнулі, змоўклі. А аўтар сядзіць у процілеглым канцы пакою, ледзь ухапляючы паветра сваімі сухотнымі грудзьмі.

Смоліч шырокім крокам падыходзіць да Максіма Багдановіча:

– Вось цяпер я маю права публічна прывітаць Вас з нованароджаным вялікім творам, – і тонкая рука Максіма згубілася ў буйной энэргічнай руцэ Смоліча, а затым і ўся ягоная постаць патанула ў шырокіх абдымках магутных Смолічавых рамёнаў.

– Ды пусьці ты, мядзьведзь, – бароніць Бядуля, адпіхваючы Смоліча, намагаючыся падысьці прывітаць аўтара. Але Багдановіча вітае ўжо Лявіцкі, абдымаючы яго.

– Ну, калі такое маглі напісаць, то Вам і зусім паміраць нельга, – выпаліў з узрушэньня гарачы Галубок і тут-жа, зразумеўшы, якое глупства ляпнуў, заліўся сьлязьмі (неўзабаве той самы Галубок павязе Багдановіча ў Ялту, дзе той і памрэ). Тут Бядуля падышоў да Багдановіча з шырокай усьмешкай на мяккім твары:

– Дык, кажаш, «ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць»? Хэ-хэ. Сокал! – паціскаючы ягоную руку,

папляскаў па плячу. Мы сядзелі прыціхшы, не разумеючы яшчэ, што вось зараз сталіся сьведкамі вялікай падзеі.

– Можа, папросім, каб аўтар сам прачытаў свой твор? – запытаў Смоліч.

– Аўтара... аўтара... – панеслася шумна з усіх бакоў, але Багдановіч адмовіўся. Ён адчуваў сябе зусім зьняможаным. Гэтым разам мы ўсе скора разышліся.

Ваенныя й палітычныя падзеі спынілі нашы вечарніцы. Праца прыняла іншыя формы й характар. Але гэтыя сустрэчы далі нам аснову беларускага сьветапагляду. Там мы пазналі, хто мы, знайшлі ідэю, мэту жыцьця й працы, навучыліся любіць і шанаваць беларускае слова і ўсіх беларусаў без падзелу на веравызнаньні й на тое, калі і якая палітычная хваля прынесла дзеяча. Абы прынесла, абы да нас. Бо мяняліся часы, мянялася палітычная сытуацыя, паяўляліся новыя людзі, і ўсе былі як адна беларуская сям'я. Скора паявіўся заўсёды задумлівы, чулы й сардэчны Алесь Гарун і заняўся працай у кнігарні. Неўзабаве за ім – паважны, суворы з выгляду, але вельмі дабрадушны Язэп Лёсік, з прыбыцьцём якога шырака разгарнулася выдавецкая справа. Браты Ждановічы з Фальскім заснавалі беларускі аматарскі тэатар, які ў Менску ўпершыню даў паказ «Паўлінкі» Янкі Купалы і «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі. Гэты тэатар наведаў Слуцак, Магілёў, Бабруйск, Радашкавічы, даючы там па колькі беларускіх спэктакляў, якія заўсёды заканчваліся дэвэртысмэнтам са сьпевамі, скокамі, дэклямацыяй. І вось тая самая група школьнай моладзі, што наведвала вечарыны, была й сьпевакамі, і танцорамі, і дэкляматарамі. З часам некаторыя зь іх затрымаліся пры Беларускім Дзяржаўным Тэатры, іншыя сталі настаўнікамі, але ніхто не згубіўся, не адышоў. Але гэта ўжо 1917 год.

Пазьней прыехаў Францішак Аляхновіч, які таксама, як і Галубок, сеяў зярняты беларускай сьведамасьці праз тэатральнае мастацтва. Паявіўся працавіты незабыўны

Ўладзімер Тэраўскі. Янка Купала, Якуб Колас, Купаліха былі ў непасрэднай блізасьці праз увесь час працы ў Менску. Калейдаскопам праходзяць праз успаміны такія выдатныя постаці, як Тарашкевіч, Шантыр, браты Гарэцкія, кс. Абрантовіч, кс. Цікота, Альбэрт Паўловіч, Макар Краўцоў, Тамаш Грыб, Мікола Шыла, Кастусь Езавітаў, Вацлаў Ластоўскі, сёстры Бадуновы, Пелагея Захарка, жонка Васіля Захаркі, Паўлінка Мядзёлка.

Багата хто зь іх апынуўся на эміграцыі: генэрал Францішак Кушаль, якога ведала маладым афіцэрам беларускага войска; Міхась Міцкевіч, былы супрацоўнік газэты «Вольная Беларусь»; Ганна Акановіч, пра якую чула як пра сястру Сьцяпана Некрашэвіча; Антон Адамовіч... Але гэта ўжо з далейшых успамінаў.

## Сямён Підгайны[408]

# Беларусы на Салаўках[409]

Беларусь ты мая,
Беларусь,
Сінявокая сястра Ўкраіны...

У 1655 годзе, пасьля вайны Масквы і Ўкраіны з Польшчаю, вайны, дзеля якой Багдан Хмяльніцкі ў 1654 годзе заключыў згоду з Маскоўскаю дзяржаваю, пратапоп Максім Філімонавіч у сваіх «Прелестных письмах»-праклямацыях пісаў да беларусаў, каб яны «ўсе да ягонай міласьці, яснавяльможнага нашага гетмана Багдана Хмяльніцкага прыхіляліся і ў апеку ды пратэкцыю ўдаваліся; каб, крый Божа, Масква ў нашых мясцох на сваім праве не паставіла й на вечны час у халопы й падданыя нас, вольных, не абярнула».

---

[408]Сямён Підгайны (1907-1965). Украінскі гісторык, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся на Кубані, скончыў асьпірантуру ў Харкаўскім Навукова-Дасьледчым Інстытуце Матар'яльнай Культуры. Арыштаваны ў 1933 годзе. Да 1941 г. у савецкіх канцэнтрацыйных лягерох. Пасьля вайны на эміграцыі (Нямеччына, Канада). Аўтар кніг «Украінская інтэлігенцыя на Салаўках» (1947г.), «Недостріляні» (2 тамы, 1949, 1953), Islands of death. [Toronto]. Burns & MacEachern [c1953]. 240 p. Вынятківі з кнігі «Недостріляні» друкаваліся ў артыкуле Жука «Трагічная сьмерць паслоў Работніцка-Сялянскай Грамады» («Беларускі эмігрант» №3(41), 25 сакавіка 1952).

[409]Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк).

Перасьцярога была дарэчы, бо якраз з таго часу пачынаецца супольная доля Ўкраіны й Беларусі, якія паступова ўваходзілі ў арбіту ўплываў Маскоўскай дзяржавы зь ейным халопскім правам і дзікімі звычаямі супраць усіх тых, хто «латыни научился».

Ад таго-ж часу пачынаецца й нашае супольнае змаганьне з Масквою за собскае нацыянальнае жыцьцё, за дзяржаўную незалежнасьць нашых краінаў.

Доля нашая аднолькавая, і розьніцца толькі ў абсягу змаганьня ў тэрытарыяльных межах. Аднолькаваю засталася яна й тады, калі ўкраінцы й беларусы пралілі мора крыві за собскую незалежнасьць і ўрэшце апынуліся у цеснай пастцы бальшавіцкай Масквы.

У 1930 г. на Ўкраіне адбываўся гучны судовы працэс «Спілкі Визволення України». У тым-жа годзе на Беларусі – «нацдэмаўскі працэс».

У 1932-1933 годзе на Ўкраіне – справа «Ўкраінскага нацыянальнага цэнтру», а на Беларусі – «Беларускага нацыянальнага цэнтру».

У 1934 годзе – справа «Ўкраінскай Вайсковай Арганізацыі», тое-ж самае й на Беларусі.

Гэта быў час, калі Масква зводзіла рахункі з «инонационалами» й перадусім з украінцамі ды беларусамі, бо першыя ўжо ўславіліся як здраднікі, і другія былі ня лепшыя.

Мабыць, праз гэта самае ўкраінцы й беларусы першыя ў пачатку вайны выгукнулі: «Сталін - капут» ды кінулі савецкую зброю. І яны зрабілі гэта сьведама, бо добра разумелі, што толькі ў арбіце заходнеэўрапейскіх дзяржаваў ёсьць пэрспэктывы для буйнога нацыянальнага разьвіцьця іх, а далейшае знаходжаньне ў арбіце Масквы - нацыянальная сьмерць.

Я хачу расказаць пра свае сустрэчы зь беларусамі на Салаўках, дзе мне давялося яшчэ раз прадэманстраваць нашую супольную долю ды цьвёрда запомніць, хто наш

вораг. Мая памяць, на жаль, захавала толькі прозьвішчы, а імёны тых шматлікіх, якіх я ведаў, ужо забыліся.

Зімою 1933 г. я быў недалёка ад станцыі Кем на гэтак званым «Морасплаве» – перасыльным пункце, праз якi йшлі этапы на Салаўкі. Тут я сустрэў групу беларусаў, якія прыбылі зь Менску.

Перадусім прыпомню тут групу так званага «Беларускага нацыянальнага цэнтру», што складалася зь беларусаў, якія павярнуліся да савецкай Беларусі. Гэта былі колішнія сябры «Беларускай Грамады», якія з часам, зрабіўшыся камуністымі, унесьлі разлом у гэту нацыянальную арганізацыю на тэрыторыі Заходняй Беларусі, што была пад уладаю Польшчы. Гэтая група апынулася ў польскай турме ды з часам была абмененая на польскіх і беларускіх вязьняў, што сядзелі ў савецкіх турмах.

Зь вялікім трыумфам ды помпаю ехалі гэтыя ахвяры польскага самаволу ў савецкую Беларусь, у «шчасьлівую, незалежную й самастойную» сацыялістычную савецкую Беларусь. Курорты, санаторыі, банкеты, найлепшыя пасады – усё было да паслуг гэтых пакутнікаў-рэвалюцыянэраў, якіх так мучылі фашысты-палякі. Пачалося запраўды не звычайнае жыцьцё, а суцэльнае сьвята. Сымон Рак-Міхайлоўскі, Ігнат Дварчанін, Пётр Мятла, Язэп Гаўрылік былі шчасьлівыя надмерна. Гэта-ж тыя сьляпыя падсавецкія беларусы, якія незадаволеныя раем. І ўся гэтая група шчыра вітае пагромы нацдэмаў зь Ігнатоўскім на чале й сама шчыра прыкладае рукі да зьнішчэньня нацыянальных антыбальшавіцкіх сілаў у падсавецкай Беларусі.

Але тым часам сьвята неяк непрыкметна скончылася й пачаліся звычайныя савецкія будні. Сябры «Грамады», колішнія паслы польскага сойму, да таго-ж камуністыя, найменш чакалі тых будняў ды пачалі зьдзіўлена азірацца наўкола. А наўкола быў жах, а наўкола быў пагром за пагромам. І «грамадаўцы» задумаліся. Але думаць доўга не давялося, бо неўзабаве тыя звычайныя беларускія будні

зачапілі іх саміх, пэўных, што савецкая ўлада – гэта шчасьце беларускага народу.

Яны надышлі, тыя будні, неспадзявана. І апынуліся тыя летуценьнікі й здраднікі сваёй бацькаўшчыны ў найбольшай з турмаў у Менску, на беларускай, але, на жаль, не сваёй зямлі.

Пазьней, на Салаўках, гэтыя беларусы так цёпла ўспаміналі польскую турму й супрацьстаўлялі савецкую турму, як суцэльны жах, з усімі ейнымі дзікімі, жудаснымі парадкамі.

Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін ды іншыя былі асуджаныя за шпіянаж на карысьць Польшчы, удзел у падпольнай нацыяналістычнай арганізацыі, у збройным паўстаньні, у выкарыстаньні дзяржаўнай трыбуны ў контррэвалюцыйных мэтах, у тэроры супраць прадстаўнікоў савецкай улады. І ўсе гэтыя страшныя праступкі яны зрабілі нібыта ў падпольнай контррэвалюцыйнай арганізацыі, што звалася «Беларускім цэнтрам».

У менскім ГПУ гэтыя «возвращенцы» зразумелі, што становіць сабой савецкая ўлада й што такое савецкая сацыялістычная Беларусь. Тут ужо былі не палякі, супраць якіх можна было выгалошваць прамовы, заклікаць да збройнага паўстаньня й марочыць галаву сабе й сваім людзям. Не, тут былі старабыхаўскія, чавускія, гомельскія й менскія бальшавікі, якія менш за ўсё гатовыя былі цярпець якіхсьці дурняў, што ім паверылі ды дапамагалі, а пасьля пачалі ўпотай выказваць сваю незадаволенасьць савецкімі парадкамі.

«У турму іх, гадаў, на Салаўкі», – крычалі яны, і праслаўленыя героі апынуліся ў глыбокіх лёхах менскага ГПУ.

Але мала было кінуць іх у турму. Трэба было змусіць ачарніць сябе, напісаць пра сябе, што яны запраўды зацятыя ворагі савецкай улады, што яны ўчынілі

страшэнныя злачынствы, сьлёзна просяць памілаваньня. Бадай што год сядзелі колішнія «грамадаўцы», і кастаправы з ГПУ ня толькі павыцягнулі ім жылы, але да таго яшчэ й душы паразварочвалі й затапталі ў гразь.

Няшчасныя й зблажэлыя прыбылі на Салаўкі гэтыя валадары, што сталіся найапошнімі нявольнікамі. Зь іх найвыдатнейшым і найбадзёршым быў Рак-Міхайлоўскі.

Ня ведаю пра ягонае мінулае, ня ведаю й пра ягоную дзейнасьць у савецкай Беларусі. Магу сьцьвердзіць толькі адно, што гэты чалавек запраўды адкрыта й бяз жаднага жалю казаў: «Так нам і трэба». Мне давялося колькі разоў размаўляць з Рак-Міхайлоўскім, і ён зрабіў на мяне добрае ўражаньне. Здавалася, што чалавек, у якога галава была набіта ўшчэнт усялякім саветафільскім мэтлахам, ня можа гэтак хутка прыйсьці да памяці, але ў Рак-Міхайлоўскага гэты чад хутка разьвеяўся. Ён рашуча й катэгарычна асуджаў усё, у што так сьлепа паверыў, і так ён караў сябе за мінулае. На Салаўках ён трымаў сябе незалежна, працаваў на цяжкіх фізычных працах, скрозь і заўсёды падкрэсьліваў сваю нянавісьць да бальшавізму, да Масквы, і ўрэшце неяк у 1936 г. трапіў у вадзін з салавецкіх ізалятараў. Адтуль пра яго я ня меў жадных вестак.

Высокі, складны, зь сінявата-шэрымі вачамі, Мятла быў лірычна-пяшчотнаю натураю. Я любіў слухаць, як ён апавядаў пра Польшчу, пра тое, што змусіла яго зрабіцца беларускім камуністым, што прывяло яго да гэтых страшных трушчобаў. Ён быў хворы на сухоты, кашляў, а працаваў на цяжкай, непасільнай для яго працы. Яшчэ на «Морасплаве», стругаючы брускі ў дрэваапрацоўнай майстэрні, сказаў: «Не, ня вытрымаю! Каб хоць нормы былі меншыя!» – і ніколі не выконваў нормы. А на Салаўках давялося капаць канавы на мэліяратыўных працах, і ў выніку ўсяго ён трапіў у салавецкі шпіталь, адкуль

патаемна вынесьлі толькі труп Мятлы, а дзе пахавалі, ніхто ня ведае. Гэтая сумная падзея адбылася ўвесну 1936 г.

Бледны, з чорнаю барадою, крыху згорблены, Дварчанін сваёю манэраю ў размовах нагадваў прафэсара. Ён ніколі не казаў прамоваў, як гэта рабіў Рак-Міхайлоўскі, і ня ставіў кропкі над «і». Не, ён спакойна намагаўся ўсё ўзважыць, пераацаніць і знайсьці забыты ўжо шлях да собскай нацыі.

На Салаўках трымаў сябе дужа парадачна й трымаўся парадачнай кампаніі. Працаваў напачатку на гэтак званых агульных працах, і хоць у дачыненьні яго не было ніякіх выбрыкаў з боку ГПУ, а тым часам ён таксама ў 1936 г. трапіў у ізалятар, а пасьля пра яго нічога больш не было чуваць.

Гаўрылік быў тыповым сялянскім настаўнікам. Высокі, русы, з рыжанькаю бародкаю на круглявым адкрытым твары, з крыху кірпатым носам. Ад яго так і тхнула моцным беларускім дзядзькам. Быў ён мілым чалавекам, рахманым і ціхім працаўніком. Ён неахвотна ўступаў у размову, а калі пачынаў гаварыць, дык гаварыў доўга й горача, нібы баяўся, што слухачы не зразумеюць яго. Часьцей за ўсё ён бываў адзін. Ні на адным з гэтай групы беларусаў менская трагедыя не адбілася так цяжка, як на гэтым настаўніку. Ён ня мог нават чуць размовы пра Менск, пра савецкую Беларусь, пра савецкі сацыялізм. Так ён яго ненавідзеў і так праклінаў. Ён нагадваў таго шэкспіраўскага героя, які казаў: «Так, вы мяне навучылі гаварыць, і я магу цяпер вас праклінаць». І гэтая страшная траўма, гэты непераможны жах прывёў Гаўрыліка да запярэчаньня самой магчымасьці каяцца. Ён казаў так: «Я самы няшчасны чалавек, бо ня маю нават права ўзьняць сваю галаву да неба й падзівіцца на зоры зь іх вечнаю й непарушнаю справядлівасьцю». І вось ён, колішні камуністы, шчыра і аддана пачаў маліцца Богу ды прасіў памілаваць і дараваць яму, акаяннаму...

Неяк у канцы 1935 г. я ізноў спаткаў Гаўрыліка на маленькім абтоку «Малыя зайчыкі», дзе ён быў зь некалькімі «штрафнымі». Хтосьці з тамтэйшых бывальцаў назваў яго «камуністычным манахам». Ён быў дужа змучаны, ні з кім не размаўляў, вечарамі выходзіў з бараку й за дзікай, заімшэлаю скалою станавіўся на калені ды доўга маліўся. Ужо напаўзвар'яцелага забралі яго з тых «Малых зайчыкаў» ды пасадзілі ў ізалятар, адкуль ён так і ня выйшаў.

* * *

Ліхую славу набыў сабе толькі адзін з гэтай групы - За-ніч. З гэтым сябрам «Грамады» і паслом сойму мне прыпадкова давялося пазнаёміцца бліжэй, а таму хачу расказаць пра яго больш дакладна.

У ролі фуражора 1-ай салавецкай сельскай гаспадаркі я меў права аглядаць на тэрыторыі той гаспадаркі сенажаці. Аднаго разу прыходжу я на «камандзіроўку» «Пічугі» й спатыкаю там За-ніча. Трэба сказаць, што За-ніч, вярнуўшыся са сваймі таварышамі з-за кардону, прыняў высокую пасаду ў беларускай дзяржаве, а таксама быў кіраўніком плянавага аддзелу Акадэміі навук БССР. Да таго-ж я ведаў, што ў менскім ГПУ ён трымаў сябе сярод сваіх калегаў так скандальна, што яшчэ ў вагоне, як ішлі этапам на Салаўкі, таварышы пабілі яго. Перад тымі «Пічугамі» ён быў на абтоку Ангоры (5 кілямэтраў морам ад Вялікага Салавецкага Абтоку), але потым яго чамусьці перавялі на «Пічугі» – найгоршую «камандзіроўку». Ён быў стары і ўважаўся за інваліда. Радасна спаткаўшы мяне, ён пачаў прасіць, каб я ўзяў ад яго два закрытыя лісты: адзін на імя начальніка беларускага ГПУ, другі – на імя начальніка III часткі, бо быў пэўны, што туды я не пайду, а прасіў толькі ўкінуць тыя лісты ў скрынку пад «Белым домам» управы. Трэцяя частка

(турэмная НКВД) – на абтоку. Дужа неахвотна, але ўрэшце я згадзіўся, бо, запраўды, становішча ягонае было вартае жалю, а ў тых лістах, як ён мне растлумачыў, было напісана: у вадным – прашэньне аб тым, каб дазволілі яму жыць у салавецкім крамлі, а ў другім – каб яму далі права ліставацца з раднёю. Гэты беларус, як і ўсе іншыя вязьні, ведаў мяне як чалавека інтэлігентнага й парадачнага, відаць, таму ён і даверыў мне гэтую справу. Вяртаючыся да крамля з тымі лістамі, я запытаўся сам сябе, ведаючы, каму яны заадрасаваныя: «Што я нясу? А што, калі гэта даносы? А што, калі ў гэтых лістах такое напісана, што ў выніку колькі чалавек будзе расстраляна? Гэты-ж беларус – чалавек няпэўны ў мінулым. Праўда, на той час ніхто не гаварыў пра яго, што ён на абтоку мае дачыненьне да даносаў. А, з другога боку, як мне, чалавеку інтэлігентнаму, расьпячатваць чужыя лісты ды чытаць. А можа там напісана штось нявіннае й патрэбна толькі яму, і нікога іншага не датычыць»...

Я доўга вагаўся, але нарэшце вырашыў адзін ліст прачытаць. Зайшоў у кусты, асьцярожна расьпячатаў і, калі прачытаў толькі першыя радкі, мне зрабілася ўжо ясна, што гэта за лісты. У лісьце да начальніка беларускага ГПУ гэты «вернападданы» данасіў на сваіх таварышаў беларусаў-камуністых, зь якімі ён быў выменяны з польскай турмы – Рак-Міхайлоўскага, Мятлу, Гаўрыліка, Дварчаніна ды іншых, характарызуючы іх як найлюцейшых ворагаў камунізму. У лісьце да начальніка III часткі ён данасіў на цэлую групу палітычных вязьняў, падаваў іхныя размовы ды разам з гэтым ня грэбаваў і рознымі бытавымі драбніцамі, што былі забароненыя зьняволеным. Роўна праз 10 дзён я зноў выбраўся да тых «Пічугаў» і зноў сустрэў таго «пісьменьніка». Сказаўшы яму, што ягоныя лісты я таго-ж дня ўкінуў у скрынку III часткі, я таксама папрыязнаму зь ім размаўляў, і гэты «прожжённый политик», бачачы ўва мне наіўнага хлопчыка, зноў папрасіў мяне

кінуць яшчэ адзін ліст у тую-ж самую скрынку. На гэты раз я ахвоча згадзіўся і, пакінуўшы «Пічугі», ужо не вагаючыся, расьпячатаў той ліст. На гэты раз у лісьце былі апісаныя вязьні, што знаходзіліся ў «Пічугах», і апісаныя так, што ў выніку таго не адзін зь іх мог-бы разьвітацца з жыцьцём. Асабліва востра ён характарызаваў Г. Садоўскага, яскравага, безагляднага й крыху неасьцярожнага ворага ГПУ. Чытаньне гэтага ліста сталася для маіх таварышаў цікаваю, хоць і небясьпечнаю развагаю.

Паўстала пытаньне: што зрабіць з гэтым «вернападданым». Натуральна, найлепш было-б зьнішчыць яго, але зьнішчыць так, каб ніхто не пацярпеў. У тых умовах праводзіць дужа суровы кантроль, ды яшчэ й на «Пічугах», было немагчыма. Зразумела, што пасьля таго, як былі прачытаны першыя лісты, усіх, каму належала пра гэта ведаць, паведамілі аб тым, што становіць сабой гэты «пасол польскага сойму», але чагось большага зрабіць не пашчасьціла.

Зрэшты сталася так, што гэты «пасол» трапіў на «камандзіроўку» ў Філімонава. На Філімонавым тады (1935) паміж іншых вязьняў сядзела некалькі хлапчукоў за людаедзтва ў галодныя 1932-1933 гады. Гэта былі хлапчукі па 12, 13, 14 гадоў. Працавалі яны ў абутковай майстроўні й працавалі, як дарослыя, па 12 гадзін. Да абутковай майстроўні іншы раз заходзіў і наш «пісьменьнік», а на Філімонавым яго ўжо добра ведалі й шчыра ненавідзелі. Дык вось Садоўскі й паманіў тых хлапчукоў – а яны яго дужа паважалі – кінуць працу й патрабаваць у начальства, каб ім працаваць толькі 6 гадзін, а калі ўпаўнаважаны III часткі запытае, хто іх гэтаму навучыў, хай пакажуць на таго беларуса-стукача За-ніча. Ужо наступнага дня жадны з хлапчукоў на працу ня выйшаў, а на трэці дзень прыехаў упаўнаважаны шукаць «крамолу». Пачаўшы з «пристрастием» дапытваць хлапчукоў, як і што і хто іх навучыў. Хлапчукі ня кажуць. Нарэшце адзін прызнаецца,

што навучыў іх гэтаму той дзед-беларус, а за ім і іншыя «прызналіся». Як толькі хлапчукі падпісалі тыя пратаколы, зараз-жа ўпаўнаважаны схапіў «вернападданага», лупцаваў яго колькі хацеў, забраў з сабою дый кінуў у самы цёмны ізалятар пад «Белым домам», адкуль той бядак, траха дуба ня даўшы, выйшаў толькі месяцы праз тры. Так што нядоўга давялося жыць у крамлі; мабыць, хтосьці яму «дапамог», і пасьля гэты сябра беларускай «Грамады» ўжо назаўсёды застаўся ў ізалятары.

Ніколі не забуду выдатнага беларускага стэнографа Грыневіча. Зусім сівы, зь невялікаю бародкаю, у пэнснэ, з заўсёды ветлівым тварам і добрымі пагаслымі вачыма, такі непаседлівы дзяцюк. Ён як толькі прыехаў у 1933 г. на «Морасплаў», дык адразу-ж пачаў хадзіць паміж вязьнямі ды выбіраць тых, хто хоча сьпяваць. Ён быў на становішчы інваліда, бо зусім быў стары. Цэльнымі днямі сядзеў ён ды на шматкох паперы пісаў ноты да самых разнастайных песьняў. Калі быў вольны час, зьбіраліся аматары-сьпевакі й пад ягоным дырыгаваньнем сьпявалі. Дзеля таго, што бальшыня вязьняў былі ўкраінцы, сьпявалі пераважна ўкраінскія песьні, а каб пацешыць дзеда, то яшчэ й беларускую «Як-жа мне ня пець, як-жа не гудзець».

На Салаўках жыў Грыневіч, гэтая жывая энцыкляпэдыя беларускага народу, у інвалідным пакоі і, бядуючы, «скитался меж двор». Працаваць у лягерных «культурна-выхаваўчых» установах ён не хацеў, а ні да якой іншай працы ня быў здатны. Быў ён высока-сумленным і парадачным чалавекам і такім застаўся й да 1938 г., аж пакуль не пакінуў Салаўкі, выбыўшы невядома куды пасьля ліквідацыі салавецкай турмы.

З гэтай-жа катэгорыі ўжо падсавецкіх беларусаў сьлед прыгадаць наркома Адамовіча. Праўда, я яго на Салаўках не сустракаў, але ведаю, што ён быў у 1937 годзе ў ізалятары ды на «Морасплаве», дзе абвінавачвалі

яго ў якіхсьці фашысцкіх грахох, і нібы за гэта дастаў ён там яшчэ новых дзесяць год зьняволеньня.

На самым абтоку, на «камандзіроўцы Філімонава», у 1937 г. сядзеў і беларускі нарком зямельных справаў. Прозьвішча ягонага, на жаль, ня памятаю. Гэта быў яшчэ малады, высокі й каранасты дзядзька і, як мне здавалася, мала цікавы, а да таго-ж насычаны савецкаю лухтою. Абвінавачваўся ён па 5 пункту 58 артыкулу карнага кодэксу РСФСР – выкарыстаньне дзяржаўнай трыбуны з контррэвалюцыйнаю мэтаю. Ведаю, што пісаў ён доўгія лісты Сталіну, дзе запэўніваў у сваёй непрычаснасьці да контррэвалюцыі, і, натуральна, нас, даўных контррэвалюцыянэраў, мала цікавіў.

Нямала было беларускіх настаўнікаў. Між іх, прыгадваю, быў Хомічаў. З аграномаў прыгадваю Савіча й Лашкевіча, і, нарэшце, сядзела багата звычайных беларускіх сялян.

Салавецкія беларусы не былі аб'яднаны й скансалідаваны ды ня мелі выразнай нацыянальнай групы, як гэта было ў украінцаў, татар, грузінаў, немцаў ды ў іншых нацыянальных групах на Салаўках.

Але хто-колечы зь беларусаў наракаў на гэта й дамагаўся такой кансалідацыі і адасабленьня.

З гэтае нагоды перадавалі мне размову Рак-Міхайлоўскага зь пісьменьнікам Алексаю Сьлісарэнкам, які, выслухаўшы скаргі й жальбы таго выдатнага беларускага нацыяналістага, жартуючы, сказаў: «І чаго вам, таварышы беларусы, так турбавацца й пакутваць за тую беларускую дзяржаву. Лепш перадайце гэтыя турботы нам. Мы вам дамо гімназію, а, як хочаце, то й дзьве, ды надашлем вам пару добрых карпусоў украінскай жандармэрыі, няўжо вам таго ня будзе досыць». Прысутныя сьмяяліся, а Рак-Міхайлоўскі сказаў, «што ён, зразумела, нічога ня мае супраць супольства Ўкраіны й Беларусі, але лепш хай беларусы самі будуюць сваю дзяржаву, хоць гэта й цяжка.

А што да жандармэрыі, то ён перакана         ны, што ў гэтай справе беларусы здолеюць выявіць свой талент лепш, чымся ў справе кансалідацыі беларускай нацыі.

Ужо нямала сплыло вады з часу маёй сустрэчы з беларусамі на абтоку жаху й сьмерці. Але яшчэ й сяньня стаіць у мяне перад вачыма багата найлепшых людзей, адданых да канца справе змаганьня з бальшавізмам. Розныя былі гэта людзі й з розных партыяў і станаў беларускага народу, і толькі тыя зь іх, якія наскрозь прагнілі і атруціліся бальшавіцкай навукай ды былі фізычна раздаўленыя энкавэдысцкімі канчукамі ў тым пекле на зямлі, засталіся «вернападданымі». Але гэта былі толькі адзінкі. Рэшта – усе, па-за ўсімі станамі й партыямі, былі варожымі бальшавізму й былі ці станавіліся на абтоку запраўднымі сынамі сваёй зямлі, свайго народу.

## Юрка Віцьбіч[410]

### Не чарнілам, а крывёю[411]

*На зломе дзьвюх эпох злавесных,*
*У неспрыяльным ветры злым,*
*Сваё жыцьцё прайшоў я чэсна:*
*Пясьняр, змагар, бядняк праз век, –*
*Быў перш за ўсё я – чалавек.*
Уладзімер Жылка «Тастамант»

*Мне лёсам вызначаны*
*Гэтакі прымус.*
*Аб шчасьці сяньня*
*Можна сьніць і марыць.*
*За тое,*
*Што я толькі – беларус,*
*Мне гэтакая кара!*

---

[410]Юрка Віцьбіч (1905-1975) – пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, рэдактар часапісу «Шыпшына».

[411]Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк). Верагодна, што гэта – адныя зь першых накідаў задуманай Юркам Віцьбічам кнігі «Не чарнілам, а крывёю». На першых старонках рукапіснага сшытка зьмешчаны радкі зь вершаў беларускіх паэтаў. Можна меркаваць, што гэта – эпіграфы да асобных нарысаў жыцьцяпісу пісьменьнікаў. Шэраг нарысаў пад агульнай назвай «З кнігі «Не чарнілам, а крывёю» быў апублікаваны ў розных пэрыядычных выданьнях. Гл.: Бібліяграфія твораў Юркі Віцьбіча ў кнізе: «Архіўная кніга». Нью-Ёрк, 1997, с. 404-441.

*Я кару іхную*
*З пагардаю прыняў,*
*Бо я – сын верны*
*Маці-Беларусі.*
*І я сьвятога,*
*Гордага імя*
*Не адракуся!!!*

Тодар Лебяда
«Надпіс на сьцяне 95-й камэры»

*Церні ня зьвялі, церні замоўклі, –*
*бачыў я сёньня, бачыў праз вокны.*
*Зь іхных калючак, зь іхных бальзамаў*
*вяжуць вянок мне, вяжуць – я знаю.*

Язэп Пушча
«Вечар асеньні, вечар маўклівы»

*Боль дурны я загаю,*
*Загаю і не загіну.*
*Як каханую сваю,*
*Я люблю Краіну.*

Уладзімер Хадыка
«Пасярод зямлі аблонь»

*Пайду ў сенажаці,*
*пайду на вазёры.*
*Не журыся, мая маці, наша доля – гора.*
*Або крыжам лягу,*
*або захлынуся.*
*Будуць мне тады пасагай сьлёзы Беларусі.*

Уладзімер Дубоўка «Грахі чубатыя»

*Мастацкі дух ніколі не памрэ.*
*Не пахаваць яго пад курганамі,*
*ня вычарпаць гадамі і вякамі.*

*Яму ў агні пякельным не згарэць.*
*Ён вырвецца з багны разводзьдзем буйным рэк*
*і загарыцца зноў бліскучымі агнямі.*

Алесь Дудар. «У музэі залатую бранзалету»

*Да самага скону*
*Усякім прымусам*
*І сіле прыгону*
*Скажу: «Беларусам*
*Павек астануся!» –*
*Свае ўласнай волі*
*Ня здраджу ніколі.*

Власт

*Ваша імя сьвятое цяпер*
*Вырываюць з крывёю ў жывых,*
*І сьмяецца у вус Крыважэр*
*Над ахвярамі ўчынкаў сваіх.*
*Паліняў, у задуме стаіць*
*Край адвечнай, жывой пекнаты.*
*Аб вас гутарка ў сьвет не бяжыць,*
*Закаціўся ваш век залаты,*
*Адзьвінеўшы, ў імгле ён заціх...*
*Глум нясьцерпны, і гвалт, і кірмаш...*
*У няволі сярод чужых*
*Памірае патомак ваш.*

Масей Сяднёў.
«Крывічам». Нова-Іванаўскі лягер. 1937

**Александровіч Андрэй – 10 год**

У вадной са сваіх паэмаў паэта піша аб сабе і аб сваёй Радзіме:

...а па Александровічу Андрэю
ахрысьцілася ў завеях

і цяпер завецца
Беларусьсю Савецкай.

У час допытаў сьледчыя НКВД зламалі яму два рабры. Пасьля гэтага ён трапіў на 10 год за Палярны Круг у Ігарку. На сабе асабова паэта адчуў, што значыць «Беларусь Савецкая».

**Аляхновіч Мікола – 8 год**

У «Пішчалінскім замку» (Менская турма) спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам. Ён іржавым цьвіком ускрыў сабе на руках вены. І, непрытомнага ад страты крыві, яго зьнясьлі ў турэмную бальніцу, там крыху падлячылі, а потым саслалі на 5 год у Сібір.

**Аляхновіч Францішак (Монвід) – 10 год, Салаўкі**

Жывучы ў Вільні, паверыў савецкай прапагандзе, што ў СССР будуецца беларускі дом, і пераехаў з Польшчы ў Менск. Празь нейкі нязначны час ДПУ яго арыштавала й саслала на 10 год на агульнавядомыя Салаўкі. Там досыць папакутваў, пакуль «фашыстоўская Польшча» не абмяняла яго на аднаго патрэбнага бальшавіком польскага камуністага. У час вайны, ужо цяжка хворы, забіты ў сябе на кватэры агентам НКВД. У ягоным пахаваньні прынялі ўдзел шырокія колы Вільні. Нават тэндэнцыйная польская прэса адзначыла, што такога пахаваньня горад ня бачыў з часу пахаваньня сэрца маршала Пілсудскага.

**Баранавых Сымон (Баранаў) – 8 год,**
**Марыінск – Нова-Іванаўск – Калыма**

Ніхто з маладых беларускіх пісьменьнікаў, акрамя Каваля Васіля, ня здолеў так яскрава паказаць сялянскую цягу да зямлі, як Сымон Баранавых. Ягоны ўлюбёны герой – гэта селянін, які, працуючы, нібы чорны вол, ад досьвітку да змроку, стварае нарэшце сваім мазалём і

гарбом на месцы багны або пушчы сваю гаспадарку. Зразумела, што сьпярша бальшавіцкія крытыкі залічылі Баранавых ў ранг кулацкіх пісьменьнікаў, а потым НКВД зрабіла з гэтага адпаведныя вывады.

У эшалёне зьняволеных беларусаў, які марудна рушыўся ад Марыінску да Ўладывастоку, Баранавых пазнаёміў аднойчы сваіх сяброў зь сюжэтам свайго першага і апошняга рамана «Калі ўзыходзіла сонца», які перад сваім арыштам ён скончыў і здаў у друк. Трэ' было зьдзіўляцца, зь якой падрабязнасьцю, амаль слова ў слова, перадаваў ён зьмест вялікага твора. Галоўны герой гэтага рамана гіне ў той момант, калі пасьля ўпартай барацьбы са шматлікімі перашкодамі нарэшце пачало ўзыходзіць сонца ягоных найлепшых надзеяў. Усе папарэднія апавяданьні і аповесьці Баранавых здаваліся «пробай пёрка» ў параўнаньні з гэтым вялікім раманам, які меўся аздобіць сабой беларускую мастацкую літаратуру. І вось і сам таленавіты аўтар, сапраўдны сын свайго народу, гіне, «калі нарэшце ўзышло сонца» ягоных пісьменьніцкіх імкненьняў. Чорныя бальшавіцкія хмары назаўсёды закрылі ад чытачоў гэтае яскравае сонца.

Яшчэ зь Менскае турмы Баранавых пісаў заявы на імя Сталіна, Калініна, Яжова і іншых савецкіх правадыроў з просьбай перагледзець ягоную справу. Пісьменьнік усё яшчэ спадзяваўся, што ягоны арышт – нейкае непаразуменьне і яго абавязкова вызваляць. Празь нейкі тэрмін прыйшоў адказ: «Ваша справа скончана й больш пераглядацца ня будзе».

Так, сапраўды, справа пісьменьніка была скончана. Баранавых меў тыповае для ўнука й сына селяніна моцнае здароўе, але, трапіўшы пасьля шэрагу турэмных этапаў на Калыму, ён у хуткім часе апынуўся ў ліку «дахадзягаў». Так на мове савецкай катаргі называюць тых зьняволеных, зь якіх ужо выціснуты ўсе сілы, і яны неўзабаве маюць памерці.

Справа была скончана, але хочацца думаць, што прыйдзе сьветлы час, і яна будзе перагледжана вольным народам.

**Браніштэйн Якаў**

Савецкая ўлада мела на мэце зьнішчыць нашую нацыянальную інтэлігенцыю. Адзін за адным зьнікалі за турэмнай брамай беларускія пісьменьнікі. З дапамогай катаваньня, падробленых дакумэнтаў, крывасьведкаў сьледчыя НКВД фабрыкавалі акты абвінавачваньняў. Ім шчыра дапамагалі ў гэтым пісьменьнікі-камуністыя. І асабліва вылучаўся ў гэтай галіне крытык Якаў Браніштэйн. Па даручэньню НКВД ён пісаў такія «рэцэнзіі» на творчасьць арыштаваных пісьменьнікаў, што нават пратаколы сьледстваў здаваліся больш гуманнымі ў параўнаньні зь імі. За гэтую сваю подлую працу невук Браніштэйн атрымаў годнасьць прафэсара. Але ўсё-ж няма «пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі» ні адной устойлівае кар'еры.

«Аднойчы ўначы, – расказвае адзін малады паэта, – выклікалі мяне зь Менскае турмы ў будынак НКВД на допыт. Звычайна нас перавозіла туды адна з тых страшных і пашыраных у СССР аўтамашынаў, якім народ даў красамоўнае імя «чорны воран». Жудасная, без вакенцаў, яна і ў сярэдзіне падзялялася на рад катухоў, каб абвінавачаныя ня зносіліся паміж сабой. Усё-ж пераборкі не даходзілі да столі машыны, і звычайна ў час кароткага пераезду абвінавачаныя перагаворваліся, назваўшы сьпярша сваё імя. І вось толькі я назваў сваё прозьвішча, як пачуў із суседняга катуха адказ:

– Браніштэйн.

Не даючы веры сваім вушам, я перапытаў:

– Які Браніштэйн?

– Якаў Браніштэйн, крытык.

Тут я ня вытрымаў і, успомніўшы ягоныя рэцэнзіі, пачаў лаяцца, а ў адказ чуў толькі адзінае:

– Дык я-ж цяпер таксама з вамі. Я – з вамі!»

Не, ніколі Якаў Бранштэйн ня будзе разам з гаротнымі песьнярамі беларускага народу. Ягоныя больш-менш аб'ектыўныя артыкулы пра творчасьць нашых паасобных пісьменьнікаў ніколі не пераважаць сабой ягоных ганебных «рэцэнзіяў»-пашквіляў.

**Галубок Уладыслаў**

Гэта быў разнабочна даравіты самародак – драматург, рэжысэр, мастак, паэта, бэлетрысты. А галоўнае, гэта быў шчыры беларус, які ўсе свае здольнасьці ахвяраваў свайму народу. Створаны ім вандроўны тэатар, напамінаючы часам цыганскі табар, аб'езьдзіў амаль усе шматлікія мястэчкі Беларусі, пранікаючы ў самыя глухія вёскі яе. Гледачы гэтага сапраўды народнага тэатру не крычалі «біс» або «брава», але часта ўголас сьмяяліся або плакалі...

У Суражы, калі скончылася пастаноўка п'есы Галубка «Плытагоны», да аўтара падышоў селянін-дзед. У яго на нагах былі лапці-кавярзьні, на галаве маргелка[412], а на плячах – стары латаны кажух. Паказваючы на сваю вопратку, ён сказаў:

– Дзядзька Галубок, вось гэты кажух мяне так ня грэе, як твае «Плытагоны» мяне сагрэлі.

Пасьля Галубок расказваў, што ніякі ганарар ён не прамяняе на гэтую падзяку суражскага дзеда.

Галубок быў беларус, таму ён атрымаў ад савецкай улады ня ордэн, а 10 год турмы. Розныя крыніцы даносяць, што ён недзе ў Сібіры загінуў.

**Гваздоў Мікола – 3 гады, Ухт-Пячора**

Паходзіць зь Віцебшчыны, скончыў у Віцебску кінотэхнікум, вучыўся ў БДУ.

---

[412] Лямцавы капялюш.

Ён быў разнабочна даравітым чалавекам. Прагледзеўшы той ці іншы кінафільм, Гваздоў пісаў на яго рэцэнзію непараўнальна лепш за таго ці іншага прысяжнага тэатральнага крытыка. Музычныя інструмэнты – ці то гітара, ці то скрыпка, ці то мандаліна – гучалі ў ягоных руках, як у сапраўднага maestro. Усё-ж перш за ўсё ён быў паэтам са сваім асаблівым тварам мадэрністага. Ягоны верш «Кавалак ночы ў Бэрліне» зьяўляецца ўзорам сапраўднага мастацтва. Ён быў яшчэ зусім малады, яшчэ толькі пачыналася ягонае сьвядомае жыцьцё, але...

НКВД саслала Гваздова на 3 гады – на край сьвету – у далёкую суровую Ухт-Пячору. Праз невялікі час ягоныя сябры Сяднёў і Хатулёў атрымалі адтуль ліст з просьбай: «Прышліце мне гальштук». Гэтая просьба не патрабуе тлумачэньня.

І ўспамінаецца баляда Гваздова аб расстраляных, якія некалі выбухнуць з-пад зямлі дынамітам.

**Суднік Канстантын – 6 год**

Ёсьць маладыя пісьменьнікі-пачаткоўцы, якія вельмі ганарацца сваім знаёмствам, часта эфэмерным, з тым ці іншым сталым пісьменьнікам. Да ліку такіх маладых належаў студэнт БДУ Канстантын Суднік. Прынамсі, ён заўсёды і ўсюды, пры ўсякім зручным, а часам і зусім ня зручным выпадку, гаварыў:

– Я знаёмы зь Язэпам Пушчам. Ён хваліў мой падрыхтаваны да друку зборнік «Гукі сэрца».

Кажуць, што гэты зборнік меў усе дзіцячыя пісьменьніцкія хваробы, але, разам з тым, сьведчыў і аб таленавітасьці Судніка, якую заўважыў Пушча. Суднік ведаў напамяць усяго Пушчу і, шукаючы свайго собскага творчага твару, рушыў менавіта ў гэтым кірунку.

Калі як паэта-лірык Суднік толькі ўваходзіў у літаратуру, дык як майстра эпіграмы ён адразу вылучыўся

сярод шматлікіх аўтараў-пачаткоўцаў. Зразумела, што пераважную большасьць гэтых эпіграмаў ні ў якім разе нельга было друкаваць. Накіраваныя, галоўным чынам, супраць сталінскіх лізуноў, яны пачыналі жыць без газэтаў і часапісаў. Сатыра – старая грозная зброя. Таму за эпіграму

У Александровіча Андрэя
адно голая ідэя...

аўтара пачалі абвінавачваць у спробе ахаяць пралетарскую літаратуру. А такіх эпіграмаў былі дзясяткі, і ўсе яны, як адзначалі ў сваіх пратаколах сьледчыя НКВД, зьяўляюцца контрсавецкімі творамі.

**Хведаровіч Мікола (Чарнушэвіч Мікола)**

Нарадзіўся ў 1904. Капыль. Брат Чарнушэвіча Нічыпара.

Успамінаецца адзін зь лепшых вершаў паэта, прысьвечаны разгрому панскай Польшчай у 1927 г. Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Зь вялікім абурэньнем чытаў ён тады ў час мітынгу з трыбуны на Пляцы Волі ў Менску:

Краіна! Краіна!
Сыноў павялі
на ганьбу,
на зьдзекі,
на мукі...

Здавалася, ягоны палкі пратэст ад шчырага сэрца паляцеў адсюль аж да кратаў Картуз-Бярозы й Лукішак.

Прайшло ўсяго толькі 6 год. У 1933 г. НКВД арыштоўвае 96 выдатных дзеячаў Заходняе Беларусі, пачынаючы з паслоў «Грамады»: Рак-Міхайлоўскага,

Мятлы, Гаўрыліка, Дварчаніна. Частку зь іх пакаралі сьмерцю, частку на доўгі тэрмін саслалі ў Сібір.

А яшчэ праз 3 гады НКВД саслала туды й Хведаровіча. Разам зь лепшымі сынамі Краіны бальшавікі павялі паэта

на ганьбу,
на зьдзекі,
на мукі...

**Шалай Макар**

Ніколі Менская турма ня бачыла ў сваіх мурох такой колькасьці інтэлігентаў, як за часы савецкай улады. Тут, чакаючы суда, гібелі, пакутвалі акадэмікі й прафэсары, пісьменьнікі й крытыкі, мастакі і акторы, дактары і інжынэры. Цяжка (нявыказна цяжка) у турме, але ўсё-ж яна – яшчэ ня магілкі і арыштанты – ня трупы. Яшчэ пульсуе сэрца, яшчэ асацыююцца думкі. Таму часам інтэлігенты распачыналі спрэчку вакол той ці іншай літаратурнай тэмы. Яны цытавалі напамяць клясыкаў сусьветнай літаратуры й сваіх айчынных пісьменьнікаў, спасылаючыся на шматлікія капітальныя працы беларускіх і замежных вучоных.

Такія дыскусіі мелі мейсца і ў той камэры, дзе сядзеў малады крытык Макар Шалай. Спачатку ён не прымаў у іх ніякага ўдзелу і, здавалася, нават спаў, лежачы на сваім верхнім палку. На яго таксама ніхто з дыспутантаў не зьвяртаў ніякай увагі. Але раптам, калі спрэчкі дасягалі кульмінацыйнага пункту, адтуль, зьверху, раздаваўся гучны зык: «Гы-ы-ы!». Магчыма, менавіта з гэтым крыкам кідаліся ў атаку на гусараў Радзівіла казакі Антона Нябабы. У сапраўднасьці з гэтым крыкам кумільгом зьлятаў са свайго палка ўніз Макар Шалай, і адразу пачыналася нешта вельмі падобнае да зьбіваньня царом Ірадам юдзейскіх маладзенцаў. Празь якіх-небудзь пяць хвілінак акадэмікі й прафэсары неяк зьбянтэжана паглядвалі

і адзін на аднаго і на маладога бязвусага крытыка, іхнага ўчарашняга студэнта, які перакуліў тэзісы ўсёй камэры так-жа лёгка, як хлапчук разбурае ка́ртавы дамок. А тым часам Макар Шалай ужо зноў ляжаў на сваім верхнім палку сам-насам са сваімі думкамі.

Ніхто так ня кпіў са сьледчых, як Макар Шалай. І зразумела, што гэтыя кпіны ён часьцей падаваў пад такой сафістычнай падліўкай, што не адразу можна было адчуць усю горкасьць прыгатаванае ім ежы. А часам і проста абсячэ сьледчага, і той нават ня ведае, пра што далей пытацца ў Макара. Такім чынам ён абышоў усіх старых дасьведчаных сьледчых і нарэшце патрапіў да маладога стажора.

Калі стажор, які прыйшоў на пасаду сьледчага адразу ад варштату, ня маючы за сьпіной амаль ніякай агульнай і прафэсыйнай адукацыі, зірнуў на Шалая, дык вельмі ўзрадаваўся. Перад ім стаяў зь вельмі пакорлівым выразам на твары сьціплы юнак. Стажор нават усьміхнуўся, бо нельга было сумнявацца, што ягоны дэбют пройдзе пасьпяхова.

На ўсе рашуча запытаньні стажора Шалай даваў самыя падрабязныя станоўчыя адказы. На пытаньне:

– А скажыце, вы сапраўды хацелі адарваць БССР ад СССР?

Ён адразу адказваў:

– А як-жа, зразумела, хацелі.

– І далучыць яе да Польшчы? – падказаў сьледчы.

– Не, чаму да Польшчы? – нават абураўся абвінавачаны. – Крый Божа нас ад гэтага. Мы хацелі далучыць яе да Індыі.

І стажор, для якога Індыя зьяўлялася «terra incognita», з паслухмянасьцю фанографа запісаў гэты адказ.

У гэты момант у пакой увайшоў стары сьледчы.

– Ну, як? – запытаўся ён у стажора, і той задаволнена адказаў:

– На пяць з прысыпкай. Прызнаўся ва ўсім.

Сьледчы спадылба зірнуў на Шалая, як на свайго старога знаёмага, неяк недаверліва гмыкнуў і пачаў чытаць пратакол сьледства. А Шалай тым часам сядзеў на крэсьле з тварам пераможанага, які нарэшце ня вытрымаў націску нязрушных фактаў. Калі сьледчы дайшоў да Індыі, ягоны твар пачырванеў. Гэты дасьціпны адказ красамоўна падкрэсьліваў усю беспадстаўнасьць бальшавіцкіх абвінавачаньняў і, выйшаўшы з пакояў НКВД, прагучаў па ўсёй краіне, як аплявуха па твары савецкай, з дазволу сказаць, юстыцыі.

Сьледчы з лаянкай вытурыў стажора вон і яшчэ з большай лаянкай пагнаў Шалая ў карцар.

## Юрка Віцьбіч

# «Люблю я, разумееце, Віцебск»[413]

*Парыж – другі Віцебск*
*Марк Шагал*

Цяжка ўявіць сабе стары Віцебск бяз Юрыя Пэна[414]. На працягу, бадай, паўстагодзьдзя віцябляне прызвычаіліся бачыць свайго мастака, які сьпяшаўся да аблюбаванае ім напярэдадні мясьціны або пэрсанажа. Яны добра ведалі ягоную агульнадаступную карцінную галерэю, што была адначасна і атэлье, і школай маляваньня, і кватэрай для самотнага Пэна. А віцябляне й Віцебск, ахутаныя сардэчнай цеплынёй, знайшлі вялікі адбітак на шмат якіх палотнах мастака.

Сам Юры Пэн ня быў паводле свайго паходжаньня віцяблянін. Ён нарадзіўся ў 60-х гадох у ціхім павятовым гарадку былое Ковенскае губэрні, які беларусы называлі Езяросы, літоўцы – Зарасай, а расейцы перайменавалі ў гонар аднаго зь імпэратараў у Новааляксандраўск. Не зважаючы на вылучную галечу ягоных бацькоў, што межавала з жабрацтвам, Пэн, перамагаючы вялікія цяжкасьці, трапіў у Акадэмію Мастацтваў і скончыў яе ў 1885-ым годзе, атрымаўшы за посьпехі сярэбраны мэдаль і

---

[413]Артыкул Юркі Віцьбіча «Люблю я, понимаете, Витебск» быў надрукаваны ў расейскамоўнай газэце «Новое Русское Слово» 1 верасьня 1971 г. Па-беларуску не друкаваўся. Беларускамоўны арыгінал перахоўваецца ў Фундацыі Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).

[414]Іегуда (Юдаль) Пэн (1854-1937).

званьне мастака. Апошняе давала Пэну права застацца ў Пецярбургу, але ён вярнуўся з сталіцы ў гэтак званую рысу аседласьці, абраўшы для свайго сталага жыхарства Віцебск. Гэты выбар ня быў выпадковы, бо, паводле ўспамінаў скульптура Заіра Азгура ў кніжцы «Незабыўнае», Пэн гаварыў: «Люблю я, разумееце, Віцебск. І як гэты горад не любіць! Цудоўная рака! Высокія, дзе абрывістыя, а дзе пакатыя берагі... Я люблю й цэрквы Віцебску, бо яны не падобныя на смаленскія. Разумееце, я люблю партрэтнасьць гораду. Кожны горад павінен мець свой партрэт. А наш Віцебск сваім аблічам адрозьніваецца ад другіх гарадоў».

Прывабнасьць старадаўняга беларускага Віцебску ня толькі не засланяла, а, наадварот, спалучалася ў Пэна з гаротным жыцьцём кроўных яму габраяў, якіх было палавіна жыхароў гораду. І тут адразу згадваюцца ня гэткія ягоныя вялікія палотны, як «За ранішняй старонкай Талмуду» й «Стары рабін», а эцюд «Сьпіна старога габрая». На ім пададзены ззаду згорблены дзед, які йдзе пакрысе немаведама куды й немаведама чаго, склаўшы за сьпіною рукі. Ягонага твару не відаць, але досыць толькі зірнуць на сьпіну, каб адчуць па ёй нявыказны цяжар – ад плачу на рэках Вавілонскіх да плачу на рэках Расейскай імпэрыі. Незабывальны таксама партрэт дзяўчыны, што звар'яцела пасьля беластоцкага пагрому. Досыць зірнуць ёй у вочы, каб яны перасьледавалі вас колькі дзён. І пасьля гэтага ня дзівіць, калі ў Пэна ў сшытку для водгукаў наведнікаў ягонае карціннае галерэі быў запіс (цытую): «Вы мне адкрылі вочы на раней мне ня ведамае. Толькі ў вас я зразумеў, што такое «рыса аседласьці». Сардэчны дзякуй. Ільля Рэпін».

Калі карціны бытавога й партрэтнага жанраў былі ў Пэна пераважна габрайскія, дык пэйзажны жывапіс выключна беларускі, прычым ня менш прачулы й дарэшты дасканалы. А з гэтых ягоных шмат якіх пэйзажаў найбольш

вылучаецца «Млын на Віцьбе», якім захапляўся выдатны майстар беларускага пэйзажу Вітольд Бялыніцкі-Біруля. Між іншага, калі да Пэна зварачаліся ў беларускай мове, дык ён беззаганна адказваў у ёй-жа, дадаючы пры гэтым: «Я думаю на габрайскай мове, але ведаю адмалку й беларускую. Я-ж зь Езяросаў, дзе шмат беларусаў».

Напярэдадні рэвалюцыі талент Пэна, насуперак усім перашкодам, дасягнуў найбольшага росквіту. Ягоны партрэт «Дзяўчына ў белым» меў яшчэ на Парыскім Салёне 1907 году вылучны посьпех і быў набыты ведамым калекцыянэрам Жакобам. Пэн, належачы паводле манэры свайго пісьма да рэалістычнай школы, дасягнуў найбольшае дасканаласьці ў партрэтах, якія можна было сустрэць у шмат якіх музэях Расеі. Характэрна, што гэта ў яго вучыліся гэткія знаныя пасьля мастакі, як Марк Шагал, Заір Азгур, Саламон Юдовін, Сорын, Мешчанінаў, Шульман, Эйдэльман ды ладна іншых.

Мастак паспрабаваў зразумець рэвалюцыю, працуючы ў 20-х гадох над гэткімі кампазыцыямі, як «Шавец-камсамолец» і «Габрай-калгасьнік», але часткова мае слушнасьць Л. Дробаў, калі ў сваім артыкуле «Напеў гарадзкіх ускраін», зьмешчаным у газэце «Літаратура й Мастацтва» ад 6-га кастрычніка 1967 году, адзначае, што яны «не выходзяць за межы звычайнае ілюстрацыі». Нарэшце ў 30-х гадох пачалося адкрытае цкаваньне Пэна. Ён абвінавачваўся вульгарызатарамі ў «нацыянальнай абмежаванасьці», «габрайскім нацыяналізьме», «прапагандзе юдаізму» й «сыяністцкім трызьненьні». Перад ім рубам паставілі пытаньне пра «творчую перабудову» й пераход да так званага сацыялістычнага рэалізму. Мастак апынуўся ў абставінах бадай поўнае ізаляцыі і ў сваіх апошніх змрочных карцінах «Мастак і сьмерць» і «Выскал сьмерці» бы прадбачыў сваю собскую страшную сьмерць.

У 1937 годзе ўвесь Віцебск нечакана ўскаланула жудасная вестка, што ягонага мастака Юрыя Пэна знайшлі

забітым у ягонай кватэры на Гогалеўскай вуліцы. Забілі яго ня з мэтай рабунку, бо ў шуфлядзе сталá й нават у кішэні забітага захаваліся грошы. Забілі не ўначы, а ўдзень ды ў доме, што знаходзіцца ў самым цэнтры гораду й літаральна за трыццаць крокаў ад паставога міліцыянэра. Яму, сямідзесяцігадоваму дзеду, паводле пратаколу, праламалі чэрап чымсьці падобным да цагліны. Зразумела, што ў 30-х гадох забойцаў доўга не шукалі й знайшлі ў самы дзень забойства. Гэта былі быццам-бы шаснаццацігадовая пляменьніца Пэна і ейны жаніх. І хоць у часе адкрытага суда над імі іхная вінаватасьць відавочна для ўсіх нічым не была даведзеная, іх прысудзілі да найбольшага тэрміну зьняволеньня ў канцэнтрацыйных лягерах. Аднак сам Віцебск іх тады забойцамі не прызнаў.

Тысячы віцяблянаў прыйшлі правесьці Юрыя Пэна ў ягоную апошнюю дарогу. Прыйшлі аддаць яму разьвітальнае «бывай» і прыхільнікі ягонага таленту, і прататыпы ягоных шмат якіх пэрсанажаў із сваймі дзецьмі ды ўнукамі. На іхных вачах можна было пабачыць шчырыя сьлёзы, як і пачуць іхны непадроблены плач, выкліканы балючай стратай вернага сябра. А за пахавальнай працэсіяй, якая расьцягнулася на два кілямэтры, бегла з гістэрычным крыкам псыхічна хворая пажылая жанчына, што калісьці адбілася на Пэнаўскім партрэце дзяўчыны, звар'яцелай пасьля пагрому.

Мае рацыю Л. Дробаў, калі свой кагадзе згаданы мной артыкул канчае высноваю: «У гісторыю беларускага жывапісу Пэн увайшоў як цудоўны мастак-жанрыст, пясьняр гарадзкой беднаты, пясьняр роднай Віцебшчыны».

Аднак уважаю за патрэбнае дадаць – пясьняр ня толькі беднаты, а ўсяго народу. Таму хочацца думаць, што на ягонай магіле на Пескавіцкім габрайскім могільніку ўжо стаіць адпаведны народнаму мастаку помнік, што на тым доме, дзе ён жыў і тварыў, ёсьць мэмарыяльная дошка, што аднэй зь віцебскіх вуліцаў нададзена ягонае сьветлае

імя. І хоць амаль 40 год прайшло пасьля пакутнае сьмерці Юрыя Пэна, але ўрэшце-рэшт трэба адшукаць і пакараць ягоных запраўдных забойцаў.

## Зь ліставаньня[415]

5 сьнежня 1950 году
Саўт Рывэр

Шаноўны Спадар Рэдактар![416]

Хочацца думаць, што мае нарысы «Не чарнілам, а крывёю» спадабаліся Вам і чытачам «Нового Русского Слова». Не сумняваюся таксама і ў тым, што яны не прыйшліся даспадобы рэдактару «Русского Голоса», чытачы якога ў сваёй большасьці, на вялікі жаль, – беларусы старой эміграцыі. Спадзяюся ў найбліжэйшым часе даслаць Вам артыкул, прысьвечаны варварскому зьнішчэньню бальшавікамі на Беларусі амаль усіх помнікаў рэлігіі, гісторыі й мастацтва. А яшчэ больш, чым пра помнікі, хочацца напісаць пра шчырых працаўнікоў, замардаваных у шматлікіх савецкіх засьценках.

Адначасна зьвяртаюся да Вас, Спадар Рэдактар, зь вялікай просьбай, хоць яна й ня мае непасрэднага дачыненьня да газэты. Калісьці ў мяне была неблагая бібліятэка (каля 10 тысяч тамоў) і карціны работы вядомых мастакоў. Усё гэта часткова зьнікла падчас вобыскаў і арыштаў, а часткова – падчас вайны. У остэрбайтарскай торбе я змог прывезьці ў Нямеччыну дзясятак-другі кніг і столькі-ж карцін. Сярод іх ёсьць акварэль Ільлі Яфімавіча

---

[415] Арыгіналы лістоў перахоўваюцца ў архіве Юркі Віцьбіча (Фундацыя Пётры Крэчэўскага, Нью-Ёрк).
[416] Ліст да рэдактара газэты «Новое Русское Слово» (Нью-Ёрк).

Рэпіна «Тры пальмы» (матыў вядомага лермантаўскага верша) і карціна (аловак) – «Дзяўчына, звар'яцелая пасьля пагрому» работы Юрыя Майсеевіча Пэна – у мінулым майго добрага знаёмага. Цяпер абставіны (я маю сям'ю й трэці тыдзень бяз працы) прымушаюць мяне прадаць гэтыя дзьве карціны, але хочацца, каб яны трапілі куды-небудзь у музэй або клюб. Магчыма, Вы, Спадар Рэдактар, ведаеце, каму можна іх прапанаваць, тым больш, што я не зьбіраюся прасіць за іх многа: мне проста сорамна прадаваць іх (карціна Пэна – ягоны падарунак), але жыцьцё вымушае...

Прабачце за клопаты.

Шчыра ўдзячны Вам Юрка Віцьбіч

5 ліпеня 1958 году
Нью-Ёрк

Шаноўны Спадар Стукаліч!

Зь вялікай цікавасьцю прачытала Ваш артыкул пра мастака Пэна і ўсё, што зьвязана з горадам Віцебскам. Я нарадзілася й правяла сваё дзяцінства ў Віцебску, і ў памяці зьбераглiся ўспаміны пра гэты цудоўны горад, людзей, што яго насялялі, і пра тое, што складала прывабнасьць гэтага гораду.

Буду Вам вельмі ўдзячная, калі Вы мне падкажаце, дзе і якія матар'ялы можа атрымаць пра Віцебск і дзе можна ўбачыць літаграфіі або карціны Пэна, якія я, верагодна, не адзін раз бачыла ў дзяцінстве.

Дзякую яшчэ раз за падараваную радасьць і дазвольце папрасіць Вас напісаць яшчэ пра Віцебск, Беларусь і пра жыцьцё ў гэтым краю.

Шчыра, з пашанай
Дора Давідсон

22 ліпеня 1958 году
Саўт Рывэр, Нью Джэрзі

Шаноўная Спадарыня Давідсон!

Прашу прабачэньня, што са спазьненьнем адказваю на Ваш ветлівы ліст, за які вельмі ўдзячны – для літаратара гэта вялікая маральная падтрымка. Мне прыемна, што Вам спадабаўся мой нарыс пра Пэна й Віцебск. Сам я закаханы ў гэты горад, а з Пэнам, нягледзячы на вялікую розьніцу ў гадах, сябраваў.

Вас цікавіць, дзе і якія матар'ялы можна атрымаць пра Віцебск і дзе можна ўбачыць літаграфіі альбо карціны Пэна. Я мог-бы прыслаць Вам доўгі сьпіс літаратуры пра Віцебск, але ён будзе без карысьці, бо ў ЗША наагул, а ў Славянскім аддзеле Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэкі, у прыватнасьці, такой літаратуры амаль няма. І ўсё-ж, калі не памыляюся, там ёсьць: Россия. Под ред. В. П. Семёнова. Том IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПБ. Издание А. Ф. Девриена. 1905. Натуральна, што гэта кніжка састарэла, як і яе аднагодак, Ваш пакорны слуга, але гістарычны матар'ял у ёй не згубіў сваёй вартасьці. Віцебску ў гэтай кнізе прысьвечаны пэтытам старонкі 453-459, а на ўкладцы зьмешчаны краявіды гораду.

Мне пісаць пра Віцебск значна памагаюць тыя абставіны, што некалі я займаўся археалягічнымі раскопкамі ў самім горадзе і ягоным навакольлі, кіраваў навуковай экспэдыцыяй па ўліку помнікаў гісторыі й мастацтва, працаваў над гісторыяй Віцебскіх фабрык і заводаў і г.д., а яшчэ, фігуральна кажучы, праглынуў пуд архіўнага пылу. Шмат пісаў пра Віцебск і Беларусь у розных пэрыядычных выданьнях і ў асобна выдадзеных маіх кнігах. Мая асабістая бібліятэка ў Віцебску (каля 10 тысяч тамоў) згарэла на

пачатку вайны, але некалькі дзясяткаў кніг я ўсё-ж дацягнуў да Саўт Рывэру. Між іх альбом з краявідамі Віцебску, Полацку, Дзьвіны й г.д. (каля 100 здымкаў), матар'ялы экспэдыцыі па ўліку помнікаў гісторыі й мастацтва (каля 50 здымкаў), вялікі плян Віцебску (1904 году), некалькі карцін, а між іх «Чорная Тройца» Юдовіна й Пэна – партрэт дзяўчынкі, якая звар'яцела пасьля пагрому, – падарункі саміх мастакоў. У ЗША зноў сабраў неблагую й немалую бібліятэку, выпісваю амаль усё, што выдаецца там пра Беларусь.

З каталёгаў «Международной Книги» ведаю, што ў гэтым годзе ў Менску павінна выйсьці з друку кніжка пра Віцебск са шматлікімі ілюстрацыямі. Я ўжо замовіў яе для сябе ў Лёндане, дзе ёсьць адна кнігарня, якая прадае (таньней, як у Нью-Ёрку) кнігі, выдадзеныя ў СССР. Калі Вас гэтая кніга зацікавіць, дашлю Вам адрас лёнданскай кнігарні, дарэчы, ніякага авансу пры папярэдняй замове не патрабуецца. Але, зразумела, што гэтая кніга яшчэ больш тэндэнцыйная за вышэйназваны том IX і патрабуе вельмі крытычнага падыходу да яе.

З большасьці маіх уласных краявідаў Віцебску, Дзьвіны й г.д., зь пляну Віцебску, з карцін Пэна і Юдовіна зроблены фотакопіі адным ньюёркаўскім віцяблянінам са старой эміграцыі, які прыяжджаў у Саўт Рывэр. Калі палічыце патрэбным, я магу выслаць ягоны адрас і адначасна яго папярэдзіць.

На эміграцыі я, улічваючы абставіны, што пішу толькі ў вольны час, надрукаваў параўнальна багата пра Беларусь і Віцебск на рускай мове, але значна больш – на беларускай.

Калі Вас зацікавіць, я магу прыслаць даведнік пра надрукаванае мною ў рускіх пэрыядычных выданьнях. На беларускай мове ў мяне ёсьць кніжка, выдадзеная ў Мюнхэне, – «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман», у ёй – пра Беларусь і пра асабліва дарагі мне Віцебск, пра «Ідэл міт

зайнэм фідэл», пра Кагальны Роў у Гомлі, школішча ў Магілёве й г.д.

На жаль, ня ведаю, ці выйшла з друку кніжка на габрайскай мове пра Віцебскую габрайскую суполку, кніжку меўся выдаць Vitebski Benevolent-Association і Vitebski branch Arbeiter Ring 224. Калі Вы ня маеце гэтай кнігі, прышлю адрас Камітэту па яе выданьні.

Аднак пара й спыніцца.

Яшчэ раз прашу прабачэньня за мой спозьнены адказ.

Прашу пісаць, калі будзе вольны час і жаданьне.

Юры Стукаліч

13 красавіка 1961
Нью-Ёрк

Высокапаважаны Спадар Віцьбіч!

Толькі сёньня прачытала Ваш артыкул, што зьявіўся нядаўна ў «НРС» і зноў з асаблівым задавальненьнем – тыя радкі, у якіх Вы ўпамінаеце пра Віцебск і гісторыю ўсяго гэтага краю.

Выпадкова толькі што нечакана знайшла Ваш першы ліст, дзе Вы так замілавана пішаце пра гэты горад. Я атрымала й Ваш другі ліст, але ўсё неяк была занятая й не пасьпела адпісаць, да таго-ж неяк і не ўспаміналася ні пра дзяцінства, ні пра Віцебск. Вы пішаце ў сваім лісьце: «Я закаханы ў гэты горад». Мусіць, гэты горад сапраўды мае асаблівую прывабнасьць. Ня так даўно мне прыйшлося гаварыць з адным чалавекам зь Беларусі. І калі я сказала, што гэты край знаю, ён узрадаваўся: «Няўжо Вы й мой горад ведаеце – Віцебск?». І мы вельмі ажыўлена ўвесь вечар прыгадвалі вуліцы, назвы, плян гораду і цудоўную

Дзьвіну і мост праз ье, што вядзе да вакзалу. Мой ліст атрымаецца задоўгі, калі пачну зноў згадваць Дзьвіну, Губэрнатарскі сад, каменныя масты сярод гораду, скляпеньні гандлёвага раду й званіцу, дзесьці там, за турмой... Ён многа расказваў пра Віцебск у гады Другой вайны й бальшавізму, пра тамтэйшых людзей, моцных, лаяльных, але зь нейкай хітрынкай, пра тое, як разросься горад, як многа новых фабрык і які пабудавалі новы вялікі мост – цуд тэхнікі!

Як бачыце, «нашага палку пабольшала», ёсьць яшчэ людзі ў Амэрыцы, якія захавалі ўспаміны пра Віцебск, ягоныя ўзгоркі, ягоныя навакольныя лясы. (А такіх зьмешаных лясоў нідзе ва ўсім сьвеце ня знойдзеш!).

Я працую ў бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту, і праз мае рукі праходзяць новыя выданьні рускіх кніг. Мне ўжо некалькі разоў трапляліся кнігі пра Беларусь і Віцебск. А ў адной кнізе ўбачыла малюнак берагу ў Полацку, там, дзе ўздымаецца гэтая знакамітая, здаецца, апетая ў цудоўным вершы Блока «Белая царква».

Буду Вам паведамляць, калі знайду што-небудзь, зьвязанае з Беларусьсю. Дзякую за зьвесткі пра кнігі, названыя ў Вашых лістах. Спадзяюся ўлучыць момант прачытаць іх, пакуль што часу вельмі мала, але ўсё-ж з прыемнасьцю падзялілася з Вамі сваімі ўражаньнямі й «пяшчотнымі пачуцьцямі» да ўсяго гэтага краю зь ягонай сапраўднай своеасаблівай рамантыкай.

Пастараюся ў наступным больш акуратна адказваць на лісты. З прывітаньнем і найлепшымі пажаданьнямі

Дора Давідсон

13 траўня 1961 году
Саўт Рывэр

Шаноўная Спадарыня Давідсон!

Прабачце, што са спазьненьнем адказваю на Ваш ветлівы ліст ад 13.4.61 г., за які вельмі ўдзячны. Мне прыемна, што Вам спадабаўся мой чарговы артыкул у «НРСлове», дзе прыгадваюцца Віцебск і Беларусь. Наагул, дзякуючы гэтым сваім публікацыям, я пазнаёміўся з многімі віцяблянамі і час ад часу зь імі лістуюся.

Зайздрошчу Вам, што, працуючы ў такой вядомай і вялікай бібліятэцы, як бібліятэка Калюмбійскага ўнівэрсытэту, Вы маеце магчымасьць знаёміцца з новымі выданьнямі кніг, дзе ўпамінаюцца Віцебск і Беларусь. Ёсьць такія кнігі і ў маёй сьціплай асабістай бібліятэцы, якая лічыць каля 2 тысяч назваў. Аднак, маючы ў мінулым вопыт падсавецкага грамадзяніна, я крытычна стаўлюся да савецкіх выданьняў. Вось таму, напрыклад, новы мост празь Дзьвіну, пра які Вы чыталі, я-б не назваў цудам тэхнікі. Нягледзячы на маю закаханасьць у Віцебск, павінен зазначыць, што гэты новы мост, па якім я неаднойчы праходзіў, ва ўсіх адносінах саступае многім амэрыканскім мастам, а тым больш такім надзвычайным, як мост Вашынгтона ў Нью-Ёрку або мост праз праліў Залатыя Вароты ў Сан-Францыска. Апошнія, сапраўды, – цуда тэхнікі.

Я ня ўпэўнены, што менавіта тая царква на беразе ў Полацку, здымак зь якой вы бачылі, апетая Блокам у вершы «Белая церковь». Але затое яна – Сафійскі сабор – упамінаецца яшчэ ў «Слове аб палку Ігаравым». Яе муры часткова захавалі сьцены тысячагадовай даўнасьці і такога-ж веку фрэскі на іх.

Дазвольце яшчэ раз падзякаваць Вам за такі добры ліст.

Прашу пісаць, калі знойдуцца час і жаданьне.
Шчыра жадаю ўсяго найлепшага.
Юры Стукаліч

Дора Давідсон
69 Тыман Плэйс
Нью-Ёрк, 27

Высокапаважаны Спадар Стукаліч!

Калісьці мы з Вамі абменьваліся лістамі з нагоды агульных успамінаў пра горад Віцебск. Я даўно Вам не пісала, бо нічога новага й цікавага для Вас расказаць не магла.

Цяпер я працую ў «Radio Liberty Committee», установе, Вам, безумоўна, знаёмай, і маю доступ да бібліятэкі пры Камітэце, у якой сабрана шмат літаратуры пра сучаснае жыцьцё ў Савецкім Саюзе. Нядаўна мне трапіўся ў рукі артыкул пра Віцебск у адным з савецкіх часапісаў. Я яго перапісала. Мне здаецца, што гэты артыкул можа Вас зацікавіць, бо ў ім – пра жыцьцё ў Віцебску пэрыяду ягонага інтэлектуальнага росквіту. Між іншым, пра той час, калі Марк Шагал арганізаваў там акадэмію, мне здарылася чытаць у амэрыканскіх мастацкіх часапісах. Наагул роля Віцебску, як мастацкага цэнтру, культурна-асьветніцкая праца, што праводзілі нашыя мастакі ў Віцебску, мела немалое значаньне для культурнага й мастацкага жыцьця наагул.

Тут, у Нью-Ёрку, мне надарылася сустрэць аднаго з вучняў Ю. М. Пэна. Хаця я сама й не пасьпела стаць вучаніцай Пэна, імя ягонае мне памятнае й па ўласных успамінах, якія, дарэчы сказаць, уваскрасілі Вы сваім артыкулам пра трагічнае жыцьцё гэтага, як я потым даведалася, вялікага працаўніка мастацтва.

У «Art Student League», гэта значыць, у тутэйшай ньюёркаўскай акадэміі, працуе выкладчыкам мастак Брэйнін (Breinin, Raymond), які ў сваёй біяграфіі адзначае, што ён вучыўся ў Юрыя Пэна ў Віцебску. Я зь ім пазнаёмілася й расказала яму, што шмат чаго зьведала пра жыцьцё й сьмерць Пэна з Вашага артыкула. Ён сам – ураджэнец Віцебску, выехаў адтуль адзінаццацігадовым хлопчыкам у Амэрыку, але вельмі цікавіцца й мала чаго ведае пра жыцьцё Пэна пасьля свайго ад'езду.

Я й з гэтай прычыны таксама хацела Вам пісаць, бо спадар Брэйнін піша пра Віцебск, а галоўным чынам яго будзе цікавіць Ваш артыкул, што калісьці зьявіўся ў «Новом Русском Слове».

Вось бачыце, я думаю, Вам прыемна будзе пачуць, што зярняты, пасеяныя ў Вашым любімым горадзе, далі ўсходы на амэрыканскай зямлі.

Трэба сказаць, што і Шагал упісаў слаўную старонку ў гісторыю нашага гораду, і многія іншыя, а ў гэтым артыкуле, што я вам пасылаю, яго рэзка крытыкуюць і сьмяюцца зь ягонага наватарства й самабытнасьці.

Я Вам паведамляю мой новы адрас: Dora Davidson. 69 Teman Place, apt 59. New York, 27, 100027, а таксама адрас установы, дзе я працую. Калі будзеце пасылаць якія-небудзь матар'ялы, то прашу Вас пасылаць на адрас офіса, які падаю ніжэй: Radio Liberty Committee. 30 East 42 Street. New York, Room 49.

З глыбокай пашанаю й найлепшымі пажаданьнямі, з надзеяй, што пасланы артыкул Вам прыдасца да Вашай працы, а калі не, дык проста прынясе асалоду.

З прывітаньнем.

Дора Давідсон

29 сакавіка 1965 году
Нью-Ёрк

Высокапаважаны Спадар Стукаліч!

Карыстаюся вольнай хвілінкай, каб падзякаваць Вам за адказ на мой ліст. Я вельмі радая, што прысланы мной артыкул Вам спадабаўся. Пасылаю Вам дадатковыя зьвесткі: імя аўтара і іншае.

Ці чытаеце Вы па-ангельску? У мяне захаваўся артыкул з ангельскага часапісу таксама пра гэты пэрыяд жыцьця Віцебску. Пры выпадку перашлю яго Вам.

Я дала Ваш адрас спадару Брэйніну. Рэйманд Брэйнін выехаў зь Віцебску адзінаццацігадовым хлопчыкам і з таго часу вестак адтуль ня мае, чуў толькі ад Шагала пра тое, што мастак Пэн быў забіты. Верагодна, ён Вам напіша, бо яго вельмі цікавіць лёс Пэна.

Прозьвішча Марковіч мне ведама па дзіцячых успамінах. Відаць, Віцебск валодае нейкім шармам, нездарма ўсе з такім захапленьнем успамінаюць яго, нават амэрыканскі кампазытар Арон Копланд назваў свой музычны твор «Віцебск». Я мяркую напісаць да яго й запытацца, чаму? Верагодна, таксама зямляк!

З прывітаньнем і найлепшымі пажаданьнямі
Дора Давідсон

16 красавіка 1965 году
Саўт Рывэр

Вельміпаважаная Спадарыня Давідсон!

Дзякую за Ваш ліст і за прозьвішча аўтара прысланага раней Вамі артыкула пра Юрыя Майсеевіча Пэна. Карыстаюся выпадкам яшчэ раз падзякаваць за яго.

Магчыма, Вы чыталі ў «НРСлове» мой артыкул «Віцебская берасьцяная грамата». А ён-жа – старажытны наш горад, як зазначыў у «Жизни Арсеньева» Іван Бунін, і, разам з тым, заўсёды... юны, жыцьцярадасны. Цяпер там вясна – такая непадобная на тутэйшую. На Дзьвіне крыгаход, празь нейкі час пойдуць па ёй параплавы й пацягнуцца плыты. Так хацелася-б сустрэць вясну на Мядзьведжай гары – ёсьць такая маляўнічая мясцовасьць на беразе Дзьвіны пад Віцебскам. Недалёка ад яе й Здраўнева, дзе жыў калісьці Ільля Яфімавіч Рэпін. Абстрагуючыся ад свайго веку, хочацца нагадаць:

Иль у молодца крылья связаны,
Иль пути ему все заказаны...

Вы ўпамянулі пра «Віцебск» амэрыканскага кампазытара Арона Копланда. Мне давялося чуць гэты музычны твор па тэлебачаньню. На жаль, я слаба разьбіраюся ў мадэрнай музыцы, магчыма, таму яна нічым не напомніла мне Віцебск.

А да Віцебску яшчэ мае адносіны мой добры знаёмы Рыгор Якаўлевіч Арансон, артыкулы якога час ад часу друкуюцца ў «НРСлове». Ня ведаю толькі, ці ўраджэнец ён Віцебску, але жыў ён там яшчэ ў першыя гады савецкай улады.

Прашу пісаць, калі будзе час і ахвота.

З самымі найлепшымі пажаданьнямі

Юры Стукаліч

5 жнівеня 1958 году
Бэвэрлі Гільс

Высокапаважаны Спадар Стукаліч!

Зь вялікім задавальненьнем прачытаў Ваш артыкул у «НРС» ад 29 чэрвеня «Памяці Юрыя Пэна». Я сам нарадзіўся ў Віцебску й выехаў з гэтага гораду ў 1912 годзе, а потым наведаў Віцебск у 1918 годзе й быў там некалькі дзён.

З усёй нашай вялікай сям'і толькі адзін мой брат заставаўся там жыць і быў па-зьверску забіты ў час акупацыі немцамі, пра што я даведаўся з кніжкі пра злачынствы немцаў.

Мяркую па Вашым артыкуле, што Вы – віцяблянін, і калі гэта так, то цікава пачуць, калі Вы апошнім часам былі ў Віцебску?

У сваім артыкуле Вы ўпамінаеце кніжку «Ветер скорости», і я прашу Вас паведаміць мне, ці будзе яна цікавая для мяне як віцябляніна – прысьвечана гэтая кніжка цалкам Віцебску ці толькі мімаходзь закранае яго?

Калі Вам ня надта складана, прашу таксама паведаміць, дзе [redacted] магу знайсьці й купіць гэтую кніжку.

Прабачце за клопаты.

З глыбокаю пашанаю

Самуіл Саламонавіч Марковіч

21 верасьня 1958 году
Саўт Рывэр

Высокашаноўны Самуіл Саламонавіч!

Вельмі ўдзячны за Ваш ветлівы ліст – для літаратара ён зьяўляецца вялікай падтрымкай. Мне прыемна, што Вам

прынёс задавальненьне мой нарыс «Памяці Юрыя Пэна». Сам я закаханы ў Віцебск, а з Юрыем Майсеевічам Пэнам, нягледзячы на вялікую розьніцу ў гадах (ён нарадзіўся ў 70-х, а я – у 1905), сябраваў.

Вы не памыляецеся, мяркуючы, што я – віцяблянін. Праўда, нарадзіўся я ў Вяліжы Віцебскай губэрні, але перад вайной, пасьля бадзяньня па СССР, некалькі гадоў жыў у Віцебску. На пачатку вайны дайшоў разам з жонкаю (яна віцяблянка) пехатою да Вяліжу. Між іншым, сталінскі загад пра «голую зямлю» зьнішчыў і маю віцебскую асабістую бібліятэку, у якой было каля 10 тысяч кніг. Празь некаторы час Вяліж стаўся фронтам, і ў канцы красавіка 1942 г. я вярнуўся ў Віцебск, а пакінуў яго, гэта Вас цікавіць, увосень 1943. Дарэчы сказаць, гэты адыход і вяртаньне знайшлі сваё адлюстраваньне ў маім нарысе «Народ сьмяяўся» («НРС» ад 5 верасьня 1952), дзе прыгадваецца трагічны лёс тых віцебскіх габраяў, якія «схаваліся» ў Вяліжы.

Калі толькі мне не здраджвае памяць, з Вашым братам-лекарам я неаднойчы сустракаўся перад вайной. Здаецца, ён нэўрапаталёг. І калі апошняе адпавядае сапраўднасьці, я ахвотна напішу вам пра гэтыя сустрэчы, ад якіх захаваліся ў мяне найлепшыя ўспаміны.

Вас цікавіць кніга К. Паўстоўскага «Ветер скорости» ў сувязі зь Віцебскам, які ўпамінаецца ў ёй. Гэтая кніжка прысьвечана паездцы аўтара на аўтамабілі (адсюль і назва) па заходняй частцы СССР. Пра Віцебск у ёй толькі тое, што я зацытаваў у сваім нарысе.

А між іншым, калі, на жаль, віцяблян з новай эміграцыі можна пералічыць па пальцах (ні адзін горад на Беларусі не пацярпеў ад фашыстаў і ад бальшавікоў так, як Віцебск), то літаратура пра яго маецца. Калі будзе ў Вас жаданьне, магу прыслаць паказчык гэтай літаратуры, якая або ёсьць ў бібліятэках ЗША, або яе можна набыць у кнігарнях.

Яшчэ раз дазвольце выказаць сваю шчырую ўдзячнасьць за Ваш добры ліст.

Шчыра жадаю Вам усяго найлепшага.

Заўсёды гатовы да паслуг

Юры Стукаліч

25 лютага 1960 году

Высокашаноўны Спадар Стукаліч!

Вялікі дзякуй за Ваш мілы ліст і адрас для заказу кнігі пра Віцебск.

Я, безумоўна, выпішу гэтую кнігу дзеля цікавасьці. Але мне вельмі хацелася-б знайсьці дзе-небудзь старыя краявіды, паштоўкі, афішы, ілюстраваныя часапісы або газэты мінулага часу (да першай вайны або рэвалюцыі).

Я з жонкай вярнуўся прыблізна тры тыдні таму назад зь пяцімесячнай паездкі. Мы былі 7 дзён у Ленінградзе, 3 тыдні ў Маскве й 4 месяцы ў Парыжы.

На жаль, канец верасьня й пачатак кастрычніка для Масквы й Ленінграда – ня вельмі ўдалая пара ў кліматычных адносінах, і мы абое былі ўвесь час прастуджаныя, тым больш, што пасьля нашай каліфарнійскай цеплыні – розьніца калясальная.

Наша прастуда вельмі перашкаджала, і мы ня ўбачылі шмат з таго, што хацелі-б, акрамя сваякоў, тэатраў і музэяў. (А наагул мы маглі свабодна сустракацца й перамяшчацца).

Будаўніцтва ў Маскве асабліва вялікае і ў Ленінградзе калясальнае, але патрэба ў кватэрах ня меншае. Нягледзячы на тое, што мы бачылі шматмільныя, цалкам новыя забудаваныя раёны, людзі жывуць яшчэ па 3 чалавекі ў адным пакоі, і камунальных кватэр яшчэ не пазбавіліся.

Пачулі шмат займальных анэкдотаў, але іх цікавей пераказваць пры асабістай сустрэчы.

На жаль, мы ў Нью-Ёрк ня трапілі, магчыма, праз 2-3 месяцы зьбяромся, тады можна будзе й сустрэцца.

У Парыжы я бачыўся з нашым земляком Маркам Шагалам (дарэчы, ягоная сястра, што жыве ў Ленінградзе, сябруе зь сям'ёй майго брата, і я яе там бачыў), і ён вельмі цёпла прыняў нас у сябе, мы ўспаміналі многае з нашага дзяцінства, агульных знаёмых, сяброў і наагул усё пра наш родны горад.

Я, прызнаюся, быў вельмі крануты ягонай цеплынёй, ласкай і ўвагай, нягледзячы на тое, што ён цяпер заняў вельмі высокае становішча ў сьвеце мастацтва ня толькі Францыі, але й сусьветнага.

Ягоная сьціпласьць, просты й сяброўскі падыход мяне проста зачаравалі (ягоная жонка таксама вельмі мілая й таксама спрыяла гэтай сымпатычнай атмасфэры).

Шкада, што Вы так далёка жывяце, а то абавязкова мы й з Вамі шмат чаго ўспомнілі-б.

Будзем спадзявацца, падчас нашай наступнай паездкі ў Нью-Ёрк мы зможам папярэдне сьпісацца й сустрэцца.

А пакуль што з найлепшымі пажаданьнямі застаюся

Самуіл Марковіч

12 сакавіка 1960 году
Саўт Рывэр

Высокапаважаны Самуіл Саламонавіч!

Прабачце, што са спазьненьнем адказваю на Ваш ветлівы ліст ад 25.2.60 г. – трохі занядужаў.

Вас цікавіць, дзе можна знайсьці краявіды, паштоўкі, афішы й наагул усё друкаванае, што належыць да старога Віцебску. Мая віцебская асабістая бібліятэка

(каля 10 тысяч кніг) згарэла падчас вайны, але мне ўсё-ж пашчасьціла тое-сёе дацягнуць да Саўт Рывэру. Акрамя дзьвюх-трох кніжак пра стары Віцебск, маю тут альбом з краявідамі Віцебску, Полацку, Заходняй Дзьвіны й г.д. (каля 100 здымкаў), матар'ялы Віцебскай навуковай экспэдыцыі 1939 г. па ўліку помнікаў гісторыі й мастацтва (53 здымкі), вялікі плян Віцебску (1904 г.), некалькі карцін, а між іх Юдовіна «Чорная Тройца» й Пэна – партрэт дзяўчыны, звар'яцелай пасьля пагрому – дарункі мастакоў.

Чатыры гады таму назад віцяблянін са старой эміграцыі, які жыве ў Нью-Ёрку, зрабіў копіі з большасьці гэтых здымкаў, а таксама з карцін Юдовіна, Пэна, з пляну Віцебску й г.д. Я ня маю цяпер зь ім сувязі, але спадзяюся, што ён жывы й здаровы і нэгатывы ў яго захаваліся. Вось ягоны адрас амаль чатырохгадовай даўнасьці: Mr. Stanisław Cyrski. 122 South 1st Street, Brooklyn, 11, N.Y.

На жаль, ня ведаю, ці выйшла з друку кніжка на габрайскай мове пра Віцебскую габрайскую суполку. Гэтую кніжку меліся выдаць яшчэ ў 1955 г. Vitebski Benevolent-Association і Vitebski branch Arbeiter Ring 224. Адрас Камітэту па выданьню яе быў такі: Mr. N. A. Abramson. 4075 3rd Ave. Bronx 57, N.Y.

Хаця Вы пра гэта ня пішаце, але, магчыма, Вам падчас сваёй цікавай паездкі пашчасьціла наведаць Віцебск? У Маскве, дзе Вы былі тры тыдні, я некалі пражыў дзевяць гадоў – працаваў на яе фабрыках і заводах і зарабляў сабе такім чынам (як сын сьвятара) права на вышэйшую адукацыю. Наўрад ці нават і там, як і наагул у вялікіх гарадах СССР, будзе ліквідаваны жыльлёвы крызіс, пра які Вы ўпамінаеце. Ды й ці толькі жыльлёвы? Адзін мой прыяцель быў вельмі зьбянтэжаны, калі атрымаў просьбу зь Менску – дастаць і прыслаць іголкі для чысткі прымусаў. У

ЗША ня толькі гэтыя прымітыўныя саматужныя іголкі, але й прымусы няведамыя.

Прыемна, што наш родны Віцебск даў сьвету Марка Шагала. Хаця, каюся, не разумею мадэрнага мастацтва і ў гэтых адносінах мне бліжэй «правінцыяльны» Юры Пэн. Як бліжэй мне, напрыклад, і Рэпін, зьвязаны, дарэчы, зь Віцебскам. Між іншым, пра гэта у «НРС» (13.11.55) быў мой нарыс «Рэпін на Беларусі». Тут, у Саўт Рывэры, маю здымкі зь ягонага дому ў Здраўневе пад Віцебскам і, што найбольш каштоўна, – ягоны эскіз акварэльлю на лермантаўскі матыў «Тры пальмы».

Спадзяюся ў гэтым годзе напісаць для «НРС» нарысы пра Полацак і мястэчка Бешанковічы. Як нельга ўявіць сабе Нью-Ёрк бяз хмарачосаў, так немагчыма ўявіць старую Беларусь без шматлікіх мястэчкаў. Там, у Бешанковічах, можна ўбачыць і швэдскія курганы, і вал маршала Сэн-Сіра, і палац, дзе гасьцявалі Пётр Першы, Напалеон, Аляксандар Першы. Менавіта ў гэтым самым палацы Пётр Першы прыняў вядомага пушкінскага казака-ганца, у шапцы якога быў зашыты

Донос на гетмана злодея
Царю Петру от Кочубея.

Між іншым, у Бешанковічах нарадзіўся Юдовін – беларускі Левітан. Ніхто зь беларускіх мастакоў не адлюстраваў на сваіх палотнах з такой цеплынёй беларускія старажытныя цэркаўкі й капліччкі, курганы й прыдарожныя крыжы, як габрай па нацыянальнасьці Юдовін.

Шчыра зычу Вам усяго найлепшага.

Юры Стукаліч

21 сакавіка 1960 году
Бэвэрлі Гільс

Высокашаноўны Спадар Стукаліч!

Даруйце, што менавіта так да Вас зьвяртаюся, бо Ваш першы ліст недзе згубіўся, а Вы, магчыма, наагул не сказалі мне, як Вас завуць па бацьку.

Я быў вельмі ўзрадаваны Вашым лістом і пад ягоным уражаньнем пачаў гартаць кнігі, якія маю й на якія даўно ўжо не зьвяртаў увагі. На вялікі жаль, яны на ідыш, а [redacted] ледзь-ледзь умею чытаць на габрайскім жаргоне. Сярод іх і тая кніжка, якая была выдадзена пры ўдзеле спадара Абрамсона, у ёй падаюцца рэпрадукцыі карцін Юдовіна, Пэна, Шагала й прыводзіцца шмат цікавых фактаў пра Віцебск. На адной старонцы гаворыцца нават пра тое, што калі ў 1885г. адкрылася аддзяленьне Дзяржаўнага банка, то мой дзед Лейба Гершман быў выбраны ганаровым старшынёй уліковага камітэту. Менавіта ад ягонага слова залежала, хто ў горадзе атрымае крэдыт, а хто не. У мяне ёсьць фота майго дзеда з мэдалямі, якія ён атрымаў ад цара за сваю адданасьць справе.

Кніжка гэтая добра выдадзеная, але, на жаль, я не разумею тэксту, хаця да дзевяцігадовага ўзросту мяне вучылі габрайскай мове, праўда, усяго толькі па адной гадзіне штодзень, а гэтага аказалася недастаткова, як я цяпер бачу.

Я маю яшчэ адну кніжку з вокладкай, намаляванай Шагалам, яна выйшла прыблізна ў 1957 г. у Ізраілю, але ўжо на старажытнай габрайскай мове. Там я знайшоў на с. 307 здымак маіх бацькоў, а над ім – партрэт дзеда. Але зноў-жа, на вялікі жаль, прачытаць нічога не магу. У гэтай кнізе на с. 135 ёсьць плян Віцебску, але назвы вуліц падаюцца па-габрайску. Можа, гэта перароблены Ваш плян гораду?

Вельмі цікава тое, што Вы пішаце пра Бешанковічы. Я помню гэтую назву, бо мае бацькі трымалі аптовыя мучныя склады, і мне прыпамінаецца, як зь Вяліжу, Бешанковічаў і зь іншых гарадкоў прыяжджалі, асабліва зімою, на санях па Дзьвіне, 40-50 і больш пакупнікоў па муку. Яны начавалі ў нас і суседзяў на дварэ, раніцай наладоўвалі сані пяціпудовымі мяхамі мукі й крупаў і ад'яжджалі ў свае мястэчкі. Усё гэта было да першай вайны або, больш дакладна, нават да 1912 г., пакуль я яшчэ жыў там і вучыўся ў Камэрцыйным вучылішчы.

Нас было 10 братоў, і старэйшыя, больш дужыя, заўсёды забаўляліся, наладжвалі спаборніцтвы зь вясковымі грузчыкамі-асілкамі (яны бралі па два пяціпудовыя мяхі адразу на плечы). Усё гэта адышло, мінула, засталося толькі шасьцёра братоў, ды й тыя разышліся па сьвеце.

Тут, у Бэвэрлі Гільс, жыве мой прыяцель Рыгор Глікман, ён нарадзіўся ў Бешанковічах і ўсё ўспамінае нейкі вялікі замак-палац, што належаў самаму буйному магнату-землеўладальніку Храптовічу-Буцянёву (калі я правільна яго называю), з сынам якога ён, Глікман, потым сустрэўся ў Парыжы.

Між іншым, Рыгор Глікман – мастак, ягоная спэцыяльнасьць – аголенае цела. Ён карыстаецца посьпехам тут, у Каліфорніі, і, здаецца, у бліжэйшым часе будзе выстаўляцца ў Нью-Ёрку. Яша Хейфец, які зь ім сябруе, мае даволі многа карцін Глікмана, таксама як і Рыгор Пяцігорскі, і Артур Рубінштэйн – усе ягоныя блізкія сябры.

Калі сустрэнецца Вам у газэце аб'ява пра выставу Глікмана, раю яе наведаць (напэўна, у адной з галерэй).

Дарэчы, Глікман дружыў і зь Юдовіным, гэта ён мне сам сказаў, калі ўбачыў у мяне кніжкі на габрайскай мове.

Між іншым, у гэтых дзьвюх кніжках зьмешчаны віды Віцебскага вакзалу й лёнапрадзільнай фабрыкі, маста праз Дзьвіну й шматлікія здымкі ўраджэнцаў гораду.

Заканчваю на гэтым ліст, дзякую Вам за ўсе зьвесткі. Жадаю шчасьця й посьпехаў ва ўсіх справах.

Самуіл Марковіч

11 красавіка 1971 году
Саўт Рывэр

Шматпаважаная Фрыда Барысаўна!

Вельмі прыемна, што ў Вас знайшліся час і жаданьне адразу адказаць на мой ліст, хаця такая апэратыўнасьць, як Вы шчыра зазначылі, ня ў Вашым звычаі. Што да мяне, то гэтай акуратнасьці перашкаджаюць старэчыя хваробы, якія, дзякуй Богу, яшчэ сумяшчаю з творчай працай і папярэднім уседлівым азнаямленьнем з рознымі матар'яламі.

Аказваецца, мы маем агульную «Alma mater» – Вяліскі пэдтэхнікум. Істотная розьніца, праўда, што я закончыў яго ў тым годзе, калі Вам было толькі 2 гады ад роду. Мой выпуск (другі) лічыў толькі 14 курсантаў, менавіта: Антаневіч, Багданава, Шчарбакоў, Высоцкі, Загароўскі, Токарава, Мамкіна, Кузьняцоў, Якаўлева, Мухіна, Сеўрукоў, Пухаўцаў, Мамантаў, Кірэенак. Здаецца, пералічыў усіх.

Магчыма, зь некаторымі Вы сустракаліся пазьней. У сваёй большасьці – гэта былі тады былыя вяліскія гімназісты й гімназісткі, што danашвалі яшчэ свае форменныя шапкі, шынялі й пэлярынкі. Данашвалі не зь вялікай прыхільнасьці да іх, а таму, што ў той час (НЭП), калі й зьявілася пасьля ваеннага камунізму амаль усё ў продажы, рэчы былі вельмі дарагія.

Між іншым, яшчэ пры мне пэдтэхнікум перамясьціўся з будынку на набярэжнай (да рэвалюцыі ў ім было пачатковае гарадзкое вучылішча, перад вайной –

электрастанцыя) у будынак былой мужчынскай гімназіі на Базарнай плошчы.

Хочацца яшчэ ўспомніць пра тое, што ў маю бытнасьць у пэдтэхнікуме панаваў модны тады, «звышрэвалюцыйны» комплексны мэтад, які мы ад усёй душы ненавідзелі за ягоную сумбурнасьць і цішком прысьвячалі яму розныя пародыі.

На жаль, не магу паслаць Вам свой нарыс «Народ сьмяяўся» і аповесьць «Лшона Габоа Бійрушалайм», бо й сам іх ня маю. Знаю толькі, што першы можна выпісаць з архіву «НРСлова», а другая маецца ў Славянскім аддзеле Ньюёркскай Публічнай Бібліятэкі на 42-ой вуліцы.

І дазвольце цяпер перайсьці да самага істотнага. Вы, зыходзячы з самых лепшых намераў, прапануеце мне перапісвацца з Вашым добрым знаёмым, што жыве ў Вяліжы. Калі-б я, згубіўшы розум і гонар, паслаў яму ліст, то яго арыштавалі-б тут-жа, у той-жа дзень, калі ён гэты ліст атрымаў. Я завочна прысуджаны там да вышэйшай меры пакараньня. І да сёньня маё імя там, як за мінулае, так і за сучаснае, скланяецца й спрагаецца ў розных выданьнях – ад маскоўскіх да вяліскіх.

Запэўніваю Вас, што на маіх руках няма ні кроплі крыві габрайскага народу, да якога ставіўся й стаўлюся з выключнай сымпатыяй і, як стары жаўнер, хацеў-бы разам з гераічнымі салдатамі Ізраілю быць на Суэцкім канале.

Прашу Вас і Вашага мужа прыняць найлепшыя пажаданьні.

Пішыце, калі ласка, калі мая шчырасьць гэтаму не перашкодзіць.

З павагай

Юры Стукаліч

1 траўня 1971 году
Саўт Рывэр

Высокашаноўная Фрыда Барысаўна!

Удзячны за Ваш зьмястоўны ліст і каштоўны падарунак. На жаль, не магу належным чынам Вам аддзякаваць і абмяжоўваюся толькі старонкай з газэты «Беларус», прысьвечанай мне, грэшнаму. Спадзяюся, што беларуская мова Вам больш-менш зразумелая, бо блізкая да расейскай, праўда, не ў такой ступені, як, напрыклад, швэдская да нарвескай.

Вельмі прашу Вас адкінуць усякую боязь, быццам-бы ліставаньне з Вамі адрывае мяне ад працы. Праўда, апошняя патрабуе шмат часу, таму й не дазваляе быць акуратным (што не ў маім характары) у ліставаньні. Але, разам з тым, лісты ад чытачоў, а тым больш ад зямлячкі, маральна падтрымліваюць, яны дзейнічаюць, як дождж на пасевы. А асабліва, паўтаруся, прыемна ліставацца зь зямлячкай. Хоць я, лічыце, і ўцёк у сваім раньнім юнацтве зь Вяліжу, але ён сам тут ні пры чым, і радзіма назаўсёды застанецца непаўторнай радзімай.

Вітаю Вашую любоў да кніг, сярод якіх і сам вырас, дый цяпер жыву. У вяліскай бібліятэцы маіх бацькоў, у вялікім і ўтульным доме ў Касьцельна-Усьпенскім завулку (Камсамольская вуліца?) іх было каля 8 тысяч, яны згарэлі падчас вайны. Згарэла і мая асабістая бібліятэка ў Віцебску, дзе было кніг каля 3 тысяч. Але чалавек заўсёды абрастае, а ў першую чаргу, для яго любімым. Вось і тут маю кніг ужо больш за 2 тысячы, сярод іх ёсьць і названыя Вамі.

Поўнасьцю разумею Вас як маці, асабліва калі ўлічыць, што дзеці ў Амэрыцы – гэта ня дзеці ранейшага Вяліжу. Мы (маю на ўвазе сваё пакаленьне) былі ў невымоўным захапленьні ад вартых жалю нямых фільмаў,

што йшлі ў кінатэатры «Грёзы» на Ільінскай вуліцы (Праспэкт Камінтэрну?). А ў іх распараджэньні – усе каналы каляровага і агучанага тэлебачаньня, радыёпрымачы, якія дазваляюць чуць увесь сьвет, удасканаленыя прайгравальнікі й г.д. Праўда, у дзяцінстве ў мяне былі амаль усе дзіцячыя часапісы («Светлячок», «Жаворонок», «Путеводный огонёк», «Золотое детство»), што выдаваліся ў старой Расеі, грамафон зь вялікай старамоднай трубой, куплены ва ўнівэрсальнай краме Барэнбаўма ў Новых Радах на гандлёвай плошчы, а разам з усім гэтым быў бясспрэчны аўтарытэт бацькоў і настаўнікаў. І ад усёй душы жадаю Вашым дзецям увабраць усе лепшыя традыцыі зямлі Вашынгтона й Лінкольна.

Аднак неабходна й кропку ставіць.

Шчыра жадаю Вам і Вашай сям'і ўсяго добрага ад мяне й маіх.

З глыбокай пашанай. Ваш зямляк

Юры Стукаліч

P.S. Мне часам сьніцца родны мой сад, што спускаецца тэрасамі да ручая Канеўца каля каменнага маста. І заўсёды хвалюе мяне вядомы верш:

Вечерний звон, вечерний звон!
Как много дум наводит он
О юных днях в краю родном,
Где я любил, где отчий дом,
И как я, с ним навек простясь,
Там слушал звон в последний раз!

Толькі пакідаючы назаўсёды Вяліж, я чуў не вячэрні звон (усе ягоныя званы былі разьбітыя яшчэ ў 30-я гады), а гул «кацюш» у раёне Кадолава, Жгутоў, Смаленскага бальшака й разрывы снарадаў у самім горадзе.

Яшчэ раз усяго добрага.

Юры Стукаліч

6 ліпеня 1971 году
Саўт Рывэр

Вельмішаноўная Фрыда Барысаўна!

Ня цешу сябе вядомай прыказкай «Лепш позна, чым ніколі», маючы на ўвазе сваё значнае спазьненьне з адказам на Ваш ветлівы ліст ад 24.5.71 г., за які вельмі ўдзячны. Праца над скрыптамі для радыё забірае шмат часу, але, здаецца, я ад іх цяпер пазбаўлюся, а значыць, буду мець больш свабоднага часу. Спадзяюся зноў больш-менш сыстэматычна друкавацца ў «НРСлове». Гэтая цікавая газэта зьяўляецца цяпер большай трыбунай, чым радыё, якое там глушыцца і амаль не даходзіць да слухачоў.

Спадзяюся, Вам прыслалі з «НРСлова» мой нарыс «Народ сьмяяўся», і мяне цікавіць Вашая думка пра яго. Калі думаеш сёньня пра пражытае тады ў Вяліжы, то робіцца, па праўдзе кажучы, даволі жахліва, а ў тыя дні адчувалася нейкая абыякавасьць, атупеласьць, уласьцівыя наагул асуджаным. Хацелася-б убачыць, як выглядае родны горад цяпер, зрэдку бываю там... у сьне. Калі Вы маеце краявіды цяперашняга Вяліжу, то буду вельмі ўдзячны, калі Вы іх мне на кароткі час прышляце.

А пакуль што ў нецярпеньні чакаю да сябе ў госьці з Канады земляка, які выехаў у 1964 годзе з Суражу, ураджэнцам якога ён і зьяўляецца. Пазнаёміўся я зь ім праз «НРСлова», зь ягонага ліста многа чаго цікавага даведаўся, але ўсё-ж яны (лісты) не даюць столькі, колькі жывая гутарка, як Вы зусім правільна зазначылі ў сваім лісьце.

Вы пытаецеся, у чым менавіта саветчыкі мяне абвінавачваюць. Шмат у чым, а гэтае многае можна падагульніць – у нянавісьці да іх, у барацьбе зь імі ўсімі даступнымі для мяне сродкамі. А ў мяне асабіста ёсьць за што іх ненавідзець да апошняга свайго ўздыху. Да таго-ж я

літаратар, і маім сьвятым абавязкам зьяўляецца зрываць зь іх маскі, зусім неўласьцівыя іх нутру.

Яшчэ раз прашу прабачэньня за спазьненьне з адказам, цяпер спадзяюся быць больш акуратным.

Прашу Вас і Вашую сям'ю прыняць найлепшыя пажаданьні ад мяне й маёй сям'і.

Пішыце, калі ласка.

Шчыра зычу ўсяго найлепшага.

Юры Стукаліч

10 чэрвеня 1969 году
Саўт Рывэр

Шаноўны Юры Сяргеевіч!

Вельмі ўдзячны за Ваш ласкавы ліст ад 30.5.69 г. і яшчэ дзякую за такую прыемную для мяне думку пра мой артыкул «Усіх нас не расстраляеце». Маючы на ўвазе, што гэта ня столькі артыкул, колькі нарыс, працаваў над ім, пераадольваючы пэўныя цяжкасьці, хацелася, каб эмацыянальнасьць нідзе не сказіла фактаў. І гэтага я, здаецца, дасягнуў.

На чарзе ў мяне артыкул для «НРСлова» «Як Парэчча сталася Дзямідавым», прысьвечаны геraічнай барацьбе братоў Жыгалавых. А для беларускага друку рыхтую артыкул пра Нясьвіскае паўстаньне ў красавіку 1919 году. Маю, акрамя ўспамінаў удзельнікаў і сьведкаў, запісаных мною, яшчэ й савецкія матар'ялы. Апошнія патрабуюць асьцярожнага падыходу да іх, але й першыя часам любяць прыхарашыць факты. Маючы пэўны жыцьцёвы вопыт, у асабліва складаных выпадках разьлічваю на нейкае чуцьцё й павінен зазначыць, што яно мяне амаль не падводзіла.

Калі тых або іншых матар'ялаў і няма ў маёй адносна вялікай бібліятэцы, то знаёмыя й нават асабіста не знаёмыя беларусы зь Нью-Ёрку, Вашынгтону, Чыкага, Лёндану, Парыжу, Таронта й г.д. прысылаюць бясплатна фотакопіі. Часам нават бяз просьбы з майго боку, а ў спадзяваньні, што яны, гэтыя матар'ялы, мяне зацікавяць. Прычым, ня толькі тое, што мае адносіны да антыбальшавіцкай барацьбы (гэта прысылаецца мне ў першую чаргу), але й да розных іншых праблемаў, закранутых у маёй творчасьці.

Вітаю Ваш добры намер напісаць кніжку пра антыбальшавіцкую барацьбу й не сумняваюся, што яна будзе вельмі каштоўная для шырокага кола чытачоў. Ужо 20 гадоў я выразаю з газэтаў і некаторых часапісаў найбольш цікавыя для мяне публікацыі, а потым раскладаю іх па асобных папках, лік якіх большы за тысячу. І ў папках «Чырвоная/Савецкая армія» й «Грамадзянская вайна» маю амаль усе вашы выдатныя артыкулы, пачынаючы з 1961 году, як, напрыклад, «Мировой пожар», «Зубы дракона», «Впечатления и факты», «Вольное поражение» й г.д., і заканчваючы Вашым апошнім зьместоўным лістом «*Разгром* или разгром» у «НРСлове» ад 7.6.69. Маю таксама й пярэчаньні Вашых апанэнтаў, такіх, як Паўловіч (нешта не чутно пра яго), Далгоў, Бальшухін, Паўлікоўскі. Між іншым, з апошнім у мяне даўняе і ўстойлівае ліставаньне: ён родам зь Менску. Усё гэта, разам узятае, дае мне права яшчэ раз зазначыць, што ваша кніжка будзе вельмі патрэбная, і ад душы жадаю Вам усялякіх посьпехаў.

Вельмі буду рады праз Вашае ласкавае пасрэдніцтва пазнаёміцца са сп. Драчалуцкім. Спадзяюся, што і ён будзе рады гэтаму, тым больш, што на эміграцыі амаль няма суражан і веліжан, як і наагул віцяблян. На фотакартцы, пра якую Вам пісаў, на носе прасторнай лодкі сядзіць сярод дзесяці пасажыраў да неверагоднасьці малады кадэт,

магчыма, гэта і ёсьць сп. Драчалуцкі ў дзевяцідзесяцігадовым узросьце. Дасталася мне гэтая картка, як «ваенны трафей»: усе экспанаты й фонды Віцебскага гістарычнага музэю немцы выкінулі праз вокны на вуліцу. Разам зь іншымі жыхарамі я сёе-тое з выкінутага падабраў, яно было стаптанае нямецкімі ботамі й шыпамі і ўжо часткова зьнішчылася даждэом. Між гэтым падабраным ёсьць цяпер у мяне акварэль І. Я. Рэпіна «Тры пальмы» на вядомы лермантаўскі матыў (Рэпін меў маёнтак Здраўнева пад Віцебскам, я пісаў пра гэта некалі ў «НРСлове»), пагоны генэрала Духоніна, пячатка Беларускай Народнай Рады 1918 году, калекцыя асыгнацыяў Белых урадаў часоў грамадзянскай вайны й г.д., а таксама і ўспомненая фотакартка. Мяркую, што яна была ў музэйным фондзе «Заходняя Дзьвіна». На яе адваротным баку алоўкам напісана: «Упадзеньне Ўсьвячы ў Дзьвіну».

Жадаю Вам усяго найлепшага.

Пішыце, калі ласка, калі будуць час і жаданьне.

У глыбокай пашане

Ваш Юры Стукаліч

P.S. Пасьля публікацыі «Ўсіх нас не расстраляеце» знайшоў (падводзіць у старасьці памяць) у сваім вялікім архіве матар'ялы, дзе маецца рапарт невядомага афіцэра палкоўніку Канстанціну Езавітаву – прадстаўніку Рады БНР у Латвіі і Эстоніі. Рапарт датычыцца партызанскага руху ў Віцебскай і Смаленскай губэрнях. У ім згадваюцца браты Жыгалавы, Грамабой, Воранаў і шэраг іншых партызанаў, такіх, як славуты «Барон Кіш» (Бельскі уезд), «Князь Сярэбраны» – Волкаў (Духаўшчынскі ўезд) і іншыя. Спадзяюся прыгадаць іх у артыкуле «Чаму Парэчча сталася Дзямідавым».

Яшчэ раз усяго добрага.

24 жніве́ня 1952 году
Гранд Рапід, штат Мічыган

Высокашаноўны суайчыньнік Юры...
(на жаль, ня ведаю Вашага імя па бацьку)!

Зь вялікай цікавасьцю прачытаў Ваш артыкул у «НРСлове» ад 18.08.52. Шмат сумных і адначасна дарагіх успамінаў прабудзіў ён у мяне.

Справа ў тым, што я нарадзіўся ў 1898 г. у Полацку на Ніжне-Пакроўскай вуліцы, г. зн. амаль каля падножжа Сафійскага сабору. Вучыўся я ў Віцебску ў Духоўнай сэмінарыі, побач з Усьпенскім саборам, дзе сэмінарысты бывалі пастаянна, а я нават сьпяваў у хоры. Нарэшце ў эміграцыі (з 1920 г.) я жыў у Вільні й сотні разоў праходзіў, зьняўшы шапку перад Вострабрамскай Божай Маці, Старыя Вароты.

Балюча й цяжка, чытаючы артыкул, дазнавацца пра варварствы сталінскіх нелюдзяў – ворагаў нашых і ўсяго чалавецтва. Няўжо нам так і наканавана памерці на чужыне, ня ўбачыўшы нашай радзімы свабоднай і адпомшчанай за ўсе злачынствы?

Я паходжу са старой беларускай сям'і. Бацька мой усё жыцьцё служыў у Віцебскай губэрні ў ведамстве Міністэрства Фінансаў і быў бухгалтарам і казначэем у Полацку й Дрысе. Між іншым, у ягоным ведамстве па фінансах у Віцебску ў Казённай Палаце служыў таксама нехта Стукаліч, можа, Ваш родзіч? А ў Аляксееўскай гімназіі вучылася разам з маімі сёстрамі гімназістка, таксама Стукаліч, я знаў яе – румяная бляндзінка з доўгай касой. Яшчэ юнаком я цікавіўся беларускай мінуўшчынай і, між іншым, дзейнасьцю віцебскага гісторыка і археалёга Сапунова. Шмат цікавага й карыснага давала наша сэмінарская фундамэнтальная бібліятэка (таксама зьнішчаная «дабрадзеямі роду чалавечага»).

Я ня буду злоўжываць успамінамі, іх многа, і не хачу Вас стамляць. Хачу толькі запытацца ў Вас, зь якой крыніцы Вы атрымалі зьвесткі пра разбурэньне Вострай Брамы ў Вільні? Справа ў тым, што пра гэтае варварства я чуў яшчэ ў Нямеччыне некалькі гадоў таму назад. Каб праверыць гэтыя чуткі, я напісаў у Лёндан праваслаўнаму (польскай юрысдыкцыі) архіяпіскапу Саве (цяпер ужо нябожчыку) і атрымаў адказ, што чуткі быццам-бы не пацьвердзіліся – Вострая Брама цэлая. Зрэшты, нельга быць упэўненымі ў паўнацэннасьці зьвестак, якія меў Сава, бо ён сам жыў толькі чуткамі.

Ці ня можаце Вы паведаміць, дзе магчыма купіць або атрымаць кнігі па гісторыі, этнаграфіі, археалёгіі й г.д. Беларусі, Паўночна-Заходняга Краю, Старой Літвы на беларускай або рускай мове. Такая літаратура дае мне шмат задавальненьня, ва ўсякім разе, больш, чым палітыка нашай беларускай эміграцыі, якая разьдзіраецца нутранымі грамадзкімі й царкоўнымі спрэчкамі й да гэтай пары не стварыла агульнага й прадстаўнічага руху.

Чакаю адказу.

Моцна паціскаю Вашу руку й застаюся з пашанай

Ніл Валянцінавіч Мілоўскі

15 верасьня 1952 году
Саўт Рывэр

Высокапаважаны Ніл Валянцінавіч!

Вельмі ўдзячны за Ваш ласкавы ліст, і велікадушна прабачце, што зь некаторым спазьненьнем адказваю на яго. Ён тым больш прыемны, што дасланы суайчыньнікам, які добра знаёмы з падзеямі, фактамі і асобамі, зь якімі я, у сваю чаргу, хацеў-бы пазнаёміць чытачоў «НРС».

Мне добра знаёмая Ніжне-Пакроўская вуліца, дзе Вы нарадзіліся. Яшчэ ў 6-7-гадовым узросьце я разам з бацькам гасьцяваў тут у свайго дзядзькі, судовага сьледчага Івана Іванавіча Папова. Успамінаецца дом з высокімі прыступкамі, зашклёнай вэрандай і невялікім садам, які стаяў наводдаль ад вуліцы й быў абмежаваны з аднаго боку абрывам, а з другога – сьцяной Кадэцкага корпусу. Мой бацька жартам называў гэты сад «адным зь вісячых садоў Семіраміды». А на Верхне-Пакроўскай вуліцы ў 1877 г. нарадзілася мая маці, якая жыве тут са мною ў добрым здароўі.

Знаёмая мне й Дрыса, дзе служыў Ваш бацька. Успамінаюцца дзьве царквы, касьцёл і маляўнічыя могілкі на ўскраіне. Мясцовы помнік 1812 г. быў спачатку павалены бальшавікамі, але праз колькі гадоў ізноў пастаўлены – на новым месцы. На плошчы бальшавікі таксама паставілі няўклюдны драўляны помнік на магіле 13 чырвонаармейцаў, якія патанулі ў 1939 г. ў Дзьвіне ў першы дзень нападу СССР на Польшчу.

Віцебскую Духоўную сэмінарыю, дзе Вы вучыліся, за год перад Вашым нараджэньнем закончыў мой бацька. У ёй настаўнічалі ў розныя гады мае сваякі. Пры бальшавіках да вайны ў будынку сэмінарыі разьмяшчаўся політэхнікум. Усьпенскі сабор яны спачатку выкарыстоўвалі як склад «Заготзерно», а потым узарвалі адначасна з Уваскрэсенскай Рынкавай царквой.

Успомнены Вамі Стукаліч не зьяўляецца маім родзічам, але добра знаёмы мне як аўтар цэлага шэрагу краязнаўчых прац. Яго расстралялі бальшавікі ў лютым 1919 году. Гімназістка Аляксееўскай гімназіі («румяная бландзінка з доўгай касой») – ягоная малодшая дачка, сяброўка маёй жонкі, якая вучылася ў Марыінскай гімназіі.

Цікавае супадзеньне. У той дзень, калі я атрымаў Ваш ліст, дзе Вы ўспамінаеце пра Аляксея Парфёнавіча Сапунова, я закончыў і паслаў у адзін беларускі навуковы часапіс вялікі нарыс «У пошуках Альгердавага Шляху»,

прысьвечаны ягонай памяці ў сувязі са стагодзьдзем зь дня яго нарадзін. Ён нарадзіўся ў 1852 г. у мястэчку Ўсьвяты, а памёр 2 кастрычніка 1924 г. у Віцебску. Яшчэ ў 1922 г. А. П. Сапуноў страціў зрок і памёр амаль што галоднай сьмерцю, затраўлены савецкім прапагандовым друкам. Толькі сьмерць пазбавіла яго ад непазьбежнай высылкі. Ягоная магіла на Трайчанкоўскіх могілках з часам згубілася, і толькі ў 1939 г. яе адшукалі і аднавілі супрацоўнікі навуковай экспэдыцыі, сярод якіх былі і ягоныя вучні.

Зьвесткі пра зьнішчэньне Вострай Брамы ў Вільні я атрымаў яшчэ чатыры гады таму назад з польскай газэты «Kronika». Яна тады паведамляла, што Вострую Браму бальшавікі зьнішчылі таму, што яна нібыта перашкаджала вулічнаму руху. Ня ведаю, ці зьнішчэньне Вострай Брамы адпавядае праўдзе, але застаецца фактам тое, што, па-першае, бальшавікі, спасылаючыся на перашкоды для вулічнага руху, сапраўды зьнішчалі помнікі рэлігіі, гісторыі, мастацтва (Іверская капліца, сьцены Кітай-гораду, Трыумфальныя Вароты й г.д. у Маскве), а па-другое, «Kronika» здаецца сур'ёзнай газэтай.

Вас цікавіць, дзе можна набыць кнігі, прысьвечаныя гісторыі, этнаграфіі, археалёгіі й г.д. Беларусі. На гэтае пытаньне адказаць не магу. Здаецца, нідзе. Хаця час ад часу артыкулы й нарысы па гэтых пытаньнях сустракаюцца амаль ва ўсіх беларускіх пэрыядычных выданьнях. Учора паслаў Вам некаторыя з гэтых выданьняў, я іх атрымліваю бясплатна й часам па некалькі экзэмпляраў.

Ліст мой атрымаўся задоўгі.
Прашу пісаць, калі будуць час і жаданьне.
Прашу прыняць прывітаньне ад маёй сям'і.
Шчыра жадаю Вам усяго найлепшага.

Юры Стукаліч

22 верасьня 1952 году

Дарагі суайчыньнік Юры Аляксандравіч!

Вельмі ўзрадаваў мяне Ваш ліст. Цяпер я разумею, чаму Вы так доўга не адказвалі – навуковая праца забірае ўвесь час. У сувязі з Вашым адказам у мяне ўзьніклі новыя пытаньні і ўспаміны, якімі я хацеў-бы з Вамі й Вашай сям'ёй падзяліцца.

З Полацкам, дзе жыла мая сям'я на Ніжне-Пакроўскай вуліцы ў доме адстаўнога і, можа, вядомага Вашай маме генэрала Аргамакава, а таксама з Дрысай у мяне зьвязаны ўспаміны дзяцінства і юнацтва. Полацак, безумоўна, больш цікавы, бо ён быў (дарэчы, і ёсьць) старым гістарычным горадам, дзе сьляды даўніны сустракаюцца на кожным кроку. Таму і ўражаньняў у мяне пра яго значна больш.

Яшчэ ў маленстве, капаючыся ў пяскох Замкавай гары, каля падножжа Сафійскага сабору, мы з аднагодкамі знаходзілі чарапы й косьці, а таксама рэшткі зьедзенай часам зброі воінаў, палеглых у розных гістарычных бойках. Думаю, што ўсё, знойдзенае намі, можна аднесьці да эпохі Стэфана Баторыя, які штурмам браў Замкавую гару, выцясьняючы войска расейскага ваяводы Шарамецева. Здаецца, сярод нашых знаходак не было рэчаў, зьвязаных з 1812 годам, бо ў той час баі ішлі не на Замкавай гары, а ў навакольлі Полацку. І сапраўды, калі мы знаходзілі якія-небудзь прадметы за межамі гораду, напрыклад, у лясох і пяскох угодзьдзяў Еўфрасінеўскага манастыра (там амаль кожны год мы жылі на лецішчы), то ўсё гэта значна адрозьнівалася ад знаходак на Замкавай гары: і косьці, і чарапы былі сьвяжэйшыя – больш позьнія. Знаходзіліся й манэты, я сабраў іх ладную калекцыю. Вось тады й прачнулася ў маёй сьвядомасьці цікавасьць да гісторыі й старажытнасьці.

Але галоўныя ўспаміны, без сумненьня, пра Віцебск, дзе пачалося ўжо больш сьвядомае жыцьцё пасталелага фізычна й духова юнака. Калі я вучыўся ў Духоўнай сэмінарыі, то жыў на прыватнай кватэры ў Вераб'ёвым завулку (канец Варапаеўскай вуліцы), у свайго дзядзькі Мікалая Мілоўскага, які служыў у губэрнскай Земскай Управе, а потым у другога дзядзькі – Вечаслава Селязьнёва (матчынага брата), чыноўніка Кантрольнай Палаты, які наймаў кватэру ў доме Карзенкі за Віцьбай. Дочкі Карзенкі вучыліся ў Марыінскай гімназіі.

Але маё маладое сэрца больш цягнулася тады да гімназіі Аляксееўскай, можа, таму, што там вучыліся сёстры й было больш знаёмых. Прыгадваецца й хваляваньне пры сустрэчах з такімі гімназісткамі, як, напрыклад, сёстры Старыковічы або сёстры Ірочнікавы, зь якімі хоць і ня быў знаёмы, але часам сустракаўся на Замкавай вуліцы.

Думаю, што Вашай жонцы прыемна будзе ўспомніць некаторых настаўнікаў Духоўнай сэмінарыі, якія адначасна вучылі і ў Марыінскай гімназіі. Гэта Іван Пятровіч Вінаградаў (памёр у 1911г.), Іван Фёдаравіч Іваніцкі (памёр у 1917 або 1918 г.), Мікалай Веніямінавіч Полазаў (ягоны лёс мне невядомы), Аляксей Аляксеевіч Краснеўскі (лёс невядомы), Канстанцін Мікалаевіч Махаеў (лёс невядомы). Шмат гадоў знаў і быў на пахаваньні ў 1917 г. дырэктара Марыінскай гімназіі Міхаіла Іванавіча Лебедзева. (Мая маці ў свой час таксама вучылася ў гэтай гімназіі).

Віцебск я пакінуў у 1918 г. пасьля забойства доктара генэрала Грыгаровіча й судзьдзі Бялыніцкага-Бірулі, а таксама зьверскага забойства на вуліцы Дрысы гарадзкога галавы – выключна шляхетнага, высакароднага Пятра Сямёнавіча Шахурына. У той час мяне ахапілі такая агіда й роспач, што я вырашыў назаўсёды парваць з «дабрадзеямі роду чалавечага». У 1918 г. я пайшоў дабравольцам у армію генэрала Юдзеніча, і тады-ж пачалася мая эміграцыя, што цягнецца й да сёньняшняга дня.

Амаль увесь час эміграцыі [redacted] жыў у Гародні й Вільні і працаваў у кнігавыдавецтвах, між іншым, трымаў у Вільні кніжную кантору польскіх пэдагагічных выданьняў і вучэбных дапаможнікаў, такіх, як глёбусы і атласы. Кніжны гандаль мне ўдалося часткова ўзнавіць і ў Нямеччыне – у апошнія пяць гадоў майго жыцьця ў Мюнхэне. Там [redacted] меў рассыльную кнігарню пад назвай «Кніга – Поштай». На жаль, тут, у Амэрыцы, я вымушаны здабываць сабе кавалак хлеба на мэблевай фабрыцы паліроўшчыкам – працай цяжкай і бяздушнай.

Я дзякую Вам за пасланыя Вамі літаратурныя й гістарычныя матар'ялы, хаця, мусіць, па віне пошты я іх яшчэ не атрымаў. Беларускімі праблемамі я заўсёды цікавіўся. Дарэчы, з прычыны нязгоды й міжусобнай барацьбы шматлікіх беларускіх груповак я не бяру ніякага ўдзелу ў іхным жыцьці, лічу, што такія зьявы толькі шкодзяць нацыянальнай беларускай справе, ствараюць у іншаземцаў уражаньне, што «невядома з кім гаварыць», і сьведчаць пра нашую слабую арганізаванасьць. Я-б горача вітаў аб'яднаньне ўсіх беларускіх груповак у адзін цэнтар, сцэмэнтаваны Праваслаўнай Кананічнай Царквой. На царкоўным грунце можна было-б многае зрабіць, бо толькі Царква можа стаяць па-над усімі групоўкамі. У гэтым выпадку і я мог-бы аказваць пасільную дапамогу як асоба, блізкая і па выхаваньню, і па адукацыі да духоўнага сьвету.

Пад канец свайго ліста хачу яшчэ расказаць сёе-тое пра сябе. Мне зусім няведамы лёс маіх бацькоў і сёстраў. Як пайшоў я на эміграцыю, так і ня ведаю, што зь імі. Знаю толькі, што бацькі жылі ў Савецкім Саюзе недзе ў Вобалі, пад Полацкам, а сёстры павыходзілі замуж за настаўнікаў. На ўсякі выпадак, называю іх прозьвішчы па мужу: Вера Валянцінаўна Петухова й Натальля Валянцінаўна Лапацінская.

Спробы зьвязацца зь імі падчас Другой сусьветнай вайны аказаліся безвыніковымі, а нямецкі Чырвоны Крыж пасьля росшукаў даў адказ: «У названых месцах невядомыя». Я спрабаваў сам паехаць у Віцебскую губэрню, але немцы не далі пропуску. На ўсякі выпадак, напісаў Вам пра гэта.

Вельмі буду рады і ўдзячны, калі атрымаю ад Вас адказ і на гэты ліст. Калі Вы ня маеце часу, то, можа, Вашая жонка напіша колькі слоў.

Прывітаньні Вам і Вашай сям'і, цісну Вашу руку й застаюся з пашанай

Ніл Мілоўскі

1 кастрычніка 1952 году
Саўт Рывэр

Высокашаноўны Ніл Валянцінавіч!

Удзячны за Ваш ласкавы ліст ад 22 верасьня. Крыўдна, што Вы не атрымалі маіх двух пакункаў зь беларускімі пэрыядычнымі выданьнямі, дзе часткова асьвятляюцца тыя праблемы, якія Вас цікавяць. Ва ўсякім разе, калі Вы й да сёньня не атрымалі іх, пайду «скандаліць» на мясцовую пошту.

На жаль, у бытнасьць маю *там* мне нічога не было ведама пра лёс Вашых бацькоў і сёстраў. Усё-ж на працягу двух-трох бліжэйшых тыдняў я спадзяюся сустрэцца з трыма беларусамі, што жылі ў раёне Вобалі і, магчыма, ад іх што-небудзь пачую. Затое ў самім Віцебску ўжо ў ваенны час я пазнаёміўся зь Мілоўскім, якога, здаецца, звалі Аляксандрам. Калі не памыляюся, то гэта Ваш стрыечны брат. Ён незадоўга перад вайной прадаў свае два дамы на Галубятніцкай вуліцы й перабраўся ў дом на Вераб'ёвай вуліцы. Калі пры наступе немцаў на Віцебск усе

гэтыя дамы згарэлі, то Аляксандар Мілоўскі зноў пабудаваў сабе дом на Вераб'ёвай вуліцы. Пры адыходзе немцаў ён быў прымушаны імі, разам з усімі жыхарамі Віцебску, эвакуявацца. Ага, ледзь не забыўся, падчас вайны Аляксандар Мілоўскі скончыў у Віцебску пастырскія курсы, але ня ведаю, ці быў ён пасьвечаны ў сьвятары, здаецца, не. Апошні раз мы бачыліся ў Менску, і ён гаварыў мне, што архіяпіскап Філафей накіроўвае яго ў Жыровіцкі манастыр для ўдасканаленьня ведаў царкоўнага ўставу.

Калі не памыляюся, то, здаецца, мы з Вамі асабіста знаёмыя й пазнаёміліся ў Мюнхэне, на кватэры сп. Родзевіча. Я, наяжджаючы зь беларускага ДП лягеру Міхельсдорф, каля Кама, у Мюнхэн, спыняўся або ў Родзевіча, або ў «Доме Міласэрнага Самарытаніна», дзе, магчыма, у нас былі агульныя знаёмыя. Помняцца мне і аб'явы Вашага прадпрыемства ў рускіх газэтах таго часу.

Шкада, але мае асабістыя ўспаміны ня могуць цалкам супасьці з Вашымі, бо я нарадзіўся ў 1905 г. і вучыўся ў Вяліскай Мужчынскай гімназіі, закончыць якую мне ня даў «Вялікі Кастрычнік». У далейшым я атрымаў закончаную адукацыю, але пераадолеўшы вялікія жыцьцёвыя цяжкасьці й вельмі далёка ад нашага гораду, бо я – сын сьвятара, г. зн., адпаведна савецкай тэрміналёгіі, – «сацыяльна варожы, а таму перасьледны». Затое жонка мая, якая ўвесь час жыла ў Віцебску на Галубятніцкай вуліцы, добра помніць усіх названых Вамі настаўнікаў і сваіх сяброўак – Ірочнікавых, Карзенкаў і інш. Сумна, але мне думаецца, што далейшы жыцьцёвы шлях усіх гэтых цікавых і жыцьцярадасных гімназістак быў усеяны шыпамі, бо яны належалі да тых слаёў грамадзтва, якія асабліва перасьледваліся бальшавікамі.

Спачуваю Вам у сувязі з Вашай цяжкай працай на фабрыцы. Спачуваю тым больш, што тое-ж маю і я. Толькі грузчыкам адпрацаваў я тут больш за год. Цяпер часова бяз працы, атрымліваю 26 даляраў на тыдзень, як

беспрацоўны, і выкарыстоўваю гэты час для літаратурнага й журналісцкага занятку. Жонка працуе на швэйнай фабрыцы. І ўсё-ж – дзякуй Богу за ўсё. Мне «ў мінуту жыцьця трудную» заўсёды ўспамінаюцца дзясяткі маіх дарагіх сяброў – беларускіх пісьменьнікаў, паўстанцаў і партызанаў. Многія зь іх замучаны бальшавікамі, іншыя й дагэтуль пакутуюць на Калыме. І вось таму ў вольны час я пішу, каб расказаць тым, хто ня ведае або ня верыць, пра невыказныя пакуты падсавецкіх народаў, а сярод іх і нашага – беларускага.

Вы маеце рацыю, калі пішаце пра міжусобную грызьню сярод беларускай эміграцыі, што падрывае ейныя і без таго нязначныя сілы і ейны аўтарытэт у вачах эміграцыі іншых народаў. Аднак аб'яднаньне гэтых варожых груповак вакол Праваслаўнай Кананічнай Царквы немагчыма. Беларускі народ, асабліва ягоная эміграцыя, падзяляецца на два веравызнаньні – праваслаўнае й каталіцкае. На жаль, і беларускія праваслаўныя архіпастыры на эміграцыі аказаліся не на вышыні. Гэты горкі вывад я зрабіў на аснове свайго блізкага, асабістага знаёмства зь імі, бо неаднойчы бываў у іх у Тырсгайме як рэфэрэнт веравызнаньняў пры беларускіх цэнтральных палітычных і грамадзкіх арганізацыях. Ва ўсякім разе, я цяпер адышоў ад усякай палітычнай дзейнасьці нашай эміграцыі й займаюся ў вольны час выключна літаратурай і журналістыкай.

Аднак я злоўжываю Вашым часам.

Прашу прыняць прывітаньні ад маёй сям'і.

Шчыра зычу Вам усяго добрага.

Юры Стукаліч

5 кастрычніка 1952 году

Высокашаноўны Юры Аляксандравіч!

Дзякую Вам за ліст ад 1 кастрычніка й сьпяшаюся сказаць, што атрымаў два вялікія пакункі беларускіх выданьняў, якія прыйшлі на другі ці на трэці дзень пасьля майго ліста. Шмат цікавага й карыснага знайшоў я ў гэтых матар'ялах. Калі ў Вас будуць яшчэ такія часапісы, асабліва з Вашымі артыкуламі, прысылайце іх адразу, буду вельмі ўдзячны.

Нечаканымі й цікавымі аказаліся для мяне Вашыя зьвесткі пра Аляксандра Мілоўскага. Гэта сапраўды мой стрыечны брат, які жыў яшчэ да рэвалюцыі на Галубятніцкай вуліцы. Ён на 10-12 гадоў старэйшы за мяне, і, калі ён яшчэ жывы, я не ўяўляю яго старым чалавекам з лысай галавой, хаця ён і тады меў ужо ладную лысіну. Безумоўна, ён павінен ведаць пра лёс маіх бацькоў і сёстраў, але невядома, ці трапіў ён на эміграцыю і ці будуць дзейснымі пошукі яго па газэтах. Ва ўсякім разе, улавіўшы ягоную сувязь з архіяпіскапам Філафеем, я адначасна пішу гэтаму апошняму ў Вісбадэн (Эўропа). Можа архіяпіскап Філафей ведае, ці трапіў брат зь Менску або Жыровіц на эміграцыю.

Зь сям'ёй Родзевічаў, якія выехалі ў Аўстралію, у Мюнхэне мы з жонкай падтрымлівалі блізкае знаёмства. Няма сумненьня, што калі Вы бывалі ў доме Ўсевалада, то пазнаёміўся з вамі і я. На жаль, сярод шматлікіх дзеячаў і гасьцей, бываўшых у Родзевічаў, мне цяжка Вас прыпомніць, і гэта вельмі шкода, бо многія пытаньні, закранутыя ў нашым ліставаньні, адпалі-б самі па сабе, калі-б яшчэ ў Мюнхэне я даведаўся, што Вы зь Віцебску.

Што да Вяліжу, то адтуль мне былі вядомыя толькі браты Зьміцер і Барыс Савіцкія – сэмінарысты, сыны

тамашняга сьвятара. Па неправераных чутках, Барыс быццам-бы трапіў на эміграцыю ў ангельскую зону.

Вельмі прыемна пачуць, што Вы былі рэфэрэнтам па веравызнаньнях, гэта робіць наша знаёмства яшчэ больш цікавым.

Праблемы беларускай царквы мне блізкія яшчэ й таму, што я па адукацыі ў пэўнай ступені асоба духоўная, жонка мая – шматгадовая рэфэрэнтка Гарадзенскай Духоўнай Кансысторыі. Яшчэ ў 1913 г. я прысутнічаў у Віцебску пры хіратаніі архімандрыта Панцеляймона, будучага мітрапаліта, цяпер ужо нябожчыка, галавы Беларускай Аўтакефальнай Царквы. А ў 1944 г. мы з жонкай былі эвакуяваныя разам зь епіскапатам у Нямеччыну ў Францэнсбад і жылі там пры архіярэях.

Пакідаючы ў баку асобу нябожчыка мітрапаліта Панцеляймона, які фактычна ня меў ніякага ўплыву на справы Царквы, я хачу сказаць, што сярод тых, хто застаўся ў жывых, знаходзіцца ў Нямеччыне законны намесьнік мітрапаліта Беларускай Аўтакефальнай Царквы архіяпіскап Філафей, а ў Аўстраліі – япіскап Афанасій. У мяне няма сумненьняў адносна іхнай поўнай і сур'ёзнай адданасьці беларускай Царкве й беларускаму народу; гэтыя архіярэі, акрамя 100-працэнтнага беларускага паходжаньня, маюць і вышэйшую духоўную адукацыю. Невыказна цяжкія ўмовы ваенных і паваенных гадоў вымушалі да розных юрыдычных фармулёвак нашай Аўтакефальнай Царквы, аднак не зьмянілі яе сутнасьці й цэльнасьці і асабліва кананічнасьці, г. зн. разуменьня боскай ласкі, якое выходзіць за рамкі людзкіх уплываў і выключае магчымасьць зьмен пры дапамозе чалавечай сілы. Таму я думаю, што слова за нашай Царквой, і таму ня варта губляць надзею на нашае аб'яднаньне пад яе нейтральнай надпартыйнай апекай. Гэта маё сьціплае меркаваньне.

Калі што-небудзь пачуеце пра маіх родных, пішыце. Часапісы прысылайце.

Прывітаньне Вам і Вашай сям'і ад мяне й маёй жонкі.

Цісну руку. У глыбокай пашане

Ваш Н. Мілоўскі

16 студзеня 1953 году

Высокашаноўны Юры Аляксандравіч!

Віншую Вас зь сям'ёй з Новым Годам і Калядамі. Маё некалькі запозьненае віншаваньне з прычыны пераезду й рамонту новай кватэры перадаю з самымі найлепшымі пажаданьнямі на 1953 год.

Атрымаў п і ад уладыкі Філафея навагодняе віншаваньне разам з адказам на маё пытаньне адносна Аляксандра Мілоўскага. На жаль, ён нічога ўспомніць ня можа, за выключэньнем прыезду ў Менск зь Віцебску двух дэлегатаў з Царкоўнага Аддзелу Гарадзкой Управы. Магчыма, адзін зь іх і быў А. Мілоўскі.

У мяне ніякіх навін няма. Жыцьцё ўсё такое-ж аднастайнае, як і папярэднія два гады побыту ў Амэрыцы. Трэба цяжка працаваць і... спадзявацца на перамены. Але я ўжо 35 гадоў на эміграцыі жыўлюся надзеямі, і гэта «жыўленьне» парадкам надаела.

Вельмі буду рады, калі прышляце, як і раней, літаратуру й газэты.

Прывітаньне Вам зь сям'ёй ад мяне й маёй жонкі.

З глыбокай павагай

Н. Мілоўскі

24 сакавіка 1957 году
Саўт Рывэр

Вельмішаноўны Ніл Валянцінавіч!

Колькі лет, колькі зім! Я ня ўпэўнены ў тым, што Вы атрымаеце гэты мой ліст (магчыма, у Вас новы адрас), і тым ня менш, пішу. Вельмі мала на эміграцыі, параўнальна зь іншымі гарадамі Беларусі, віцяблян, а таму ім неабходна між сабою час ад часу пераклікацца. Што можа быць больш прыемнае за ўзаемны абмен успамінамі пра старажытны, прыгожы й родны Віцебск!

Аднак, акрамя ўспамінаў, на мяне (напэўна, таму, што я – Юрка *Віцьбіч*) яшчэ ўскладзена лёсам місія памагаць землякам у пошуках зьвестак пра іхных родных і блізкіх. А для мяне прыемна й тое, што я стаў у гэтых адносінах для віцяблян на эміграцыі чымсьці накшталт цэнтру і, залежна ад сваіх магчымасьцяў, стараюся быць ім карысным. Зь цягам часу ў мяне ўсё больш пашыраецца кола знаёмых, што жылі некалі на Замкавай, Вакзальнай, Шасэйнай, на Пескавацiку, на Ялагах і г.д. Гэтае кола выходзіць за межы Віцебску, распасьціраецца на ўсю Віцебшчыну, і ня менш радасна завязваць кантакты з ураджэнцамі Полацку, Вяліжу, Гарадка, Суражу, Янавічаў, Ушачаў і г.д. У сувязі з гэтым мне цяпер, магчыма, удасца хоць нешта даведацца пра лёс Вашых бацькоў і сёстраў. Адзін з маіх новых знаёмых жыў дзесьці каля Вобалі, я прашу Вас толькі ўдакладніць месца жыхарства й род заняткаў Вашых бацькоў.

У сваю чаргу, спадзяюся, што праз мяне (або непасрэдна) Вы паможаце віцябляніну сп. Цяцерскаму, які шукае зьвестак пра свайго друга Ксенафонта Васільевіча Спаскага, пляменьніка Стукаліча, расстралянага бальшавікамі ў 1919 г. У адным са сваіх лістоў Вы ўспамінаеце менавіта пра гэтага Стукаліча, а таму,

магчыма, што-небудзь чулі й пра Спаскага. Прабачце, што не папярэдзіў Вас пра гэта й Ваш адрас падаў сп. Цяцерскаму. Магчыма, Вы ўжо атрымалі ліст ад яго, а калі не, то напішыце, калі ласка, пра Спаскага мне, калі наагул што-небудзь пра яго вам ведама.

Коратка пра сваё асабістае. Працую на фабрыцы, у вольны час я літаратар і журналіст. Сыстэматычна друкуюся ў розных выданьнях, нядаўна ў Мюнхэне выйшла мая кніжка, прысьвечаная Беларусі, пішу скрыпты для радыёстанцыі «Вызваленьне» й г.д. Акрамя ўсяго гэтага, радуюся, што магу дапамагчы віцяблянам у пошуках сваякоў і знаёмых. Ад нашай, у вузкім сэнсе гэтага паняцьця, эміграцыйнай палітыкі я, які некалі прымаў у ёй самы актыўны ўдзел, цяпер вельмі далёка адышоў. Справа ў тым, што гэта скрозь вузкалобая, парою проста местачковая, «палітыка» толькі перашкаджае мне, як журналісту, быць палітыкам у змаганьні за вызваленьне маёй Радзімы – Беларусі.

Спадзяюся ў блізкім часе атрымаць ад Вас ліст.

Прашу прыняць прывітаньне ад маёй сям'і.

Шчыра зычу Вам усяго найлепшага.

Ваш Юры Стукаліч

29 сакавіка 1957 году
Рочастар, Нью-Ёрк

Вельмішаноўны Юры Аляксандравіч!

Вы мелі рацыю – ліст Ваш мне даслалі з Гранд Рапіда, дзе я больш не жыву. Цяжкія ўмовы маёй пяцігадовай працы на фабрыцы выклікалі цэлы кош хваробаў, звальненьне з фабрыкі (фактычна неабходнае, але юрыдычна дабравольнае, што не дае права на дапамогу), згублены заробак і пераезд з Гранд Рапіду ў

Рочастар да сваякоў. Ужо некалькі месяцаў сяджу тут, падлечваюся й шукаю працу, пакуль што беспасьпяхова, бо ранейшая «ламавая» стала не пад сілу, пражываю свае невялікія зьберажэньні, якія ўдалося сабраць за папярэдні час. Сумна. Ці ня так?

Ліста ад сп. Цяцерскага я пакуль што не атрымаў. Але калі-б і атрымаў, то ня змог-бы яго парадаваць якімі-небудзь зьвесткамі пра К. В. Спаскага – такога чалавека я ня ведаю. Дзядзьку ягонага, сп. Стукаліча, ведаў, галоўным чынам, мой бацька па службе ў адным і тым-жа ведамстве Віцебскай Казённай Палаты. Бацьку майго ў Вобалі наўрад ці хто можа ведаць, пры бальшавіках ён быў ужо стары й жыў у адстаўцы ў сясьцёр. Адна зь іх, Вера Петухова, па апошніх зьвестках, падчас вайны пераехала ў мястэчка Сенна, там яе сьлед згубіўся. Муж яе і яна настаўнікі.

Вельмі рады я, што Вам удалося выдаць у Мюнхэне кніжку. Калі Вы яе атрымаеце, адзін экзэмпляр прышліце мне з рахункам. Буду ўдзячны.

Што да беларускай местачковай палітыкі, то я называю яе «кухоннай»: сваёй развальнай пазыцыяй (вось ужо каля 40 гадоў) яна ніякай барацьбы з бальшавікамі не вядзе, а, наадварот, аблягчае ім барацьбу з намі.

Карыстаюся выпадкам і шлю Вашай сям'і й Вам віншаваньні са сьвятам блізкага дня Нараджэньня Хрыстова.

З пашанай

Ваш Н. Мілоўскі

## Айцец Леў Гарошка[417]

### Праз навальніцы й нягоды. Успаміны з гадоў 1930-1944. Фрагмэнты[418]

Апынуўшыся на Захадзе, часта прыходзіцца сьцьвярджаць павучальны для нас, беларусаў, факт: ува ўсіх заходне-эўрапэйскіх краінах недзе зафіксаваныя ўсе падзеі з усіх галінаў іхнага жыцьця. Ня толькі падзеі агульнанацыянальнага значаньня, але нават дробныя местачковыя, а часам і вясковыя недзе запісаныя, захаваныя, каб не загінулі. Таму ня дзіва, што гэтыя народы й самі добра ведаюць сваё мінулае і іншыя аб іх шмат ведаюць.

У нас-жа найчасьцей зь незалежных ад нас прычынаў паважная частка нашага мінулага пайшла ў забыцьцё. На жаль, тое самае дзееца й сёньня і цяпер ужо з залежных ад нас прычынаў. За апошнія дзясяткі гадоў адышло на той сьвет нямала людзей, якія былі ў першых радох беларускага грамадзкага й рэлігійнага жыцьця і з сваёю сьмерцю забралі з сабою шмат важных зьвестак. У сучасны момант, калі беларускую гісторыю і ўвесь беларускі адраджэнскі рух нашыя суседзі стараюцца

---

[417]Леў Гарошка (1911-1977) – беларускі сьвятар, заснавальнік і шматгадовы рэдактар часапісу «Божым Шляхам», аўтар шматлікіх навуковых дасьледаваньняў, пісьменьнік (псэўданім А. Жменя).

[418]Свае ўспаміны айцец Леў Гарошка пісаў спачатку ў Парыжы, потым – у Лёндане. На жаль, успаміны не былі скончаныя. Частка іх выдрукаваная на машынцы, частка напісаная чорным атрамантам. Рукапіс перахоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

прадстаўляць тэндэнцыйна, а часта зусім фальшыва, жывое слова аб тых падзеях можа мець аграмаднае значаньне.

Мне давялося быць сьведкам, а часам і ўдзельнікам шматлікіх падзеяў, аб якіх захавалася мала пісаных дакумэнтаў, таму й сьвярбіць рука, каб апісаць тое, што яшчэ захавалася ў памяці з нашага грамадзкага й рэлігійнага жыцьця разам з асабістымі перажываньнямі.

Маё дзяцінства і юнацтва праходзіла ў часе Першае сусьветнае вайны. Давялося бачыць на абшары Беларусі царскую расейскую армію, нямецкую армію, сьледам за тым польскіх легіянэраў і бальшавікоў; давялося наслухацца сьвісту куляў і выцьця снарадаў, але на тыя падзеі я глядзеў дзіцячымі вачыма ды мала што бачыў далей свае роднае вёскі над Вушаю. Таму пачну мае ўспаміны з таго часу, калі я ўжо мог глядзець паважней на ўсе падзеі з асабістага й грамадзкага жыцьця.

Мне найлепш ведамы перадваенны пэрыяд вунійнае працы на Беларусі ад 1937 году. Ад гэтага часу я сам прымаў актыўны ўдзел у гэтай працы або быў навочным сьведкам. На ўсходняй часьці Беларусі, якая ад 1919 году належала да Савецкага Саюзу і ўтварала так званую БССР, ніякай працы ў гэтым кірунку не было, бо там агулам адносіны да рэлігіі былі такія, што ўжо да 1939 году былі пазачыняныя ўсе цэрквы й касьцёлы.

У Заходняй Беларусі, якая належала да Польшчы, сяк-так магчымыя ўмовы для разьвіцьця вуніі былі ў 1924-1928 гадох толькі на пачатковай стадыі дзякуючы прыхільнасьці такіх людзей, як біскуп Лазінскі. У далейшым вунійная праца мела столькі цяжкасьцей і перашкодаў, што, гаворачы аб вунійнай працы на Беларусі, аб нічым іншым, як аб цяжкасьцях, і гаварыць нельга. Усяго тыя вуніяцкія парафіі, якія паўсталі ў тым першым пэрыядзе, ператрывалі да вайны, новых амаль не паўстала.

Цяжкасьці вунійнае працы былі наступныя:

непрыхільнае становішча польскага рыма-каталіцкага духавенства;

варожая пастава польскага ўраду;

варожая прапаганда праваслаўнага духавенства.

Найтрагічнейшым для вуніі быў той факт, што праўна яна палягала тым людзям, якія яе ненавідзелі, – польскім біскупам і дэканам. Для разьвіцьця вуніі яны не рабілі нічога, але затое ўсякімі спосабамі стараліся спыніць яе разьвіцьцё.

Вось факты.

Калі я быў яшчэ студэнтам, жадаючы працаваць для вуніі на Беларусі, зьвярнууся да віленскага мітрапаліта Р. Ялбжыкоўскага, дзе было найменш вуніяцкіх парафій, на маё зьдзіўленьне я даведаўся, што там больш і не патрэбна. «Я маю досыць вуніяцкага духавенства», – сказаў сам мітрапаліт.

Просьбы праваслаўных сьвятароў і цэлых парафій прыняць вунію з розных меркаваньняў адкідаліся.

У Пінскай дыяцэзіі[419], калі там стаўся ардынарыем біскуп К. Букраба, зрабілася іншая практыка спыняць пашырэньне вуніі. Калі туды прыходзілі заявы з жаданьнем пераходу на вунію, дык у такую вёску высылаўся лацінскі ксёндз, каб намовіць людзей адразу прыняць рыма-каталіцтва. Звычайна на гэта не згаджаліся, і таму іхныя просьбы прыняць вунію адкідаліся як «няшчырыя». Такія факты ведамы мне у в. Жоўтынь і іншых на Палесьсі.

У Папскай сэмінарыі у Дубне нацыянальныя адносіны былі такія ненармальныя, што клерыкам забаранялася аб іх расказваць навонках. Уступ у сэмінарыю для беларусаў быў вельмі ўтруднены, бо толькі той мог быць прыняты, хто меў ад якогась ардынарыя пісьмовае пацьверджаньне, што будзе прыняты на працу.

---

[419]Епархія.

У Пінскай дыяцэзіі так стараліся разьмясьціць сьвятароў, каб беларус абслугоўваў украінцаў, а ўкраінец – беларусаў.

Асабліва кідалася ў вочы няроўнае матар'яльнае становішча вуніяцкага й лацінскага духавенства. Пінскі біскуп Букраба ў 1937 годзе толькі для асабістых прагулак купіў люксусовую лодку за 10 тысяч злотых, у 1938 годзе перабудаваў і так раскошны палац за 40 тысяч злотых, а ў вуніяцкіх цэрквах часта не было за што направіць дах, хоць гэта каштавала ўсяго 100 ці 200 злотых. Для вуніятаў гэткае становішча было тым больш крыўдным, што біскупы мелі гэткія сумы ад польскага ўраду за колішнія паўвуніяцкія маёмасьці.

Калі я пасьля двухразовае пісьмовае просьбы асабіста прыехаў да біскупа Букрабы ў справе дазволу на выклады рэлігіі ў школах, а таксама для высьненьня ненармальных адносінаў суседніх польскіх парафій і абароны ад паліцыі, якая прыдзіралася да кожнай дробязі й складала пратаколы, дык замест помачы атрымаў загад сядзець ціха. Калі я сказаў, што аб гэтым напішу ў Нунцыятуру ў Варшаву, дык мне біскуп загразіў царкоўнымі карамі. І толькі мая заўвага, што калісьці апосталы ў такім выпадку адказалі: «нам належыць больш слухаць Бога, а не людзей» – і не зьлякаліся прыняць кару, крыху апамятала біскупа.

Не без прычыны інструкцыю Апостальскага Пасаду 1937 году аб вунійнай працы ў дыяцэзальных часапісах надрукавалі толькі ў 1938 годзе, аднак у практыцы трымацца яе аніяк не хацелі.

Польскі ўрад праз сваё Міністэрства Асьветы й Рэлігійнага веравызнаньня да вуніі адносіўся ня толькі непрыхільна, але ўпрост варожа. Аб гэтым некаторыя высокапастаўленыя ўрадоўцы ў Міністэрстве гаварылі зусім яўна, указваючы на той факт, што вунія як каталіцкае веравызнаньне ня можа быць давольнаю прыладаю іхнае

рэлігійнае палітыкі бязь ведама Апостальскага Пасаду, да таго паважна баяліся, што вунія можа стацца беларускаю нацыянальнаю вераю. Польскі ўрад ахвотней хацеў мець дачыненьні з праваслаўнаю царквою, бо выкарыстоўваў яе слабасьць, зусім падпарадкаваў яе для сваіх палітычных мэтаў. Варшаўскі мітрапаліт Дыянісій, галава праваслаўнае царквы ў Польшчы, да гэтага надаваўся як найлепш.

Прыкладаў варожае дзейнасьці польскага ўраду да вуніі можна прывесьці безьліч. Думаю, што Апостальскі Пасад мае пра гэта адпаведныя справаздачы ад біскупа Чарнецкага.

Для прыкладу падаю некалькі фактаў з майго жыцьця. Асабліва стараўся зьнішчыць вунію палескі ваявода Костэк-Бэрнацкі, які ўславіўся на ўсю Польшчу з таго, што выбудаваў для палітычных вязьняў канцэнтрацыйны лягер, што не ўступаў нямецкім лягерам Дахау, Бухэнвальд, Аўшвіц. Ён загадаў паліцыі закрыць новапабудаваную вуніяцкую царкву ва Ўгрынічах каля Любяшова (місія айцоў капуцынаў). Ён-жа выселіў з Палесься айцоў капуцынаў-галяндцаў з айцом Кірылам ван Тэрнэзіюсам на чале. Малую сэмінарыю для будучых сьвятароў усходняга абраду ў Любяшове ён загадаў перанесьці на польскую этнаграфічную тэрыторыю. Яе перанесьлі ў Ломжу, але й там у хуткім часе мусілі зусім зьліквідаваць. Над кожным вуніяцкім сьвятаром ён устанавіў суровы паліцыйны надзор, як аб гэтым дакладна апавядаў сам камэндант паліцыі з Маларыты (Палесьсе) пасьля развалу Польшчы ў 1939 годзе.

Сёстры Найсьвяцейшага Сэрца Хрыстова, па нацыянальнасьці полькі, якія памагалі ў вунійнай працы айцам капуцынам у Любяшове, мелі ад паліцыі столькі непрыемнасьцяў, што іхная настаяцелька Анна Бульбот у гутарцы із старастам з Камень-Кашырска даслоўна казала: «Маю ўражаньне, што мы жывём не ў каталіцкай Польшчы, але хіба ў бальшавіцкай бязбожнай Расеі».

Хто не згаджаўся па-польску выкладаць рэлігію ў школе, таму зусім забаранялі навучаць дзяцей у школе. Я належаў да тых сьвятароў, якія ня мелі дазволу на навуку рэлігіі ў школе. Калі я ўсё-ж стараўся навучаць дзяцей у сябе або ў хатах іхных бацькоў, дык ад паліцыі ня меў праходу. Паліцыя старалася даведацца вызначаны час і месца навукі, пільнавала дзяцей, пераймала іх па дарозе і адпраўляла назад дамоў. У Століне я катэхізаваў дзяцей у магільнай капліцы, на самых могілках, у лесе і ў збожжы, разьдзяліўшы ўсіх дзяцей на некалькі групаў. Трэба было штодзённа праходзіць пешкі некалькі дзясяткаў кілёмэтраў, унікаючы спатканьня з паліцыяю.

Каб маральна й матар'яльна зламаць вуніяцкае духавенства, паліцыя мела загад пісаць усякія магчымыя пратаколы за найдрабнейшыя, а нават не існуючыя адміністрацыйныя правіны, як пабелка платоў, чысьціня вуліцы, парадак каля хаты і інш. На мяне гэткіх караў напісалі у суме на 200 злотых і столькі-ж сама на дзяка.

Дзе былі вуніяцкія вернікі, але не было царквы й прыходзілася правіць богаслужэньні ў сялянскай хаце, дык паліцыя карала такіх гаспадароў за быццам-бы незахоўваньне якіхсьці санітарных прадпісаньняў. Такія выпадкі мелі месца ва ўспамінаных ужо Ўгрынічах і калёніі Макраны Столінскага павету.

За маю дзейнасьць на карысьць вуніі загадам навагрудзкага ваяводы зь дня 15.05.1939 году я быў выселены назаўсёды з прыгранічнае паласы, што была ў папярэднім годзе пашырана на 100 км.

Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што агулам польская палітыка супраць беларусаў ў 1939 годзе прыняла застрашальны характар. Была забаронена амаль уся беларуская прэса, зачынены школы, сіламоц тварылі так званых праваслаўных палякаў, высялялі з прыгранічнае паласы ўсіх дзейных і сьведамых беларусаў, забаранілі беларусам купляць зямлю, насылалі на Беларусь новых

польскіх асаднікаў, усіх рыма-каталікоў беларусаў зачысьлілі ў палякаў, у прыгранічнай паласе КОП (Korpus Ochrony Pogranicza) зачаў узмоцненую акцыю навяртаньня праваслаўных вёсак на рыма-каталікоў. Місыянэрамі былі польскія афіцэры й паліцыя, былі распушчаны ўсе беларускія арганізацыі, прымусова закладаліся розныя польскія арганізацыі. Усё гэта настроіла варожа да Польшчы нават пасыўныя сялянскія масы й стварыла спрыяльны грунт для бальшавіцкае прапаганды. Таму, калі выбухнула вайна, на працягу аднаго тыдня развалілася Польшча й бальшавікоў бальшыня народу чакала, як спасеньня. А тое, што потым дзеялася ў Польшчы, народ тлумачыў як Божую кару за дзяржаўныя грахі.

Прапаганда супраць вуніі ніколі не заціхала. З аднаго боку, рыма-каталіцкія ксяндзы не ўважалі вуніятаў за сапраўдных каталікоў і да тых, хто пераходзіў на вунію, казалі: «Лепш адразу перайсьці на праўдзівае каталіцтва», разумеючы пад гэтым лацінства. А з другога боку, праваслаўныя пашыралі думку, што вунія – гэта нейкая патайная палянізацыя, і паказвалі на факт, што вуніяты залежаць ад польскіх лацінскіх біскупаў. Тое, што праваслаўная царква ў Польшчы сама запраўды служыла палянізацыі, паясьнялі яе бясьсільнасьцю, а «вуніяты маюць абаронцаў у Апостальскай сталіцы і як-бы хацелі, дык маглі-б абараніцца ад палянізацыі, а таму, што не бароняцца, значыць, самі маюць якіясь падазроныя пляны». Пасьля 1937 году можна было не спасылацца на інструкцыю з Рыму аб вунійнай працы, але ўжо было запозна.

Да дрэннага рэнамэ вуніяцкае царквы ў значнай меры спрычыніліся некаторыя канвэртары з праваслаўя, што па некалькі разоў пераходзілі то ў адную царкву, то ў другую. Успомніць хоць-бы архімандрыта Марозава, архімандрыта Мядзьведзя, што аж па тры разы пераходзілі на вунію. Вялікі працэнт канвэртараў меў нядобрую

маральную славу. З гэтага ўсяго ў некаторых аколіцах аб вуніі стварылася вельмі нядобрая думка. У 1939 годзе на Палесьсі сяляне вёскі Збураж мне самому гаварылі даслоўна: «Мы думалі, што праваслаўныя папы – гэта нікудышныя людзі, але вуніяты – дык такая дрэнь, што нават і праваслаўных нявартыя». Зьмяніць гэтую апінію было нялёгка.

Да таго варта зазначыць, што хоць вунійная праца на Беларусі была наскрозь місыйнаю працаю, аднак матар'яльнае становішча вуніяцкага духавенства зусім на гэта ня ўказвала, яно было больш чым сумным. Дапамога, якую атрымоўвалі вуніяцкія сьвятары ад польскіх біскупаў, была выстарчальнаю ўсяго на сьціплае прыватнае ўтрыманьне, а на місыйныя выдаткі й граша не атрымоўвалася. Такія сродкі прапаганды, як кніжкі, абразкі, газэты, аптэчкі, амаль нідзе на парафіях не спатыкаліся па-за тым, што мелі сьвятары для ўласнага ўжытку. Адпаведны царкоўны хор таксама рэдка дзе спатыкаўся.

Калі ў верасьні 1939 году ў Заходнюю Беларусь прыйшлі бальшавікі, сумны вобраз вуніі зьмяніўся на яшчэ горшы. Да гэтага часу некаторыя вуніяцкія парафіі існавалі толькі для справазданьняў у Рым. Напрыклад, у Пінскай дыяцэзіі такімі парафіямі былі Курашава, Збураж, Стаўпцы. Не чакаючы падаткаў ад бальшавікоў, такія парафіі самавольна ліквідаваліся, бо там вернікаў не было ўжо ад некалькіх гадоў.

У некаторых мясцовасьцях, дзе сьвятары дрэнна жылі з насельніцтвам, мелі месца жудасныя выпадкі супраць сьвятароў. У вёсцы Бабровічы на Палесьсі мясцовыя камуністычныя актывісты вуніяцкага сьвятара айца Пачопку тэрарызавалі да тае ступені, што давялі да расстройства нэрваў. Яго кідалі на салому й намагаліся спаліць жыўцом, хворага выкідвалі з ложку. У канцы ён памёр ў шпіталі як нэрвова хворы. Настаяцель парафіі Таракані айцец Донат

Навіцкі ўцёк ад актывістых і бальшавікоў, бо ўжо быў раз на Салаўках. У праваслаўных парафіях былі выпадкі яшчэ больш жорсткія. У вёсцы Ваўкавічы каля Наваградка вернікі павесілі свайго праваслаўнага сьвятара, абрэзаўшы яму перш зажыва вушы й нос. Але гэткія выпадкі здараліся спарадычна і ўсяго там, дзе сьвятары занядбалі сваю працу, пры тым усяго ў першых месяцах пасьля прыходу бальшавікоў.

На шчасьце, радасьць з прыходу бальшавікоў мінула досыць хутка. Калі бальшавікі аблажылі духавенства велічэзнымі падаткамі, пачалі арганізоўваць першыя калгасы й саўгасы, распачалі масавыя вывазы ў Сібір, народ убачыў і адчуў на сабе ўвесь нялюдзкі бальшавіцкі лад і зачаў шчыра ненавідзець бальшавізм і ўсё, што зь ім злучана, от-жа й бязбожнасьць. Аднак місыйная й вуніяцкая праца была выключана, за выняткам толькі прынагодных гутарак у адпаведных абставінах. Аб закладаньні новых парафій і гутаркі не магло быць, бо нават тыя, што ўжо існавалі, трудна было ўтрымаць з прычыны велічэзных падаткаў.

У гэтым часе сталася падзея гістарычнага значаньня для Беларусі – мітрапалітам Шаптыцкім на аснове адпаведных паўнамоцтваў з Рыму між іншымі экзархатамі быў створаны таксама грэка-каталіцкі экзархат Беларусі, але таму, што гэта рабілася ў найбольшай тайне, праца Экзарха і ягоных радных абмяжоўвалася толькі падрыхтоўкай рэлігійнае літаратуры й зьбіраньнем патрэбных інфармацыяў. На жаль, падчас акупацыі ўвесь гэты матар'ял загінуў.

Калі летам 1941 году немцы занялі Беларусь, рэлігійнае жыцьцё спачатку быццам ажывілася. Не было падаткаў на сьвятароў, парафіяльная зямля зноў вярнулася парахам, не было кантролю НКВД над царкоўным жыцьцём. Запраўднае аблічча гітлярызму таксама не было ведамае. Праўда, калі толькі замест вайсковае прыйшла

нямецкая цывільная ўлада, дык адразу выявілася, што немцы ў сваёй царкоўнай палітыцы на Беларусі пастанавілі абаперціся на праваслаўную царкву. У Менску была ўтворана мітраполія, назначаны цэлы рад новых біскупаў на Беларусі, а ў канцы была ўтворана Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква. Аўтакефалію прагалошана ў Менску на адумысным Саборы ў 1942 годзе. Вартае аднак увагі тое, што склікаў гэты сабор і старшынаваў на ім заступнік мітрапаліта Панцеляймона архібіскуп Філафей, бо сам мітрапаліт з русафільскіх углядаў супраціўляўся аўтакефаліі.

Экзарх грэка-каталіцкай царквы Беларусі айцец Неманцэвіч выперадзіў праваслаўных у сваёй дзейнасьці. Ён вясною 1942 году дастаў дазвол ад Генэральнага камісара Беларусі пана Кубэ на легальнае выконваньне свае рэлігійнае дзейнасьці. На Вялікдзень 5 красавіка 1942 году ён выдаў першае і апошняе сваё пасланьне да беларускага народу. У «Баранавіцкай газэце» быў надрукаваны адпаведны артыкул самога Экзарха й падany склад Рады Экзархату.

Духовым цэнтрам на Беларусі ў тым часе быў горад Баранавічы, там было найбольш школаў і самая актыўная беларуская інтэлігенцыя. Таму на радзе Экзархату было пастаноўлена, што хтосьці з радных абавязкова мусіць астацца ў Баранавічах і весьці магчымую прапаганду на карысьць вуніі. Гэты абавязак выпаў на маю долю, бо я быў знаёмы з рэдактарам «Баранавіцкае газэты» й меў доступ да ўсіх школаў і курсаў як настаўнік беларускае мовы, літаратуры й гісторыі; рэлігію выкладаць было агулам забаронена.

Сам Экзарх астаўся й надалей у Альбэртыне каля Слоніма й займаўся арганізацыйнымі і агульнацаркоўнымі справамі. Ён увайшоў у зносіны з лацінскімі ардынарыямі й перабраў ад іх юрысдыкцыю над уніяцкімі парафіямі. Самы першы перадаў юрысдыкцыю віленскі мітрапаліт

Ялбжыкоўскі й да самога Экзарха паставіўся вельмі прыхільна. Труднасьці былі зь Пінскаю дыяцэзіяю, бо ў Пінску не было ардынарыя – біскуп Букраба яшчэ з бальшавіцкіх часоў уцёк у Львоў.

Між бежанцаў дзейнічаў айцец Гадуцэвіч, але ён хутка заразіўся тыфусам і памёр. Тыя сьвятары, якія перэтрывалі бальшавізм, аставаліся далей на сваіх парафіях, але таму, што камунікацыя была надта ўтруднена, а пошты зусім не было, лучнасьць паміж імі і Экзархам была толькі прынагодная.

Гэтая дзейнасьць трывала вельмі нядоўга, бо таго-ж 1942 году ў ліпені месяцы Экзарх быў арыштаваны й больш волі не пабачыў. Паводле тых інфармацыяў, якія мне ўдалося сабраць, прычыны арышту былі наступныя.

Дэнунцыяцыя[420] праваслаўных біскупаў з Жыровіцкага манастыра на Экзарха, быццам ён як езуіт зьяўляецца патайным польскім дзеячам. Выклікана была дэнунцыяцыя жаданьнем Экзарха вярнуць назад сіламоц забраныя праваслаўнымі вуніяцкія цэрквы ў Сынкавічах і Курашове. Дэнунцыяцыя была паслана ў нямецкае СД у Слонім, дзе зь яго давераная асоба зрабіла копію й пераслала ў Віленскі Беларускі Музэй на рукі М. Пецюкевіча: быццам у часе падарожжа Экзарха да Львова меліся якіясьці зьвязкі з падазронымі людзьмі, хоць падарожжа адбывалася ў нямецкім аўце і зь немцам-шафёрам.

Відавочнае жаданьне немцаў зьнішчыць грэка-каталіцкую ерархію й царкву, бо калі я некалькі месяцаў пасьля арышту спрабаваў асесьці ў Альбэртыне, дык атрымаў ад немцаў такі востры адказ, што мусіў хутчэй выбірацца з Альбэртына.

Праўда, Экзарх хутка пасьля свае намінацыі на выпадак неспадзяванае сьмерці назначыў сабе намесьнікаў у

[420]Данос (польск. denuncjacja).

асобах айца Вечаслава Аношкі і айца Льва Гарошкі, але ў абліччы варожае паставы немцаў да вуніі нельга было прыдумаць, што рабіць, прытым даўжэйшы час усё яшчэ была надзея, што Экзарх яшчэ вернецца, так запэўніваў нас адзіны вышэйшы нямецкі ўплывовы афіцэр, які ў кастрычніку 1942 году ехаў па важных справах да Бэрліна й пасьля зь Бэрліну прыслаў ліст (напаўшыфраваны) на рукі быўшага бурмістра г. Баранавічы Гібоўскага, у якім запэўніваў, што за пару тыдняў Экзарха выпусьцяць.

Дзякуючы няздарнай нацыянальнай палітыцы немцаў становішча ў краю зь дня на дзень ставалася ўсё больш трагічным. Зачынаўся бальшавіцкі партызанскі рух. Немцы намагаліся спыніць гэты рух тэрарыстычным спосабам, яны выпальвалі й выстрэльвалі цэлыя вёскі, але ад гэтага партызанка ўзмагалася яшчэ горш. Рукамі нямецкага СС былі зьнішчаны сотні вёсак на Беларусі, між імі й вуніяцкія парафіі вёсак Збураж, Бабровічы ды іншых. У ваколіцы мястэчка Ганцавічы было зьнішчана зараз 40 вёсак разам з насельніцтвам. Ня толькі вёскі, але й мястэчкі гінулі ў гэтай завірусе.

Бальшавіцкі партызанскі рух і дзейнасьць нямецкага СС ад 1943 году так спараліжавалі жыцьцё на Беларусі, што аб якойсьці місыйнай працы нельга было й думаць. Нават нельга было даведацца, што дзеецца з тымі парафіямі, якія перапатрывалі вайну. Хаос павялічваўся зь дня на дзень. У вёсках, адлеглых некалькі кілямэтраў ад гарадоў, днём улада была нямецкая, а ўначы – партызанская, а некаторыя ваколіцы былі зусім апанаваныя партызанамі.

У гэткім хаосе ў канцы ліпеня 1944 году пачалося гвалтоўнае адступленьне немцаў перад бальшавікамі. Зь Беларусі масы інтэлігенцыі й сялянства рушылі на захад, не жадаючы стрэнуцца з бальшавікамі. Аднак вялікую частку ўцекачоў партызанам удалося пераняць па дарозе й вярнуць назад. Тыя, што змаглі ўцячы і абараніцца ад партызан,

былі накіраваны немцамі ва Ўсходнюю Прусію і ў бальшыні там засталіся, бо далейшы наступ на Шчэцін адрэзаў ім дарогу на захад, між імі астаўся таксама першы намесьнік Экзарха айцец Аношка. Усе ерархі Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы, падобна як украінскае й расейскае, разам у ліку 50 чалавек, таксама апынуліся на эміграцыі.

Між беларускаю эміграцыяю ў Нямеччыне вунійная праца не спынялася, бо было чатырох беларускіх вуніяцкіх сьвятароў і некалькі сот актыўных вуніяцкіх вернікаў. У Бэрліне я зрабіў усё патрэбнае для арганізацыі парафіі і, нават не чакаючы дазволу ад Міністэрства рэлігіі, зачаў правіць богаслужэньні для беларусаў. Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады, інтэлігенцыя, работнікі прынялі гэтую дзейнасьць вельмі прыхільна, аднак, ня маючы дазволу, у сваёй дзейнасьці я мусіў абмяжоўвацца толькі Бэрлінам. З параскіданымі па розных прамысловых цэнтрах вуніяцкімі вернікамі ўдалося навязаць лістоўную зьвязь і весьці душпастырства лістоўна; вынік быў неспадзявана добры, бо гэткім спосабам удалося навязаць лучнасьць з праваслаўнымі вернікамі, а нават і духавенствам. Іншыя беларускія вуніяцкія сьвятары таксама не сядзелі бязьдзейна – рабілі, што маглі...

## Натальля Арсеньнева[421]

## Аўтабіяграфічны нарыс[422]

Вельмі паважаны спадар Доктар,
перасылаю Вам поштаю, як Вы прасілі, другую палову майго нарысу. Ці будзе ў ім тое, што Вам дый іншым трэба, я ня ведаю. Мне здаецца, што гэта хутчэй не нарыс, а ўспаміны. Але спадзяюся, што Вы выцягнеце зь іх, што патрэбна, а што непатрэбна, дык можна і ў кошык. Датаў у гэтым нарысе (ці ўспамінах) мала, я датаў не люблю, бо жыцьцё-ж ня ў датах, а ў перажываньнях, у тых, аб якіх пішацца, ці-ж не? Але ўсе патрэбныя даты лёгка можна падставіць, бо падзеі гэтыя яшчэ вельмі нядаўныя й жывуць у памяці ўсіх.

Ня так даўно, на адным з рэфэратаў сп. Адамовіч сказаў, што мы ўжо людзі скончаныя й нічога больш ня створым. Я-б не хацела, каб так было. Мне яшчэ хочацца і жыць і стварыць што-небудзь добрае, лепшае ад усяго таго, што я стварыла дагэтуль. Бо, шчыра кажучы, мая літаратурная спадчына вельмі-ж бедная як на такі вялікі праціяг часу. І хоць перажыла я шмат і благога і добрага, але здаецца, што й перажыла замала.

Будзем-жа спадзявацца, што гэта яшчэ не канец і што праз пару год удасца дадаць да сёньняшняга майго

---

[421]Натальля Арсеньнева (1903-1997) – паэтка, клясык беларускай літаратуры.

[422]Успаміны напісаныя на просьбу доктара Вітаўта Тумаша, якому і адрасаваны ліст. Рукапіс захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк).

я іх у Міхельсдорфе. Была позьняя вясна, пачаткі лета. Кожную вольную часіну я праводзіла ў лясох. Каб ня гэты лес, ня ведаю, што сталася-б са мной за гэтыя гады жыцьця ў лягернай турме. Лес ратаваў мяне. Там толькі я чулася сапраўдным чалавекам, чыстым, дужым, здольным да працы й змаганьня. Там нараджаліся мае вершы, там я была сабой.

Урэшце ў выніку зацятага змаганьня нас выдзелілі ў асобную групу й перавезьлі ў лягер Віньдзішбэргердорф. Гэта быў вельмі прыгожы лягер. На схіле высокага ўзгорку, з трох бакоў акружаны чароўным борам із высокімі хвоямі, што так таемна, вусьцішна гулі ў вятраныя восеньскія ночы, поўны сонца, ветру, з чароўным відам на даліну ракі Рэгену, на горы із руінамі замкаў, – лягер гэты прымірыў мяне з жыцьцём, даў мне сілы да новае працы, да новых імкненьняў. Было, праўда, і тут ходаньне, але яно ня засьціла ўсяго, як у Міхельсдорфе, дзе на кожным кроку даводзілася сустракацца ізь людзкою нізасьцяй. Таксама й культурную працу, якой усяляк перашкаджалі там, супакойна можна было весьці тут. Штомесяц мы ладзілі канцэрты, я пісала бясконцыя мантажы й «скочы», малявала дэкарацыі, замучвалася на рэпэтыцыях. Жыцьцё ізноў пачало набіраць сэнсу.

Так мінуў няпоўны год, і нас перавезьлі ў Розэнгайм. З вакон нашага пакою на даляглядзе, як вокам скінуць, вырасталі сінія, белыя й ружовыя горы, чароўныя ў сваім харасьцьве. Я вельмі палюбіла іх і магла глядзець на іх гадзінамі. Аднак тут, у Розэнгайме, як і ў іншых лягерох, як ва ўсіх лягерох наагул, умоваў для паэтыцкае працы не было. Вечны шум, крык на калідорах і за сьцяной, вечныя лягерныя навіны й здарэньні не давалі таго супакою, тае магчымасьці самазаглыбеньня, якія неабходныя дзеля гэтага. Да таго-ж, тут ужо панаваў настрой эміграцыйны. Зь дня на дзень чакалася ашурансаў, афармленьняў, С. І. С., камісіяў і г.д. Падсумоўвалася ўсё

мінулае, падкрэсьлівалася таўстой рысаю, выводзіўся вынік, і адгортвалася новая, чыстая бачына ў кнізе жыцьця – разьвітаньне з Эўропаю, выезд за мора й жыцьцё тут.

На гэтай, крыху ўжо запісанай сяньня бачыне, я й спыняюся. І чакаю, што будзе далей...

## Канстанцін Езавітаў[427]

## Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы[428]

Нарадзіўся 5(17) лістапада 1893 году ў крэпасьці Дзьвінск.

Бацька – Барыс Анупрэевіч, афіцэр Расейскае арміі, родам зь сялян, Полацкага павету, беларус, праваслаўны.

Маці - Стэфаніда Данілаўна з дому Брадоўскіх-Брадвінскіх, праваслаўная, беларуска, зь сямейкі чыгуначніка з Полаччыны.

21 жніўня 1902 г. паступіў у Дзьвінскае 2-ое гарадзкое вучылішча з 6-ці гадовым навучаньнем.

9 чэрвеня 1908 г. скончыў гэтае вучылішча.

15 жніўня 1908 г. паступіў на агульна-асьветныя курсы пры прагімназіі Кацярыны Сьмірновай.

25 чэрвеня закончыў гэтыя курсы.

У верасьні 1910 г. экзаменаваўся ў Грыве-Зэмгальскай і вытрымаў іспыты на вучыцеля пачатковых школ.

1 сакавіка 1911 г. прызначаны вучыцелем у Ліксненскае пачатковае з 5-ці гадовым курсам навучаньня вучылішча.

15 жніўня 1913 г. паступіў у Віцебскі вучыцельскі інстытут і пакінуў працу ў Ліксненскай школе.

---

[427]Канстанцін Езавітаў (1893-1946) – палітычны й вайсковы дзеяч, паэт.

[428]Аўтабіяграфія напісаная ў 1944 годзе ў Бэрліне. Рукапіс захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк).

1 верасьня 1913 г. паступіў вольным слухачом на Віцебскае Аддзяленьне Маскоўскага Археалягічнага Інстытуту, дзе слухаў курс адначасна з слуханьнем курсу ў Віцебскім Вучыцельскім Інстытуце.

23 студзеня 1916 г. скончыў курс Віцебскага Вучыцельскага Інстытуту.

1 лютага 1916 г. залічаны ў Паўлаўскае Вайсковае Вучылішча ў Петраградзе.

28 красавіка ўзьведзены ў чын малодшага партупей-юнкера.

5 траўня 1916 г. - у старшага партупей-юнкера.

12 траўня 1916 г. – у фэльдфэбэля.

Па сканчэньні паскоранага 4-х месячнага курсу вайсковага часу Найвысачэйшым загадам у першы дзень чэрвеня 1916 г. узьведзены ў чын прапаршчыка з залічэньнем па армейскай пяхоце.

1.06.1916 г. згодна з тэлеграмай Галоўнага Ўпраўленьня Вайсковых навучальных установ ад 31 траўня 1916 г. № 43199 прыкамандзіраваны да Паўлаўскага Вайскавага Вучылішча малодшым афіцэрам у 5-ю часовую роту.

1.02.1917 г. Найвысачэйшым Загадам на грунце загаду В. В. 1914 г. узьведзены ў чын падпаручніка, са старшынствам ад 1 лютага 1916 г.

22 красавіка 1917 г., згодна собскага жаданьня, адкамандзіраваны з Вучылішча на фронт у распараджэньне камандзіра 151-га пяхотнага Пяцігорскага палка, куды й накіраваўся. Падставай было прадпісаньне начальніка Мабілізацыйнага Аддзелу Галоўнага Ўпраўленьня Генэральнага Штаба ад 31 сакавіка за № 18839.

25.04.1917 г. прыбыў і залічаны ў сьпісак 151-га пяхотнага палка й прызначаны малодшым афіцэрам у 1-ю роту.

21 траўня 1917 г. прызначаны часова камандуючым 1-й ротай.

7 ліпня 1917 г. прызначаны часова выконваючым абавязкі палкавога ад'ютанта.

9 ліпня 1917 г. прыняў становішча.

23 ліпня 1917 г. зацьверджаны на становішчы палкавога ад'ютанта.

Кантужаны разрывам артылерыйскага снараду на масьце праз р. Дзьвіну у м. Пагулянцы пад Дзьвінскам, але астаўся ў страі 23 ліпня 1917 г.

25 жніўня 1917 г. прадстаўлены да ўзнагароды ордэнам сьв. Станіслава 3-е ступені зь мячамі й кукардай.

10 кастрычніка 1917 г. прызначаны часова камандуючым маршавым батальёнам палка, з астаўленьнем на становішчы палкавога ад'ютанта.

Загадам па арміі і флёту ад 12 кастрычніка 1917 г. узьведзены ў чын паручніка са старшынствам ад 25 чэрвеня 1917 г.

25 кастрычніка 1917 г. прадстаўлены да падвышэньня ў штабс-капітаны.

14 лістапада 1917 г. ад афіцэраў і жаўнераў 151 пяхотнага Пяцігорскага палка дэлегаваны на зьезд вайсковых беларусаў Паўночнага фронту, які адбыўся ў Віцебску 15-22 лістапада 1917 г.

Зьездам выбраны таварышам старшыні зьезду 15.11.1917 г. Тым-жа зьездам выбраны сябрам Беларускае Вайсковае Цэнтральнае Рады 20.11.1917 г.

Прыбыў у Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду й прызначаны заступнікам кіраўніка беларускіх вайсковых фармаваньняў 30.11.1917 г.

Выбраны заступнікам старшыні Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады 4.12.1917 г.

Дэлегаваны на Першы Ўсебеларускі Кангрэс у Менску 5.12.1917 г.

Выбраны кіраўнікам Аддзелу Фармаваньняў Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады 22.12.1917 г.

Арыштаваны Камісіяй па барацьбе з контррэвалюцыяй і пасаджаны на вайсковую гаўптвахту ў Менску на Шырокай вуліцы, № 21 – 15.01.1918 г.

Уцёк з гаўптвахты, зьявіўся ў Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду й зарганізаваў захоп улады ад бальшавікоў 19.02.1918 г.

Прызначаны загадам Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады й Рады Ўсебеларускага Кангрэсу беларускім камэндантам гор. Менску 15 лютага 1918 г.

Выканаўчым камітэтам Рады 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу выбраны Народным сакратаром і Асобаўпаўнаважаным Вайсковых Спраў Беларускае Народнае Рэспублікі 20.02.1918 г.

Выбраны заступнікам старшыні Народнага Сакратарыяту БНР 20.02.1918 г.

21.02.1918 г. пастановаю Народнага сакратарыяту Беларусі зацьверджана падвышэньне ў штабс-капітаны, згодна прадстаўленьня ад 25.10.1917 г.

За выслугу чарговых чатырох месяцаў у абставінах бязупыннага змаганьня з бальшавікамі пастановаю Народнага Сакратарыяту Беларусі ад 21.02.1918 г. узьведзены ў чын капітана.

За падрыхтоўку арганізацыі беларускіх вайсковых фармаваньняў усіх франтоў і за кіраваньне Аддзелам Фармаваньняў Беларускай Вайсковай Цэнтральнай рады пастановай Народнага Сакратарыяту Беларусі ад 21.02.1918г. узьведзены ў чын падпалкоўніка.

За арганізацыю захопу ўлады ў Менску і ўмелае кіраваньне беларускай камэндатурай пастановай Народнага Сакратарыяту Беларусі ад 21.02.1918 г. узьведзены ў чын палкоўніка.

Разам з усім Выканаўчым Камітэтам Рады 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу ўвайшоў у склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 19.03.1918 г.

Выбраны сакратаром Рады БНР 20.03.1918 г.

Захварэў ад фератамленьня й пакладзены ў шпіталь 5.04.1918 г.

Прыбыў з шпіталю 24.04.1918 г.

Камандзіраваны на вывед і для патаёмнае прапаганды ў захоплены праз бальшавікоў Віцебск 10.05.1918 г.

Прыбыў з камандзіроўкі 25.06.1918 г.

Загадам Народнага Сакратарыяту БНР за ўдала выкананы вывед і выкананьне іншых даручэньняў у Віцебску ўзнагароджаны залатым персьценем з гербам Пагоні й гербам Народнага Сакратарыяту БНР для нашэньня на левай руцэ 30.06.1918 г.

Разам з усім складам 1-га Народнага Сакратарыяту Беларусі выйшаў 23.08.1918 г. у дымісію[429].

Прызначаны інспэктарам беларускіх вучыцельскіх курсаў 15.08.1918 г. Прызначаны кіраўнікам Вайсковага Аддзелу Народнага Сакратарыяту БНР 2-га складу з астаўленьнем на становішчы інспэктара вучыцельскіх курсаў 30.09.1918 г.

Эвакуяваны ў Вільню 7.12.1918 г.

Прыбыў у Вільню й прызначаны беларускім вайсковым прадстаўнікам ды начальнікам павету й гораду ў Беластоку 8.12.1918 г.

Прыбыў у Беласток і прыступіў да працы 10.12.1918г.

Пераведзены на становішча начальніка Плянтава-Шчучынскага павету 10.01.1919 г.

Па справах службовых камандзіраваны ў Коўна 20.01.1919 г.

Вярнуўся з камандзіроўкі 28.01.1919 г.

Па даручэньню вайсковых уладаў разам з двума веставымі накіраваўся конна ў глыбокую вайсковую разьведку ў тыл бальшавіцкага фронту праз Васілішкі й Радунь пад Ліду 20.02.1919 г.

---

[429]Адстаўка (польск. dymisja).

Прыбыў з разьведкі з ваеннымі весткамі 25.02.1919г.

Загадам ураду БНР за разьведку й за дастаўленьне з маёнтку генэрала-ад-інфантэрыі Кандратовіча ягоных ордэнаў узнагароджаны белым эмалева-залатым афіцэрскім Крыжам Пагоні 4-ае ступені 1.03.1919 г.

Загадам вайсковага міністра Літоўскай рэспублікі ад 15.03.1919 году прызначаны камандзірам Горадзенскага Беларускага пяхотнага палка 15.03.1919 г.

Здаў кіраваньне паветам і прыняў Горадзенскі Беларускі пяхотны полк 28.03.1919 г.

Прызначаны як беларускі вайсковы прадстаўнік у склад беларуска-літоўскай Дыпляматычнай Місіі для перагавораў з палякамі ды выехаў у Варшаву 16.04.1919 г.

Прыбыў разам з беларуска-літоўскай місіяй з Варшавы ў Коўна 26.05.1919 г.

Атрымаў падзяку Ураду БНР за напісаньне й надрукаваньне сваёй прапагандовай кнігі «Беларусы й палякі», у якой заклікаў да змаганьня супраць палякаў ды за незалежнасьць Беларусі 20.08.1919 г.

Згодна собскага жаданьня здаў становішча камандзіра Горадзенскага Беларускага Пяхотнага палка й выехаў у камандзіроўку ў Бэрлін 25.08.1919 г.

Пастановай габінэту міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі прызначаны шэфам Беларускай Вайскова-дыпляматычнай Місіі ў Латвіі і Эстоніі 29.08.1919 г.

Прыбыў у Рыгу і акрэдытаваны ўрадам Латвійскай рэспублікі як шэф Беларускай Вайскова-дыпляматычнай Місіі 15.09.1919 г.

Выехаў у Рэвель для прадстаўленьня ўраду Эстонскае рэспублікі і акрэдытаваньня пры ім 1.10.1919 г.

Прыбыў у Рэвель і акрэдытаваны як шэф Беларускай Вайскова-дыпляматычнай Місіі Беларускай Народнай Рэспублікі пры ўрадзе Эстонскае рэспублікі 3.10.1919 г.

Лёгка ранены ў твар асколкам артылерыйскага снараду на Тэатральным пляцу ў Рызе ў першы дзень нападу Бэрмондта на Рыгу і астаўся ў страі 9.10.1919 г.

Выехаў у Юр'еў для ўдзелу ў канфэрэнцыі Балтыцкіх Дзяржаваў 10.10.1919 г.

Прыступіў да перагавораў з генэралам Станіславам Булак-Булаховічам аб арганізацыі Асобнае Беларускае Дывізіі ў Балтыцы 20.10.1919 г.

Выехаў у Гельсінгфорс для прадстаўленьня прэзыдэнту і ўраду Фінляндзкае рэспублікі 23.10.1919 г.

Пасьля прыйма прэзыдэнтам і ўрадам Фінляндзкае рэспублікі арганізаваў консульства ў Гельсінгфорсе й выехаў назад у Рэвель 28.10.1919 г.

Закончыў перагаворы й заклаў Асобную Беларускую Дывізію БНР у Балтыцы пад камандаваньнем генэрала Булак-Булаховіча 14.11.1919 г.

Распачаў перагаворы з урадам Эстонскай рэспублікі аб часовым перабываньні Асобнае Беларускае Дывізіі на тэрыторыі Эстоніі і аб прыдзяленьні ёй асобнага кавалку фронту супраць бальшавікоў у раёне Пячораў ды Ізборску 15.11.1919 г.

Падпісаў умовы з урадам Эстоніі аб часовым перабываньні Асобнае Беларускае Дывізіі ў Эстоніі ды аб залічэньні ў грашовую пазыку ўраду БНР усіх выдаткаў на ўтрыманьне Асобнае Дывізіі БНР, якія будзе мець эстонскі ўрад, – 18.11.1919 г.

Вярнуўся ў Рыгу й распачаў перагаворы з урадам Латвійскай рэспублікі аб прыдзяленьні для Асобнае Беларускае Дывізіі Булак-Булаховіча базы на тэрыторыі Латвіі ў гор. Марыенбурзе і ягоным раёне 25.11.1919 г.

Выехаў на інспэкцыю фронту Асобнае Беларускае Дывізіі 5.12.1919 г.

Вярнуўся ў Рыгу 15.12.1919 г.

Дэкрэтам надзвычайнага ўпаўнаважанага пасла БНР у Балтыцы інж. Душэўскага ад 19.12.1919 г. узьведзены ў чын генэрал-маёра.

Загадам міністра Народнай Абароны БНР ад 8.01.1920 г. за № 8 пацьверджана пастанова аб узьвядзеньні ў чын генэрал-маёра.

Пастановай Рады Народных міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ад 17.5.1920 г. пацьверджана пастанова аб узьвядзеньні ў чын генэрал-маёра.

Згодна собскае просьбы атрымаў згоду ўраду БНР часова падпісвацца й надалей старой рангай палкоўніка, пакуль сам буду лічыць гэта патрэбным з тых ці іншых палітычных меркаваньняў 17.05.1920 г.

З прычыны падпісаньня Латвійскім урадам умовы супакою з РСФСР далейшае існаваньне Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі і Эстоніі сталася немагчымым. Дзеля гэтага зьліквідаваў Місію ды здаў архіў ураду БНР у Коўна 1.11.1920 г.

Вярнуўся ў Латвію й заняўся арганізацыяй беларускай нацыянальнай меншасьці 25.03.1921 г.

Зарганізаваў у Дзьвінску Беларускае Культурна-асьветнае таварыства «Бацькаўшчына» 25.03.1921 г.

Зарганізаваў беларускія летнія вучыцельскія курсы ў Дзьвінску 25.05.1921 г.

Зарганізаваў першых 16 беларускіх школаў у Латвіі 15.08.1921 г.

З дазволу ўраду БНР прыняў латвійскае грамадзянства 30.11.1921 г.

Зарганізаваў сталыя беларускія вучыцельскія курсы ў Дзьвінску 1.12.1921 г.

Прызначаны інспэктарам беларускіх школаў у Латвіі 1.01.1922 г.

Прызначаны дырэктарам Люцынскае беларускае гімназіі 1.04.1923 г.

Арыштаваны латвійскім урадам 25.05.1924 г. за беларускую нацыянальную працу.

Пастановай латгальскага акруговага суда ў Латвіі апраўданы й звольнены з вастрогу 25.04.1925 г.

10.06.1925 г. зарганізаваў у Рызе беларускую газэту «Голас Беларуса» й часапіс «Беларуская школа ў Латвіі», якія баранілі беларускія нацыянальныя інтарэсы да 1934 г., пакуль не былі зачынены латвійскім урадам.

Прызначаны выкладчыкам мэтодыкі беларускае мовы й гісторыі на беларускіх вучыцельскіх курсах у Рызе 1.01.1926 г.

Прызначаны выкладчыкам Рыскае беларускае гімназіі 15.09.1931 г.

У часе Ўльманісаўскага пераварoту ў Латвіі арыштаваны ўрадам Ульманіса за нацыянальную беларускую працу 15.05.1934 г.

Без суда й сьледзтва звольнены з вастрогу 20.08.1934 г.

Выехаў на працу ў Лібаўскі раён, дзе будаваў рыбныя сажалкі, займаўся гадаваньнем карпаў і супрацоўнічаў у беларускай нацыянальнай прэсе 1.10.1934 г.

Вярнуўся ў Рыгу, дзе прыняў удзел у стварэньні Беларускага Таварыства ў Латвіі ды аднаўленьні беларускіх школаў. Адначасна пачаў супрацоўнічаць у бэрлінскай газэце «Раніца» ў 1939 г.

Прызначаны кіраўніком адноўленае беларускае вячэрняе школы ў Чырвонай Дзьвіне ў Рызе 1.08.1940 г.

Зарганізаваў Беларускі Нацыянальны Камітэт і Беларускае Аб'яднаньне ў Латвіі 15.07.1941 г.

Зьездам Беларускага Аб'яднаньня 22.06.1944 г. дэлегаваны на 2-гі Ўсебеларускі Кангрэс у Менску.

Прыбыў у Менск 26.06.1944 г. і пакліканы спадаром Прэзыдэнтам БЦР у склад сяброў Беларускае Цэнтральнае Рады.

Другім Усебеларускім Кангрэсам выбраны на старшыню Рэдакцыйнай Камісіі 27.06.1944 г.

Прыбыў у Бэрлін 6.08.1944 г. і прыступіў да працы ў БЦР.

Пастановай БЦР і спадара Прэзыдэнта прызначаны выконваючым абавязкі 2-га віцэпрэзыдэнта на час водпуску сп. Сабалеўскага 20.08.1944 г.

Загадам Прэзыдэнта БЦР прызначаны кіраўніком Галоўнага Кіраўніцтва Вайсковых Спраў БЦР 15.10.1944 г.

10.01.1945 году пастановай Прэзыдэнта БЦР сьцьверджана й прызнана ранга генэрал-маёра, нададзеная ўрадам БНР у 1919 годзе.

## Мікола Равенскі[430]

## Жыцьцяпіс[431]

Равенскі Мікола, сын Якуба, нарадзіўся 5 сьнежня 1886 году ў маёнтку Капланцы Чэрвеньскага раёну (былы Ігуменскі павет). У гэтым маёнтку бацька ўсё сваё жыцьцё працаваў садоўнікам. Маючы нізкую аплату за працу й вялікую сям'ю, ён ня мог забясьпечыць ейных мінімальных патрэбаў, а тым больш даць асьвету сваім падрастаючым дзецям. Гэтае цяжкое становішча вымусіла яго шукаць нейкага выхаду. Цераз нейкі час гэткі выхад знайшоўся, і хутка мне – першаму зь дзяцей – прыйшлося адарвацца ад сям'і ў веку васьмігадовага хлапчука.

Першыя пачаткі граматы я атрымаў ад бацькі, а маючы сем гадоў, пачаў наведваць вясковую школу. Валодаючы вельмі добра дзяцінным голасам, музычным слыхам і здольнасьцямі, ад пяцёх год сьпяваў у царкоўным хоры, а ў 1895 годзе быў прыняты ў Менскі архірэйскі хор на поўнае ўтрыманьне й бясплатную навуку. Там прабыў я да 1903 году, дзе і атрымаў агульную пачатковую музычную асьвету.

У 1903 годзе атрымоўваю накіраваньне ў Менскі мужчынскі манастыр у якасьці дырыгента хору, дзе набываю салідную практыку дырыгаваньня. У 1905 годзе атрымоўваю ад архірэя накіраваньне ў Наваградак на працу

[430]Мікола Равенскі (1886-1953) – кампазытар.

[431]Рукапіс захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк). Як выглядае, аўтабіяграфія напісаная ў канцы 1951 або ў 1952 годзе. Памёр Мікола Равенскі 9 сакавіка 1953 году ў Лювэне (Бэльгія).

дырыгентам царкоўнага хору, выкладчыкам сьпеваў і музыкі ў школах.

Адчуваючы свае музычна-тэарэтычныя веды недастаткова моцнымі, праходжу трохгадовыя дырыгенцкія курсы ў Маскве й Петраградзе, якія канчаю ў 1914 годзе. У гэтым-жа годзе я вымушаны пакінуць Наваградак у сувязі зь Першай сусьветнай вайной і эвакуацыяй. У 1915 годзе як уцякач працую ў вайсковым будаўніцтве ў якасьці канторшчыка, а ў далейшым – на пасадзе загадчыка будаўнічымі складамі. З 1917 г. працую ў Ігумене выкладчыкам сьпеваў і музыкі ў школах гораду.

На пачатку 1919 году пераяжджаю ў Менск на працу дырыгента царкоўнага хору пры Кяцярынінскім Саборы і адначасна працую ў школах у якасьці выкладчыка сьпеваў і музыкі. У 1920 годзе прымаю запросіны ад Беларускага Работніцкага Клюбу на арганізацыю й працу ў беларускім хоры. Ва ўспомненым клюбе сумесна з Уладзімерам Галубком ставім сыстэматычныя паказы й канцэрты, але масавы арышт у 1922 годзе ня толькі сяброў клюбнага камітэту і ягонага загадчыка (загадчыкам быў у той час мой родны брат, які як нацдэм загінуў у 1937 годзе ў Менскім НКВД), а нават усю беларускую інтэлігенцыю, якая ў той час прысутнічала на канцэрце, як, напрыклад, Лёсіка, Ільлючонка, Ляжневіча, Калевіча й шмат іншых (пераважна чыгуначнікаў), – цалкам спаралізаваў шпаркія крокі разьвіцьця клюбнае працы. Зразумела, гэты арышт не абмінуў гэтаксама Галубка й мяне.

У 1921 годзе прымаю ўдзел у вялікай экспэдыцыі па зьбіраньню народных песьняў, арганізаванай Інбелкультам, на чале з мастаком Полазавым, накіраванай у Слуцак і ягоны раён. У 1922 годзе выходзіць з друку мой першы зборнік песьняў – народных апрацовак і собскіх твораў на вершы беларускіх паэтаў. У гэтым-жа годзе я напісаў музыку на словы Дуніна-Марцінкевіча «Залёты» (апэрэта), якая, на жаль, загінула, і кантату для хору «Курган»

Канстанцыі Буйлы. У 1923 годзе прымаю абавязкі хормайстра ў Менскім Гарадзкім тэатры. У гэтым-жа годзе атрымоўваю ад Наркамату Асьветы накіраваньне ў Маскву для атрыманьня вышэйшае музычнае асьветы. Паступаю ў Музычны тэхнікум імя В. В. Стасава, які ў 1927 г. канчаю й пасьля іспытаў пераходжу ў кансэрваторыю.

У 1930 годзе здаю дзяржаўныя іспыты і атрымоўваю дыплём аб заканчэньні поўнага курсу навукаў у Маскоўскай кансэрваторыі. У гэтым-жа годзе ад Наркамату Асьветы атрымоўваю адкліканьне й пераяжджаю на музычную працу ў Менск.

Ад 1924 да 1930 зьяўляюся сябрам-карэспандэнтам Беларускае Акадэміі Навукаў. За час навукаў у Маскоўскай кансэрваторыі маю напісаныя наступныя музычныя творы: 22 фугі для фортэпіяна, зь іх 2 дзьвюхгалосныя, 5 – трохгалосных, 11 – чатырохгалосных і адна васьмігалосная для выкананьня на драўляных музычных інструмэнтах (флейта, габой, клярнэт і фагот); кантату для хору, салістых і сымфанічнай аркестры на словы Янкі Купалы; харавыя творы ў малой форме, апрацоўкі беларускіх народных песьняў для хору й салёвых выкананьняў. Шматлікія зь іх былі надрукаваныя, у гэтым ліку «Ліпнёвы гімн» на словы Ўладзімера Дубоўкі, а крыху пазьней і фортэпіянная прэлюдыя. Супрацоўнічаў у часапісе «Узвышша», у якім зьмешчаны мае два музычна-крытычныя артыкулы. Апрача гэтага, на словы Ул. Дубоўкі напісаны вялікі хор «О Беларусь, мая шыпшына». Партытура загінула ў 1942 г., узноўлена на эміграцыі. У 1929 г. супольна з Уладзімерам Дубоўкам прыступаем да працы над опэрай «Браніслава».

У 1930 г. выкладаю музычна-тэарэтычныя дысцыпліны ў Менскім Беларускім Музычным тэхнікуме, а пазьней у новазакладзенай у Менску Беларускай кансэрваторыі. Побач з гэтым, выконваю абавязкі загадчыка навуковай часткі Музычнага тэхнікуму, не пакідаючы

музычнае творчасьці. Зь вялікіх формаў напісаная музыка для смычковага квартэту й сюіта. Абодва гэтыя творы пабудаваныя на беларускіх народных матывах. Да гэтага ліку належыць і шэраг масавых і харавых песьняў. Бальшыня дробных рэчаў была выдадзеная ў Менску Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам, а пазьней БДВ выдала й фортэпіянную прэлюдыю. Летнія месяцы скарыстоўваў на паездкі па вёсках для запісу народных песьняў.

Амаль бесьперапыннае перасьледаваньне за нацдэмаўшчыну ды розныя непрыемнасьці параліжавалі ў мяне імкненьне да творчае працы. Каб хоць часова ўхіліцца ад гэтага перасьледаваньня, у 1940-41 навучальным годзе пераяжджаю ў Магілёў.

У 1941 годзе вяртаюся ў Менск. 23 чэрвеня 1941 – дзень пасьля пачатку нямецка-савецкай вайны. Амаль увесь Менск ахоплены морам агню; уся мая хатняя маёмасьць і ўся праца ў выданьнях і рукапісах, а ў гэтым ліку і захаваныя чарнавікі опэры «Браніслава», гінуць.

У 1943 годзе пераяжджаю зь Менску ў горад Чэрвень (Ігумен). Тут ствараю пры мясцовым клюбе вялікі мяшаны хор, жаноцкі ансамбаль і драматычны гурток. Пішу музыку на царкоўныя малітвы. Тут-жа напісана зноў музыка першага й другога актаў апэрэты «Залёты». У 1944 годзе пераяжджаю ў Менск, дзе здаю два акты гэтае апэрэты ў аддзел мастацтва пры БЦР. Крыху пазьней заканчваю й трэці акт.

У гэтым-жа годзе адбываецца эміграцыя ў Нямеччыну. Увесь музычны матар'ял, які знаходзіўся ў музычным аддзеле, быў вывезены ў Нямеччыну, але першы акт мае апэрэты загінуў дзесь па дарозе і атрымаць мне яго не прыйшлося. Такім чынам, і паўторная праца над апэрэтай аказалася дарэмнай.

Прыгатаваны да друку зборнік беларускіх народных песьняў і ўласных твораў на словы беларускіх паэтаў, які

складаўся з 75 нумароў, загінуў у друкарні ад пажару ў Бэрліне.

На эміграцыі арганізоўваю шырокавядомы сярод эмігрантаў беларускі ансамбаль пры драматычнай групе «Жыве Беларусь».

У Рэгенсбургу (1945 год) узнаўляю музыку, якая загінула ад пажару ў Менску – вялікі харавы твор на словы Ўладзімера Дубоўкі «О Беларусь, мая шыпшына», арыі Браніславы з опэры «Браніслава» й «Ноч над Менскам», абедзьве таксама на словы Ул. Дубоўкі. Гэтую працу заканчваю ў 1946 г.

У 1947 г. пішу фантазію для скрыпкі й фортэпіяна на беларускія народныя тэмы. У гэтым-жа годзе напісана скарочаная тэорыя музыкі для самаадукацыі. Напісана музыка на словы Н. Арсеньневай «Магутны Божа».

У 1948 г. музычна аформлены п'есы «Пінская шляхта», «Нечаканыя заручыны» й «Вясёлы майстра». Апрацаваны шэраг народных беларускіх песьняў для хору і ансамблю.

1950 г. – пераезд зь Нямеччыны ў Бэльгію. У гэтым годзе напісана «Grand Suite» для фортэпіяна на беларускія народныя тэмы (выконваецца на канцэртах у 1950-1951 гадох), трохгалосная фуга для фортэпіяна «На выгнаньні», хор для мужчынскага ансамблю «Слуцкія ткачыхі» з солё барытона ў суправаджэньні ансамблю й фортэпіяна, «Чаму-ж мне ня пець» у шырокай распрацоўцы, таксама ў суправаджэньні фортэпіяна, і песьні «Мароз», «Свадзьба камара», «Ой, на моры зялёным», «Вечарком за рэчкаю», «Паласа», «Хмель лугамі», «Вярба», «Халімон», «Бабка», «Ой, вяду бяду» (надрукаваная), «Пагоня» – усе ў суправаджэньні фортэпіяна, выконваюцца на канцэртах і напяваюцца на пліткі. Апрача гэтага, напісана дзьве оды для мужчынскіх галасоў, беларуская калыханка для жаночага квартэту й фортэпіяна, «Мой родны кут» – дуэт для жаночых галасоў з фортэпіяна, апрацаваны для хору

шэраг беларускіх народных песьняў, малых харавых твораў, скаўцкіх і для жаночага ансамблю. Распрацаваны народныя песьні: «Ты, чырвоная каліна», «Дарагая мне старонaчка», «Песьня бабыля», зроблена шмат іншых апрацовак, усе яны ў саправаджэньні фортэпіяна. Узноўлена з апэрэты «Залёты» песьня Сабковіча «Маю грошы, маю я...». Апрацавана народная песьня для салёвага выкананьня з фортэпіяна «Чалавек жонку б'е, бічуе». Для акардэона распрацавана музыка «Лявоніхі», «Крыжачка», «Мяцеліцы» й дзьве беларускія полькі.

У 1951 годзе напісаны вялікі твор на беларускія народныя тэмы пад назвай «L'exil».

Сабрана 270 нумароў беларускіх народных песьняў. Падрыхтаваны да выданьня зборнік беларускіх народных песьняў, які складаецца з 80 нумароў.

Апрача гэтага, на працягу гадоў ствараў царкоўную музыку: два нумары «Иже херувимы», «Благослови душа моя Господа», «Во царствии Твоем», «Милость Мира», «Верую» для хору й солё барытона, «Отче Наш», «Достойно есть», «Хвалите Господа», «Многолетие», екценіі: вялікая, сугубая й прасіцельная – і невялікі канцэрт «Славя в вышних Богу».

## Вечаслаў Сэлях-Качанскі[432]

### Уласны жыцьцяпіс[433]

Нарадзіўся ў 1885 годзе ў сям'і сталяра (адзіночкі-саматужніка) у мястэчку Лагойску Менскай губэрні Барысаўскага павету.

На 9-м годзе пачаў наведваць пачатковую народную школу ў Лагойску, якую скончыў праз тры гады. Ад 12-15 год дапамагаў бацьку ў сталярцы, як вучань майстра, як хлопец-дапаможнік. Пачаў сьпяваць хлопчыкам (на 9-м годзе) у школьным хоры пад кіраўніцтвам настаўнікаў Бейні й Цыбкаль як высока-звонкі дыскант. На 14-м годзе адбылася гэтак званая мутацыя голасу (пералом). І калі на 16-м годзе трымаў уступны экзамен у Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю, дык раптам выявіўся магутны ўжо тады бас-барытон, чым зьдзівіў камісію, прасьпяваўшы «Спасі, Госпадзі, людзі Твая». За настаўніка сьпеваў у сэмінарыі быў тады нябожчык Іван Ганчарэнка, які памёр у канцы сьнежня мінулага 1943 году.

Юнаком 14-15 гадоў, да сэмінарыі, быў дзьве зімы за «настаўніка» гэтак званай школы граматы ў вёсцы Міхалова каля Лагойску. Тады ўжо іграў на іскрыпцы, як самавучка, і зарганізаваў у Міхалове трохгалосны хор, які сьпяваў літургіі й песьні школьнага рэпэртуару. Ад

---

[432]Вечаслаў Сэлях-Качанскі (1885-1976) – сьпявак, тэатральны дзеяч.

[433]«Уласны жыцьцяпіс» В. Сэлях-Качанскага быў падрыхтаваны да публікацыі ў часапісе «Новы Шлях», №10(46), травень 1944. Нумар ня выйшаў з друку. Друкуецца паводле сыгнальнага экзэмпляру, які захоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк).

павятовага наглядніка царкоўных школ сьвяшчэньніка Гарбацэвіча атрымаў узнагароду 10 рублёў за хор. У 1901 годзе, маючы 16 гадоў, паступіў у Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю, якую прайшоў пасьпяхова, скончыўшы яе ў 1905 годзе. У сэмінарыі іграў на іскрыпцы, на барытоне й флейце пад кіраўніцтвам адстаўнога вайсковага капэльмайстра чэха Карла Дондо.

Узімку 1905-1906 г.г. быў за настаўніка народнай аднаклясавай школы ў Мегялянах Сьвянцянскага павету былой Віленскай губэрні. З восені 1906 г. стаў за настаўніка ў чыгуначную двухклясавую школу ў г. Лібава. Праз год, у 1907 г., перайшоў выкладчыкам арытмэтыкі й расейскае мовы ў першых клясах прыватнай 4-х клясавай прагімназіі. У Лібаве спачатку рэгентаваў хорам Чыгуначнай, а пасьля Аляксееўскай царквы. Тут-жа ладзіў сьвецкія канцэрты з хорам, спрабаваў выступаць як сьпявак-саліст, як аматар, бо ўжо выявіўся добры голас – барытон. У часе летняга сэзону ў марскім курзале наведваў сымфанічныя канцэрты, а таксама канцэрты выдатных эўрапэйскіх сьпевакоў Лабінскага, Касторскага і іншых.

У 1910 г. паехаў у Пецярбург і быў прыняты ў кансэрваторыю ў клясу прафэсара Габеля, але з прычыны ягонае хваробы перайшоў у опэрную клясу заслужанага артыста Тартакова на выдатнейшых музычна-драматычных курсах, што потым былі рэарганізаваныя ў Музычна-Драматычны Інстытут. У 1914 годзе, канчаючы опэрную клясу, быў ужо прыняты ў склад артыстаў новага ў той час тэатру Музычнае Драмы пад кіраўніцтвам Лапіцкага, дырыгентаў Арбеніна, Шнеефохта і іншых.

Увесну 1915 г. выступіў на конкурсе галасоў у былым Марыінскім тэатры. Тады зь першае пробы было вылучана з 365 сьпевакоў – 63, а ў другі раз з 63-х – толькі два: барытон Сэлях і сапрана Лебедзева. Сэлях атрымаў дэбют у опэры «Князь Ігар» у ролі Ігара й пасьля пасьпяховага выступленьня ў дэбютным спэктаклі быў

залічаны ў склад опэрнае трупы як саліст-сьпявак на першыя адказныя ролі.

Ад 1915 да 1924 г. як прэм'ер-барытон працаваў у опэры былога Марыінскага тэатру, выступаючы ў спэктаклях разам з Шаляпіным (у «Хаваншчыне», «Князі Ігары», «Варожай сіле»), са Сьмірновым (у «Рыгалета», «Багеме», «Манон»), з Алчэўскім (у «Пікавай даме», «Праroку»), з Ліпкоўскай (у «Манон»), Яршовым («Кармэн») пад кіраўніцтвам Коўтса, Малько, Купэра, Дранішнікава, Пахітонава, у пастаноўках рэжысэраў Аленіна, Люскага, Лапіцкага, Мэйерхольда, Багалюбава, Мельнікава. Усяго за 9 год выступіў больш як у 25 ролях. За гэты час выяжджаў на гастролі ў 1917 г. у Рыгу ў былы Нямецкі Опэрны тэатар, у антэрпрызу Арбатава і Друзякіна, у 1918 годзе – у Яраслаў у опэру Южына, у 1921, 1923 г.г. – у Варонеж, у 1924 г. – у Таганрог і Растоў.

1-га кастрычніка 1924 г. на запрашэньне Інбелкульту пераехаў у Менск і застаўся за выкладчыка ў Менскім Музычным тэхнікуме й за старшыню музычнай падсэкцыі сэкцыі мастацтва Інстытуту Беларускае Культуры пры сп. Ігнатоўскім. Арганізаваў Беларускую Капэлю, стаяў на чале камісіі вывучэньня беларускага народнага танцу. У 1927 г. пры наркоме асьветы сп. Баліцкім быў прызначаны за дырэктара ў Першы Беларускі Драматычны тэатар.

Увесну 1927 году арганізаваў пастаноўку опэры «Русалка» ў беларускай мове, у якой сам сьпяваў ролю млынара. У 1930-м годзе, перад Усесаюзнай Алімпіядай тэатраў у Маскве, у час гастроляў тэатру ў Магілёве, пракурор Андрэеў двойчы прапаноўваў мне ўступіць у шэрагі камуністычнае партыі, але я адмовіўся, і пасьля пасьпяховага выступленьня тэатру на алімпіядзе па звароце ў Менск быў з дырэктарства зьняты як «нацдэм».

Далей быў за загадчыка Драматычных курсаў, за дырэктара Драматычнага тэхнікуму, за дырэктара апэрэты,

а далей быў абвінавачаны Гітгарцам і Дунцом у нацыяналізьме, таму што на загад Наркамасьветы своечасова ня выключыў з рэпэртуару 1-га Беларускага Драматычнага тэатру п'есаў «Кастусь Каліноўскі», «Каваль-ваявода» й «Над Нёманам». Пасьля гэтага, увосень 1933 году, пакінуў Менск і выехаў працаваць у Ленінград. Там працаваў намесьнікам дырэктара опэрнае студыі імя Рымскага-Корсакава, далей – рэжысэрам Вандроўнае опэры Усерасейскага Тэатральнага Таварыства. У 1937 г. быў запрошаны на рэжысэра ў Дом Культуры прамкаапэрацыі ў г. Чаркасы, дзе сумяшчаў кіраўніцтва студэнцкімі гурткамі Пэдагагічнага інстытуту, а ў 1939 г. пераехаў у Лугу, пад Ленінградам, дзе працаваў рэжысэрам драматычнага калектыву Дому Культуры. Там-жа атрымаў кавалак зямлі і будаваў дом-дачу, закончыць якую перашкодзіла вайна.

Пасьля прыходу ў Лугу нямецкай арміі на заданьне генэрала дывізіі арганізаваў канцэртна-эстрадную групу, у якой хор станавіў 27 асобаў. Арганізаваў таксама й камэдыйна-драматычны калектыў зь 9 асоб, балет з 8 асоб і домравую аркестру з 12 асоб. Адначасна, як былы настаўнік, быў прызначаны за дырэктара двух 4-х клясавых школ – жаноцкай і мужчынскай.

У сьнежні 1942 г. атрымаў зь Менску запросіны пераехаць у Менск, на бацькаўшчыну, на працу ў галіне тэатральнага мастацтва. Я й прыехаў у Менск у чэрвені 1943 г. Цяпер я працую на становішчы кіраўніка Аддзелу прафэсійнага мастацтва Беларускага Культурнага Згуртаваньня пры Цэнтральнай Беларускай Радзе, адначасна займаючы становішча заступніка старшыні Беларускага Культурнага Згуртаваньня.

## Алесь Змагар[434]

# Мой жыцьцяпіс[435]

Перад тым, як пачаць апісваць свой жыцьцяпіс, я мушу коратка спыніцца на радаслоўнай маіх дзядоў, якія мелі вялікі ўплыў на ўсё маё жыцьцё.

Прадзед майго бацькі, які пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай (Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага) быў моцна пакрыўджаны маскалямі, ратуючы сваё жыцьцё, падаўся ў Запарожскую Сеч. Валодаючы надзвычайнай сілаю, ён хутка здабыў сярод запарожцаў вялікую пашану. Ды нядоўга яму давялося красавацца сярод запарожцаў. Цераз пару гадоў маскоўская царыца Кацярына выкарыстала нагоду й зруйнавала Запарожскую Сеч. І павандравалі запарожцы на Кубань пад чэчэнскія кулі. Там нарадзіўся мой прадзед і вырас моцны, як дуб. Ваяваў з туркамі, быў у Пэрсіі ды, вярнуўшыся на Кубань, не паладзіў з атаманам, стаўленікам і вялікім халуём маскоўскага цара, і выехаў на Беларусь у Слуцкае Палесьсе, у дрыгву якога не дасягала нага маскаля. Праз які час мой дзед, Тарас Яцэвіч, купіў у засьценку Збудзішчы Грэскай воласьці 100 дзесяцін зямлі. Ён быў такі самы асілак, як і ягоныя дзяды, з дубінаю хадзіў на

---

[434]Алесь Змагар (1903) - пісьменьнік, грамадзкі дзеяч.

[435]Рукапісны варыянт аўтабіяграфіі Алеся Змагара (Яцэвіча) захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк). Ведамыя, прынамсі, яшчэ два варыянты аўтабіяграфіі Алеся Змагара: адзін друкаваўся ў часапісе «Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі», чэрвень і ліпень 1985; другі – у кнізе А. Змагара «Мае ўспаміны» (Выдавецтва Беларускага Вызвольнага Фронту, ЗША, 1985 г.).

мядзьведзя й ненавідзеў маскалёў. Быў ён спрытным коньнікам і пачаў вучыць мяне коннай язьдзе, калі мне было толькі 4 гады. Не забыцца ягоных слоў: «Будзе й тут бяда, і табе гэта прыдасца. Калі вырасьцеш, падавайся на Кубань. Там ёсьць беларускія станіцы. А калі й там будзе бяда, то валі ў Чэчню. У чэчэнскі аул ні адзін маскаль ня ступіць».

Што датычыцца майго дзеда па мацеры, то хоць ён і не валодаў такою неймавернаю сілаю, як дзяды па бацьку, але ён быў таленавіты красамоўца – баечнік. Апавядаў ён вельмі цікавыя байкі, часта пераплятаючы з гістарычнымі слаўнымі падзеямі Вялікага Княства Літоўскага.

«Ведайце, дзеткі, – казаў ён, – што мы ня рускія. Мы й не беларусы. Мы – ліцьвіны. Наша слаўнае калісь магутнае Валікае Княства Літоўскае заваявалі маскалі, назвалі сябе рускімі, а нам далі назоў "беларусы" дзеля падабенства з рускімі. Не забудзьце гэтага, як вырасьцеце. Любеце волю».

Нарадзіўся я ў 1903 г. у вёсцы Цараўцы Слуцкага ўезду ў сям'і вясковага хвэльчара. У 4 гады быў аддадзены да бабкі ў засьценак Збудзішчы Грэскай воласьці. Там дзед Хведар апавядаў цікавыя байкі, а дзед Тарас вучыў верхавой язьдзе, што мне вельмі падабалася, і ў 10 гадоў я зь лёгкасьцю скакаў цераз канавы, кусты й нават цераз невысокія жэрдачныя платы, што мне потым, як быў у казачым войску, вельмі прыдалося. Маючы 8 гадоў, паступіў у народную трохклясавую пачатковую школу, якую ня скончыў, бо ў 10 гадоў бацька аддаў мяне ў падрыхтоўчую клясу Слуцкае клясычнае гімназіі. Вучыўся я вельмі добра, любіў чытаць розныя прыгодніцкія апавяданьні, асабліва забароненыя для гімназістаў, пра Ната Пінкертона, Ніка Картэра, Шэрлака Холмса, Тэхаскага Жака і іншых. Асабліва мне падабаўся герой Дзікага Захаду, галава племені сіўксаў Віці Бэр. У міжчасе

бацька навучыў мяне плаваць, і я лёгка пераплываў Случ. У 1915 г., падчас калядных вакацыяў, мы мелі заданьне апісаць іх. Заміж аднаго лістка я напісаў цэлы сшытак, красачна абмаляваўшы беларускія Каляды на Случчыне. Успомніў я і «зорку», і «казу», і «мядзьведзя з жоравам», і «цыгана з кабылаю», і калядныя пачастункі, і гаданьне пад Новы Год. Апісваў я па-руску, але песьні й гутаркі пісаў па-беларуску. Мой сшытак зараз-жа быў перададзены інспэктару гімназіі А. А. Вазьнясенскаму, і на другі дзень я быў вызваны ў ягоны габінэт. Зайшоў са страхам, бо думаў, што будзе гутарка пра забароненую літаратуру. Але ён мяне адразу супакоіў, аддаў мой сшытак, зрабіўшы свае заўвагі, пахваліў ды парадзіў чытаць Лермантава й Пушкіна, дадаўшы, што зь мяне можа выйсьці добры пісьменьнік.

Перад рэвалюцыяй абшарнікі пачалі прадаваць свае маёнткі, і мой бацька купіў 24 дзесяціны. Заняліся сельскай гаспадаркаю.

Радасна сустрэлі апавяшчэньне 25 Сакавіка – Дня Незалежнасьці. Гімназісты выдалі першы свой часапіс «Прамень» і зьмясьцілі мой першы верш «Прамень».

У Слуцку на чале з Жаўрыдам працуе Камітэт. Войскі чужынцаў – немцаў, палякаў, чырвоных маскалёў, – руйнуючы беларускія сялібы, перакачваюцца па нашай бацькаўшчыне. Баронячыся ад чужынцаў, беларусы хапаюцца за зброю, а ў 1920 г. уся Случчына паўстала супраць крывавай навалы маскоўскіх чырвоных катаў і зацята абаранялася ў няроўнай барацьбе. Бацька з аддзелам у 80 стралкоў апэраваў у тылу чырвоных, зьнішчыў іхны карны аддзел Цыганкова ды, ранены, трапіў у палон. Я і іншыя юнакі былі ў разьведцы. Бацьку і іншых, узятых у палон, расстралялі, а мне пашчасьціла ўцячы. Трапіў да «зялёных». Каля мяжы новапаўсталае Польшчы я й мой сябра Ільлюк Кобер былі злоўлены й трапілі ў Слуцкую вязьніцу. Амаль год нас там катавалі. Паспытаў я й

жудасны халодны карцар (2 тыдні прабыў у цёмных лёхах вязьніцы), але, як вялі на расстрэл, зноў меў шчасьце ўцячы. Зноў – да «зялёных». Былы камандзір аднаго з аддзелаў балахоўцаў Якаў Трухан радзіць мне і Ільлюку Коберу паступіць у Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт.

Спачатку я арганізаваў у Цараўцах гурток СБМ, а потым у 1924 г. зрабіў фікцыйны падзел маёмасьці зь сям'ёю ды перадаў належныя мне 4 дзесяціны зямлі ў Цараўскую воласьць, за што атрымаў паперы, што я пралятар і ня маю ніякае ўласнасьці, а Ільлюк дастаў паперы, што ён – батрак.

Я здаў іспыты на «выдатна», Ільлюк-жа, ня маючы закончаных 4 клясаў, нічога ня здаў, але як батрак быў прыняты ўмоўна, што зь цягам часу іспыты здасьць, а мяне не прынялі, бо хоць пралятар, але ня меў спраўкі аб працы. Наступнага году я такую даведку дастаў і паступіў у БДУ. І то з дапамогаю Ільлюка, які пасьпеў пралезьці ў камсамол. Атрымаў стыпэндыю – 17 рублёў у месяц, зь якіх 12 вылічвалі на абеды, адзін на выпіску газэты «Правда» або «Известия», адзін – на МОПР і інш., 4 рублі выдавалі на рукі для закупу хлеба, солі, цукру ці паперы або алоўка. Лазьня і інтэрнат былі бясплатныя. Жыў упрогаладзь. Летнімі вакацыямі пайшоў на чорную работу – капаць канавы. Акрамя грошай, атрымаў даведку як чарнарабочы ды заадно й характарыстыку аб сумленным выкананьні работы.

У 1927 г. шырока разгарнулася нацдэмаўская праца й пачаліся арышты. Із студэнтаў БДУ першаю ахвяраю быў вельмі здольны студэнт 2-га курсу літаратурна-лінгвістычнага аддзелу сябра Крывіцкі.

Насоўвалася пагроза арышту, а таму раней напісаныя каля паўтысячы вершаў з тэматыкай – Бацькаўшчына, Слуцкае Змаганьне, каханьне – давялося схаваць, каб потым пры нагодзе перадаць для друку за мяжу.

Уключаюся ў нацдэмаўскую краязнаўчую працу, прымаю актыўны ўдзел у выступах «Сіняе Блюзы», навязваю сувязь з былымі слуцкімі паўстанцамі ды, каб мець рабочыя дакумэнты, іду на будаўнічыя працы, спачатку – абутковай хвабрыкі, а потым Унівэрсытэцкага гарадка. Дома не начую.

Маючы характарыстыкі з будаўнічых работ як «ударнік», у 1929 г. паступіў на працу ў мэханічны аддзел вагона-рамонтнага заводу «Полымя Рэвалюцыі», адкуль, каб мець дакумэнт сярэдняй школы, паступіў на 2-і курс электратэхнічнага аддзелу Вячэрняга Рабочага Ўнівэрсытэту, куды прымалі выключна рабочых. Цяпер, маючы ў кішэні два харошыя дакумэнты з фотаздымкамі (школьны сьведчыў аб маім пралятарскім паходжаньні, а завадзкі даваў права бясплатна ехаць прыгарадным поездам), я адчуваў сябе больш-менш бясьпечна на выпадак уцёкаў зь Менску.

У 1930 г. адбылося раскулачваньне хутаранцаў, арыштавалі матку, брата Валодзю, сясьцёр Ліду й Любу й выслалі за Урал, пачалі шукаць мяне. Не знайшоўшы дома, пакінулі картку, каб я зьявіўся ў НКВД. Прачытаўшы раніцаю вызаў, я доўга не марудзіў, сеў на прыгарадны цягнік, ад'ехаў ад Менску ды купіў білет да Батуму, бліжэй да турэцкай мяжы. У Харкаве была перасадка. Чакаць трэба было да ночы. Перад адыходам цягніка была аблава, і я выратаваўся толькі дзякуючы бяспрытульнікам, якія выключылі сьвятло й церазь невялічкую бакоўку вылезьлі ў вакно й дапамаглі пралезьці мне. Назаўтра даехаў да Ўладзікаўказа, вылез з вагона й вырашыўісьці пешкі па Ваенна-Грузінскай дарозе да Тыфлісу. Прайшоў 110 кілямэтраў, вельмі змарыўся, пару дзён адпачываў у парку, даехаў да Батуму, перабрацца за мяжу не ўдалося, успомніў дзедаву параду, вярнуўся на Кубань у Краснадар, потым у Ціхарэцкую, дзе паступіў на працу на паравоза-рамонтны завод ды як кубанскі казак завербаваўся на працу ў Данбас (у гэты час на Кубані быў голад), а потым 11

студзеня 1932 г. трапіў як курсант-аднагадзічнік у 34-ы Растоўскі Кавалерыйскі полк 6-й Чангарскай дывізіі, адкуль, як сярэдні камандзір запасу, 19 лістапада 1932 г. дэмабілізаваўся.

Паехаў у Менск. Праходжу паўз будынак НКВД. Вартавыя салютуюць мне. Бачна, кубанская папаха й камандзірская хворма маюць нейкі ўплыў. Пасьмялеў і вырашыў паехаць на Случчыну, зірнуць на свой хутар. Прыехаў. Будынкаў ужо не было, а выскачыўшы з-за куста чырвонаармеец адказырнуў маёй камандзірскай хворме, запытаў пропуск ды сказаў, што без дазволу хадзіць пабочным асобам тут забаронена, бо гэта ваенны палігон. Я хутка варочаюся назад у Менск.

У пошуках настаўніцкае працы зьвяртаюся ў Менскі Гарадзкі Аддзел Народнай Асьветы. Не памагла й вайсковая хворма, бо назаўтра сказалі, што працы ня маюць. Не знайшлося працы, нават часовай, і па «лікбезу». Па знаёмству трапіў на мясакамбінат, дзе арганізаваў спачатку групу, а потым цэлую школу з трыма настаўнікамі па ліквідацыі непісьменнасьці. А плата за працу йшла не ад ГарАНА, а ад Наркамату харчовай прамысловасьці.

У 1934 г., не жадаючы мець бліжэйшага знаёмства з НКВД, выяжджаю ў Кіеў. На маё шчасьце, у гэты час у Кіеве адчыняюцца дзевяцімесячныя Ўсесаюзныя курсы сьпіртавое прамысловасьці з аддзелам хімікаў, куды я, дзякуючы дакумэнту з Рабочага Ўнівэрсытэту, лёгка ўладкоўваюся. У прыгожых лябараторыях Кіеўскага цукровага інстытуту на Саломенцы курсанты вывучалі хімію й мікрабіялёгію.

Ледзь пасьпеў скончыць курсы, як атрымаў позву ў НКВД. Палажыўшы яе назад у паштовую скрынку, я тэрмінова пакінуў Кіеў. Зноў Менск. Па знаёмству – праца ў якасьці зьменнага інжынэра на дражджавым заводзе. Адначасна – асьпірантура. Дацэнт.

31 жніўня 1937 г. прызначаны дырэктарам 14-й сярэдняй школы дарослых, адначасна працую ў завочным сэктары Менскага пэдвучылішчы, а таксама ў Інстытуце гаспадарнікаў.

Зноў позва ў НКВД і ўцёкі на Каўказ, а там – Нальчык. 24 чэрвеня 1938 г. – Бячайскі перавал, зварот назад у Менск, рэгістрацыя ў ваенкамаце, дванаццацідзённы практычны збор, а ў хуткім часе – шасьцідзесяцідзённы вучэбны збор КУКЗ у Новачаркаску, пасьля якіх, атрымаўшы званьне сотніка, дэмабілізаваўся як камандзір запасу. Сувязі з школамі ня трачу й належную мне зарплату, як настаўніку, атрымліваю таксама са школ.

16 сьнежня 1940 г. зноў мабілізаваны й накіраваны ў 69 Аддзельны Разьведбатальён. Зноў дэмабілізаваны, але ў хуткім часе ў студзені 1941 г. зноў прызваны й накіраваны ў 145 Казачы полк 4-й Данской Казачай дывізіі. У маёй сотні былі чэчэнцы, інгушы, лезгіны ды іншыя каўказкія інародцы, якія люта ненавідзелі маскоўскіх парабаціцеляў і царскіх, і савецкіх часоў.

28 жніўня 1941 г. – зноў у Менску. Намесьнік Менскае акругі Р. Астроўскі прапануе мне вельмі выгадную гаспадарча-харчовую працу ў Менску. Я адмаўляюся. Тады накіроўвае ў Смалявіцкі раён дапамагчы старшыні Пятровічу арганізаваць раённую Ўправу.

29 верасьня 1941 г. еду на працу раённага школьнага інспэктара ў Радашкавіцкі раён, дзе адчыняю 50 народных школаў і гімназію. Паколькі немцы дазвалялі адчыніць толькі адну гімназію на акругу, дык дыпляматычна была астаўлена адна гімназія ў Радашкавічах як гімназія Вялейскай акругі, а тры іншыя (у Ракаве, Гарадку і ў Алёхнавічах) перайменаваныя ў Агульна-адукацыйныя курсы з гімназіяльнаю праграмаю. Разам з гэтым адчыняю Завочныя настаўніцкія курсы.

29 кастрычніка 1941 г. адчыняю Беларускую народную школу ў Раёўцы Ільлянскага павету.

17 лістапада 1941 г. Галоўны інспэктарат накіроўвае мяне на пасаду акруговага школьнага інспэктара ў Вялейку, ад чаго я адмовіўся і атрымаў вымову.

25 жніўня 1942 г. Галоўны інспэктарат накіроўвае мяне на пасаду акруговага школьнага інспэктара ў Ліду, я адмаўляюся, тады прызначаюць спачатку Н. Мядзейку, а потым – палкоўніка М. Дзямідава. Я еду ў Васіліскі павет на месца інспэктара, замардаванага польскімі тэрарыстамі, і ўключаюся ў школьную й нацыянальную працу.

1 сакавіка 1943 г. атрымліваю прызначэньне ў якасьці школьнага інспэктара на Жалудоцкі павет, дзе польскія тэрарысты таксама замардавалі школьнага інспэктара, ягонага сакратара й старшыню павету.

У жніўні 1943 г. працую ў якасьці кіраўніка акруговых настаўніцкіх курсаў ў Лідзе ды дапамагаю палкоўніку М. Дзямідаву арганізаваць Беларускую самаахову ў Лідзе.

3-га сьнежня 1943 г. прымаю справы яшчэ й Шчучынскага школьнага інспэктарату ды пераяжджаю ў Скрыбава.

У вольны час пішу вершы ды часам газэтныя артыкулы. Арганізую ўшанаваньне нашых нацыянальных і рэлігійных сьвятаў, гурткі дэклямацыі, хор і рэфэраты.

27 чэрвеня 1944 г. быў дэлегатам ад Лідзкае акругі на Другім Усебеларускім Кангрэсе.

Хутка насоўваюцца на Менск чырвоныя маскалі. Беларуская Цэнтральная Рада выяжджае. У Скрыбаве Лідзкай акругі падарвалі іхны цягнік. На шчасьце, вагон БЦР застаўся цэлы. Наведваю сяброў БЦР ды атрымліваю «шутцбрыф». Маючы на руках такі важны дакумэнт, захопліваю таварны вагон ды пачынаю пераносіць свае пакункі, асабліва з кнігамі. Адначасна ўладжваю ў вагон віцебскага вэтэрынара з кароваю ды сям'ю са Смаленшчыны, таксама з кароваю. Забягаю ў

Мажэйкаўскі, паўкілямэтра ад Скрыбава, спіртзавод ды, на ўсялякі выпадак, набіраю біклажку сьпірту.

Прапусьціўшы цягнікі зь Менску й Ліды, наш цягнік са Скрыбава адыходзіў астатнім і мог трапіць у рукі чырвоных, што мы цяжка перажывалі. Едзем па маршруту на Вільню. Вільня ўжо захоплена ворагам. Паварочваем на Варшаву. Не жадаючы ехаць у Нямеччыну, выладоўваемся, не даяжджаючы Варшавы, у Скрудзе. Наведваюся ў Беларускі Камітэт у Варшаве, там сустракаю былога аднакурсьніка па БДзУ Плашчынскага. Аднойчы, вярнуўшыся з Варшавы, даведаўся, што савецкія партызаны, спаткаўшы Смаленца, пыталі, ці не нацдэм я й ці ня ўдзельнік Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Тагды-ж уначы перабіраемся ў Варшаву, адкуль немцы вязуць нас у Ліцманштат.

Уцякаем у пусты вагон іншага цягніка й трапляем у Петрыкаў, а потым у Чэнстахоў. Цягнік ідзе ў Чэхаславакію, куды і я хачу, але немцы адчапілі наш вагон, і мы трапляем у лягер зь сем'ямі ўкраінскіх паліцаяў і цэлым статкам кароў. Жывецца вельмі добра, бо мяса й малочных прадуктаў дастаткова. Праз колькі месяцаў напраўляюць мяне на працу ў якасьці бухгалтара на ваенную фабрыку, а жонку – у «люфт-вафэ». Зноў уцёкі. Непрыемнасьці з жандармэрыяй. Заступніцтва нейкай знатнай нацысткі, і мы – у Вене. Тут-жа і атаман Штоўхань.

14 жніўня 1944 г. трапляем у лягер Штрасгоф. Кругом калючы дрот і вартавыя. Пару глыткоў сьпірту, і я прапушчаны за вароты. Даведваюся ўнівэрсытэту, рэгіструюся як навуковец, атрымліваю прадуктовыя карткі, раблю закупы й варочаюся назад. Вартавы атрымлівае пару сігарэт.

29 жніўня пераяжджаю ў Дзюрхгангслягер.

18 верасьня маю накіраваньне ў Грац на працу па славістыцы ва ўнівэрсытэце. Я рыхтуюся. Да мяне падышла

якаясь славутая на ўсю Польшчу гадалка й выгадала мне сьмерць падчас паездкі. Паездку адкладаю на суткі й застаюся жывы, бо цягнік быў ушчэнт разбамбардаваны ангельскай авіяцыяй.

Пераяжджаю ў іншы лягер, зь якога на дзень выпускаюць, каб самі шукалі сабе работы, але кормяць добра, і работы ніхто не шукае. Аднойчы зьявіліся эсэсаўцы, каб усіх нас арыштаваць і паслаць на фронт капаць акопы. За дзьверы нікога не выпускаюць. Чарка сьпірту адчыніла мне дзьверы. Зьяўляюся да беларускай арганізацыі, каб дапамаглі нам у нашай бядзе. Тэлефануюць. Адказваюць, што нічым дапамагчы ня могуць. Еду ў штаб казакаў. Тыя хутка акружаюць наш лягер, кольбамі вінтовак адчыняюць дзьверы і ўсіх вызваляюць з-пад стражы.

12 кастрычніка 1944 г. я на прыватнай кватэры ў Швадорфе, Вена. Маючы дакумэнты школьнага інспэктара беларускіх школ на Беларусі, іду да дырэктара ваеннай фабрыкі з прапановаю адчыніць пры фабрыцы дзіцячую беларускую школу. За тыдзень было ўсё арганізавана, і школа пачала працаваць.

23 кастрычніка 1944 г. паведамляю ў Бэрлін БЦР.

25 кастрычніка 1944 г. атрымліваю з БЦР ад кіраўніка аддзелу прапаганды, прэсы й культуры Аўгена Калубовіча ўпаўнаважаньне для адчыненьня ў Вене беларускай пачатковай школы. Адчыняю яшчэ тры школы й прызначаю настаўнікамі паэта Алеся Салаўя, мастака Пятра Мірановіча й былую настаўніцу Радашкавіцкага павету Паплаўскую.

9 сьнежня 1944 г. школьны рэфэрэнт БЦР доктар А. Орса высылае мне другі дакумэнт.

Час ідзе, і насоўваецца з Югаславіі савецкае войска. Мінула 2 месяцы, а настаўніцкай зарплаты не атрымалі. Асінскі й Кіт зь Вены выехалі, а разам зь імі, пэўна, і настаўніцкая зарплата, а мы яе чакаем. У стале запіска,

каб я прыняў іхныя справы. Раптам заскочыў зьвязны прэзыдэнта Астроўскага лейтэнант Анатоль Плескачэўскі. «Уцякайце, – прапануе, – хутка рускія займуць Вену». – «Ня маем за што ехаць, чакаем на зарплату». – «Вам выслана». – «Не атрымалі». – «Чакайце. Еду да прэзыдэнта. Заўтра вярнуся». І, дзякуй яму, назаўтра мы атрымалі грошы.

Цягнікі перапоўнены. Трэба ўцякаць пешкі. Я, Алесь Салавей і нашы жонкі ўпрагліся ў каляску з нашымі рэчамі. Па дарозе заскочыў у канцылярыю Нацыянальнай Нямецкай Рабочай партыі, бяру «маршбэфэль» з дазволам праезду з каляскаю на Аахэн, а адтуль – на далейшы праезд. Патрэбу запісу далейшага праезду я вытлумачыў таму, што, пакуль мы даедзем да Аахэну, там будзе ўжо варожае войска.

Дарога ў цэнтар Вены забіта хурманкамі. Дарога ўлева на поле свабодная. Жандары. Паказаў пропуск. Прапусьцілі, але папярэдзілі, што ў тым кірунку рухаецца рускае войска зь Югаславіі, і трэба сьпяшацца. Едзем усю ноч. Справа ад дарогі гараць аўстрыйскія сялібы, зьлева – канава й кустарнік. Назаўтра даведаліся, што амаль поруч з намі, 200-300 мэтраў зьлева, рухалася савецкае войска. Карыстаючыся іхнаю перадышкаю, мы перасеклі дарогу й накіраваліся на Бадэн, мяркуючы папасьці на поўдзень да казакаў. Не ўдалося, і мы павярнулі на Пёльтэн, а потым на Рыд (Верхняя Аўстрыя). Спыняемся ў Кірхгайме. Амэрыканцы.

12 чэрвеня 1945 г. з дазволу амэрыканскай вайсковай улады арганізую Беларускі Камітэт Непаваротцаў і шмат каго ратую ад прымусовай высылкі на Радзіму або ад сьмерці. Зьвязваюся з кіраўніком Беларускага Камітэту ў Зальцбургу сп. Уладзімерам Гуцькам, дапамагаю ўкраінцам арганізаваць Украінскі Камітэт у Рыдзе, навязваю лучнасьць са старшынёй Беларускага Камітэту ў Лінцы пастарам Янам

Пятроўскім, арганізую беларускую школку, хор, чытаю рэфэраты, пішу вершы й раман «Случчына ў вагні».

1946 г. Канчаю 1-ую квадру рамана, выдаю апрацаваны вершам казачны абразок «Рэпка». Праводжу нацыянальную працу, як і раней.

1947 г. Выдаю апавяданьне «Случчакі», у Рыдзе пры ІРО канчаю курсы й здаю экзамен на майстра па вырабу лялек, перапісваюся зь Лявонам Рыдлеўскім, былым слуцкім паўстанцам, ды пасылаю скаргу аж у Жэневу на апанаванае маскалямі лягернае кіраўніцтва за адмову запісаць у анкеце маю нацыянальнасьць – беларус. Адчыняю ў лягеры беларускую дзяцінную школу.

1948 г. Рыхтуюся да выезду ў Францыю.

23 травеня 1949 г. у лягеры «Жывэт», на мяжы з Бэльгіяй.

2 ліпеня 1949 г. падпісваю кантракт на сельскагаспадарчыя працы ў мільянэркі – фармаркі Дуршон Івон у вёсцы Сантэны, правінцыі Сайн-Уаз. Кожнае нядзелі еду ў Парыж на беларускія сходкі. У хуткім часе мяне абіраюць на старшыню Беларускай сэкцыі Французкага Хрысьціянскага Саюзу, і я зноў уключаюся ў актыўную нацыянальную працу.

Быў прыняты ў сябры Рады БНР. Выконваю абавязкі першага сакратара Рады БНР, кіраўніка Французкай сэкцыі Рады, арганізоўваю пры Сындыкаце з дапамогаю артыста Аўгена Кавалеўскага беларускі драматычны гурток, хор, гурток народных скокаў, дэклямацыі, уваходжу ў рэдкалегію часапісу «Баявая Ускалось», чытаю рэфэраты, адкрываю беларускую школку.

1-га сакавіка 1951 г. пераяжджаю на працу да Профіта ў Вінант пар Жуар.

Пачынаюцца мае непаразуменьні з прэзыдэнтам БНР Абрамчыкам. Я, былы прыхільнік БАПЦ, радзіў Абрамчыку аднавіць яе, але не рабіць зь яе палітычнага прыдатку ягонага палітыканства. Дый палітычнай эміграцыяй ён лічыў

толькі чырвоных, а нашу эміграцыю лічыў калябарантамі, у той час як я лічыў усіх тых, хто вырваўся з чырвоных кіпцюроў ад сьмерці й трапіў за мяжу, палітычнымі эмігрантамі. Па сваіх паглядах ён быў «ружовы». Не чырвоны (інтэрнацыянальны), а ружовы (нацыянальны камуніст), а я быў антыкамуніст, нацыянал-дэмакратычны анархіст, праціўнік усялякае дыктатуры.

У Парыжы я пазнаёміўся зь вельмі здольным студэнтам гістарычных навук Сарбонскага ўнівэрсытэту Янкам Філістовічам, кіраўніком беларускай моладзі.

1952 г. Працую ў якасьці першага мэтрдатэля ў палацы буйнога мільянэра Мэтэталя (Шато дэ Пэроз). Пішу апавяданьні й вершы.

1-га лютага 1953 г. залічаны ў склад сяброў Беларускага Вызвольнага Руху й прыпісаны да афіцэрскага корпусу. Пасада – культрэфэрэнт пры штабе БВР.

Рыхтуюся да эміграцыі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, працую мэтрдатэлем, у вольны час пішу раман «Случчына ў вагні».

Увесь час майго перабываньня ў Францыі супрацоўнічаю з часапісам «Моладзь». Быў неафіцыйным рэдактарам газэты «За Волю», але, пасьля таго, як абрамчыкавая цэнзура не прапусьціла маіх артыкулаў «Лістапад» і «За незалежнасьць Беларусі», я ад удзелу адмовіўся. Напісаны ў 1952 г. верш «Да згоды», паслаў у бэнээраўскую й бэцээраўскую прэсу, але ні адна зь іх майго верша не надрукавала, тагды паслаў Хмары, і той надрукаваў. Прапанову Абрамчыку і Астроўскаму прыйсьці да паразуменьня ды спачатку чаргавацца прэзыдэнцтвам і віцэ-прэзыдэнцтвам, а свае Рады злучыць у адну Раду, якая з часам і абярэ сабе прэзыдэнта Рады, Абрамчык катэгарычна адкінуў.

Перад ад'ездам у ЗША мяне наведаў сьвятар Фінкоўскі, ведамы мне яшчэ зь Беларусі, калі пад Менскам

рваліся бомбы, а ён адважна адкрываў цэрквы, правіў Богаслужбы ды масава хрысьціў дзяцей і дарослых.

1 сакавіка 1956 г. у Нью-Ёрку (ЗША). Ад беларусаў прыгожа сустрэла мяне юначка Галіна Ганчарэнка.

2-га сакавіка я ў Клевеландзе, дзе на мяне чакаў сябра Аўген Каханоўскі. Ён вельмі дакладна азнаёміў з жыцьцём у Амэрыцы.

Уключаюся ў нацыянальную працу, выступаю на сходцы Аб'яднаньня Беларускіх Нацыянал-Дэмакратаў (АБНД), затым на сходцы аддзелу БАЗА. Еду ў Саўт Рывэр.

У Нью-Ёрку сустракаюся з М. Паньковым, І. Плашчынскім, Н, Мядзейкай і Паплаўскай.

Запрошаны старшынёй Нацыянальнай Беларускай Рады Мікалаем Дзямідавым, еду ў Чыкага, знаёмлюся з жонкай былога сакратара беларускага ўраду Варонкавай, са Змагаром-Чарапуком, зь якім моцна падружыўся, ды з другімі актывістамі старой эміграцыі. Выступаю па радыё. Лена Кузьміцкая й Валя Ламакава зачытваюць «Шляхі Беларускага Вызвольнага Змаганьня», на сцэне Лена з Валяй танцуюць «Лявоніху».

Запрошаны Хмараю ў Таронта на ўшанаваньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня, выступаю з успамінамі.

У Клевеландзе падтрымліваю сьвятара Крыта ў ягонай абароне праваслаўя ад вуніяцтва.

У 1962 г. выдаю зборнік вершаў «Да згоды». Выступаю з рэфэратамі на сходах. Працую ў БВР.

У 1963 г. працую настаўнікам у беларускай суботняй школе. Пішу драматычныя п'ескі «25 Сакавік», «Купала», «Коляды» для арганізаванага знанаю беларускаю сьпявачкаю Ірай Калядою драматычнага гуртка, а для школкі – «Калядныя сьняжынкі», «Школьныя хібы» й шэраг вершаў.

У 1965 г. выдаю кнігу «Вызвольныя Шляхі» й газэту «Незалежная Беларусь».

У 1967 г. выдаю кніжку «Лесавікі».

У 1973 г. працягваю выдаваць газэту «Незалежная Беларусь» і выдаю кніжку «Пражэктар». Падрыхтаваны да друку: «Па крывых каляінах» – апавяданьні, «Кветка шчасьця» – драматычныя творы, «Жыве Беларусь» – вершы, «Пад чаромхай» – вершы, «Край дзіваў, песьні й красы» – 1-ая квадра рамана «Случчына ў вагні».

У 1978 г. пераяжджаю ў Флёрыду, купляю хату, канчаю пісаць раман «Случчына ў вагні» ды працягваю нацыянальную працу, выступаю ў школах для іншанацыянальных студэнтаў з рэфэратамі пра Беларусь, выступаю ў Дзень Паняволеных Народаў, а таксама выкарыстаў радыё «Вольны Кабул» для прызыву беларускіх жаўнераў не зьнішчаць адважных афганскіх патрыётаў у іхнай барацьбе за вызваленьне Афганістану.

Пішу ў беларускія газэты «Беларускі Голас» і «Беларускі Час», а таксама ў казацкія часапісы «Казачье Слово» й «Казачья Жизнь».

Што да майго сямейнага жыцьця, то на Бацькаўшчыне я меў блізкіх прыяцелек, але афіцыйна жаніцца ня мог, каб не нараджаць іх на небясьпечныя спатканьні з НКВД. Жаніўся я падчас нямецкай акупацыі. Быў шчасьлівы. Жонка Валя дапамагала мне ў нацыянальнай працы як на бацькаўшчыне, так і ў Аўстрыі, Францыі і ў ЗША, аж пакуль у 1957 г. не адышла ад мяне. Празь які час я зноў пачаў выступаць з рэфэратамі, а для дапамогі, асабліва ў сьпевах па-беларуску, пачаў запрашаць студэнтак – японак, кітаянак, в'етнамак, мэксіканак, пэруанак, калумбіек, гватэмалак ды іншых з Паўдзённай Амэрыкі, якіх я навучаў пець па-беларуску за два тыдні. Выступы нашы карысталіся надзвычайным посьпехам. Асаблівым посьпехам адзначыўся выступ

прыгожае маладое японкі, апранутай у народнае беларускае адзеньне, у ролі багіні Шчодры.

Цяпер маю клопат, каб выдаць мае падрыхтаваныя да друку творы.

26 красавіка 1984 году

Дарагі Янка Золак!

З твайго ліста даведаўся, што ты быў моцна хворы. Спачуваю, вельмі спачуваю. Цешуся, што ты папраівўся й прыступіў да творчай працы. Я таксама не зусім здаровы, маю цукрыцу, а зь ёю й розныя клопаты. Дзякую, што не забываеш. Як толькі я атрымаў твой ліст з просьбаю надаслаць мой жыцьцяпіс, я зараз-жа пачаў расшукваць сярод тысячы розных папераў дакумэнты, атрыманыя падчас савецкага панаваньня, потым – нямецкай акупацыі, перабываньня ў Аўстрыі, Францыі й нарэшце – у ЗША. Гэта заняло шмат часу, але 22 чэрвеня я закончыў пісаць свой жыцьцяпіс і выслаў табе. Па атрыманьні – паведамі мне. Мушу дадаць, што ў жыцьцяпіс я, на вялікі жаль, забыў запісаць вельмі важную падзею, а менавіта:

7 студзеня 1972 г. я атрымаў амэрыканскае грамадзянства.

У школах, падчас вывучэньня ангельскай мовы, чытаў рэфэраты пра ўшанаваньне амэрыканцамі сваіх нацыянальных сьвятаў, пра жанчын ЗША, а таксама – пра Вызвольнае Змаганьне Беларускага Народу й Каханьне, якія ўвайшлі ў падрыхтаваны да друку збор твораў Аляксандра Яцэвіча.

У 1958 г. дырэкцыя ўнівэрсытэту ў Індыяне запрасіла на працу навучаць ваенных расейскай мове, але ад выезду з Клевеленду я адмовіўся.

Некалькі слоў і пра маё інтымнае жыцьцё, пра мае сымпатыі, пачынаючы зь дзяцінства:

1917г. – Валя Квяткоўская, гімназістка Слуцкае жаночае гімназіі. 1918 г. – Стаська, уцякачка з Варшавы. 1919 г. – Саша Дубовік. 1920 г. – гімназістка Зіна. 1921 г. – Алеся Бірулянка. 1923 г. – Луша Люцко. 1932 г. – Насьця Самусевіч. 1933 г. – Соня Шварц. 1934 г. – Дуся, курсантка па хіміі. 1939 г. – данская казачка ў Новачаркаску. 1940 г. – Эма Васілеўская. 1941 г. – Насьця Пыск. 1942 г. – Зіна Яблонская. 1943 г. – Ядзя Мазуркевіч. 1944 г. – Валя Кеда, настаўніца, зь якою ажаніўся і якая пакінула мяне ў 1957 г. у ЗША. 1962 г. – Казя з Заходняй Беларусі. 1963 г. – Кармэн, гішпанка. 1964 г. – Адэлаіда, кубінка. 1965 г. – Зулема, гандураска. 1966 г. – Эр іл Маз, турчанка; Гелена Сабляк, здольная маладая артыстка, харватка; Блянка Герэра, сальвадорка. 1967 г. – Ван Джу Парк, карэянка. 1968 г. – Надзея, лебанонка; Дзіна Альбарноз, пэруанка; Жозэфіна, гватэмалка; Той Сатайятгам, тайланка. 1969 г. – Марыя Мэнэндэя, гватэмалка. 1970 г. – Маргарыта Марквіна Рохо, мэксыканка. 1971 г. – Рай Сэрда, нікарагуанка. 1972г. – Набока Кунімац, японка; Ганасана Ясуко, японка. 1973 г. – Адэлаіда дэ ля Пуэрто, кубінка. 1974 г. – Мірыам Рывэра, пуэртарыканка; Шын, карэянка. 1975 г. – Шарон Ковэр, амэрыканка; Янг Пун, карэянка. 1976 г. – Амэлія Мэлэндэз, гандураска, другая жонка. 1982 – Юстына, філіпінка. Вось тыя, якія падчас мае апатыі да жыцьця ўздымалі мой настрой і ўлівалі натхненьне да далейшай творчай працы.

Твой Алесь Змагар

20 сакавіка 1986 году

Віншую зь векапомным днём 25-га Сакавіка ды жадаю здароўя й вытрываласьці ў далейшай працы для дабра Беларускаму народу<...>.

Наконт жаніцьбы, думаю, што трэба. Тагды й нацыянальная праца пойдзе спарней. Цяпер-жа, калі я што-небудзь цікавае й напішу, то пад уплывам якое-небудзь каханкі (гёрл-фрэнд), якія наведваюць мяне й надаюць натхненьня. Бязь іх-жа няма ахвоты ня толькі пісаць, але й жыць.

Ведзьмы я не спаткаю, бо яны адразу адпадаюць ад мяне. Чалавек я цьвёрды, і кіраваць мною каму-небудзь немагчыма. Кожную параду або прапанову ці то жонкі, ці каго іншага я спакойна выслухоўваю, дзякую, але выконваю толькі тагды, калі яна падпадае пад мае думкі. Супярэчыць-жа мне зь першага дня ніякая жонка ня будзе, аб чым яна будзе ведаць яшчэ да прыходу ў маю хату... Што рабіць і як рабіць я ўкажу адразу, і не я павінен жыць зь ёю, а яна са мною. Так што я жанімства не баюся, а трэба прысьпешыць, бо хутка надыдзе й старасьць. Як-ніяк маю 83 гады й на фізычнай працы ў агародзе пачынаю адчуваць, што слабею. Дый кіраўніцтва БВР хачу перадаць камусь другому, прычым ахвіцэру з рангам не ніжэй капітана, які знаёмы з выведам і контр-выведам.

Трымайся.

Твой Алесь

## Уладзімер Брылеўскі[436]

## Аўтабіяграфія[437]

Кожны чалавек, які родзіцца, не выбірае сабе ані бацькоў, ані месца нарадзінаў. Мне пашчасьлівіла нарадзіцца ў славутай вёсцы Лоска Валожынскага раёну, вёсцы Сымона Буднага[438]. Бацька мой Рыгор, таксама як мой дзед Марка і ягоны бацька й дзед, нарадзіліся ў Лоску. Дзед мой Марка быў селянінам і будаўляным кантрактарам, а мой бацька ў вольныя зімовыя дні, калі дзеці былі ўжо вольныя ад абавязкаў пасьвіць сьвіней, цялят, кароў, вучыў дзяцей «граматы», гэта: азбукі, чытаць, пісаць, рахаваць – і, як вясковы пастыр, за сваю працу па чарзе абедаў у кожнай хаце, дзе былі ягоныя вучні. Колькі вучняў, столькі абедаў. Рахунак просты. Пазьней у жыцьці пры спатканьні з каторым ізь іх казаў: «Гэта мой студэнт».

Яшчэ малым дзіцём бацькі забралі мяне із сабой у Залесьсе, дзе я прыдбаў сабе братоў і сястрычку, калегаў, зь якімі праходзіла маё шчасьлівае дзяцінства над Вяльлёй[439]. Нашы беларускія землі, паводле Вярсальскага трактату, перайшлі ў 1920 г. да Польшчы. Я пачаў ужо

---

[436]Уладзімер Брылеўскі (1917) – грамадзкі, палітычны й царкоўны дзеяч. Аўтар шматлікіх артыкулаў у беларускім і польскім друку.
[437]Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк). Напісана ў 1995 г.
[438]Гл. артыкул Ул. Брылеўскага пад псэўданімам Васіль Лоскаўскі. «Лоска і ягоная мінуўшчына». «Беларус», №262, 1979.
[439]Гл. артыкул Ул. Брылеўскага «Чым славіцца Залесьсе». «Беларус», №246, 1979.

хадзіць у школу, якая напачатку была беларускай, а пазьней – польска-беларускай. Навучыўся чытаць па-польску. Тут адзін зь «дзядзькоў», сабраўшыхся ў хаце майго бацькі, выняў нававыданую польскую манэту й кажа: «На, Валодзя, прачытай, што тут напісана». Я чытаю: Rzeczpospolita polska. «Ха, ха, ха, – расьсьмяяліся дзядзькі. – Рэч пад спадніцай польскай». Такую ацэнку мела Польшча ў беларускіх сялян. «Гэтыя пшэкі», – маўляў мой бацька.

Пазьней у гэтых «пшэкаў» і ў «рэчы-пад-спадніцай» прыйшлося мне вучыцца ў Варшаве, служыць у войску ў афіцэрскай школе ў Дэмбліне, адбываць практыку ў Сельскагаспадарчым Інстытуце ў Пулавах. Атрымаў працу не па спэцыяльнасьці, а ў дырэкцыі жалезных дарог у Вільні, з умовамі, якія мяне вабілі: сама Вільня, а пасьля, акрамя зарплаты, дадатковыя выгоды – 12 дармовых білетаў на праезд чыгункай па ўсёй Польшчы.

У 1935 годзе, калі мне было толькі 18 гадоў, польскі паважны часапіс «Wshód-Orient» зьмясьціў мой першы кароткі артыкул пра Якуба Коласа й пераклад на польскую мову ягоных «Думак у дарозе».

«Вызваленьне» Заходняй Беларусі ў 1939 г. застала мяне ў Вільні, якая «шчодрай» рукой Сталіна была перададзеная Ліцьве. Трэба было «вяртацца» на Беларусь. Тут, як сын «служителя культа» (бацька быў дзякам у Сьв. Пакроўскай царкве ў Залесьсі), працаваў ціха-моўчкі то ў Зямельным аддзеле як аграном, то ў «Белторгплодовощтресте» у Маладэчне. Да 1939г. савецкая прапаганда ў Заходняй Беларусі мела вялікае поле й сабірала вялікае жніво. З прыходам Саветаў міт пра шчасьлівае жыцьцё «пад сонцам сталінскай канстытуцыі» пырснуў, як мыльная бурбалка.

Новае паняволеньне немцамі ў 1941 г. лічылі збаўленьнем. Каму доля Беларусі й беларусаў не была абыякавай, кінуліся да змаганьня з палякамі, савецкімі

партызанамі, польскай Арміяй Краёвай, каб абараняць правы свайго народу на сваёй зямлі, арганізоўваць школы для дзяцей у меру тых магчымасьцяў. Будучы ў віры ўсіх гэтых падзеяў, я разьдзяліў долю вязьняў у Вялейцы ў канцы 1943 году. Лягчэй было сядзець, бо ў той самай камэры сядзелі: Аляксандар Калодка (пазьней вязень Асьвенціму; памёр у Аўстраліі), Родзевіч – начальнік Вялейскага раёну (зьнішчаны ў турме), Галяк (выпушчаны стараньнямі сына). Замест расстрэлу я атрымаў вываз у Нямеччыну (разам з жонкай, калі-б яна зажадала). Зь вялікага ваеннага транспарту нам удалося ўцячы ў Фаніпалі, 25 км ад Менску. Мусілі ўцякаць з дому таксама, бо лясы кішэлі партызанамі ўсякай масьці. Чалавек пачаў баяцца ўсіх, асабліва жывучы на «зайчыных правох». Часапіс на беларускай мове «Новы Шлях» у Рызе (Латвія) патрабаваў карэктара, і я быў ім удзячны за той для мяне з жонкай прытулак. Тут я пазнаёміўся зь беларусамі: Канстанцінам Езавітавым, Уладзімерам Сядурам, сям'ёй Алеся Салаўя (Радзюк-Кадняк), Масальскім (Сокал), Міколам Дзямідавым, бацькам Міколы Сіцько.[440]

У канцы 1944 г. немцы выселілі з Курляндыі (Латвія) амаль усё насельніцтва, у тым ліку й нас. Пад бамбардыроўку савецкіх самалётаў у порце Лібава мы адплылі па Балтыцкім моры. У Гдыні (Польшча) нас віталі ангельскія бомбы, а ўжо ў Нямеччыне кожны дзень і ноч лупілі амэрыканскія. У траўні 1945 г. дачакаліся сапраўднага вызваленьня й канца Другой сусьветнай вайны.

І што-ж?

Беларусь – акрываўленая, разьбітая, зруйнаваная, зтэрарызаваная новымі арыштамі, расстрэламі, шыбеніцамі, вывазамі ў Сібір («Сибирь ведь тоже русская земля»). Мы на Захадзе апынуліся бяз бацькаўшчыны, бяз дому, краіны,

---

[440] Гл.: Незабыўны дзень у маім жыцьці. «Беларус» №242, 1977; На ўгодкі сьмерці Алеся Салаўя. «Беларус» №263, 1979.

безь сям'і й родных, бязь месца, якое можна было-б назваць сваім. Гняздо ў Залесьсі раскінутае. Старога бацьку забралі ў канцлягер. Аднаго брата забілі партызаны, другі апынуўся ў Англіі. Сястру выгналі з хаты «на волю лёсу». У Нямеччыне мы – «аўслендэры» (чужынцы). За табой ганяюцца савецкія агенты, каб цябе схапіць і забраць «на родину». Лягеры ДП (перамешчаных асобаў) акружаныя амэрыканскімі ці ангельскімі войскамі (залежыць ад зоны), каб савецкія «чорныя вораны» свабодна не маглі вылаўліваць няшчасных людзей, якія ня хочуць ехаць у савецкі «рай». Адно сховішча было ў польскіх лягерох, дзе людзі, скажам, з-пад Тулы, запісваліся палякамі, каб ратаваць жыцьцё. Заходняму сьвету (Англіі, Амэрыцы) не патрэбна была гэтая маса людзей, якім не было куды дзявацца. Трэба было ствараць немагчымыя ўмовы да жыцьця, каб людзі ўсё-ж выяжджалі. Мы з жонкай усё-ж вытрымалі 5 гадоў гэтай мізэры. У лягеры Зэедорф удалося арганізаваць гадзіну ў дзень беларусаведы й беларускай мовы ва Ўкраінскай лягернай школе. Пазьней, у 1947 г., ва ўкраінскім лягеры «Лысенко» ў Ганновэры, дзе была большая калёнія беларусаў, зь Міхалам А. Завістовічам і Віктарам Літаровічам арганізуем беларускую школу, а вучняў хапае на 4 клясы. Амаль 80 дзяцей.

У 1949 г. (вось ужо мінула ад таго 46 гадоў), дзякуючы афідавіту ад цёткі маёй жонкі (Асташонак), выяжджаем із старой, змучанай вайной Эўропы ў Новы Сьвет, у Нью-Ёрк, дзе жыве цётка, у новае жыцьцё і... няведамае будучае. Беларусь яшчэ далей асталася за намі, да яе на працягу ўсіх гадоў варочаліся толькі ў думках і снах. Пазьней наладзілася перапіска «празь дзясятыя рукі». Толькі ў 1969 і 1978 гг. жонка змагла спаткацца з роднымі ў Польшчы[441].

---

[441]Гл.: Турыстка. Мае ўражаньні з падарожжа ў Польшчу. «Беларус», №256-260, 1978.

Прыехаўшы ў Амэрыку ў чэрвені месяцы, мы ўжо ў ліпені пачалі высылаць ашурансы на прыезд у Амэрыку тым, хто яшчэ астаўся ў лягерох ДП у Нямеччыне. І так, на сваю адказнасьць, сьцягнулі ў Саўт Рывэр, Нью Джэрсі, 10 сем'яў, у тым ліку сем'і Завістовічаў, Літаровічаў, Гайшуноў, Касьцюкоў, Камянковых, Варанцовых ды іншых, якія сталі падставай найбольшай беларускай калёніі ў ЗША, а таксама моцным кулаком у арганізацыі парафіі й пабудове царквы.

Кожны з нас прыехаў сюды бяз мовы, прафэсіі ці фінансавых рэсурсаў. Шчасьцем было атрымаць хоць якую працу, хоць за якую плату. Я напачатку працаваў у садзе за 65 цэнтаў у гадзіну, жонка – на швэйнай фабрыцы за 60 цэнтаў. За работай не было часу сумаваць па Бацькаўшчыне. Эмігрант – гэта гной, на працы якога расьце Амэрыка й нажываюцца адзінкі. Эмігранты сваёй цяжкой працай будуюць дарогу для амэрыканскага «сукцэсу» (посьпеху) і – свайго ўласнага. Кожны з нас асягнуў тут «амэрыкэн дрым» (мрою амэрыканца). Кожны мае дом, самаход (2 або 3), рахунак у банку, плацім падаткі, і гэта – наша заслуга перад Амэрыкай, чаго вельмі часта не здабывалі амэрыканцы, тут роджаныя з пакаленьня ў пакаленьне. Усе жывуць у крэдыт, вышэй сваіх магчымасьцяў.

Праз Беларусь вякамі каціліся хвалі войнаў. Паганілі нашыя скарбы, руйнавалі нашу культуру. Але 75 гадоў камунізму нашую душу «вынесьлі на зьдзек». Нашае вуха й сэрца раніць расейшчына ў мове нашых «культуртрэгераў». Згубім мову – згубім саміх сябе. Ніхто нас ратаваць ня будзе, паколькі мы самі «ў чужацкую скуру лезем жыўцом».

У Саўт Рывэры быў добры хор пад кіраўніцтвам Сэлях-Качанскага. Давалі канцэрты для старой і новай эміграцыі ў ваколіцы. Мая жонка дэклямавала вершы Янкі Купалы «Брату на чужыне», «Цару неба й зямлі»,

«Паўстань з народу нашага, прарок». Плакалі ўсе, «старыя» й «новыя». Сягоньня прыходзіцца плакаць над доляй Беларусі, якая, быццам незалежная, адкідае нават сваю гістарычную эмблему – сьцяг, бо так хочацца здраднікам Бацькаўшчыны. Адзін жах! Хто й што можа выратаваць наш народ, калі ён сам сябе топча!

«...нарадзіцца з сэрцам, мабыць, давялося,
А цяпер паслухаў – дык яго няма...»

У 1994 годзе, 16 жніўня, адсьвяткаваў свае 77-я ўгодкі нарадзінаў, а 11 верасьня... памёр. Інфаркт! Дзякуючы жонцы і «амбулянсу» (хуткай дапамозе) вярнулі мяне да жыцьця. Прайшоў паважную апэрацыю на сэрцы. Пры гэтым атрымаў строк (інсульт), у выніку страціў зрок.

Гэты нарыс майго жыцьця напісала пад дыктоўку мая жонка Лёнгіна, сяброўка майго жыцьця й частка маёй Беларусі. Дзякуючы яе дальназоркасьці, прадпрымальнасьці й працавітасьці, мы пераехалі з Саўт Рывэру ў Флярыду, дзе былі створаныя для мяне ўмовы быць не «прыхільнікам беларушчыны», а яе абаронцам на ламах беларускай і польскай прэсы. «Інфармаваў сьвет», – як казаў пра мяне др. Станіслаў Станкевіч.

## Юры Жывіца[442]

# Маё паходжаньне[443]

Я, Юры Попка, нарадзіўся дня 7.10.1912 году на хутары Высокі Груд, воласьці Гарадзечнянскай, на Пружаншчыне, ад бацькоў Сымона й Ганны Попка. Дзявочае прозьвішча маці – Іванюковіч.

Мой дзед па бацьку называўся Хведар Попка, паходзіў зь вёскі Брады, дзе радзіўся й мой бацька.

Мой бацька зь дзьвюма сёстрамі яшчэ малымі дзецьмі засталіся сіротамі – памерла маці. Дзед мой ажаніўся з другой, але ўжо тады, калі пераехаў у Высокі Груд. Ад другой жонкі, майго бацькі мачахі, дзед меў яшчэ шэсьць дзяцей: чатыры дачкі й два сыны. Агулам сям'я складалася з шасьці дзяцей ад другой жонкі і ад першае тры, разам дзевяць дзяцей, двох бацькоў, дык разам аж адзінаццаць чалавек сям'і.

Дзед вёў гаспадарку і адначасна займаўся паляваньнем у Пушчы Белавескай, якая гранічыла зь вёскай Брады. Каля Брадоў працякала рака Лясная, па якой вясной сплаўлялі вялікія масы дрэва.

Абставіны жыцьця падзейнічалі на натуру майго дзеда – ён быў цьвёрды характарам, што задумаў, тое зрабіў, і заўсёды зь вялікім размахам.

---

[442]Юры Жывіца (1912-1992) – пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, заснавальнік Беларускага музэю ў Нямеччыне.

[443]Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк). Рукапіс мае падзагаловак: Нямеччына, Віндсбэрг – Пірмазэнс, 1954 г.

Як толькі скончылася паншчына й было дазволена сялянам купляць зямлю, дзед мой адразу пачаў скупліваць палоскі ня толькі ў Брадох, але й за Брадамі. Дапамагалі яму ў гэтым грошы – золата, якога меў дастаткова. Варта зрабіць тут паясьненьне, скуль ён іх узяў.

У 1812 годзе, як Напалеон ішоў на Маскву, каля Паддубнога адбылася бойка паміж францускай арміяй і рускімі казацкімі аддзеламі, дзе й да сёньня стаіць памятнік. Вось-жа зараз пасьля бойкі дзядзька майго дзеда пайшоў на пабаявіска й там знайшоў каня, які пасьвіўся ў балоце. Гэта быў францускі конь. Ён забраў яго й прывёў дамоў. На каню было сядло, а каля сядла ка́са з грашыма й золатам. Гэтыя грошы праляжалі ў дзядзькі дзедавага пад печкаю болей пяцідзесяці гадоў, прыблізна да 1867 г. Ці дзядзька аддаў гэтыя грошы дзеду, ці яны былі як пасьмяротныя спадкі, гэтага ня ведаю.

Маючы золата, маючы даходы з паляваньня ды з гаспадаркі, дзед мой мог пазволіць сабе на закупы зямлі. Пасьля пачаў купленыя палоскі прадаваць, а купляць зямлю на Высокім Грудзе.

Высокі Груд – гэта востраў сярод балота, якіхсьці 60 дзесяцін. Найбліжэйшая лучнасьць праз балота была каля адной вярсты да двара Роўнае.

У той час, як дзед купляў на супалку Высокі Груд, там пераважна рос дубовы лес, толькі малы кусок абрабляўся дваром (Роўнае).

Гэты кусок быў на найвышшым месцы й да сёньняшняга дня называецца Стараполіца. У той час не было яшчэ грэблі, і на Высокі Груд абрабляць Стараполіцу езьдзілі на валах па Старой грэблі, па якой маглі прайсьці толькі валы, бо была загачана толькі малою колькасьцю лазы. Побач грэблі быў канал, па якім езьдзілі чаўном. Зімой, як замярзала балота, перавозілі жыта ці авёс у двор.

Закупіць цэлы Высокі Груд дзед мог сам, але ён баяўся, бо лес, які тады яшчэ рос, трымаў сырасьць, і быў сумніў, ці зямля будзе надавацца пад ральлю. Дзед не хацеў рызыкаваць. Ён набраў сабе супольнікаў, здаецца, яшчэ чатыры чалавекі. Сам купіў, здаецца, дваццаць дзесяцін. Выбраў сабе месца, зь якога найбліжэй было з балота да двара. За свае грошы закупіў паласу зямлі – балота на грэблю, дзесяць дзесяцін лесу, які рос на балоце, і ўвесь угаціў у балота, але грэблю зрабіў, што можна было па ёй ехаць коньмі.

Каб пазбыцца суседзяў, ён не дазволіў ім езьдзіць грэбляй. Суседзі былі змушаны прадаць яму сваю зямлю. Ён хоць і змусіў іх прадаць такім чынам, але заплаціў добра за зямлю, так што яны змаглі купіць сабе таксама добрыя кавалкі зямлі й нават хутары.

Дзед ад таго часу стаўся гаспадаром якіх 100 дзесяцін. Праз балота не даходзілі суседзі, і ён чуўся, як у собскай дзяржаве.

Мой бацька падрос і ажаніўся, за пасаг пабудаваў велізарную хату, у якой жылі ўсе, ды гаспадарыў, працаваў з работнікамі, а дзед займаўся паляваньнем, разьяжджаў, гандляваў ды залагоджваў іншыя справы.

Варта зазначыць, што дзед быў вельмі хітры, разумны чалавек. Ён быў заўсёдным дарадчыкам у пана ня толькі, як гаспадарку весьці, але і як весьці іншыя справы. Разьяжджаў з панамі па таргах, калі прадаваліся маёнткі. За гэта паны добра яму плацілі, вазілі брычкамі.

Ясна, дзед меў і сваю брычку. Меў найпрыгажэйшыя коні ў той час на Пружаншчыне. Ён быў першым чалавекам, які стаў прадаваць сыры й масла на рынку ў Пружане.

Але дасягнутым дзед мой не задавальняўся. Ён шукаў заўсёды нешта новае. У самой Пружане купіў цагельню ў канцы Забродзкай вуліцы. Ад вёскі Жабін аж да вёскі Харкі купіў рэчку на якіх пяць кілёмэтраў ды

хацеў пабудаваць каля Харкоў на гасьцінцы вадзяны млын. Аднак вайна перашкодзіла ягоным плянам.

З жалем пакідаў дзед, як і ўся сям'я, родны свой хутар, калі трэба было выяжджаць у Расею ў часе Першае сусьветнае вайны.

На хутары засталося ўсё багацьце: жывёла, коні, авечкі, сьвіньні, вялікі дом, дзьве клуні з драўлянаю малатарняю, дзьве аборы, два сьвірны.

У Баранавічах захварэла мая сястра Марылька й цётка Вера на тыфус. Сястра там-жа й памерла. Цётка Вера памерла на Ўкраіне.

Мае бацькі аддзяліліся ад сваіх бацькоў, і мы ў вёсцы Кадніцы Харкаўскай губэрні жылі асобна. Пасьля пераехалі ў вёску Мняхкаўку. Усё гэта было недалёка разьезду Рэпкі.

Апрача мяне, было яшчэ ў жывых тры сястры – Антаніна, Юля й Серафіма. Я быў наймалодшым, пятым дзіцём. Наша сям'я была зь сямі чалавек.

З Украіны, каб ня йсьці ў армію, бацька паехаў у Мурманск на пабудову порту. Мы з мацераю й сёстрамі засталіся самі. Жылося нам там на паўбяды. Як у казках, я бачыў сваю хату й слухаў пра Высокі Груд, дзе «многа ваўкоў», як гаварыла мне маці.

Але трэба вярнуцца да бацькоў мае мацеры.

Якаў Іванюковіч – гэта бацька мае мацеры, а мой дзед. Бацькі мацерыны паходзілі зь вёскі Мартынюкі, каля Каменца Літоўскага. Таксама вельмі зраньня, як кончылася паншчына, пакінулі сваю вёску й пераехалі на Прылуччыну нашае воласьці, дзе купілі зямлю. Аднак доўга там не жылі, бо, як толькі падрасьлі дзеці, набралі на сіле, мой дзед па мацеры купіў двор, усяго 220 дзесяцін зямлі з палацам, каля вёскі Свацьбічы, які й называўся гэтым-жа імем, пятнаццаць вёрст ад Бярозы Картускай па шашы на Кобрын. Перад самай вайной старгаваў дзед Якаў вялікі маёнтак каля Высока-Літоўска, на 1200 дзесяцін зямлі, з

суконнай фабрыкай, але вайна не дазволіла зьдзейсьніць задуманыя пляны. Выехаў у Расею й там памёр з бабулькай, сваёй жонкай. Разам пахаваныя.

Мая маці мела яшчэ тры сястры й чатыры браты.

Іванюковічы вызначаліся сваёй працавітасьцю, чэснасьцю, музыкальнасьцю й дабратой сэрца, мелі больш спакойны характар. Дзед быў добры гаспадар. Кіраваў і суседнім дваром. Кожны дзень вазілі яго брычкаю на поле.

Попкі вызначаліся таксама працавітасьцю, чэснасьцю, ваяўнічасьцю, хоць у агульным былі таксама спакойныя, а былі помсьлівыя тады, калі нехта дакучаў.

Якаў Іванюковіч у вышытай кашулі й пасталах хадзіў па сваім палацы, аднак карыстаўся, як мой дзед Хведар Попка, вялікай пашанай ня толькі сярод акружаючых сялян, але сярод начальства, бо, апрача таго, што дзяды былі багатыя й чэсныя, яны былі адначасна й разумныя.

Дзяды адышлі ў небыцьцё, а засталіся толькі нашчадкі.

Дзед па бацьку вярнуўся зь бежанцаў са сваёй сям'ёй. Памёр у сваёй хаце. Пахаваны на магільніку каля царквы ў Гарадэчні. Што сталася зь ягонай жонкаю – ня ведаю, бо вайна й маё выгнаньне парвала ўсякую лучнасьць.

Першым вярнуўся на Высокі Груд мой бацька зь сёстрамі Антанінай і Серафімай. Мы з маці й сястрой Юляй засталіся яшчэ на Ўкраіне. Бацька застаў наш хутар амаль што зруйнаваным. На ім сядзеў наш колішні парабак Даніла Кавальчук з Жабіна і абрабляў кавалкамі поле. Поле зарасло лесам, маладняком, які пасьля трэба было карчаваць. Аднае аборы сьцены заўсім разабраныя, і немцы дылямі вылажылі кладкі на грэблі, якія праляжалі да маіх апошніх дзён у родным хутары. Іншая абора была часткова разабраная. Клуні, сьвірны, сьвінюшнік, каменны склеп, як і хата, засталіся цэлымі.

У хуткім часе, як вярнуўся дзед са сваёй сям'ёй, мой бацька пабудаваў сабе новую хату з паўдыляў, забраў сьвіран і клуню ды перасяліўся на новую ўсадзьбу. На новай усадзьбе пабудавалі мы яшчэ раз новую хату, а са старой зрабілі хлеў, пабудавалі два скляпы, у якіх складаліся пасьля сыры. Была пабудаваная новая маленькая сыраварня. Засаджаны быў садочак, высаджана бацькам дубовая алейка на паўночным баку двара, мной засаджана алейка ліпавая каля дарогі, якая з дарогі вяла на наш двор. Калі сёньня прыпамінаю наш двор, які, як у вяночку, так сярод зелені быў, сярод бярозак і дубкоў, ліпаў, дык сьлёзы коцяцца мімаволі... Там было столькі ўложана працы! Там прайшлі маладыя гады! Там адчуў сямейнае шчасьце! Там была радасьць! Там усё засталося, там і цяпер мае думкі й сэрца, хоць я тут, на чужыне!

Высокі Груд быў падзелены на тры часткі. Мы дасталі сярэднюю.

Дзядзька Хведар ажаніўся зь Серафімай Шышко, меў трох дзяцей і пасяліўся на Стараполіцы. Жонка й сын хутка памерлі. Засталіся дочкі Тамара і Іля.

Дзядзька Валодзя таксама ажаніўся. Меў болей дзяцей. Ён застаўся на старым месцы, у хаце, якая куплена была на пасаг маёй маці. Пры ім жыла бабулька. Быў музыкант-аматар, граў на скрыпцы, балалайцы, гітары.

Цётка Маруся выйшла замуж яшчэ перад вайной за настаўніка ў Яловай – Лукевіча, іх вывезьлі Саветы зь сям'ёй у 1941 г. Старшы іхны сын ажаніўся, малодшы, Валянтын, памёр. Ён загарэўся беларускай ідэяй, пачаў пісаць вершы, але сьмерць абарвала жыцьцё й гарэньне. Перад сьмерцю ўспамінаў усьцяж мяне, што я яго добра дагледаў. Шкада мне яго, ня толькі як далёкага дваюраднага брата, але як маладога, запальчывага Беларуса, і хто ведае, мо' й добрага паэта. На вялікі жаль, ягоныя вершы не засталіся ў памяці.

Цётка Насьця, мая хросная маці, выйшла замуж за Другака на Прылуччыну-Сэксэвончыцы, тут-жа, на граніцу Пружаншчыны, у Кобрыншчыну. Была бязьдзетнай.

Цётка Надзя памерла ад сухотаў. Яна вучылася на настаўніцу. Добра малявала.

Сям'я Іванюковічаў распалася гэтак.

Дочкі павыходзілі замуж. Адна, Яўдоля, выйшла замуж у Камяніцу, хутар каля Шанёў у Пружанчыне, за Дземянюка Канстанціна. Мела трое дзяцей: два сыны й дачку. Старшы сын Валодзя быў арыштаваны Саветамі й вывезены на Далёкі Ўсход. Быццам ідучы назад з-пад Менску, куды быў перавезены, папаў у нямецкі палон і там памёр. Яго прадаў Зубка, вэтэрынар, які хадзіў да сястры Веры, але Валодзя быў супраць яго, дык той у помсьце сказаў, што Валодзя меў заржаўленае ружжо, а гэтага толькі й трэба было НКВД у 1940 г. Вера выйшла замуж за Усіка ў Пружану, але пакінула яго, бо той меў яшчэ іншыя каханкі. Паўторна выйшла за Петрыка ў Шані. Віталі, наймалодшы сын, ажаніўся з Валяю Люсьцібэр з Шакуноў, быў на вайне й страціў нагу. Быў у нямецкім палоне з часу польска-нямецкай вайны.

Цётка па мацеры, Юля, выйшла замуж за Тройчука пад Кобрын на Плянту. Тройчук меў 80 гектараў зямлі. Меў дзьве дачкі, якія павыходзілі за братоў Паўзуноў у Стрыгаве. Тройчук быў два разы багатшы за Дземянюка, а чатыры разы за нас, бо мы мелі ў апошні час толькі 40 дзесяцін з балотам. Перад вайной пабудаваў Тройчук трэці па мадэрнасьці ў Польшчы млын каля Кобрына на суполку зь дзядзькам Паўлам Іванюковічам.

Двор Свацьбічы быў падзелены між дзядзькамі – Паўлам, Сьцяпанам й Аляксандрам. Чацьвёрты дзядзька застаўся ў Расеі. Ён страціў руку на вайне. Праславіўся тым, што ўратаваў у часе рэвалюцыі цэлы атрад. Ён застаўся з кулямётам сам у лесе, перабягаў зь месца на месца і абстрэльваў ворагаў, а вораг–бальшавік думаў, што

іх там многа. Трымаў фронт да тае пары, пакуль ня быў паранены ў руку.

Дзядзькі Іванюковічы вызначаліся вялікай сілай, былі вельмі рослыя й двох зь іх былі ў ахране цара афіцэрамі.

Дзядзька Сьцяпан ажаніўся з Казловай дачкой з Шанёў. Меў ад яе дзьве дачкі й чатыры сыны. Жонка памерла, і ён ажаніўся з другою. Меў ад яе яшчэ аднаго сына.

Сын Алёша выехаў у Канаду, і да сёньняшняга дня там.

Валодзя ажаніўся, разьвёўся й зноў ажаніўся. Развод зь першай жонкай так падзейнічаў на яго, што ён захварэў на падучку. Другі раз ажаніўся з зусім непрыкметнай жанчынай зь дзіцём. Памёр у часе савецкай акупацыі.

Яша выехаў зь сястрой Аняй у Варшаву, і там яны засталіся.

Аня была выйшла замуж за паляка Пясецкага ў час першай вайны й доўгі час пражывала ў Харбіне, але здароўе не дазволіла ёй там жыць. Мела слабое сэрца.

Оля выйшла замуж за паляка. Жыла ў Ловіч.

Якая доля спаткала іншых, цяпер ня ведаю.

Дзядзька Антось быў жанаты. Меў трое дзяцей. Якая іхная доля, ня ведаю. Сам ён загінуў у трансмісіі ў сваім млыне ў Свацьбічах, які быў пабудаваў разам з дзядзькам Паўлам.

Дзядзька Павел ажаніўся са сваёй служанкай, але пасьля разьвёўся зь ёю, бо была бязьдзетная. Паўторна ажаніўся з Устынай, разводкай з суседняга двара.

Цётка Аляксандра выйшла замуж у Красналескі. Доўгі час жыла шчасьліва, але із-за бязьдзетнасьці разьвялася з мужам.

А цяпер вярнуся да нашае сям'і.

Найстаршая мая сястра Антаніна выйшла замуж за Навума Корнача на Канаршчыну. Мела двое дзяцей – Ліду й

Слаўку. Жыла шчасьліва. Што прынесла вайна – не магу цяпер сказаць.

Сястра Юля выйшла замуж за Аляксандра Дробата. Мела двое дзяцей – Вітольда й Лёніка. З Трусавіцы пераехала ў Свацьбічы на хутар, які купілі ад дзядзькі Паўла. Якая спаткала іх доля пры паноўнай бальшавіцкай акупацыі, таксама цяпер ня ведаю.

Сястра Сіма выйшла замуж, але за каго, цяпер не магу сказаць, бо дайшлі весткі вельмі скупыя.

Я сам быў жанаты й меў дочачку Рагнедку. Доўгае маё прабываньне ў санаторыі было галоўнаю прычынаю, што сям'я мая распалася – я разьведзены. Памаглі ў маім няшчасьці Міхал Тулейка, Л. К. і Іван Чыжык, якія пхнулі маю былую жонку ў распусту.

Фальшывымі сьведкамі на судзе былі: расеец са сваёй пасьветкай Сінявін зь Бібэрэху, і Юхніўская Аляксандра – украінка.

Гэтых, вышэй успомненых, калі толькі будзе мне магчымасьць, паб'ю – не із-за мяне, але із-за Рагнедчынага шчасьця, якой разьбілі жыцьцё і ўлілі раз назаўсёды атруту ў яе душу.

Вучыць мяне бацька не захацеў, бо заўсёды гаварыў: «Калі чалавек разумны, то й без навукі-школы будзе разумны, а калі чалавек дурны, дык і школа не паможа». Мая маці прыводзіла мне ў прыклад свайго бацьку, а таксама й свайго сьвёкра, як яны маглі ў жыцьці й бяз школы добра й чэсна кіравацца ў жыцьці.

Вялікае жаданьне маіх бацькоў было, каб я дагледзеў гаспадарку і іхную старасьць, але, на вялікі жаль, ані адно, ані другое не збылося. Ці яшчэ застану я іх у жывых, таксама няведама, бо вось ужо мінула дзесяць год нашага расстаньня. Пры разьвітаньні мы прашчалі крыўды, якія мо' зрабілі адзін аднаму.

Мая нацыянальная сьведамасьць узрасла вельмі рана. Яшчэ будучы на Украіне хлапчуком, я адчуваў сябе іншым,

як акружаючыя людзі. Я першы раз пачуў, што мы беларусы, ад сваёй мацеры. Цяга дамоў была ў мяне вялікая.

Першая сустрэча зь беларускасьцю была тады, калі я бачыў, як мой бацька чытаў беларускую газэту «Сын Беларуса» й перахоўваў грамадоўца аднаго зь вёскі Лазоўка. Я прыслухоўваўся тады да іхнае гутаркі. Мая цікавасьць узрастала.

Будучы ў школе, я купляў беларускія газэты, календары. Беларускі каляндар сарвала польская паліцыя, як убачыла яго на сьцяне.

У 1929 годзе польская паліцыя зрабіла ў мяне вобыск.

Праз некалькі год я навязаў лучнасьць зь беларускімі студэнтамі-гімназістамі зь Беларускай гімназіі ў Вільні. Сярод іх мушу зазначыць наступныя асобы: Ніна Ляўковіч, цяпер Абрамчык, Жэня Волас, Валя Засім, Янка Жэдзік, Піліп Засім, Аляксандар Засім, Янка Хворас, Барыс Клім, сям'я Стаўбунікаў, Віця Люсьцібэр, Рыгор Шырма, Ганна Новік – паэтка.

Чытаю «Беларускую Крыніцу», «Хрысьціянскую Думку», «Родны Край», «Новы Шлях», «Саху», «Шлях Моладзі», у якім першы раз друкуецца ў 1938 г. мой твор «Восеньню», а на пачатку наступнага году – першы мой артыкул «Пазнавайма родны край!» Такім чынам, праз чатыры гады адбудзецца 20-годзьдзе маёй літаратурнай творчасьці, хоць я пачаў пісаць яшчэ раней перад гэтым, і быў напісаны цэлы зборнічак расказаў, але яны так і прапалі недзе ў Вільні, куды я быў выслаў.

Варта яшчэ зазначыць маё знаёмства зь Міколам Дудзейкам, які жыў з маці ў Пружане на Горцы. Ён быў патрыёт-камуніст. Перайшоў да Саветаў напярэдадні мінулае вайны. Яго пасадзілі ў турму.

Як выгаварваць па-беларуску першыя словы, мяне навучылі Ліда Канюк з той-жа самай Горкі й Мікола Кот з

Заброду, абое з Пружаны. Кот паказаў мне на вуліцы першы раз Хведара Ільляшэвіча, які якраз у той час быў у Пружане ў сваіх бацькоў.

Варта зазначыць маё знаёмства з Міколам Засімам – паэтам, які быў шчырым беларусам, хоць і камуністам. Ён быў так да мяне шчыры, хоць я й быў варожа настроены да бальшавікоў, што як прыйшлі Саветы ў 1939 г., ён быў у НКВД, дык даў мне пропуск у Берасьце й браўнінг са стала НКВД. Ён верыў у маю чэснасьць, што я яго не прадам. Браўнінг даў мне «на памятку» як падзяку за сяброўства.

Пасьля гэтага я яшчэ больш перакана|ны, што мой бацька й маці былі правыя, калі вучылі мяне быць чэсным і не трапаць языком, не ашукваць людзей абяцанкамі, быць гаспадаром свайго слова. Я й сёньня ўдзячны ім за гэта.

На пачатку 1942 году я еду ў Беласток і сустракаюся з Хведарам Ільляшэвічам і іншымі – беларускім актывам у Беластоку. Сустрэча гэта была пачаткам маёй грамадзкай працы й шырэйшае літаратурнае творчасьці.

Ільляшэвіч назначае мяне прадстаўніком Беларускага Камітэту на нашую гміну. Я пішу часта ў газэту «Новая Дарога».

Праз год я бяру на сябе абавязак стварыць у Пружане Аддзел Беларускага Аб'яднаньня.

Пружанскі аддзел Беларускага аб'яднаньня паўстаў улетку 1943 г. у гэтакім складзе:

Ягор Попка – старшыня,
Сяргей Самайлуковіч – сакратар,
Таццяна Ляўковіч – машыністка,
Мікола Шопік – заступнік старшыні.

Аддзел, па доўгіх ходаньнях, атрымаў рагавы будынак пры Царкоўнай і Гімназіяльнай вуліцах. З шасьці пакояў Аддзел займаў тры пакоі, а рэшта пакояў была ў рэзэрве.

Адкрыцьцё Пружанскага Аддзелу папярэдзілі дзьве чарговыя абвесткі ў газэце «Новая Дарога», у якой паведамлялася беларусам Пружаншчыны аб адкрыцьці Аддзелу й мэтах ягонае дзейнасьці.

Не прайшло й паўгадзіны пасьля адкрыцьця, як зьявіліся першыя зацікаўленыя.

Аддзел адразу прыступіў да працы. Аб сваім адкрыцьці зараз-жа былі павядомлены акупацыйныя ўлады. Немец, бюргермайстар, быў вельмі зьдзіўлены, калі мы яму падсунулі фірмовыя паперкі зь пячаткамі.

У першую чаргу, Аддзел прыступіў да арганізацыі беларускай школы ў Пружане. Першыя спробы былі цяжкія. Справа доўга валкавалася із-за будынка, які яшчэ ня быў адрамантаваны. Перашкоды былі пераможаныя. Будынак колішняе польскае гімназіі быў забраны намі пад школу. Залі былі адмалёваныя й рабілі вельмі мілае ўражаньне. Горш было з лаўкамі, якія былі параскіданыя й панішчаныя часткова. Але і іх назьбіралі, а потым дарабілі новыя.

Горш была справа з вымыцьцём падлогі, якая была заваленая вапнай ад маляваньня. Арбайтсам не хацеў даць работнікаў. Бюргермайстар дазволіў мне праз солтыса набраць работнікаў у горадзе. Але й солтыса ня вельмі слухалі, бо не было афіцыйнага загаду. Мне прыйшлося сесьці на самакат, узяць партфэль у рукі ды ехаць шукаць работніц быццам па загаду бюргермайстра. Такім чынам мне ўдалося набраць некалькі жанчын. Яны на другі дзень вымылі дзьве залі. На трэці дзень пачаўся запіс вучняў. Перад гэтым былі паведамленьні, разьвешаныя па горадзе й прагалошаныя ў царквах.

Наплыў вучняў быў вялікі. Як толькі сабралася іх адпаведная колькасьць, зараз-жа прыступілі да арганізацыі першае клясы.

Як толькі пачаліся заняткі першае клясы, наплыў вучняў раптам узрос. Такім чынам была створаная аж васьміклясавая школа з агульным лікам вучняў каля 450.

Дырэктарам школы быў Янка Жэдзік з Шакуноў. Агулам было, апрача дырэктара, 11 настаўнікаў і адна сакратарка канцылярыі. Настаўнікі былі ўсе прафэсіяналы, за выняткам толькі некалькіх, якія сталіся настаўнікамі пры саветах, як сам дырэктар Жэдзік, другі – Шопік. Назаву яшчэ двух настаўнікаў з савецкае школы – гэта Зайчанка і ягоная жонка.

Спачатку была нязгранасьць сярод настаўнікаў, але пасьля я быў змушаны зьвярнуць ім на гэта ўвагу, угаворваць, настрашваць, і пад канец была наладжаная сапраўдная праца.

Дырэктар Жэдзік быў вельмі працавіты. Мне прыйшлося быць духовым апекуном школы, і, як сябра з малых гадоў, я памагаў Жэдзіку ўва ўсім, дзе толькі была патрэбная мая дапамога.

Фізычны й хімічны габінэты школы былі вельмі добрыя, як на ваенныя часы. Было многа прыродазнаўчых экспанатаў.

Арганізую школы па вёсках. Адчыняюцца школы ў Арабніках, Чахцы, Гародніках, Купічах, Дабучыне. Наладзіў працу ў Пружане, як на тыя часы, вельмі добра.

У 1944 годзе, 11 ліпеня пакідаю Пружаншчыну й праз Бельск, Ломжу еду з жонкай у Прусы. Каля Тойбургу ў вёсцы Эрленталь жывём да бальшавіцкага наступу.

Адступаем разам зь немцамі. У Прусы я прыехаў брычкай. Пры адступленьні памагаю гнаць статак. Па дарозе распускаю многа статку, а рэшту арганізую, і гонім далей. Пры Вайсбэргу затрымліваемся. Стуль едзем праз Кёнігсбэрг у Бэрлін.

У Бэрліне затрымліваемся ў Ільляшэвіча. Стараньні нашыя, каб нас прынялі разам да Беларускага Батальёну,

не даюць выніку. Мы едзем праз Камітэт Самапомачы (Сабалеўскі) у Цьвітаў, дзе працуем на фабрыцы.

Здароўе маё пагоршала, і перад прыходам бальшавікоў у Цьвітаў мы выяжджаем у Шусэнрыд каля Бібэрах-Рыс. Там тры месяцы працуем у баўэра, пакуль не адчынілі лягеры УНРРА.

Пераяжджаем у Бібэрах-Бэргенгаўзэн на Шнайт Штрасэ, 6.

Я іду на прасьвятленьне й зараз-жа ў шпіталь, дзе прабыў з малымі перарывамі аж да 1950 году, пакуль не прыехаў у Віндсбэрг. Усяго адведаў 15 санаторыяў і шпіталяў.

Гэта мая збольшага накінутая дарога, па якой я ішоў ад калыскі да сёньняшняга дня.

Уваход мой у беларускае жыцьцё стаўся з блаславенства маіх бацькоў. Яны прыказвалі й навучалі мяне, каб я заўсёды быў чэсны й шчыры, каб ня пляміў іхнае імя сваімі праступкамі. Я руплюся ўсё гэта рабіць згодна зь іхнай воляй-тастамантам. Калі гісторыя будзе ўдзячная мне, дык хай-жа ў такой самай меры будзе ўдзячная ня толькі маім бацьком, але й дзядом, бо дух мой узгадоўваўся пакаленьнямі. Я рупіўся заўсёды берагчы ў сабе самыя лепшыя якасьці ўсіх маіх родных, блізкіх, якія праз кроў былі й ва мне.

Хай-жа Усемагутны Бог блаславіць маю працу й вядзе мяне ў сьвет, у будучнасьць.

## Зінаіда Кадняк[444]

## Успаміны пра Алеся Салаўя[445]

Дарагі дзядзька Антон!

Ужо прайшло шмат часу, як я абяцала напісаць. Зараз не працую, абставіны зложыліся так, што я змушана была пайсьці на пэнсію. Пакуль што не раблю ніякіх плянаў, бо ніколі не выходзіць, як думаеш. Хаця не працую на фабрыцы, але працы маю аж зашмат у доме. Зараз са мной жыве Юрка са сваёй сям'ёй. Ён закрыў свой бізнэс, бо быў вельмі хворы, у выніку залез у глыбачэйшыя даўгі. Цяпер у бальніцы. Зрабілі нарэшце апэрацыю, калі без ускладненьняў, у суботу, можа, выпішуць. Можа будзе здаровы і па-сапраўднаму возьмецца за жыцьцё. Ужо час.

За пісаньне бярусь вельмі неахвотна. Усё адкладваю зь дня на дзень, а час ляціць. Вось і новы год стукае ў дзьверы. Хацелася-б напісаць кароценька пра сумеснае жыцьцё з Алесем, але не выходзіць, атрымоўваецца вельмі доўга. Колькі разоў пачынала пісаць і кідала.

Пазнаёміліся зь ім увосень 1944 году ў Бэрліне праз Аўгена Кавалеўскага, які расказваў Алесю пра мяне, і яму хацелася пазнаёміцца з той «цудоўнай дзяўчынай», па словах Аўгена. Для таго, каб атрымаць прадуктовыя

---

[444]Зінаіда Кадняк – жонка паэта Алеся Салаўя.

[445]Друкуецца паводле рукапісу, які быў дасланы Антону Адамовічу і захоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью-Ёрк). Найбольш аўтарытэтнай працай пра Алеся Салаўя застаецца манаграфія Ант. Адамовіча, дзе часткова выкарыстаны і ўспаміны ўдавы паэта. Тут успаміны Зінаіды Кадняк друкуюцца поўнасьцю.

карткі, патрэбна была прыпіска й праца. Вось яго ўладкавалі бібліятэкарам пры Цэнтральнай Радзе. Алесь быў вельмі непрактычны ў жыцьці, асабліва ў цяжкіх абставінах. Я старалася чым памагчы, мела магчымасьць даставаць купоны на мяса, хлеб, так як ён у першы тыдзень «зьядаў» свае купоны на мяса, на другі – заставаліся другія прадукты, на трэці – цукар, на чацьвёрты жыў выключна на чужыя. Я прапанавала мыць бялізну, бо мела для гэтага лепшыя ўмовы, чым у яго. Так як Аўген часта выяжджаў на гастролі з групай артыстаў, я часта бачылася з Алесем.

Адносіны ў мяне да яго былі чыста сяброўскімі, я думаю, ён добра разумеў гэта. Калі Барткевіч (Аўген называў яго часам Мефістофелем) казаў, што з нас была-б нядрэнная пара, я злавалася й казала, што такі тып людзей мне не падабаецца, гэта ня мой ідэал. Тым часам бамбардзіроўкі Бэрліну значна ўзмацніліся, і шмат хто з нас падумваў пакінуць горад. Асабліва пасьля вялікай бамбардзіроўкі 6-га студзеня 1945 году быў дадзены загад разгрузіць Бэрлін. У некаторых месцах можна было атрымаць пропуск на выезд без усякіх дакумэнтаў, сказаць, што яны загінулі ў час бамбардзіроўкі, і немцы верылі. Алесь, Масей Сяднёў і Сядура часта езьдзілі па гораду, асабліва пасьля бамбардзіроўкі, на дармовую гарохаўку. У разьбітыя раёны пасылалася паходная кухня, дзе дармова давалі абеды. У адным з такіх месц яны даведаліся, што можна атрымаць пропуск. Алесь узяў на сябе й на жонку, запісаўшы маё імя. Узяў таксама й Сядура. Гэта быў маршрут Прага-Вена-Брэгенц. Алесь прыехаў увечары з гэтай навінай. Я пагадзілася ехаць, бо маршрут спрыяў мне. З апошняга ліста ад Аўгена я ведала, што яны знаходзяцца ў Вене, я спадзявалася сустрэцца зь ім. Па дарозе мы застанавіліся на пару дзён у Празе, у Сядуравай маці, якая жыла там у той час. Там сустрэліся з Ларысай Геніюш. Масей і Алесь адведалі яе. Калі прафэсар П.

Жарскі (ён таксама быў там) і Ларыса Геніюш прапанавалі мне застацца ў Празе, бо толькі жанчын у той час прыпісвалі, Алесь пасьпяшаўся ехаць у Вену.

Па прыездзе ў Вену мы завіталі да П. Мірановіча. Ягоная жонка сказала, што артысты выехалі пару дзён назад, ня ведала, куды. Бо адны стаялі за тое, каб ехаць назад, у Бэрлін, другія – у Брэгенц. Я ня ведала, на што Алесь спадзяваўся, калі браў пропуск на мяне. Ён добра ведаў адносіны паміж мной і Аўгенам як ад мяне, так і ад Аўгена. А можа я была такой наіўнай? Алесь заўсёды стараўся нагаварыць мяне супраць Аўгена (здавалася, яны былі сябры), асабліва пра ягоную сувязь з «каралевай» – так называлі тую расейку, што стаяла на чале артыстычнай трупы. Аб гэтым усім я ведала ад самога Аўгена. Наракаў, што з-за мяне пакінуў сяброў.

Ваенныя абставіны, няпэўнасьць у Аўгенавым пачуцьці пад уплывам Алесевых нагавораў (пазьней я пераканалася ў шчырасьці Аўгена), а галоўнае, мне было шкада Алеся, і я пагадзілася стацца ягонай жонкай. Можа так і сталася, як пісаў шмат пазьней Аўген: гэтым я зрабіла ўсіх трох няшчаснымі. Я паставіла крыжык на мінулым, але нялёгка было трываць. Алесь без усялякіх прычынаў быў вельмі зайздросны. Ня раз ён прыносіў часапісы, дзе друкаваў Кавалеўскі свае п'есы, і казаў: «На, прачытай, што піша табе твой Аўген». Праўда, часам там траплялiся ягоныя або мае словы, укладзеныя ў вусны сваіх дзеючых асоб. (Гэта было тады, калі мы жылі ў Зальцбургу).

За гэты час мы пазнаёміліся з А. Яцэвічам (Алесем Змагаром). Ягоная жонка Валя вучылася з Алесем у Беларускім Пэдагагічным тэхнікуме ў Менску[446]. Тым часам фронт набліжаўся, і быў час пакінуць Вену. Яцэвіч ужо даўно нагледзеў возік у адным з двароў і проста «пазычыў»

---

[446]Гл.: «Беларус», №439, лістапад 1996, с.3.

бяз спросу. Ён меў шмат рэчаў, у нас-жа было па пары валізак, якія мы маглі ўзяць з сабой, і кожны праяжджаючы грузавік мог нас падабраць. Але Алесь пагадзіўся трымаць кампанію. Гэта быў вельмі даўгі шлях. Так у дарозе Алесь сустрэў свой 23 год нарадзінаў. Яцэвіч неразлучны быў са сваім пузатым партфэлем, у якім насіў свае вершы. І калі астаноўліваліся дзе ў баўэра на начлег у клуні, ён казаў, што ён «шрыфштэлер» (аўстрыйцы мелі павагу да іх), часам яго запрашалі ў дом на кухню; тады ён паважна садзіўся за стол, з кішэні вымаў чарнільніцу, з партфэля ручку й паперу й штосьці пісаў. Алесь толькі сьмяяўся зь яго.

Пасьля мы далучыліся да маладой пары галічанаў, якія працавалі ў баўэра на валох, а потым зьехалі зь імі і доўгай арбой. Вось да гэтай арбы мы прычапілі свой возік, а самі ўсе ўладкаваліся на арбе; было куды лягчэй, бо ня трэба было цягнуць возік. Так мы ехалі ў кірунку Зальцбургу, аж пакуль не нагналі нас амэрыканцы. Гэта было каля мястэчка Кірхгайм, там амэрыканцы далі нам кватэру, папрасілі немцаў пацясьніцца. Іх перасялілі ўсіх на больш высокі паверх, а нас пасялілі ўнізе. Там мы жылі да глыбокай восені. За гэты час езьдзілі ў Зальцбург у разьведку. Там ужо быў Уладзімер Дудзіцкі са сваёй Люсяй. Ва ўкраінскім лягеры «Ленарказэрнэг» быў Аляксей Грыцук кватэрмайстрам. Дзякуючы яму мы атрымалі там кватэру.

Гэтыя гады ў Зальцбургу былі самыя пладатворныя. Алесь пазнаёміўся там з украінскімі паэтамі й пісьменьнікамі. Напісаў шмат вершаў, піць ён шмат ня мог у той час, бо ня меў за што. У красавіку 1946 году нарадзіўся першы сын – Міхась, а ў ліпені 1947 году – дачка Анна. Па сваёй натуры Алесь ня быў сямейным чалавекам. Ён не любіў дзяцей, ніколі ня меў часу для іх. Лічыў перашкодай і лішнім клопатам. Я старалася зь дзецьмі не перашкаджаць яму. Мы мелі магчымасьць

пераехаць у Баварыю, але ён не хацеў ехаць з-за Аўгена. Ён баяўся, што я змагу там аставіць яго. Ведаў, што Аўген не паглядзіць, што я маю двое дзяцей. У гэтым ён не памыляўся.

Прыйшоў час, што трэба было думаць, куды падзецца, якую краіну выбраць на пастаяннае жыцьцё. Як і шмат іншых, Алеся цікавіла Аўстралія. Падалі паперы на дазвол на ўезд ў Амэрыку і Аўстралію. Здаліся на лёс, куды дазвол прыйдзе першым. Першым атрымалі ў Аўстралію. Тут мы і апынуліся. Па дарозе ў Аўстралію ў італьянскім парту сустрэлі знаёмага зь Нямеччыны, ад якога даведаліся, што Аўген выехаў у Францыю. Нашыя дарогі разышліся назаўсёды.

Цяжка было прызвычаіцца да працы: фізычную Алесь не любіў, але не стараўся здабыць лягчэйшую працу. Ён мог-бы вучыцца або мог-бы ўладкавацца працаваць на пошту. Ягонае веданьне ангельскай мовы дазваляла на гэта. Але ён спасылаўся на тое, што там мала плоцяць. Ён ніколі ня слухаў маёй парады. Слухаў работнікаў, зь якімі працаваў. Яны былі задаволеныя на фабрыцы, бо былі спрытнейшымі й зараблялі болей за яго, асьветы-ж яны ня мелі. Толькі тады, калі пасьля 20 год працы на адным месцы яго звольнілі і ён амаль што нічога не атрымаў за гэта, зразумеў, што дрэнна зрабіў, што ня слухаў мяне. Але ўжо было позна.

Алесь вельмі зьмяніўся, працуючы на фабрыцы. Зжыўся з работнікамі, пачаў гутарыць такой-жа мовай, як і яны, ужываючы брудную лаянку, зрабіўся непазнавальным. На людзях ён быў карэктным, мог кланяцца, дзесяць разоў прасіць прабачэньня, дзякаваць. Умеў падабацца жанчынам. (У маладосьці ён быў сарамлівым у гэтым сэнсе, пазьней-жа вельмі асьмеліўся). І на пахвалы быў аматар. Кожнай звычайнай жанчыне ён мог нагаварыць столькі кампліментаў, што тая сапраўды пачувала сябе надзвычайнай. Або, будучы ў каго на

абедзе, так расхваліць якую страву, як быццам ніколі такой ня меў, і другія думаюць, які-ж ён бедны, жонка ня можа зварыць звычайнай стравы.

На кароткі час быў закаханы ў сп. Ліду Нікан. У іхным зьбліжэньні быў яе пачын, у яго-ж не хапіла адвагі. Яна-ж пасьля разрыву з Калодкам прыхінулася да Алеся. Мы толькі што пераехалі ў Мэльбурн. Ліда любіла кампанію, умела добра выпіць, мела нядрэнны голас, магла сьпяваць, любіла й разьбіралася ў музыцы, цікавілася паэзіяй, думаю, каб падабацца Алесю, мела шмат вольнага часу. У мяне-ж было трое дзяцей і ўся гаспадарка. Я не магла ўдзяліць яму шмат часу, таму ня мела нічога супраць Ліды. Таму яны ўдваіх часта сустракаліся, езьдзілі ў кіно, наведвалі музэі і Бог ведама што. Але на перашкодзе стаў Мікола Скабей, які вырашыў выратаваць ад «няшчасьця» дзьве сям'і (ніхто яго не прасіў). Алесь, маючы сям'ю, ня меў магчымасьці траціць шмат грошай на старонку, для яго самога не хапала на выпіўку. Мікола-ж Скабей мог дазволіць сабе гэта. Такім чынам, Алесь застаўся з носам. У ягоным беспрасьветным жыцьці хаця на кароткі час зазьзяла сонца, вярнулася натхненьне, ён напісаў тады колькі добрых вершаў. Болей раманаў ён не заводзіў. Пераважна пасьля працы заставаўся дома, запасаўся півам.

Любіў чытаць уголас вершы – свае, Сяднёва, другіх паэтаў, чытаў ахвотна Лермантава, Пушкіна – усё з памяці. Памяць ён меў надзвычайна добрую. У апошнія гады жыцьця яна крыху прытупілася. Лёгка пісаў вершы пры якой-небудзь аказіі за сталом, пры бяседзе ці то на дзень народзінаў, ці на вясельле або якія другія прычыны. Вершы фармаваліся адразу ў ягонай галаве. Пісаў гумарыстычныя, часам сатырычныя. Але гэтыя вершы ён не лічыў мастацтвам, а таму нідзе не друкаваў. Нічога не засталося ад іх – усё зьнішчыў. Калі-б можна было сабраць усё тое, што ён напісаў, то атрымалася-б немалая кніжка. Ён

пакідаў і друкаваў толькі тое, што, на ягоную думку, было добра напісана.

Я не разумею, у яго было такое вялікае жаданьне пісаць, што ён лічыў сябе нешчасьлівым таму, што ня меў магчымасьці пісаць, але не стараўся палепшыць умовы. Ён лічыў, што толькі на сваёй роднай зямлі ён зможа па-сапраўднаму пісаць. Зайздросьціў сваім сябрам па пяру – тым, з кім быў на курсах маладых пісьменьнікаў, адчуваў недахоп у асьвеце. Ён ніколі-б не асьмеліўся наведаць сваю Бацькаўшчыну. Я была ўпэўнена, што калі-б яму далі дазвол на адведзіны, то яго-б не затрымалі. Але страх, хранічны страх перад міліцыяй і другімі органамі бясьпекі ў яго застаўся назаўсёды. Ён назаўсёды запамятаў тую ноч 1937 году, калі арыштоўвалі ягоных бацькоў. Уся брутальнасьць часта паўставала перад ягонымі вачыма. Ягоныя бацькі былі рэабілітаваныя пасьля іхнай сьмерці.

Па сваёй натуры Алесь ня быў сямейным чалавекам. Яго змусілі абставіны, бо ня змог глядзець за сабой. Вядома, у лепшых матар'яльных абставінах, маючы грошы, ён-бы пражыў добра. Найтаньней было мець жонку, якая і памые, і накорміць, яшчэ й грошы заробіць, якую можна лічыць за собскасьць.

Яшчэ калі мы толькі пабраліся, ён напісаў:

Ажаніўся. Ой, Божа мой, Божа.
Я ніколі ня сьніў, не гадаў,
Што мяне і сагне, і стрыножа
Нявыноснае гора-бяда.
Ажаніўся – быць мужам і толькі,
А паэтам – ім можаш ня быць.
І ўтыркай пад пазногці іголкі,
І цярпі, не кажы, што баліць.

Калі я запытала, чаму ён так напісаў, ці сапраўды так ёсьць, бо я, наадварот, старалася не перашкаджаць

яму, але сапраўды ён так адчуваў, хаця тады казаў, што напісаў абы напісаць.

На людзях Алесь быў вельмі ветлівы, ніколі нікому не сказаў дрэннага слова, кожнаму хацеў дагадзіць, калі яго штосьці папросяць зрабіць. Дома-ж ён быў зусім іншы. Аб дрэнных ягоных баках можна было-б успамінаць вельмі шмат, але ніхто не паверыць, толькі пару блізкіх людзей ды жонка ягонага брата, бо брат ягоны ня лепшы. Няхай-жа застаецца такім, якога ведалі людзі, зь якімі яму даводзілася сутыкацца.

Аднойчы, незадоўга перад ягонай сьмерцю, я запытала, чаму ён мне не прысьвяціў ніводнага верша, хаця пісаў шмат, але не друкаваў. Толькі адзін надрукаваны, ды й там напісаў – Сяднёву. На гэта ён адказаў, што ўсё, што ён напісаў пасьля вайны, гэта толькі дзякуючы мне. Я часта думаю, мяне шмат хто вінаваціць, у тым ліку і ягоны брат, што я была замяккай да яго. Трэба было змусіць яго, каб ня піў. На што я брату ягонаму адказала: «Ці зможа цябе жонка ўстрымаць? Толькі партыйная дысцыпліна цябе трымае, бо даўно-б страціў працу».

Я-ж не такой натуры, каб змушаць. А пры тым пытаньне, ці напісаў-бы ён тады й палову таго, што напісаў?

Я ўсё-ж цьвёрда веру ў тое, што вялікая тэмпэратура пры ягонай цяжкой працы, на якой ён быў апошнія два тыдні, спрычынілася да ягонай сьмерці. Бо ён такі змучаны прыяжджаў з працы, што я настойвала, каб кінуў працу, лепш пасядзеў на беспрацоўнай плаце. Ён пагадзіўся, даў слова, што ў панядзелак пакіне працу, а ў нядзелю яго ня стала.

Якім-бы ён ні быў, але мне бясконца яго шкода, што так рана адышоў ад нас. Усё-ж думалася, калі-б дажыў да пэнсіі, калі-б скончылася ягоная праца на хлеб штодзённы, ён-бы спыніў піцьцё, можа, шмат яшчэ чаго напісаў.

Які ён ні быў сьмелы ў доме, але на працы ня мог абараніць сябе, і кожны мог ім папіхаць і сьмяяцца зь яго, асабліва апошні год на працы, калі ягоным начальнікам стаўся паляк Адам, якому пашчасьціла працаваць на гэтай фабрыцы ад самога прыезду ў Аўстралію, і ён нарэшце выбіўся ў «босы» й хацеў паказаць, што можа паслаць кожнага на работы, куды захоча, ды яшчэ мае права падганяць. Не адзін раз я такая была злосная, што ўжо хацела йсьці сама на фабрыку ўбачыць гэтага паляка, хоць-бы вылаяць яго. Але шкадавала Алеся, каб не сьмяяліся зь яго, што жонка прыйшла ў абарону.

## Аляксандар Калодка[447]

### Беларусы ў Аўстраліі[448]

Яшчэ маладым юнаком я цікавіўся гісторыяй і геаграфіяй. У 1924 годзе мне патрапіўся ў рукі польскі падручнік геаграфіі прафэсара Станіслава Любіч-Маеўскага. Толькі шмат пазьней, ужо ў Вільні, я даведаўся, што аўтар падручніка – беларус. Як памятаю, экзатычнай Аўстраліі было прысьвечана шмат месца. Даваліся назовы гарадоў, рэчак, вазёраў. Аўтар пісаў, што ўсё жыцьцё канцэнтруецца ў прыбярэжных палосах, што Аўстралія – краіна недасьледаваная.

Аўтара падручніка я спаткаў у верасьні 1941 году ў Маладэчне. Мы доўга гутарылі й разьвіталіся як сябры. Крыху пазьней я даведаўся, што ён зьнік бясьследна ў ваколіцах Мядзеля, дзе ўжо дзейнічала польская партызанка.

Пасьля Другой сусьветнай вайны я выэміграваў у ЗША, а потым у гэтую экзатычную Аўстралію. І ніколі не шкадаваў аб гэтым.

Гісторыя беларускай эміграцыі ў Аўстралію яшчэ чакае грунтоўнага дасьледаваньня. Тым часам яшчэ жывуць некаторыя сьведкі і ўдзельнікі, піянэры, якія могуць сваімі ўспамінамі даць багаты матар'ял для такой працы.

---

[447]Аляксандар Калодка – грамадзкі й рэлігійны дзеяч.

[448]Успаміны напісаныя ў 1984 г. на просьбу дырэктара БІНІМа доктара Вітаўта Кіпеля. Рэфэрат-успаміны А. Калодкі былі дапоўненыя заўвагамі М. Скабея. Рукапіс перахоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью-Ёрк), друкуецца ў скароце.

Пасьля заканчэньня Першай сусьветнай вайны, у якой змагалася каля 300 тысячаў аўстралійцаў, распачаўся ў Аўстраліі крызіс і вялікае беспрацоўе. Эміграцыя была амаль спыненая, і толькі калі сытуацыя ў канцы трыццатых гадоў палепшылася, аўстралійскі ўрад згадзіўся прыняць эмігрантаў. Урад, у паразуменьні з апазыцыяй, кіраваўся так званым прынцыпам White Australia Policy, што значыла прыём эмігрантаў белай расы. З гэтай квоты скарысталі ў асноўным расейцы, што жылі ў Манчжурыі й Кітаі, але ў гэтай хвалі эміграцыі былі й беларусы.

Другая сусьветная вайна спрычыніла Аўстраліі шмат шкоды й людзкіх стратаў. Не хапала рабочай сілы, не маглі працаваць нармальна фабрыкі й прадпрыемствы, у краіне быў недахоп самых неабходных рэчаў. Паўстала дылема: засяліць краіну або загінуць. Аўстралійскі лейбарысцкі ўрад выбраў першае. Тагачасны міністар Інфармацыі і Эміграцыі А. Калўэлл (A. Calwell) зьвярнуў увагу на ўцекачоў, што апынуліся ў Заходняй Нямеччыне, пераважна маладых і працаздольных людзей. Міжнародная Арганізацыя Ўцекачоў (IRO), якой падлягалі лягеры ДП, абяцала дапамагчы з транспартам.

У 1947 годзе пачаўся набор эмігрантаў у Аўстралію. Тыя эмігранты, якім аўстралійскі ўрад аплаціў падарожжа, былі забавязаны адпрацаваць паўтара-два гады там, куды іх пашле Ўрад Працы. Праца была фізычная, пераважна цяжкая, на якую не хацелі йсьці карэнныя жыхары (лесапільні, цагельні, праца ў лесе, на цукровых плянтацыях, на шахтах, на будове чыгункі ў Паўдзённай Аўстраліі, у псыхіятрычных шпіталях). Аўстралійскае насельніцтва ў адносінах да эмігрантаў было вельмі неталерантнае. Гутарка ў іншай, як ангельская, мове на вуліцы, у транспарце была часта прычынай непрыемных заўвагаў ды патрабаваньняў гаварыць па-ангельску. Ды

інакш яно не магло й быць, бо палітыкай ураду была поўная і як найхутчэйшая асыміляцыя.

Апазыцыя да асыміляцыйнай палітыкі ўраду выйшла, перш-наперш, з каталіцкага касьцёлу. Зрэшты, і спасярод эмігрантаў была вялікая колькасьць каталікоў, зь якімі прыехалі іхныя сьвятары. Такія высокія аўстралійскія духоўнікі, як арцыбіскуп Д. Манікс у Мэльбурне, біскуп Дзйюіг у Брызбане, біскуп Бэовіч у Адэляйдзе былі ня толькі супраць асыміляцыі, але, наадварот, імкнуліся прыдзяліць сьвятыні для розных этнічных групаў ды даваць ім усякую дапамогу. Былі выпадкі, калі маладыя аўстралійскія сьвятары імкнуліся вывучыць адну ці некалькі чужых моў дзеля магчымасьці абслугоўваць неангламоўных вернікаў. Апазыцыя да асыміляцыі была нагэтулькі вялікай, што ўрад быў змушаны шукаць іншага падыходу. Дзякуючы актыўнасьці шматлікіх этнічных арганізацыяў палітыка асыміляцыі, а пазьней інтэграцыі, была зьменена на новую – палітыку шматкультурнасьці. Не апошнюю ролю ў гэтай барацьбе адыгралі беларускія арганізацыі.

Першы беларускі транспарт прыбыў у Аўстралію ў травені 1948 году й быў скіраваны ў былы жаўнерскі лягер у Батгурст, а адтуль пераважная колькасьць беларусаў была высланая на працу ў штат Квінсьленд – адрабляць двухгадовыя кантракты. Пасьля сканчэньня тэрміну кантрактаў амаль усе беларусы выехалі або ў Сыднэй, або ў Мэльбурн. У Квінсьлендзе, асабліва ў галоўным горадзе Брызбане, засталася невялікая беларуская грамада тых, што адраблялі кантракты.

У пяцідзясятыя гады Брызбан выглядаў малым гарадком, бяз значнай прамысловасьці, а таму эмігранты ў Брызбане асабліва не затрымоўваліся. Але ўсё-ж невялікая група беларусаў пачала там грамадзкую працу. У гэтым была найбольшая заслуга Даната Яцкевіча. Ужо ў канцы 1950 году ён зарганізаваў Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў ды пачаў выдаваць у 1952 годзе ворган гэтае

арганізацыі - «Лучнік», які разросься ў даволі інфармацыйны часапіс. У тым-жа Брызбане неўзабаве было зарганізавана Згуртаваньне Беларускіх Жанчын і парафія сьв. Юрага.

Данату Яцкевічу ўдалося ў травені 1953 году навязаць лучнасьць з радыёстанцыяй 4KQ і, дзякуючы ейнаму кіраўніку Рэксу Годэлю, была зроблена першая беларуская перадача. Яна складалася з канцэрту беларускіх песьняў і мэлёдыяў ды абшырных зьвестак пра Беларусь, ейнае мінулае ды сучаснасьць. Падобных перадачаў было пазьней больш, у ваднэй таксама было інтэрвію з Данатам Яцкевічам[449]. Яму-ж быў даручаны кальпартаж (ад анг. colporteur) беларускай прэсы й кніг.

У 1953 годзе распачалася ў Аўстраліі эканамічная дэпрэсія, якая асабліва адбілася ў Брызбане. Яцкевіч быў звольнены з працы і, маючы на ўтрыманьні жонку й двое малых дзетак, мусіў у пошуках працы выехаць у 1954 годзе ў Мэльбурн, дзе браў таксама актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці. Памёр Д. Яцкевіч у 1969 годзе.

Нягледзячы на тое, што ў Брызбане засталіся два гадунцы беларускіх гімназіяў (Вільні й Клецку), беларуская грамадзкая праца там зусім спынілася.

У Сыднэі беларускае жыцьцё пачало арганізоўвацца ў 1950 годзе, калі беларусы, адрабіўшы свае кантракты, пачалі зьяжджацца туды ў пошуках лепшай працы.

Уладзімер Клуніцкі і яшчэ некалькі беларусаў зарганізавалі Аб'яднаньне Беларусаў у Аўстраліі – арганізацыю, якая мелася аб'яднаць усю беларускую эміграцыю. Калі-ж выявілася, што арганізацыя атрымоўвае

---

[449] Падрабязьней пра беларускае радыё ў Аўстраліі глядзі: Анфіса Ляднёва. Беларускія радыёперадачы ў замежжы. У кн.: Культура беларускага замежжа; Беларуска-Амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненьні. Беларусіка 5. Мінск, 1995 г., с.53-60.

дырэктывы ад Сяргея Хмары з Канады, дык бэнээраўцы на чале з Я. Малецкім стварылі Аб'яднаньне Беларусаў у Новай Паўднёвай Валіі.

У чэрвені 1972 году памёр у Сыднэі Адам Чурыла, які тастамантам пакінуў дом для беларускай арганізацыі, якая-б аб'яднала бэнээраўцаў і бэцээраўцаў. 14 сьнежня 1973 году быў афіцыйна зарэгістраваны Беларускі Культурна-Грамадзкі Клюб, які й пераняў дом Адама Чурылы.

Ад 20 чэрвеня 1976 году пачаліся на ўрадавым аўстралійскім радыё беларускія тыднёвыя перадачы, якія вялі Аркадзь Качан, Аўгеньня Каранеўская й Міхась Лужынскі. Пасьля сьмерці Качана й Каранеўскай перадачы вядуць М. Лужынскі й Марыля Каранеўская - дачка сьв. пам. Мікалая і Аўгеньні Каранеўскіх. Марыля Каранеўская зьяўляецца таксама кальпартэрам беларускай прэсы й кніжак.

У 1953 годзе была спроба зарганізаваць беларускі мяшаны хор, аднак з-за вялікіх адлегласьцяў і раскіданасьці сыднейскіх беларусаў спроба аказалася няўдачнай.

Сыднейскім праваслаўным беларусам не ўдалося зарганізаваць собскае парафіі БАПЦ, нягледзячы на тое, што былі беларускія праваслаўныя сьвятары ды што архіяпіскап Сергій, галава БАПЦ, больш за чатыры гады жыў у Сыднэі (1953 - 1957).

Супрацоўніцтва паміж прыхільнікамі БНР і БЦР існуе ў Сыднэі толькі на агульнаграмадзкім грунце. Беларусы ўдзельнічаюць у праграмах Рады Паняволеных Народаў і Этнічнай Рады, бяруць удзел у этнічных выставах, дэманстрацыях і паходах, ладжаных абодвума згаданымі міжнацыянальнымі арганізацыямі.

У Паўдзённую Аўстралію эмігранты-беларусы пачалі прыяжджаць у 1949 годзе. Першы афіцыйны сход адбыўся ў студзені 1950 году. Было толькі пяць асобаў: айцец Шчурко, др. Мілянцэвіч, інж. П. Трысмакоў, сп. Дзітман і

А. Кадняк (Алесь Салавей). Удзельнікі сходу пастанавілі шукаць беларусаў па усёй Паўдзённай Аўстраліі ды ўцягваць іх у грамадзкую працу. Дзякуючы стараньням айца М. Шчурка, распачаліся ў эміграцыйным лягеры Вудсайд першыя беларускія праваслаўныя Божыя службы. Крыху пазьней айцец М. Шчурко і ўкраінскі праваслаўны сьвятар айцец П. Грушэцкі пачалі адпраўляць у Адэляйдзе Божыя службы супольна для беларусаў і ўкраінцаў.

Лік беларусаў у Адэляйдзе пабольшваўся, і ў 1951 годзе яны прынялі ўдзел у міжнароднай выставе. У 1952 годзе беларусы Паўдзённай Аўстраліі першы раз урачыста сьвяткавалі ўгодкі 25 Сакавіка. У 1954 годзе была афіцыйна заснавана парафія БАПЦ. Гэтая важная падзея мела ў наступным ня толькі велізарнае значаньне ў беларускім рэлігійным жыцьці, але таксама і ў грамадзкім. Парафіяльная рада доўгі час кіравала й грамадзкім жыцьцём. Заснавальнікам парафіі быў айцец М. Шчурко, удзельнік канфэрэнцыі 1948 году ў Канстанцы, калі была адноўлена аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай Царквы.

У 1952 годзе быў заснаваны беларускі хор пад кіраўніцтвам Міхася Бурноса, пачала таксама дзейнічаць беларуская школка для дзяцей. Новая парафія ўзяла ў арэнду прыцаркоўны будынак Мэтадысцкай аўстралійскай царквы, што яшчэ больш спрычынілася да актывізацыі беларускага грамадзкага жыцьця.

У 1958 годзе ў Гіндмарш (прадмесьце Адэляйды) была куплена будаўляная плошча пад царкву. Быў выбраны камітэт пабудовы царквы, дзякуючы дружнасьці й працавітасьці якога ды ахвярнасьці беларусаў Адэляйды, ужо ў 1963 г. была пасьвячоная арх. Сергіем прыгожая беларуская Царква сьв. Апосталаў Пятра й Паўла.

Пасьля доўгай і цяжкай хваробы 11.10.1971 г. айцец М. Шчурко, вялікі беларускі патрыёт, адзін з арганізатараў беларускага рэлігійнага й грамадзкага жыцьця ў Паўдзённай Аўстраліі, адышоў у вечнасьць. Ягоным наступнікам стаўся

а. Васіль Чычэліс, а пасьля ягонае сьмерці (5.07.1973 г.) апекаваўся парафіяй на працягу сямі гадоў сэрбскі праваслаўны сьвятар айцец Жорж Джонліч, чалавек высокаадукаваны, выкладчык у англіканскім сьвятарскім коледжы, вялікі прыяцель беларусаў і папулярызатар нашае культуры.

Загадам сэрбскага япіскапа а. Жорж быў у 1978 годзе пераведзены з Адэляйды ў Сыднэй, але, ведаючы задоўга аб гэтым загадзе, ён знайшоў час добра падрыхтаваць да сьвятарскага сану сп. Аўгена Сітніка, які й быў высьвечаны ў сьвятарскі сан 30.07.1978 году й да сяньня кіруе парафіяй сьв. Апосталаў Пятра й Паўла.

Гадамі ўсё грамадзкае жыцьцё тут было цесна зьвязана з жыцьцём і разьвіцьцём парафіі. Парафіяльнай радзе было цяжка справіцца із штораз большымі ды разнастайнымі заданьнямі. Таму ў 1976 годзе паўстала Аб'яднаньне Беларусаў Паўдзённай Аўстраліі, якое й пераняло велізарную частку функцыяў, якія дагэтуль мела Парафіяльная рада.

Спасярод былых ґадунцоў беларускай школы ў 1977 годзе была зарганізаваная танцавальная група «Лявоніха», якая й дасюль выступае на міжнацыянальных канцэртах, беларускіх сустрэчах, на спэцыяльных праграмах аўстралійскага тэлебачаньня.

Зь ініцыятывы д-ра Я. Малецкага быў створаны Беларускі Мастацкі Фонд, заданьнем якога зьяўляецца фінансаваньне Беларускай Мастацкай Групы, да якой належаць харыстыя, музыканты, сьпевакі й дэкляматары.

Парафіяльная рада, Мастацкая Група і Аб'яднаньне зьяўляюцца сябрамі Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.

Першы параплаў, на якім было каля 30 беларусаў, прыбыў у Мэльбурнскі порт 28 чэрвеня 1948 году, а 30 чэрвеня ўсе эмігранты гэтага транспарту былі завезеныя ў

былыя вайсковыя баракі ў Бонэгілі (каля 400 км ад Мэльбурну). Тут яны атрымалі неабходную вопратку й па некалькі шылінгаў ды харчаваньне ў сталоўках. Неўзабаве аддзел працы пачаў прапаноўваць розныя заняткі, ад якіх двойчы можна было адмовіцца, але за трэцім разам трэба было прыняць тое, што прыдзеліцца. Адзінокія пасылаліся на працу ў лесе, у цагельні, фабрыкі, а сямейных разьдзялялі. Жанчын і дзяцей адпраўлялі ў асобны лягер, а мужчын – на тую самую працу, што і адзінокіх. На прыдзеленай працы трэба было адпрацаваць 18-ці месячны кантракт. Некаторым сем'ям пашчасьціла атрымаць працу ў шпіталях і тамсама кватэру. Тыя, што ад'яжджалі на працу, ведалі свой будучы адрас і пакідалі яго тым, хто яшчэ заставаўся ў лягеры, - дзеля лучнасьці. Аддзел іміграцыі не даваў адрасоў жаданых асобаў, але напісаны ліст з прозьвішчам даручаўся данай асобе. Такім чынам кантакт паступова наладжваўся са знаёмымі ў Аўстраліі й Нямеччыне. Па адбыцьці кантракту (а некаторым удавалася раней) можна было ехаць куды хто жадаў.

Беларусы гэтага транспарту вярнуліся зноў у Мэльбурн, у тыя самыя баракі для эмігрантаў, але ўжо як вольныя людзі. На прыватных кватэрах жыць не дазвалялася, ды аўстралійцы не хацелі прымаць. Савецкі Саюз шырыў прапаганду, што ўсе эмігранты – гэта злачынцы і што таму яны ня хочуць вяртацца на бацькаўшчыну. Іміграцыйны-ж урад, пераканаўшыся, што эмігранты – людзі вартасныя і Аўстраліі патрэбныя, рабіў захады дзеля зьбліжэньня мясцовага жыхарства з эмігрантамі. Вось так і была зарганізаваная аб'яздовая выстава мастацтва, рукадзельля і іншага з экспанатаў, прывезеных эмігрантамі. Выстава наведала ўсе большыя гарады Аўстраліі. У гэтай выставе мелі свой стэнд і беларусы.

Трэба адцеміць, што ў гэтым часе Аўстралія расейцаў не прымала, а беларусаў памылкова лічыла

расейцамі. У Мэльбурне выставу наведаў міністар іміграцыі А. Калўэл. Яму вельмі спадабаліся нашыя экспанаты: вышываная вопратка, настольнікі, посьцілкі, шкатулкі, скрыначкі, паклееныя саломкай. Ён увайшоў у гутарку і, даведаўшыся, што беларусы – не расейцы, запытаўся, колькі беларусаў прыехала ў Аўстралію. Мы сказалі, што камісія ў Нямеччыне беларусаў не прымае. На гэта міністар сказаў: «Я яшчэ сёньня дам тэлеграму прымаць, а вы напішыце свайму камітэту, каб ехалі ўсе». Неўзабаве даведаліся, што беларусы маюць дазвол на выезд у Аўстралію.

Першай грамадзкай працай была матар'яльная дапамога беларускім сем'ям у Нямеччыне, што ня мелі магчымасьці эміграваць з розных прычынаў – былі старыя, хворыя.

У 1951 годзе была ўтворана арганізацыя пад назовам Беларускі Клюб у Мэльбурне, сябрамі якога былі беларусы бэнээраўскага й бэцээраўскага напрамкаў. Клюб навязаў цесную лучнасьць з украінцамі. Было зарганізавана Таварыства Беларуска-Украінскай Прыязьні, сябрамі якога з боку ўкраіцаў былі інж. Грушэцкі, інж. Яворскі, сотнік Казачанскі, а. Вініцкі, інж. Олійнік і шмат іншых. Таварыства ладзіла супольныя даклады й рэфэраты. Але Клюб праіснаваў нядоўга. Ён распаўся. Бэнээраўцы ўтварылі арганізацыю пад назовам Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі, а бэцээраўцы – Аб'яднаньне Беларусаў у Аўстраліі з галоўнай сядзібаю ў Сыднэі.

Амаль ад пачатку арганізаванага жыцьця паўстала патрэба распаўсюджваньня кніжак. Гэтым заняліся Янка Ролсан, М. Скабей, М. Андрэйчык, М. Нікан. На працягу больш як 25 год на ўсе нашыя імпрэзы М. Нікан зьяўляўся са сваім «беларускім шапікам»: газэтамі, часапісамі, кнігамі. Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі пры розных нагодах распаўсюджвала брашуры аб Беларусі й беларусах у ангельскай мове, перадрукаваныя з лёнданскіх выданьняў.

Усе гэтыя выданьні перадаваліся ў Публічную бібліятэку ў Мэльбурне.

Дзякуючы стараньням М. Андрэйчыка, тады студэнта Мэльбурнскага Ўнівэрсытэту, цяпер доктара мэдыцыны, сп. М. Нікана ды іншых, аўстралійскае радыё ў Джылонг падало некалькі разоў у 1954 г. канцэрт зь беларускіх кружэлак, запісаных на Захадзе.

У 1968 г. паўстаў у Вікторыі Беларускі Цэнтральны Камітэт, які аб'ядноўвае абодва палітычныя напрамкі й зьяўляецца прадстаўніком беларусаў Вікторыі ў міжнацыянальных арганізацыях.

У 1972 г., дзякуючы стараньням Камітэту, у Брайбруку (прыгарад Мэльбурну) быў куплены й пабудаваны Беларускі Дом ды была зарганізаваная Каапэратыва таго Дому.

У 1976-1977 г. вяліся ў Мэльбурне беларускія радыёперадачы. Каардынатарам і сьпікерам была Ліля Яцэвіч. Дапамагалі ёй Альбэрт Кадняк (Алесь Салавей), Аля Яцэвіч-Папярэчная і А. Калодка. Перадачы мелі агульнабеларускі характар, адлюстроўвалі нашае жыцьцё ў Аўстраліі, давалі інфармацыю аб падзеях у сьвеце й на Беларусі.

Першая беларуская школка ў Мэльбурне паўстала ў 1955 годзе. Настаўнікамі былі Жураўлёў, У. Сідлярэвіч, Э. Яцкевіч. Школа мела ладную колькасьць дзетак. Вучні бралі ўдзел ва ўсіх нацыянальных імпрэзах, ладзілі тэатральныя інсцэніроўкі.

Другая беларуская школа паўстала ў 1970 г. Настаўнікамі там былі М. Нікан, У. Сідлярэвіч, Э. Яцкевіч, Гладкі. Кіраўніком школы даўжэйшы час быў М. Нікан.

У Мэльбурне знаходзіцца сэктар Рады БНР, аддзел Беларускага Вызвольнага Фронту.

У Мэльбурне доўгі час не было свайго сьвятара, таму беларусы далучыліся да парафіі Ўкраінскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы. Адносіны былі вельмі

прыязныя, нат' была думка супольна будаваць ці купляць царкву, бо маліліся ў нанятым будынку. Як вернікі, так і сьвятары-ўкраінцы, айцы пратапрасьвіцер Іван Вініцкі і пратаярэй Барыс Стасышын, спачувалі беларусам у нацыянальных памкненьнях. Неўзабаве вернікі-беларусы былі аформленыя як беларуская парафія пры парафіі ўкраінскай, і раз на месяц Служба Божая лічылася беларускай, на якой успаміналіся нашыя сьвятыя і ерархі БАПЦ. У склад парафіяльнай рады быў абраны адзін беларус. Крыху пазьней а. Іван Вініцкі лічыўся апекуном нашай парафіі.

У 1950 г. зусім неспадзявана ў Аўстралію прыехаў першаерарх БАПЦ архіяпіскап Сергій, адпушчаны Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой. Быў ён чалавекам малаадукаваным, бяз ведаў кіраўніцтва царквой, уладалюбівы (хоць, паводле ягоных слоў, быў манахам з маладых гадоў). Ягоныя розныя недарэчныя прапановы й вымаганьні прынесьлі шмат клопату як беларускім, так і ўкраінскім вернікам. Дзе-б ён ні спыняўся – у Мэльбурне, Сыднэі, Пэрце, Адэляйдзе, – паўсюль былі незадавальненьне й канфлікты.

Першы Епархіяльны Зьезд у Аўстраліі адбыўся 25 сьнежня 1953 г. у Сыднэі, а другі – 25-26 сьнежня ў Адэляйдзе. Важнымі пастановамі Другога Епархіяльнага Зьезду былі: апрацаваны й прыняты тымчасовы статут на тры гады й пастанова, што крыжам БАПЦ у Аўстралійскай і Нова-Зэляндзкай Епархіях мае быць крыж шасьціканцовы.

У 1958 годзе на просьбу вернікаў БАПЦ у Мэльбурн прыехаў айцец архімандрыт Мадэст, які эміграваў у Аргентыну й пераехаў у Аўстралію ў Брызбан. Ён меў багаслоўскую асьвету і, пры поўнай згодзе а. Івана Вініцкага, пераняў беларускую парафію як яе настаяцель.

6 красавіка 1958 г. адбыўся агульны сход беларускай парафіі з удзелам а. Мадэста, і 22 чэрвеня гэтага-ж году было пасьвечана часовае памяшканьне для Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў імя трох

Віленскіх Мучанікаў – Антона, Іаана і Эўстафія. Пачалі рэгулярна адбывацца богаслужбы, была зарэгістраваная царква як праўная адзінка, выконваліся трэбы, зьбіраліся грошы на набыцьцё ўласнай царквы. Айцец Мадэст выдаваў непэрыядычны рэлігійна-грамадзкі часапіс «Наша Царква», выдаў «Катэхізіс» ды іншыя кніжкі рэлігійнага зьместу ў беларускай мове. У царкве маліліся ня толькі праваслаўныя беларусы, але й каталікі ды бралі таксама ўдзел у царкоўным хоры.

Вось збольшага мае ўспаміны зь беларускага жыцьця ў Аўстраліі.

## Беларусь успамінаў[450]

Увосені
Празь лістападавы вогкі хлюпат крокаў
цікаецца да цябе забабонны краявід –
Беларусь успамінаў.
Ізноў гэта
далёкія павевы летуценьняў,
даліны сярэбраныя зелені ды іржы,
дзе язьмін, і зораў вагні, і птушыныя лёты,
і скорае, пералётнае шчасьце
дзень у дзень,
ноч у ноч –
галоўная нота.
З пацерамі й дымам кадзільным міналі траўні,
бэзам адцьвіла Беларусь.
У гэтым ужо пах аеру й балота,
і босыя пяты на сенакосах,
і тарахценьні вазоў па бульбяньнях,
і тое,
што калі дзень пра сонца раптам забываўся, –
страшны Бог грукацеў па небе грымотамі.
Жняяркі – вылі,
галасілі жалейкі,
вечар кусты й дрэвы агнём запаляў,
жабы горла палоскалі, а ўначы
зоры на вецьці расьлі,
дый Птушыны Шлях жываплютам расьцьвілым на небе мігціць.

---

[450]Верш Юзэфа Масьлінскага ў перакладзе Тодара Дубровы. «Беларус» №444, травень 1997, с.3.

Над местам,
па-над плахтамі мокрых дамоў
гудуць жорны,
жвір і грукат капытоў,
успаміны зьліваюцца потам, бы коні,
карагод чараў Палярная Зорка вядзе,
а тады, дзіцянё адзіноты,
трапеча ціхі крык, анатэма, скавытаньнем пачатая,
і кроплямі твайго поту зьвініць цішыня,
чарамі працяты стаіш,
занямелую думку ловіш, чытаеш шыфр:
гэта край,
гэта язьміну шантаж,
гэта на крэйдавых шчоках
цалунак нясьцертнаю плямай.

# МАНАГРАФІЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ ЭМІГРАЦЫЙНАЙ МЭМУАРЫСТЫКІ

**Алесь Алехнік.** Пад бел-чырвона-белым. Вільня, 1999. 224 с.

**Юры Весялкоўскі.** Няясна мроіліся новыя дарогі. Лёндан, 1997.

**Леанід Галяк.** Успаміны. ЗША, Выдавецтва «Летапіс». Кн. 1, 1982. 248с. Кн. 2, 1983. 166 с.

**Уладзімер Глыбінны.** Паэта з Божай ласкі. Успаміны й роздум. Нью-Ёрк, 1979. 131 с.

**Айцец Язэп Германовіч.** Кітай, Сібір, Масква. Мюнхэн, 1962. 292 с.

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч.** 25 Сакавіка. Успаміны зь Менску, Будслава, Вільні, Прагі, Савецкай турмы. Выдавецкі Фонд Успамінаў зь Беларускага жыцьця. Торонто-Канада, 1978. 41 с.

**Раіса Жук-Грышкевіч.** Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Выдавецкі Фонд Успамінаў зь Беларускага жыцьця. Торонто-Канада, 1993. 797 с.

**Юрка Жывіца.** Радаслаў Астроўскі. Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Ягонае жыцьцё, праца й змаганьне. Нямеччына, Выдавецтва «Вехі», 1964. 74 с.

**Алесь Змагар.** Мае ўспаміны. ЗША, Выдавецтва Беларускага Вызвольнага Руху, 1985. 128 с.

**Аўген Калубовіч.** На крыжавой дарозе. Клыўленд, выдадзена коштам аўтара, 1986. 252 с.

**Яўхім Кіпель.** Эпізоды. Нью-Ёрк, Выдавецтва газэты «Беларус», 1998. 305 с.

**Язэп Малецкі.** Пад знакам Пагоні. Таронта, Выдавецтва «Пагоня», 1976. 198 с.

**Канстанцін Мерляк.** Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Нью-Ёрк, выданьне аўтара, 1992. 476 с.

**Пётра Палягошка.** Успаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу. Нью-Ёрк, Выданьне Парафіяльнага Камітэту Беларускай Праваслаўнай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэр, Н. Дж., 1968. 91 с.

**Ян Пятроўскі.** Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Кніга 1 (1905-1945). Слуцак-Гейнсвільл, Byelorussian Charitable Education Fund, Inc., 1988. 347 с. Кніга 2 (1945-1953), Слуцак-Гейнсвільл, 1991. 367 с. Кніга 3, Гейнсвільл- Слуцак, 1997. 365 с.

**Барыс Рагуля.** Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) - Нью-Ёрк, 1996. 206 с.

**Васіль Рагуля.** Успаміны. Нью-Ёрк, Выданьне і ўступ Міхася Рагулі, 1957. 127 с.

**Янка Ролсан.** З глыбінь мінулага. Адэляйда, Аўстралія, 1984. 80 с.

**Кастусь Старажоўскі.** 30 гадоў на службе роднай культуры. Дэтройт, Беларускае выдавецтва «Сьвет», 1961. 13 с.

**Пётра Сыч.** Сьмерць і салаўі. Мюнхэн, 1965. 62 с.

**Янка Купала і Якуб Колас.** Вянок успамінаў пра іх. ЗША, 1982. 81 с.

**Янка Юхнавец.** Запіскі й зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 г. Нью-Ёрк, 1996. 157 с.

**Sviataslav Cous.** The Story of the Byelorussian Camp Watenstadt, Germany. 1945-1949. A Picture Album in Byelorussian. USA, 1981. 112p.

# ІМЕННЫ ПАКАЗЬНІК

# ЗЬМЕСТ

**In the Same Series:**

**№1. Натальля Арсеньнева.** Між Берагамі. Выбар паэзіі. New York - Toronto, 1979. 350 p. + XXXIX

**№2. Алесь Салавей.** Нятускная краса. Збор твораў. New York - Melborne, 1982. 373p. + XVI

**№3. Аляксандра Саковіч.** У Пошуках Праўды. Апавяданьні й аповесьці. New York - Cleveland, 1986. 245p.

**№4. Міхась Кавыль.** Міжагнёўе. Выбраныя творы. New York, 1990. 344p. + XXI

**№5. Уладзімер Дудзіцкі.** Напярэймы жаданьням. Збор твораў. New York, 1994. 312p. + XXIX

**№6. Мікола Цэлеш.** Хмары над Бацькаўшчынай. Апавяданьні. New York, 1995. 299p+XXV

**№7. Юрка Віцьбіч.** Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. New York, 1996. 397p. + XV

**№8. Архіўная кніга.** Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. New York, 1997. 446p.

**№9. Лявон Крывічанін.** Беларусізацыя пад №... New York, 1998. 162p.

**№10. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі.** New York, 1999. 361p.

Рыхтуецца да друку:

**№11. Антон Адамовіч.** Творы.